

# Маладосць

2

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(687) ЛЮТЫ, 2011

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

Наталля АЎДЗЕЕВА,
Алесь БАДАК,
Аляксандр ГАРДЗЕЙЧЫК,
Наталля ГОЛУБЕВА,
Вадзім ДРАЖЫН,
Таццяна КАВАЛЁВА,
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,
Анатоль КРЭЙДЗІЧ,
Уладзімір МАТУСЕВІЧ,
Алесь НАВАРЫЧ,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Таццяна СІВЕЦ,
Павел ТАТАРНІКАЎ,
Андрэй ФЕДАРЭНКА,
Віктар ШНІП

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ —**
намеснік галоўнага рэдактара

**Андрэй ФЕДАРЭНКА —**
рэдактар аддзела прозы

**Алена КАРП —**
рэдактар аддзела прозы

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ (ТРЭНАС) —**
рэдактар аддзела паэзіі

**Ірына КЛІМКОВІЧ —**
рэдактар аддзела публіцыстыкі

**Дар'я ГУШТЫН —**
рэдактар аддзела крытыкі

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «МАЛАДОСЦІ»!***
***Пачалася падпіска на I паўгоддзе 2011 года.***

***Таксама індывідуальная льготная — для настаўнікаў.***
***Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6100 руб.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 11500 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 8600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 14500 руб.***

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Ірына КАЧУРКА*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 08.02.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,85. Тыраж 2562 экз. Заказ 364.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.
© «Маладосць», 2011.

**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# МАЛАДОСЦЬ — ШЧАСЛІВЫ МОМАНТ



*Шмат гадоў таму тады вельмі вядомая руская паэтка Святлана Кузняцова падпісала мне сваю кніжку паэзіі і ўручыла прыблізна з такімі словамі, маўляў, асабліва прыемна, што ты атрымліваеш ад мяне гэты томік у твой шчаслівы момант. У мяне адразу з'явілася пытанне: «А пра які момант ідзе гаворка? Як быццам нічога асабліва шчаслівага ў маім жыцці апошнім часам не здарылася?» Кузняцова рассмяялася: «Ды маладосць тваю я мела на ўвазе... У жыцці кожнага чалавека маладосць — шчаслівы момант!» Цяпер, калі я ўжо даўно перажыла нават той узрост самой Кузняцовай, не без шчымлівых пачуццяў разумею дакладнасць яе вызначэння маладых гадоў: так, толькі момант! Але надзвычай яркі, поўны неверагодных пачуццяў, памкненняў, жаданняў... І гэта ўсё неяк вельмі хутка прамінулася, адвіравала, адкружыла і засталося проста жыццё з усім сваім жыццёвым... І вось тут ёсць адна закавыка, гэты самы шчаслівы момант прырода дорыць кожнаму з хітрынкай, ён, як тэст на далейшае жыццё. Адным словам, як зможаш скарыстаць гэты момант, тое і атрымаеш пасля... Гэта, як тая ж завязь у пладах, завяжацца — будзе плод, з нейкай прычыны не паспее завязацца і ўсё... плода няма, асыпаюцца пялёсткі пустацвету...*

*А цяпер перайду да літаратуры. Зусім нядаўна перачытвала томік вершаў Жэні Янішчыц «Пара любові і жалю». Многія і многія з тых радкоў я чула ад самой Жэні ў яе двухпакаёвай кватэры па вуліцы Ульянаўскай у Мінску. Цяпер па тых радках абараняюцца дысертацыі, іх вывучаюць у школах і ва ўніверсітэтах... А Жэні ж Янішчыц было толькі сорак, калі яна так трагічна пайшла з жыцця. Практычна, шмат што з яе літаратурнай спадчыны пісалася ў маладыя гады. І засталося назаўжды ў нашай паэзіі. А Максім Багдановіч, а Лермантаў у рускай літаратуры! Паэзія — безумоўна тчэцца з маладога дыхання, з маладых парыванняў... І ў рэдакцыю «Маладосці» як і дваццаць гадоў таму, як і трыццаць прыходзіць творчая моладзь, а хтосьці прысылае лісты з вершамі і лепшыя радкі мы, вядома ж, стараемся друкаваць. І вось што цікава... Калі б мяне папрасілі сходу-злёту назваць дзесяць-дванаццаць самых яркіх імёнаў нашых пачаткоўцаў я задумалася б! Вельмі хуткага адказу не атрымалася б!.. І, вядома ж, падумаўшы, я, магчыма, назвала б і значна больш імёнаў (таленавітай моладзі шмат), а вось тых, што на слыху — адзінкі... І гэта ўжо праблема, якая, бадай, самой літаратуры і не тычыцца, гэта ўжо тая самая «раскрутка» — спараджэнне нашага часу, калі імя таго ці іншага творцы трэба раскручваць! — праз радыё, праз тэлебачанне, праз старонкі самых розных выданняў, праз творчыя вечары з адпаведнымі афішамі. Падобную афішу мне даводзілася бачыць гэтым летам у Мінску. Яна паведамляла, што ў філармоніі адбудзецца літаратурны вечар Яўгена Еўтушэнкі, а ў самым нізе значылася ўстанова, якая выступала ў якасці спонсара. Цалкам не дзіўна, што спонсар знайшоўся для вядомага паэта, у якога калісьці ў агульнай дзяржаве былі ледзь не мільённыя тыражы! А ці знойдзецца спонсар для зусім маладога паэта і ці прыйдзе на яго творчы вечар, падкрэслю, зацікаўленая ў ім публіка?! Трэба, каб у грамадстве жыло вялікае жаданне мець сваю вялікую літаратуру!*

*Мяне, магчыма, асабліва і не хвалявала б усё вышэй сказанае, каб не той самы «шчаслівы момант». Тут не спашлешся, што жыццё — доўгае і ўсё яшчэ можа быць у будучым! Для паэтаў самы плённы час — час маладосці. У маладыя гады імя паэта адкрываецца чытачу. Я пра гэта добра ведаю, ды і не толькі я. Даруйце, Вальтэр Скот некалі пісаў: «Ужо даўно я перастаў пісаць вершы. Калісьці я перамагаў у гэтым мастацтве, і мне не хацелася б дачакацца часу, калі мяне пераўзыдуць іншыя. Розум параіў мне згарнуць ветразі перад геніем Байрана». Вальтэр Скот сапраўды згарнуў свае паэтычныя ветразі і перайшоў у іншы жанр, пачаў пісаць гістарычную прозу... І рабіў гэта выдатна! Але не кожны паэт можа своечасова перайсці ў іншы жанр, ды і ўвогуле, ці пяройдзе?! Гэта ўжо як дазволіць талент! Вось і атрымліваецца, што ў паэзіі ёсць тая самая свая залатая пара, і на вяршыню гэтай залатой пары павінен падняцца кожны таленавіты творца. Ва ўсялякім выпадку, гэта было б справядліва.*

*«Маладосць» заўжды спрыяла і дапамагала ў першую чаргу маладым. Яна іх адкрывала і актыўна друкавала. Таму і цяпер большую частку часопісных старонак мы імкнёмся і будзем імкнуцца аддаваць творчасці маладых аўтараў. Да ўсяго, неўзабаве адкрыем дзве новыя рубрыкі: «Маладыя пра маладых» і «Шлях да поспеху».*

*Чакаем новых яркіх і адметных твораў!*

*З найлепшымі пажаданнямі плёну і поспеху —* Ф. Баравікова



*Таццяна Беланогая нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Скончыла прыродазнаўчы факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка (2007), цяпер працуе ў турыстычнай фірме. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Таццяна БЕЛАНОГАЯ

# ДУШЭЎНАСЦЬ І ДУХОЎНАСЦЬ

***Каханне і любоў... Калі слухаеш, як спявае Таццяна Беланогая, адчуваеш неверагодную пяшчоту і цеплыню, што сыходзіць з глыбіні душы гэтай прыгожай і таленавітай дзяўчыны. Яе імя — сімвал новага пакалення беларускай бардаўскай песні, на яе канцэртах ніколі не бывае вольных месцаў. Таццяна — удзельніца шматлікіх фестываляў, як айчынных, так і замежных. Пераможца конкурсу «Бардаўская восень-2004» (Бельск-Падляшскі, Польшча), а таксама лаўрэат міжнароднага фестывалю «OPPA-2006» (Варшава). У дыскаграфіі Таццяны Беланогай — чатыры альбомы, апошні з якіх — «Ніткі» — выйшаў напрыканцы 2010 года. Ідэя новай кружэлкі ў тым, каб паказаць нябачныя повязі паміж людзьмі ў межах сям'і, краіны, сусвету. «Толькі сапраўдныя «Ніткі» не рвуцца. Людзі сузалежныя адно ад аднаго. Калі мне сёння трэба дапамога, і мае сябры дапамагаюць, я лічу гэта сапраўдным шчасцем. Адчуванне, што я не самотная, пачуццё салідарнасці, — ці не найдаражэйшае ў сённяшні час? Я жадаю ўсім, каб у жыцці завязваліся толькі сапраўдныя нітачкі любові, спагады і чалавечнасці», — кажа Таццяна.***

***Сёння на маладосцеўскіх старонках — тэксты Таццяны Беланогай. Гэта не вершы і не песні ў традыцыйным разуменні. Як прызнаецца сама аўтарка, яе творы нараджаюцца адразу ў гарманічным спалучэнні словаў і нот, яны цэласныя і не раскладаюцца на асобныя літары або гукі. Магчыма, у гэтым і ёсць сакрэт іхняй глыбіні і ўнікальнасці. Не будзем жангліраваць тэрмінамі і блытацца ў вызначэнні літаратурных жанраў, проста прыслухаемся да голасу ўласнага сэрца, адчуем і зразумеем свет так, як адчувае і разумее яго Таццяна Беланогая.***

**Віка ТРЭНАС**

# МЫ — ВЕЧНАСЦЬ, МЫ — ВЕЦЕР

**МАРА**

Я цягнула далонь, каб знайсці вады,
Я цягнула далонь, каб знайсці агонь.
Я нарэшце знайшла — шчырага,
добрага.
На жаль, Ён памёр на сваім крыжы.

О, я не адна! Навокал вясна!
У мяне — сям'я, у мяне — зямля.
Але я кажу: «Людзі, Ён памёр.
Для каго памёр, для чаго памёр?..»

Яго музыка не патрэбна вам,
Яго словы не пачуеце.
Мне прысніцца сон, што навокал Ён,
І ў вачах людскіх простая любоў.

Я цягнула далонь.

**ДА ЦЯБЕ**

Мае шэрыя вочы,
Сумныя песні,
Разгублены голас
У бясконцай дарозе;

У касе маёй стужкі,
У небе — вольныя птушкі...
Я хачу Да Цябе...
Да Цябе...
Да Цябе...

У гэтым горадзе — Восень...
У нашым горадзе — Вясна...
І ты застаўся з маёй маладосцю —
Я засталася адна...
І нехта скажа: «Не трэба».
Чорнай вуліцы вочы...
Я хачу Да Цябе,
Я хачу Да Цябе, Да Цябе, Да Цябе!..

Шлях у клубочак круціла
І да сэрца туліла.
Шлях кахання патрэбна
Ад чужых берагчы.
Нехта скажа: «Не трэба».
Чорнай вуліцы вочы...
Я хачу Да Цябе,
Я лячу Да Цябе,
Да Цябе ў цягніку!..

**ЗЯМЛЯ**

Памалюся за цябе.
Хай прысніцца сон, у якім сонца.
Малюся за цябе.
Хай прысніцца сон, у якім вецер
Калыша высокія травы, калыша высокія
травы.

Памаліся за мяне.
У вачах маіх спісаныя сцены.
Маліся за мяне.
У руках маіх жалезныя вены.
Маліся за мяне.
Я — каменне на дарозе, каменне
на дарозе.

Хай малітвы паляцяць
І на небе будуць разам.
Малітвы паляцяць і на небе будуць разам.
Зямля не для кахання.

**МЕТРО**

Я паеду на метро.
Я паеду на метро да цябе.
Я буду глядзець у вакно,
Я буду глядзець,
А бачыць сябе.

Нехта сказаў — наверсе дажджы.
Мне так шкада дзяцей у Руандзе.
Я ведаю, што пасля смерці зямлі
Будзе новае Неба!..

Я паеду на метро
Да таго, хто чакае мяне.
Сіроты ды дождж,
Сіроты ды дождж
На беразе тым...
І я здзіўляюся жорсткасці дзвярэй,
Якія зачыняюцца.
І я здзіўляюся жорсткасці людзей,
Якія забіваюць...

**ДЗЕЦІ НЕБА**

Мне бы толькі паспець...
Мне бы толькі паспець
Павярнуцца тварам
Да сваёй кулі
На чорным вакзале.

Мне бы толькі паспець,
Мне бы толькі паспець
Сказаць тры словы
З дзіцячай малітвы.

Мы дзеці Неба, мы дзеці Неба,
Мы дзеці Неба
Кажам вам: «Наперад!
Толькі наперад!»

Мы дзеці Неба, мы дзеці Неба,
Мы дзеці Неба —
Верым толькі ветру, верым толькі Богу.

І будзе дождж, будзе дождж, будзе дождж
На мяжы двух цягнікоў і двух гарадоў.
Узыдзе колас, праб’ецца колас
Праз мокры асфальт
За кожную песню, за кожную рану.

І будзе вецер, будзе вецер, будзе вецер
Цалаваць мне рукі, надаваць мне крылы.
Мне бы толькі паспець...
Мне бы толькі паспець
Сказаць тое слова,
Што стане дарогай.

**ДРЭВА**

Уночы
Я шукала свой берагʼ.
Уночы
Паміралі мае вочы.
Я не магла ўжо спаць.

Назаўтра
Рушыла я на поўнач.
Назаўтра
Паміралі мае вусны —
Я пачала маўчаць.

А потым
Паміралі мае ногі.
Мяне ўжо
Не вабілі дарогі.
Я пачала стаяць.

Я — дрэва ў бясконцым полі.
Я — дрэва ў жахлівай ночы.
Я — дрэва ў сцюдзёным сне.

І ветры заламаюць маю волю,
Змайструюцьársткі, сеткі
Караням ды галінам маім.

І будзе лес на гэтым полі...
Я знаю, знаю — праўду любіць
Віноўны без віны,
Маўклівы без віны,
Забіты без віны.

**МЫ — ВЕЦЕР**

Слова ў гэтай цішыні
Можа забіць.
Слова ў гэткай цішыні
Можа забіць.
Але мне не страшна,
Бо чую я твае крокі.
Але мне не страшна,
Бо думкі не паміраюць,
Але мне не страшна
Нават сказаць табе,

Што мы — Вечнасць.
А па лесвіцы ў вечнасць
Ходзіць маўклівы каваль.
А па лесвіцы ў вечнасць
Ходзіць сейбіт.
І яго зерне —
Гэта шлях у бязмежнасць.
І мне здаецца,
Што мы знайшлі дарогу.
І мне не страшна нават сказаць табе,
Што мы — Вецер.

Ну, а ветру немагчыма
Падрэзаць крылы.
Вецер толькі баіцца
Бетонных сценаў.
Ты суцеш мяне і скажы,
Што там за мурам.
Ты суцеш мяне і разбі
Гадзіннік.
І калі не страшна табе,
Скажы мне, хто мы.
Мы — вечнасць, мы — вецер.

**МАЛІТВА**

Калі ў вачох нічога, акрамя адбіткаў святла ліхтароў,
Калі на сэрцы трывога, а на пальцах кроў,
Збірайся ў дарогу — дарога твой дом.
Збірайся ў дарогу — дарога твой брат.

«Я хачу быць з табой, я хачу быць з табой» —
Казала зорка ў небе, ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог — гэта Любоў.

Іду за ёю па вадзе, іду за ёю па вадзе...

І, можа быць, лепей, што ты не такі, як усе.
І, можа быць, лепей, што ты любіш пабыць адзін.
Дарога не дазволіць старэць, дарога пытанне задасць.
Дарога не дазволіць старэць, і дарога адказ табе дасць.

«Я хачу быць з табой, я хачу быць з табой» —
Казала зорка ў небе, ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог — Любоў.

Ідзі за ёю па вадзе, ідзі за ёю па вадзе...





Уладзімір Садоўскі нарадзіўся ў 1987 годзе ў горадзе Куйбышаў (цяпер Самара), Расія. Скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт (энергетычны факультэт) (2009), цяпер працуе інжынерам-праекціроўшчыкам на прадпрыемстве «Маладзечанскія электрычныя сеткі». Жыве ў Маладзечне. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

Уладзімір САДОЎСКІ

# ЗВЫЧАЙ

## *Фантастычнае апавяданне*

*Кола рыпела неміласэрна.* Дарога пайшла ўгару, воз запаволіў свой ход, і левае кола задняй восі, ужо колькі гадоў пазбаўленае змазкі, пачало няшчадна рэзаць вуха металічным скрыгатам. Стары міжволі сцепануў плячыма і паспяшаўся павярнуць галаву так, каб непрыемны гук успрымаўся тугім на слых правым вухам. Тут у полі зроку Старога патрапіла груда іржавага пагарэлага жалеза, што ляжала непадалёк ад дарогі.

«Т-72», — прыгадаў Стары. Каўзанкі заглыбіліся ў глебу амаль цалкам, патанулі разам з гусеніцамі. Чорнабуры корпус ляжаў дном на зямлі, а вежа, сарваная выбухам, — метраў за пяць побач, з выкручанай у неба руляй. «Добра ж яго прыпякло», — падумаў Стары і паглядзеў на кіроўцу. Малады хлопец — унук Старога — не звяртаў на танк аніякай увагі. Для яго гэты старажытны цуд тэхнікі быў такой жа часткай пейзажу, як, скажам, які валун ці дрэва. Унук моўчкі ўтаропіўся ў дарожную каляіну і амаль не рухаўся, толькі час ад часу папраўляў рух каня лейцамі.

Воз тым часам ускараскаўся на пагорак, і каняка, адчуўшы палёгку, паддаў ходу. Брыдкае рыпучае кола прыціхла. Стары азірнуўся, кінуў апошні позірк на танк і зноўку паглядзеў на сутулую спіну кіроўцы, на зашмальцаваную скураную світку і русыя пасмы на ўнукавай патыліцы.

«Пашчасціла малому, — падумаў Стары, — ён ніколі не бачыў гэтую машыну ў дзеянні». Кашаль раптоўна падабраўся да горла, і Стары зайшоўся ў ім, закрываючы рот далоняй. «І ўжо ніколі не пабачыць»…

— Як вы? Усё добра? — падаў голас унук. Упершыню за ўвесь шлях. За ўвесь доўгі шлях.

— Нічога так, — усміхнуўся Стары. Прамаўляючы свае сціплыя словы, унук не павярнуўся да суразмоўцы. Працягваў пільна сачыць за дарогай. Па голасе Стары здагадаўся: прычынай гэтага былі чырвоныя запаленыя вочы і змочаныя слязьмі яго шчокі. Андрэйка быў самым малодшым унукам і вельмі любіў дзеда. Таму яго і абралі...

— Усё добра, — Стары паспрабаваў лепш уладкавацца на сене і паправіў мех з рэчамі пад бокам. Каб зруч-

ней ехаць было. Але воз нечакана наскочыў на вялікі камень. Старога скаланула. «А бадай цябе», — прашаптаў Стары.

— Прабачце, не заўважыў, — зноў загаварыў унук і яшчэ мацней узяўся за лейцы. Конь працягваў цягнуць вазок з пастаяннай хуткасцю і сілай. «Добры конь, — падумаў Стары, — чорны, як смоль, сухарлявы, цягавіты. Пяць гадоў ужо жыве і нічога». Адзінае, што псавала агульную карціну, — гэта рудыментарная нага з несфармаваным капытом, што боўталася адразу за правай лапаткай каня. Але вялікай шкоды яна не рабіла. Конь добры.

Стары глядзеў, як муляецца адростак аб чорны конскі бок, і прыгадваў старыя часіны. Цяпер такі добры конь не рэдкасць. Цяпер сітуацыя трохі выправілася. А вось раней, — гадоў дваццаць таму, кожнае другое жарабя нараджалася з хібамі, недахопамі, несумяшчальнымі з жыццём. Палова памірала, не пражыўшы і году. Астатнія жылі не нашмат даўжэй. Цяжкія былі часіны.

Стары зноў зайшоўся кашлем. Кашляў доўга… Скаланаўся ўсім целам. Андрэйка не вытрываў — азірнуўся. Здагадка Старога спраўдзілася — малы плакаў...

— Добра, усё добра, — Стары адной рукой прыкрываў рот, а другую працягнуў да хлопца і паклаў далонь яму на плячо, — ды не хвалюйся ты так. Усё будзе добра. Ён глядзеў у чырвоныя Андрэйкавы вочы і ўсміхаўся. Слязінка скацілася па хлапчуковай шчацэ.

— Навошта яны так?

— Так трэба, — цвёрда адказаў Стары, і ўсмешка знікла з яго маршчыністага твару. — Я сам у свой час прымаў гэтае рашэнне, разам з усімі. — Пальцы сціснулі плячо хлопца. — Глядзі, куды правіш!

Конь, пакінуты без увагі, выйшаў з каляіны і пацягнуў воз у прыдарожныя хмызы. Андрэйка схамянуўся і пацягнуў за лейцы. Стары прыняў руку са спіны малога і адвёў позірк. Старэчыя вочы наліваліся чырванню — ён таксама ледзьве стрымліваў слёзы. «Што ж зробіш, рашэнне прынятае, — думаў Стары. — Так будзе лепш для людзей, лепш для Паселішча. У нашыя цяжкія часіны гэта правільнае рашэнне».

Стары прымусіў сябе абарваць ход думак. Ён не хацеў цяпер мучыць сябе развагамі. Стары вырашыў лепш агледзецца, ачысціць галаву ад цяжкіх успамінаў. Але нізкае шэрае неба, брудна-рудая расліннасць, холад і брыдкі дождж не надта гэтаму спрыялі. Хочаш не хочаш, але ўспаміны ўсё адно прыходзілі.

Далей ехалі моўчкі. Час цягнуўся марудна, воз рыпеў нязмазанымі коламі, гойдаўся на калдобінах і ямінах, нібы човен на хвалях. Па падліках Старога — сонца наўпрост пабачыць было нельга — ужо даўно мінуў поўдзень. Выехалі на досвітку — значыцца, праз гадзінку-дзве ўжо будзем на месцы, — меркаваў Стары. Дарога тым часам змянілася — перайшла з ледзьве бачнай крывой каляіны ў больш-менш роўную гравійку. Паабапал яе ўсё часцей сталі трапляцца прыкметы цывілізацыі — так, прынамсі, сам сабе называў усё гэта Стары, — напаўразбураныя пабудовы, паваленыя апоры электраперадач, некалькі разоў сустракаліся іржавыя рэшткі старой тэхнікі. Стары нават разгледзеў у прыдарожных хмызах аблуплены знак «галоўная дарога». Ніводнай цэлай рэчы, усё ў занядбаным стане, пазбаўленае чалавечага нагляду цягам дзесяцігоддзяў. Стары не стаў абурацца, маўляў, які свет загубілі, якое жыццё страцілі, не, ён даўно ўжо не абураўся на гэты конт. Ён глядзеў на гэта па-філасофску: страцілі — значыцца, так трэба было. Затое знайшлі новае — тое ж Паселішча, Абшчына, дзеці, унукі... Жыццё працягваецца, нягледзячы ні на што.

Працягваецца… Але цяпер без ягонага — Старога — удзелу. Калі трыццаць гадоў таму на радзе мужчын Паселішча было прынята рашэнне аб аднаўленні стара-

жытнага звычаю, ён, малады яшчэ мужчына, не думаў, што дажыве да гэтага моманту. Тады, на пачатку супольнага жыцця, калі нешматлікім ацалелым удалося-такі згуртавацца, арганізаваць Паселішча і вытрываць ва ўмовах, калі ўвесь свет ляцеў у бездань, дык вось тады — нельга было дакладна сказаць, дажывеш ты да вечара ці не. Таму думка пра тое, каб па дасягненні шасцідзесяцігадовага ўзросту жыхароў вывозіць за межы Паселішча, у руіны сталіцы — каб пазбавіцца лішняга рота, здавалася, безумоўна, рацыянальнай, але не надта рэальнай. Дажыві паспрабуй да шасцідзесяці гадоў, калі ледзьве не штодзень даводзіцца адбіваць напады марадзёраў, а зерне, засеянае ўвесну, за лета амаль цалкам гіне ў напоўненай радыяцыяй глебе.

Ён дажыў. Адзін з нямногіх. Бачыў шмат чаго, шмат чаго зрабіў, мае пэўны досвед, але рукі ўжо не тыя, вочы падводзяць, і сілы ў старэчым целе не стае, каб трымаць зброю ці араць поле. Лішні рот. У цяжкія часіны карміць бескарыснага ўтрыманца — прыхамаць, што можа прывесці да сумных наступстваў. Стары быў згодны з гэтым трыццаць гадоў таму, згодны і цяпер. Вось толькі вочы чамусьці поўняцца слязьмі.

Стары выцер шчокі рукавом і паглядзеў на Андрэйкаву спіну. Унук. Сёмы. Згодна са старой традыцыяй, менавіта самы малодшы ўнук павінен справодзіць дзеда ў апошні шлях. Пераемнасць пакаленняў. Стары перавёў позірк наперад, на дарогу. Воз звярнуў на асфальт. Пачалася шырокая дарога, падзеленая пасярэдзіне металічнай перагародкай. «Аўтастрада», — прыгадаў ён забытае слова. Праз расколіны ў пакрыцці прабівалася трава, сям-там раслі маладыя дрэўцы і хмызняк. Хутка ўжо і Горад. Стары ўглядаўся ўдалечыню, там на мяжы даляглядy дарога ўпіралася ў шэрую стужку дамоў, спальныя раёны — пачатак горада.

— Ну, што, унучак, трэба нам ужо развітвацца, — кожнае слова давалася з цяжкасцю. — Далей я сам.

Андрэйка пацягнуў лейцы, — спыніў каня, азірнуўся. Баючыся сутыкнуцца са Старым позіркам, пачаў шнырыць рукой пад седалам. Нарэшце намацаў, што шукаў, і працягнуў старому. АК-47, укарочаны міліцэйскі варыянт.

— Бярыце, — Андрэйкава рука дрыжэла, — Вам калаш больш спатрэбіцца. Калашнікаў — ведаў Стары — прозвішча галоўнага інжынера-канструктара, які змайстраваў гэтую зброю. Для Андрэйкі ж гэта было намінальнае імя аўтамата, ён не ведаў увогуле, хто такія інжынеры. Можа, гэтак і лепш.

— Не-е, мне ён якраз без патрэбы, а вось табе яшчэ вяртацца, — Стары адвёў руку з працягнутай зброяй. — Тым больш за страту аўтамата цябе па галаве не пагладзяць, — паспрабаваў ён усміхнуцца. Атрымалася дрэнна. Андрэйка апусціў руку. Стары стаў збірацца, ускінуў заплечнік і пасунуўся на край воза.

— Вам памагчы? — усхапіўся Андрэйка. Але Стары ўжо злез на зямлю сам. Ён стаў і, гледзячы ў шэрае неба, глыбока ўдыхнуў вільготнае паветра.

— Далей я сам, — паўтарыў Стары і паглядзеў на Андрэйку. Нарэшце іхнія позіркі сышліся і абодва не змаглі стрымаць пачуццяў. Андрэйка падскочыў да Старога і заціснуў дзеда ў абдымках. — Ну, досыць, досыць ужо, — занепакоіўся Стары. — Табе яшчэ назад ехаць. Беражы сябе. Беражы сястру і бацькоў. Усім шчасліва, — прамовіў Стары, кінуў апошні позірк на ўнука, павярнуўся і рушыў наперад па аўтастрадзе.

За ўсю дарогу да горада Стары ніводнага разу не азірнуўся. За спінай яго засталося цяжкое, галоднае, беспрасветнае, бязрадаснае, але цікавае жыццё. Трыццаць год, аддадзеных Паселішчу, аддадзеных барацьбе за выжыванне. І цяпер ён прынёс апошнюю ахвяру абшчыне, родным і любімым людзям. Аддаў самае дарагое — жыццё.

Розум апанавалі смутак і туга. Але адзінае, што радавала Старога ў гэты час, — наперадзе чакаў Горад ягонай маладосці. Сонечны Горад.

Ірына СІЛІВЕРСЦЕНКА

# ВЫНАХОДЗІЦЬ СЯБЕ



Ірына Сіліверсценка (Трухан) нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (факультэт філасофіі і сацыяльных навук), цяпер працуе ў філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.» Друкавалася ў часопісе «Першацвет», газетах «Сям'я», «Знамя юности», «Настаўніцкая газета», калектыўным зборніку «Эксклюзив» і інш.

* * *

«Маё каханне...» —
ты кажаш так чула
і так задуменна.
«Маё каханне», —
і знічкі мігцяць у вачах.
А думкі як хутка ляцяць,
як імгнення!
Нібы карусель
закруціла гарэза-душа.

«Маё каханне».
Гучыць — нібы чараўніцтва.
Нібы шэпт уначы,
апантанасць наступнага дня.
Паслухай, як хораша,
як натхнёна:
«Маё каханне!» —
гэта ж крыніца жыцця!

«Маё каханне...» —
з кожным ударам пульсу
разносяцца гукі па целе,
як кісларод:
«маё каханне...
кахаю... кахаеш...» —
блытае рэха
ад сценкі да сценкі,
ад адзіноты да еднасці «Я».

* * *

Ляцець праз стагоддзі,
забыўшыся на час,
на паветра —
не дыхаць, не чуць.

Стаць думкай,
імкненнем у сабе,
і ўсё — вакуум.
Метэорам згаснуць
на жнівеньскім небе,
каб загадалі жаданне.
А мне — супакой.
А мне — цэльнасць.
Яднанне.

* * *

Драбніць
дні і ночы
ўражаннямі,
пачуццямі,
урыўкамі сноў,
фразаў;
націскаць на паўзу і —
пункцірамі.
Спалучаць.
Складаючы вобразы,
вынаходзіць сябе —
вось яна.

Ціхім шэптам
сцякаю па скуры;
лёгкім подыхам
запоўню ямачкі —
Цёпла.
Слухай... Дыхай...
Мною.

* * *

Мокрае лісце жыве
Вільгаццю на траве
І ліхтарамі-зорамі.
Вецер шапоча ў журбе,
Поўніць вечар прасторамі
І музыкай у галаве.

Фары далёкіх машын,
Бы крэйдай, фарбуюць лужыны.
І светлафоры, зірні,
Восень малююць колерамі.

* * *

Светла-
          форы.
Фары:
зялёны — жоўты —
чырвоны. Гэта
мой настрой
становіцца
восеньскім лісцем,
завушніцамі
на галінах.
Бурштыновыя ягады
запаляюць
               ліхтары
каралямі на дрэвах.
Светла.

* * *

Бліскучыя рэйкі
на скрыжаваннях —
коскамі.
Стужкі ў іх
бурштыновымі кроплямі
з галін ліхтароў
пераплятаюцца.
Вокны-выхады
нараджаюць сусветы —
абірай свой.

Жоўта-карычневае
лісце таполі.
Арэлі пад ёй
чакаюць
апошні цягнік.

Сыходжу. Каб у неба.
Час лётаць.

* * *

Цягнік разрывае
маю віртуальнасць
і выцягвае ў струну
шляхі-суцяшэнні.
Я павешу зорку

на гнуткую галінку —
няхай зіхаціць
Александрыйскім маяком.
«Юнона і Авось».
І кожная сустрэча
будзе рэпетыцыяй новай.

* * *

У самыя патаемныя хвіліны,
калі кожная клетачка
да краёў насычана
прыемнай адзінотаю,
прыходзіць каханне —
ціхае і самотнае.
Але ж сапраўднае.

* * *

Разгалоссе
засталося
спелым
калоссем
у прозе
думак маіх.

* * *

Святло —
як сэнс жыцця
чалавека.
Праз яго кахаем,
праз яго існуем.

Зорнае неба —
гэта сумленне...
Чаму зарапад
становіцца
галоўнай
падзеяй?
Калі мы губляем
святло,
колькасць зорак
памяншаецца.
Ці то згараюць,
ці то гаснуць,
ці то падаюць.
Усё адно
становіцца
цёмна.

* * *

Дзяліцца не словамі,
але іх водарам,
у якім зімуюць
цёплыя пачуцці.
Праз маўчанне
атрымліваць
выратаванне
ад шматлікай сябе,
дыхаць адным
паветрам —
праз цябе.

* * *

«Рэканструкцыя неба»,
рэканструкцыя волі
адбываецца павольна
ў вечаровых прыцемках.
Ламаць, крэсліць і
праз гэта разумець.
Ствараць у забыцці
музыку словаў
і танчыць, танчыць
па коле, наўздагон —
вакол сябе, вакол яго,
вакол цьмяных Іх.
Перабудоўваць.





*Ганна Навасельцава нарадзілася ў 1983 годзе ў Віцебску. У 2006 годзе скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава, у 2009 — аспірантуру пры гэтым універсітэце. Цяпер працуе выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ВДУ імя П. М. Машэрава. Друкавалася ў абласных перыядычных выданнях, часопісе «Маладосць».*

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# СВЯТЛО ЗЯМЛІ НЕЎРЫДА

## *Міфалагічная аповесць*

### УСТУП

***Вакол была цемрадзь, завешаная непраглязднымі шатамі ялін. Іх густыя, калматыя галіны, здавалася, плылі ў змроку. Плылі праз нямую прастору, праз вечныя чорныя ночы, плылі ў бясконцым акіяне часу... У іх цёмна-зялёных лапінках была скруха, роспач і туга гэтага бясконцага існавання. На іх шляху была шэрань няпамяці, горыч расстання і адзінота. Але з чорнай зямлі прабіваўся да шатаў ялін кволы праменьчык святла, які іскрыўся надзеяй...***

***З шэрай няпамяці вечнага спачыну вяртаўся адзін. Як і ўсе, што спалі тут, ён быў неўрам. Яго вяла памяць сонца, якое некалі ён бачыў у гэтых шатах, пачуццё зямлі, па якой ён хадзіў, і гнеў апошняй бітвы, у якой ён загінуў. Гэта ён быў святлом у бясконцым змроку ночы, бо ён сніў пра вялікую агністую кветку — чару святла...***

***І прыйшла ў чорнай вечнасці шэрая гадзіна, калі агністае святло пыхнула, прасвятліўшы непраглядную ноч. Пыхнула і не згасла. Тады над зямлёй прагучаў адрыўны, прарэзлівы покліч Дзіва. Яго пачулі тыя, хто спазнаў таямніцы чараўніцтва. Дзіў. Чары пошуку. Трывога. Пра што ты сумуеш, мудры і вяшчунны Сын Сусветнага... Каму кажаш пра згубу... Над якім жыццём плачаш... Усевідушчы, бачыш ты праз чорныя хмары і цёмныя лясы, і ніхто не схаваецца ад твайго пільнага позірку. Хоць бы не да лепшага чарадзея ты быў пасланы. Творацца чары, якія павінны адкрыць тваю скруху, але хто цябе, непрадказальнага, спазнае. Цяжка зразумець цябе людскім смяротным чараўнікам. Баюць, толькі неўры калісьці цябе разумелі. Але таго яны не раскажуць: ніводнага даўно няма на зямлі. Згублена таямніца, і нязведаным застаецца шлях, шлях, па якім пойдуць за табою на Калінавы мост. Хто? Агнём і Вадой заклінаю, не плач пра мяне, Дзіў.***

***А ў цёмных яловых нетрах агеньчык разгарэўся жыватворным полымем.***

***Неўр абудзіўся.***

## ЗАГАДКА ДЗІВА

Голас Дзіва быў першым пачынам, што сустрэў яго на зямлі. Прыходзячы да свядомасці, неўр чуў магутны покліч, што гучаў над лесам. Вяшчунны голас не знікаў і, аддаляючыся, адно змяняўся, рабіўся яшчэ больш прарэзлівым. І доўгі час пасля неўр быў у задуменні. Дзесьці далёка лунаў над зямлёй покліч таго, хто вяшчуе будучыню для кожнага смяротнага. Што ты пракрычаў мне, Дзіў? Калісьці я чуў твой голас. Няўжо гэта той, яшчэ ў колішнім маім жыцці абронены табой покліч цэлую вечнасць лунаў над светам і вось цяпер зноў прыйшоў да мяне, пра якога казаў...

*Ён толькі што стаў чарадзеем, толькі што далучаны да мудрасці Вялікага Кола. Яму радасна свеціць сонца, прабіваючыся праз шаты зусім не змрочных ялін. Неўр звыкла ўслухоўваецца ў іхні прыцішаны пошум. Усё чынна, кажуць яму лясныя гукі, усё спакойна, усё добра. Не, не ўсё, мільгае раптоўная думка. Што гэта? Ён пазнае стварэнне магіі бессмяротных, чары якіх нават для мудрацоў Неўрыды заўсёды былі таямніцай. Стварае свае чары і неўр, звяртаючыся да майстэрства і ведаў усіх магаў Вялікага Кола. І Вялікае Кола адказвае: гэта дарунак непрадказальнага Дзіва, які вяшчуе тваю будучыню. Калі зможаш зразумець яго пасланне, то атрымаеш права пражыць не адно доўгае чарадзейскае жыццё. Калі не, то сумна заплача Дзіваў голас, што пасланы ён да нявартага, і пойдзе ад цябе вечна лунаць над зямлёй, выказваючы сваю нязмерную жальбу. І тады ты пражывеш толькі адно кароткае жыццё. Але зразумець Дзівавы чары можна толькі сэрцам, таму што няма ў смяротных роўнай яму магіі. Поруч з сынам Сусветнага жыццё любога неўрыдскага чарадзея толькі ўспыхвае вокамгненным маленькім агеньчыкам...*

Неўр тады, як ні імкнуўся, так і не зразумеў Дзівава пасланне. Аказаўся нявартым высокага даверу бессмяротнага і таму пражыў толькі адно кароткае жыццё. І цяпер адчувае неўр, што канец яго быў наканаваным. Наканаваным магутным пракляццем непрадказальнага і мудрага, у якое абярнуўся яго дарунак. За што ты выбраў мяне, Дзіў? Мяне, які яшчэ не зрабіў для сваёй зямлі і свету нічога. Сярод майго народа было многа вартых, якія сталі тваімі абраннікамі. Яны чулі твой голас толькі аднойчы. А да тых, хто не змог яго зразумець, ты больш не звяртаўся. Ніколі-ніколі, раз і назаўжды забыўшы няздольных. Але да мяне твой покліч вяртаўся неаднойчы, прыходзіў з вечнага блукання над светам. Насуперак усім магічным скрыжалям, зноў і зноў нагадваў пра неразгаданую таямніцу. І толькі і маглі сказаць пра гэта самыя абазнаныя нашы чарадзеі, што вялікая таямніца ды вялікае наканаванне. Маё наканаванне. Чаму ты вырашыў, што я лепшы з вартых? За што ты, які роўны справядлівасцю Сусветнаму, пракляў апошнія хвіліны майго жыцця?

*Неўрыда яшчэ была. Была таму, што быў яшчэ апошні чарадзей Вялікага Кола. Разам з воямі ён прыйшоў у храм, каб трымаць тут астатнюю мяжу сваёй абароны. Дзевяць велізных валуноў мацавалі камлі найстарэйшых у лесе ялін, стваралі Кола, якое спрадвеку было Вялікім. Згаслымі і халоднымі цяпер сталі восем валуноў з дзевяці, што азначала смерць васьмі чарадзеяў. І толькі адзін валун чынна выпраменьваў роўнае святло, што казала пра жыццё аднаго. Апошняга. Яго, неўрава, жыццё. Пакуль будзе свяціцца гэты валун, датуль будзе падтрымліваць неўрава магія жыцці апошніх абаронцаў. Датуль будуць яны амаль непераможныя. Амаль, таму што бессмяротнымі зрабіць іх неўр не здолее. Хоць і будзе за іх паміраць...*

Змрочна шумелі яліны, роспачна калыхалі галінамі. І пад гэтую скрушную песню мроіліся неўру твары і аблічча тых, хто прыйшоў з ім некалі ў гэты храм. З памяці вярталіся ўсмешкі і словы, сказаныя тымі, хто ўжо бачыў перад сабою раскрытае небыццё. Ён маліўся ўсім багам, каб яны далі сілу вытрымаць тыя позіркі.

Развітальна глядзелі на яго адзіныя з ім крывёю, для якіх ён быў апошняй надзеяй. Яны не баяліся блізкага небыцця. У іх не было ні смутку, ні жалобы. Толькі нейкая наканаваная цвёрдасць і неспатольная прага забраць як мага болей жыццяў тых, хто будзе па другі бок мяча. Ён, неўр, таксама быў цвёрдым. Яму адкрывалася вышэйшая мудрасць пазнання сваёй зачараванай сілы, якая дазваляла перамагаць мацнейшых за сябе. Перамагаць нават паміраючы, таму што раней, чым пакліча ён апошнія чары, пойдуць за Калінавы мост не лічаныя, як дрэвы ў лесе, ворагі. Ён быў цвёрды. Толькі яснасць чарадзейнага ляснога святла была побач, калі, спакутаваны несупыннай варажбой, не мог ён болей узнімацца над немагчымым. Гінулі тыя, чые жыцці былі яму даверaны, і ён спакойна і разлічана ствараў непрадказальную, невядомую, небяспечную магію. Што яму было да тых чарадзейных межаў, пераступіўшы якія, чарадзей ужо не мог належаць сабе. Ён заставаўся сабою, знябыўшы ўсе магічныя скрыжалі, таму што верыў у замову зямлі Неўрыды: да астатняга бараніць сваіх кроўных радовічаў, дапамагаць названым братамі, быць адказным за ўсіх неўраў. Што яму было да свайго адданага за хвілінныя чары жыцця, да свайго забыцця і няпамяці, да знішчальнага гневу багоў на ўсю зямлю, калі гінула маленькая лясная Неўрыда. Што яму было да гэтага, калі засталася толькі палова абаронцаў, і ён стварыў чары гневу. Што яму было да гэтага, калі засталося ўсяго некалькі апошніх, і ён абудзіў магію адчаю. Што яму было да гэтага, калі ў яго застаўся апошні, і неўр паклікаў чары веры і смерці... Ён быў цвёрды.

А пасля... боль і гнеў апошняй бітвы, на якую звярнулі ўвагу нябесныя ўладары. Яго апошняй бітвы. Толькі яго. Дзіваў пакліч, словы якога самі разгадваюцца. І як нябесны праклён і прысуд, няпамяць і забыццё, — стагоддзі цемры і разбураны храм, дзе спяць вечным сном апошнія. Тыя, хто з ім быў тады. А над ім, як цяпер, у тую хвіліну апошняй бітвы гучаць словы Дзівава паслання. Першы пачын, што сустрэў яго на зямлі: «З нараджэннем, чарадзей Неўрыды. Блізкага табе зорнага сонца».

* * *

«З нараджэннем, чарадзей Неўрыды. Блізкага табе зорнага сонца», — даляцела з начнога паўзмроку. Тады, калі толькі стаў чарадзеем Вялікага Кола, неўр хацеў, але не змог разгадаць Дзівавай таямніцы. Яна ўяўлялася вялікім дарункам бессмяротнага, што павінен прынесці радасць яго зямлі. І адкуль было неўру ведаць, што не многа і не мала часу даў свайму найлепшаму абранаму чарадзею Дзіў, але ўсё кароткае зямное жыццё. Апошняя бітва зрабіла яго, неўра, больш моцным і мудрым, і таму тады, калі ўжо было не да вялікіх дарункаў і таямніц, змог апошні з неўравага племені здзейсніць не толькі ратную справу. І адкрыўся ў дзіўным, незразумелым поклічы звычайны стомлены голас, які на нейкі здзек і праклён вітаў яго нараджэнне на гэтай зямлі. Вітаў тады, калі знікала яго Неўрыда. Вітаў цяпер, дараваўшы другое жыццё, якое павінна здоўжыць раскрытая таямніца. Здоўжыць яго адзіноту і боль сапраўды апошняга... чарадзея, ваўкалака, неўра. Яго скруху і роспач, таму што цяпер ужо ён не меў ні гневу, ні адчаю, ні веры быць цвёрдым...

*Правальваецца чалавек-чарадзей у бяздонныя нетры свядомасці, губляе людскае аблічча. Воляй сваёй саступае месца зверу, ваўку-ваўкалаку, над якім ужо не ўладарны. Не мае чалавечай людскасці ваўкалак, мае толькі вострыя кіпці ды ашчэраную ў гірчэнні пашчу. Мае толькі нянавісць, што тапырыць яго чорную поўсць, пасылаючы ў драпежнае паляванне. Хутка імчыць хіжы звер, зліваецца з цёмнай ноччу. І ад іскрыстых сполахаў чырвоных вачэй адступаюць з ягонага шляху ўсе, хто мае страх і надзею. І пужаюцца людзі, пачуўшы працяглае, поўнае невыказнага чалавечага малення пра спакой і забыццё, далёкае ваўчынае галашэнне.*

*...Не цёмная для яго ноч. Не замінае імклівы бег чуць усе лясныя шолахі, бачыць усе лясныя дзеі. Мякка кратае лапы знаёмы мох, звыкла адштурхоўваючы ад зямлі. Скок, яшчэ скок. Карагодам ідуць дрэвы, цягнуцца-варушаць сваімі галінамі. Але вырываецца ён з яго, бо імклівейшы за гэты карагод. Лягчэйшы за лагчынны туман. Мацнейшы за дубовы буралом. Гэта яго лес. Але побач з ім няма нікога. Дзе вы? Чаму я адзін? Гэта ведае чалавек, але не ваўкалак. Гэта быў яго лес. І з ім побач тады былі... Цені. Цяпер толькі цені, але цені з імёнамі і абліччамі. Што ведае ваўкалак? Нечалавечым болем адгукаецца ваўчынае выццё. Тое, што і чалавек. Таму што адчувае чалавечую адзіноту і роспач мацней за чалавека. І тады прыходзіць выратавальны сон...*

Ад сну яго абуджае лес. Вяртае такая знаёмая лясная песня, памяць пра якую не змагло сцерці нават чорнае небыццё. Неўр не чуў яе безліч часу. Не чуў у той бездані няпамяці, якая адбірае ў любой смяротнай істоты ўсе зямныя ўспаміны. Але насуперак усім магічным скрыжалям, неўр памятаў сябе, а таму памятаў і песню. Песню, якая цяпер вітала яго нараджэнне.

Плыў над зямлёй спеўны лясны шолах. Пераліваючыся, ляцелі зыкі ад цёмных шатаў яго, неўравых, ялін. Яны, мудрыя, шапацелі пра сонца, сіняе бясхмарнае неба і зямлю, якая купаецца ў сонечным святле. Змрочныя яліны віталі гэты свет, хоць самі побач з яго жыццядайным святлом былі толькі сумнымі ценямі. Але гэтыя цені ведалі вялікую патрэбу святла. Вялікую патрэбу жыцця. Як і кожнае, яго, неўрава, жыццё было святлом. І лясная песня вітала новае жыццё.

* * *

Лясная песня вітала жыццё. Мудрыя лясныя яліны віталі неўрава нараджэнне. Так як калісьці ў мінулым жыцці славілі ягоную магію лясы Неўрыды. Удзячныя, калыхалі свайго чарадзея зялёныя шаты. І ведаў тады неўр, што стварае яго чары цёмны дух лесу, якому падуладная гэтая прастора. Неўр быў народжаны лесам, і таму ён сам, як і лес, быў цёмным. Непрадказальным у сваім чарадзействе, скрытным у сваіх таямніцах, невядомым да апошняй мяжы сваёй сілы. І цяпер неўр памятаў, што ён цёмны, што ягоная магія бярэ вытокі ад лесу, а заспакоены ў глыбінях свядомасці ваўкалак — яго дарунак. Неўр гэта памятаў, але вітальная лясная песня не пазнавала яго, не бачыла сваім. Мудрыя яліны не памяталі. Яны нарадзіліся і ўвайшлі ў сілу пасля яго, неўравай, смерці.

Неўра тут не было. Зніклі бяскрайнія неўрыдскія лясы, здольныя ствараць чары і памятаць, дапамагаць і ўшчуваць, дзяліцца мудрасцю мінулага і веставаць будучыню. Тыя дрэвы мелі жывую душу, якую неўр адчуваў усюды, дзе ён быў. Адчуваў, калі хадзіў па сваёй зямлі, цягнучыся сваімі чарамі да яе магіі. Адчуваў, калі ладзіў мяжу апошняй абароны... Калі паміраў. І нават у небыцці непакорны лёсу чарадзей сніў пра свой лес. Лес быў ягоным лёсам. Лёс быў лесам. Але гэтыя яліны, мудрыя і задуменныя, былі толькі дрэвамі. Неўр быў у небыцці. Быў у незваротным, такім прагным імкненні жыць, калі істота пераступае мяжу жыцця і смерці. Неўр быў у мінулым жыцці. Але тут яго не было.

І няхай скаланае лес магія бессмяротнага, што сведчыць пра ягонае набліжэнне. З неўрам ужо не можа нічога адбыцца, таму што яго няма. Ён памёр і цяпер яго не будзе...

«Не будзе святла Вялікай Кветкі», — цягнецца да неўра Дзіваў голас. І хоць нікога няма побач, адчувае неўр нібы ўяўны позірк шэрых вачэй, у якіх паблісваюць іскрынкі нябеснага агню. Хавае Дзівава магія ад неўра ўсю постаць бессмяротнага, але праз гэтую заслону агністыя вочы сына Сусветнага глядзяць на неўра, і не

можа той схаваць ад усевідушчага свае думкі. І цяпер, магутны, прабіваецца той у нетры свядомасці смяротнага, адхінаючы неўраву магію.

«Не будзе святла Вялікай Кветкі», — паўтарае Дзіў, пыхкаючы бліштчастымі нябеснымі пажарамі. Хвост нечакана хутка аплятае неўра, і вось ужо паднесены неўр хвастом, нібы рукою, да самых мудрых на свеце вачэй.

— Што? Дзіўны я? — пытаецца між тым бессмяротны. — А якім, ты думаў, павінен быць сын Сусветнага Змея, Першага бога гэтага свету? Але я не такі раўнадушны, як мой бацька. Я не такі ўсюдыпранікальны, як маладыя багі. Мае чары жывуць на ўсіх межах... і заўсёды, заўсёды залежаць ад волі і ўчынку самога смяротнага.

Бачыць неўр мудрасць і скруху вечнага жыцця, бачыць велічны спакой істоты, што роўная ўзростам з гэтым светам. Хаваюцца ў Дзівавай памяці аблічча тых смяротных, каго ён сустрэў за сваё бясконца доўгае жыццё. Твары, усмешкі, словы. Многа твараў, многа ўсмешак, многа слоў тых, хто даўно ў небыцці. І кожны самы маленькі ўспамін асветлены хваляй агню. Агню, які ў магіі ўсіх нашчадкаў Сусветнага азначае памяць. Дзіў памятаў усіх...

— Так, я памятаю ўсіх... усіх тых, каго сустрэў за сваё бессмяротнае жыццё. Іх не проста многа, іх — безліч. Ці разумееш ты мяне, неўр? Усіх, каго сустрэў, каму дапамог, з кім пазнаваў скарбы вялікага Сусвету. Усіх, каго страціў. Але я памятаю кожнага... І я не кляну сваю бессмяротную памяць, якая не губляе ніводнай драбніцы, хоць часам мне здаецца, што той, хто не мае смерці, асуджаны на вечнае нежыццё. Я памятаю іх усіх, таму што яны вартыя гэтага. І яны жывыя, пакуль я іх памятаю.

І плыў у Дзівавых вачах смутак і боль вечнага жыцця. Мудры агонь, які саграваў усіх, хто меў смеласць падысці да гэтага агню. Хто меў мужнасць палымяна гарэць. Дзіў ведаў, што не памрэ ніколі. Дзіў жыў... Жыў з кожным смяротным, што меў у сэрцы даволі смеласці кінуцца разгадваць таямніцы гэтага свету, якія стварылі бессмяротныя багі, раз і назаўсёды забараніўшы да гэтых загадак набліжацца. Багі не ведалі літасці. Разумныя і непадкупныя, яны цвёрда трымалі ўсталяваны аднойчы лад, створаны імі ж парадак. Яны выслухоўвалі людскія просьбы і нешта рабілі для іх выканання. Але яны жорстка каралі тых, хто меў дзёрзкасць цягнуцца вышэй, хто бачыў болей і прагнуў большай мудрасці, а таму нібыта быў пагрозай для ўсіх астатніх. Гэта былі чарадзеі Неўрыды. І неўр ведаў, што калі ты пацягнуўся да сапраўдных чараў, імкнучыся стварыць вялікую магію ў дарунак сваёй зямлі, табе засталося не так доўга жыць. Любому смяротнаму чарадзею няма чым абараніцца ад бессмяротных багоў.

Сын Сусветнага заўсёды дапамагаў кожнаму смеламу смяротнаму. Быў з ім, падтрымліваючы яго ад першых крокаў да апошняга імгнення. Ганарыўся яго ўчынкамі, вучыў пераадольваць страты, зберагаў яго запаветы для нашчадкаў. Дзіў не пакідаў смяротнага нават тады, калі ўсе багі разам вырашалі караць нявернага. І таму цяпер у Дзівавых вачах палымнеў вечна жывы агонь.

Дзіў асцярожна паставіў неўра на зямлю.

— Ты адзін з маіх і ты не мой. У табе спляліся смерць і жыццё. Ты мой, неўр. Ты пайшоў насуперак багам і перамог. Спазнаў скруху і небыццё. Я спачуваю табе. Ты здолеў немагчымае: вярнуцца адтуль, адкуль не вяртаюцца. І мне не трэба ведаць, якая сусветная магія, смяротная ці бессмяротная, гэта зрабіла. Таму ты не мой. Ты не мой, бо я занадта добра ведаў Першага. Я знайшоў цябе дзеля твайго настаўніка... Спадзяюся на цябе, не мой. Без цябе не будзе святла Вялікай Кветкі.

* * *

«Без цябе не будзе святла Вялікай Кветкі», — гучалі ў неўравай свядомасці словы. Без мяне не будзе святла Вялікай Кветкі... Што ты хацеў сказаць мне, Дзіўны? Як мне дайсці да разгадкі тваёй таямніцы? Ты сказаў, што ведаў Першага. Майго настаўніка. Але няўжо ты думаеш, што ў імгненні тваёй улады над маёй свядомасцю я не мог чараваць... Я неўр з народа неўраў, чарадзей з народа чарадзеяў. І я буду змагацца нават тады, калі ўсе бессмяротныя магутныя багі сыдуцца атрымаць маю галаву. Таму, хто страціў сваю зямлю, няма апошняй мяжы. Таму, хто ўжо памёр, няма страху смерці. Таму, хто застаўся апошні, няма каго шкадаваць... Не толькі ты меў уладу над маёй свядомасцю, я таксама чытаў тваю бессмяротную памяць. Ты ведаў герояў, ты быў з героямі і ты сам стаў героем, і за гэта я паважаю цябе. Але ў тваёй памяці, што не губляе ніводнай драбніцы, няма аблічча майго настаўніка — Першага Неўра. Я ведаю законы тваіх чараў: ты нішто не робіш дарэмна. Ты сказаў, што ведаеш Першага, але ты — я зразумеў гэта — не памятаеш яго. Як гэта можа быць, Дзіў? Я твой і не твой. І ты спадзяешся на мяне, таму што я не твой. Што ты хацеў мне сказаць?

Ты пазбавіў мяне адчаю. Ты аддаў мне часцінку сябе, мудры бессмяротны Дзіў. Як аддаваў яе тым героям. Амаль усе яны былі неўрамі. І цяпер я бачу вечную мудрасць жыцця. Вечную сілу хвілінных учынкаў смяротных. Мой шлях хаваецца ў сіняй смузе. Чары мне падказваюць, што сіняя смуга — гэта мая воля і мае ўчынкі, якія залежаць толькі ад мяне, над якімі не ўладарныя ўсемагутныя бессмяротныя. Мой шлях — разгадаць тваю таямніцу, і я пакрочу ў гэты шлях. Але я буду заўсёды памятаць, што за маёй спінаю забыты неўрыдскі храм.

Храм. Спакой. Вечнасць. Храм, што быў яго домам. Храм, што стаў полем змагання і курганам спачыну. Жыццё. Слава. Веліч. Сагрэты яго днямі, ён ніколі не будзе змрочным і чужым. Гэта быў ягоны храм.

— Слабей за смерць, мацней за жыццё...

*Камень гарэў жывым агнём. Гарэў, прасвятляючы цемру пакінутага і забытага храма, што страціў сваіх вернікаў. Гарэў, азначаючы жыццё самага маладога неўрыдскага чараўніка, адзінага жывога нашчадка цэлага народа, апошняга неўра, які быў слабейшы за смерць, бо некалі смерць яго перамагла. Але ягоныя чары стварылі на памежжы быцця і небыцця вялікую магію: з неспатольнай прагі доўжыць свой шлях, з вялікай адказнасці за непрынесены, няздзейснены дарунак чарадзея зямлі, з водбліскаў імкненняў і надзеі далёкага зорнага сонца. Яно, нязведаная мара-цуд кожнага неўра, раскрывае магічныя таямніцы, калі становіцца блізкім. Таму неўр жыў, нават калі яго жыццё памірала. Нават калі скончылася яго апошняя бітва, ён, ціха падаючы на дол, бачыў святло. Ведаў і верыў у сваё блізкае зорнае сонца. Жыццё знікала, пакідаючы яго, але ён заставаўся. Ён быў мацнейшы за жыццё. Няспынна ствараў чары, якія клікалі жыццё, і жыццё вярнулася, перамагло смерць. І пакуль ён ходзіць па зямлі, слухае яе радасць і смутак, бачыць надзеі і расчараванні, камень будзе гарэць. Храм будзе жыць. Неўры не знікнуць, не памруць, не пойдуць у забвенне, пакуль ёсць на зямлі хоць адзін неўр. Асабліва апошні, што слабейшы за смерць, мацнейшы за жыццё.*

Зямля была зусім колішняй. Не змяніўся ні сіні блакіт дня, ні зорны россып ночы, ні зманліва-трывожныя вытокі магічнай сілы, з якой чарадзеі твораць чары. Неўр пакідаў крокі на сцежках, па якіх даўно не хадзіў народ чарадзеяў. Быццам нічога не было, не прайшло і не змянілася, звыкла ўспыхвалі пры набліжэнні неўра магічныя межы прастораў. Нібыта ён і не паміраў, не пазнаваў небыццё, не нараджаўся другі раз. Не пакутаваў, не прагнуў, не сустракаўся. Не спадзяваўся. Нібыта

ён не жыў... Жыццё смяротнага падуладнае смерці. Але жыццё заўсёды ўзвышаецца над смерцю, перамагаючы яе. Жыццё мацней за смерць.

Доўжыцца старажытная неўрыдская замова: «Слабей за смерць, мацней за жыццё...».

* * *

Слабейшай за смерць, мацнейшай за жыццё была высокая зялёная трава, якая кранала яго сваімі рукамі-мятлушкамі, вечным жыццём уздымаючыся над смерцю шматвекавых дрэў. Зялёная сіла ўзнаўлення несла свежасць, якая маладзіла кроў, дорачы свае шолахі. І была вакол светлая, нібы сляза радасці, імжа, што ўбірала ў брыльянцістыя кроплі зялёныя аксаміты. Вачам адкрываўся вялікі зялёны абшар, да якога злёгку туліліся зубчатыя краі лесу. І тады зліваліся ў вачах усе колеры, ціхай жаданай мелодыяй плылі зыкі. Па-над зямлёю плыло святло. Зыркае, бліщчастае, іскрыстае... Яно спавівала і цягнула да сябе, як гэта было калісьці.

*Цягнецца ён чарамі да светлых, празрыстых вытокаў, ствараючы жыццядайную магію. Гарачую, як агонь, што зіхціць на алтары храма. Небяспечная магія агню, магія святла. Тым больш для тых, чыім знакам была зямля. Ён зусім не паддаецца спакусе зманлівых агеньчыкаў. Ён ведае, што павінен зрабіць.*

*Неадабральна глядзяць старэйшыя чарадзеі, непакоіцца настаўнік. А ён неадступна творыць задуманыя чары, адкрываючы магіі свядомасць. І вось ужо ўвесь ён там, дзе сплятаюцца першаасновы стыхій. Несумяшчальных, непрадказальных, небяспечных, што могуць быць зусім не ласкавымі і літасцівымі. Яго знак — зямля. І прызнае гэта стыхія ў ім свайго, даруючы вытокі сілы. Але побач — агонь. І нібы ўяўна бачыць малады чарадзей, як хціва ўсміхаецца дух агню, вяшчуючы яго хуткую смерць. «Як ты рызыкнуў прыйсці сюды, смяротны. Ты не вернешся адсюль», — гучаць у яго галаве гарачыя сполахі. «Ты мне дапаможаш вярнуцца», — адказвае ў думках неўр і бачыць яшчэ адну ўсмешку. Чарадзей доўга рыхтаваўся да гэтага імгнення. Замова, яшчэ замова. Сплятаецца сіла стыхій воляй смяротнага. І, ужо вяртаючыся ў храм, адчуў, што дух агню даруе яму сілу. Не для гэтай магіі. Для іншай, на будучыню. Мы яшчэ сустрэнемся з табою, уладар Агню...*

Неўр добра ведаў магію святла. Святло было побач, але яго было мала. Таму што на зямлі не стала народа неўраў-чарадзеяў, якія падтрымлівалі гэтае святло. А тое, што засталося, памятала сваіх стваральнікаў. Святло захоўвала аблічча і твары тых, каго неўр ведаў. І яго таксама захоўвала. Святло мела разумную свядомасць. І тут, на зялёным росным абшары, празрыста-светлай смугой, шэптам траваў і шолахам вятроў яно вітала свайго чарадзея. Апошняга, на каго магло спадзявацца.

***...У неўрыдскім храме хтосьці быў. Ён няспешна падышоў да кола валуноў. Доўга стаяў і глядзеў, як сярод васьмі патухлых ззяе жывым полымем адзін. Адно жыццё. Ён доўга спасцігаў неўрыдскую магію. Ён прынёс сюды старажытныя і жахлівыя чары, каб разбіць валун і знішчыць жыццё апошняга. Нарэшце, апошняга. Ён не сумняваўся ў іх магутнасці. Толькі невядома чаго марудзіў.***

***І вось магія выпушчана на свабоду. Валун ярка ўспыхвае і... застаецца цэлым. І па-ранейшаму спакойна ліе яснае, празрыстае святло. Невядомы спакойна сузірае яго, а пасля паварочваецца і хуткімі крокамі пакідае храм. Ён не бачыць, як з іскрыстага валуна падымаецца нехта, хто збярог неўру жыццё, і гэты нехта не належыць зямному свету. Свету празрыстага, яснага святла, якога засталося на зямлі так мала...***

## НАДЗЕЯ КАЛІНЫ

Празрыстага, яснага святла засталося мала. Яго час, час восеньскага святла, мінаўся. Але, напэўна, таму, што быў гэты час апошнім, святло ўспыхвала надзіва ясным, іскрыстым, жывым агнём. Усёй сваёй істотай адчуваў неўр, як разляталіся іскрынкі-лісцікі такога знаёмага полымя лясоў, што калыхаў сваімі подыхамі вецер. А паўз іхняй высокай зубчатай сцяны зелянелі зусім летнія абшары, на якія так тужліва і так трывожна вачыма чалавека-неўра глядзеў ваўкалак. Адчуваў развітальную светлую сілу...

А начамі лес і абшары клікалі сваёй нязведанай далеччу. Падалі на зямлю празрыстыя водбліскі зорак, адкрываючы чарадзею імглісты Шлях Продкаў. І нібы ў душу глядзелі тыя, чые аблічча адбіліся ў водблісках нябеснага святла. Хто, ведаў неўр, не сталі трынаццаццю лепшымі, але былі з ім адзіныя крывёй. Яны ўзнесліся высока, каб сузіраць з нябёс усю зямлю. Бачыць свае сцяжынкі і шукаць сваіх нашчадкаў. Спадзявацца. Верыць. Маліць за сваіх спадкаемцаў духаў стыхій. Гэты вялікі Шлях клікаў, роспачна гукаў ваўкалака, які азываўся з глыбінь свядомасці працяглым, тужлівым выццём. І тады хацелася знікнуць, пайсці ў бясконцае вандраванне. Хацелася ляцець з ветрам, адчуваючы ў вушах яго прарэзлівы свіст. Бегчы і не стамляцца, чуйна слухаючы дыханне зямлі пад нагамі, на святло вечных агнёў. Вецер, зямля і ён, што кожнай кропляй сваёй крыві родны ім. Але не даваў неўр ваўкалаку волі, і той толькі з ціхай марай глядзеў на абшар... Глядзеў і ўсё ніяк не мог наглядзецца.

У сны чарадзея прыходзіла Каліна. Тады клікаў свае чары неўр, спрабаваў прадказаць сваю будучыню. Але чары бачылі толькі схаваны ў смузе няроўны магічны шлях, што магло значыць толькі адно: будучыня залежала ад самога неўра. А Каліна звала. Яе голас гучаў усё мацней і мацней. І перажываў неўр тую горыч і асалоду, тыя надзеі і расчараванні, якія напаткалі невядомую чараўніцу. Няхай неўр не ведаў яе, але магія спагады клікала да той, што стварала самыя вялікія для смяротнага чары. Чары, за якія трэба аддаць жыццё ...Ярка ўспыхвалі гронкі каліны, і гэтак жа ярка зіхцелі для неўра гронкі ўспамінаў, якіх ён асцярожна дакранаўся магіяй. Нашто ты паміраеш, Каліна? А ў адказ нібы адчуваў чарадзей горкі смак ягад у роце. Смак жыцця...

Тады зрываўся ў свой шалёны бег ваўкалак. У абліччы ваўкалака яшчэ больш яркім бачыў чарадзей прамяністае святло, што вялікай, шырокай хваляй сыходзіла ад Каліны. Чырвоныя зоркі гронак, горкі смак. Здавалася, у свеце няма больш нічога, акрамя іх. Каліна была святлом...

*Святло адхінала цені небыцця, пазначала шлях у бясконцай, паўсюднай шэрані. Гарчыла роспаччу вялікіх страт, але гэты горкі смак прымушаў змагацца, а значыць — жыць. Ззаду заставалася ўсё больш і больш чорных, пазначаных толькі смуткам, шляхоў. Ён не хацеў змагацца, ён стаў ужо амаль ценем. Толькі спакою і вечнага забыцця, толькі спакою. Але спакою не дае горкі смак... Такі зманлівы, горкі смак каліны...*

*Ён нібыта цягнуў на вузкі, запарушаны шэрым пылам масцік. Чарадзей адразу адчуў, як хістка загайдаліся бярвенні. Іх злучала толькі магія, якая была чужой гэтаму свету. Але мост належаў гэтаму свету, належаў небыццю. З цяжкасцю даваўся кожны крок, бо імкнуўся ён пайсці адтуль, адкуль не вяртаюцца. Бачыў чарадзей, як ступаюць на мост тыя, хто ішоў у ягоны бок. З таго свету ў гэты, з быцця ў небыццё... Калісьці і ён так ішоў. Але не памятаў чарадзей таго сумнага шляху. Памяць сцірае вялікі час.*

*Крок, яшчэ крок. Пагойдваецца пад нагамі цёплае, шурпатае, нечакана знаёмае*

*дрэва. У роце становіцца нясцерпна горача. Калінавы смак... Калінавы мост... Мост жыцця і смерці. Чалавечай, чарадзейнай, боскай. Нават тых, хто, здавалася б, не мае смерці. Цмокаў, калі іх забівае ўсеўладны Пярун. Чаму ён успомніў пра цмокаў? Для ўсіх аднолькавая смерць. Так зманліва кліча другі бок моста… Яшчэ адзін крок.*

*Налятае вецер, буран. Адкуль ён у небыцці? Яго не павінна быць. Заціхае няспыннае калыханне бярвенняў, і бачыць чарадзей на другім баку постаць. Аблічча смяротнага, за якім угадваецца бессмяротны. Воін, бог вайны, Пярун. У яго, неўрыдскага чарадзея, няма шанцу ў міжбоі. А Пярун тым часам кажа: «Я цябе ўжо адзін раз забіў, цмок. Але ты, як бачу, бессмяротны. Я заб’ю цябе яшчэ раз, мне няцяжка». Але што гэта? Гэта не яго ўспаміны. Неўр ніколі не сустракаўся з Перуном.*

*Невядомая сіла падымае неўра ў нечалавечым палёце, што пераадольвае многа-многа цяжкіх крокаў. Са здзіўленнем глядзіць чарадзей на свае блішчастыя крылы, што маюць усе нашчадкі Сусветнага. І вось вялікі цмок апускаецца на мост зусім побач з Перуном. Так блізка да другога боку… Ён — цмок. Задзейнічана не падуладная смяротнаму магія, і ён прымае чалавечае аблічча. І няўжо гэта яго такі спакойны голас адказвае Перуну: «Ты не заб’еш мяне ніколі, уладар зброі і маланкі. Ты не ведаеш, наколькі я стаў бессмяротным».*

*Не, гэта не ён. Ён, смяротны неўр, не можа такога ведаць. Ён не быў воінам, і тым больш не быў такім Воінам, як Пярун. Але ён будзе змагацца. Як супраць тых ворагаў, супраць бога, што заўсёды бласлаўляў вайну і сам быў вайною, роўны ў бітве многім сотням такіх, для каго меч — гэта працяг рукі. «Змагайся, — гаворыць яму нечы голас, — змагайся, і ты пераможаш». У руках неўра з’явілася зброя. З лязгатам сутыкнуліся мячы.*

Неўр стаяў перад Калінай. Ад яе плыла іскрыстая хваля святла. Дрэва з чалавечай душою, людская чараўніца вялікай сілы ў абліччы каліны. Ён прыйшоў занадта позна. Каліна стварыла незваротныя чары, назаўсёды пазбыўшыся права вярнуць чалавечае жыццё.

Ледзьве-ледзь шапацелі прасветла-шэрыя галіны, лістоў на іх ужо не было. І таму сярод толькі кранутых восенню, яшчэ амаль зялёных дрэў, адзінокая апалая каліна была смуткам і напамінам пра тое, што хутка здарыцца. Напамінам чарадзеям і людзям. Першыя павінны ўсё зразумець, другія толькі паспачуваюць. Але ў сваім спачуванні нават не здагадаюцца, наколькі блізка апынуліся да праўды...

Кратаў вецер мядзяную россып, і, здавалася, успыхвала Каліна алтарным вогнішчам, якое шугала па-над лесам, абшарам, зямлёй. Плыла ў бясконцы шлях, ззяючы горкімі чырвонымі гронкамі. Такімі знаёмымі чырвонымі гронкамі. Горкі смак жыцця...

* * *

Горкі смак жыцця. Ты вярнуўся да жыцця, а хтосьці з яго пайшоў. Ты змагаўся за гэты свет з багамі, а хтосьці ахвяраваў гэтым светам. Хоць меў наперадзе роўны, доўгі жыццёвы шлях. Мог хадзіць па гэтай зямлі, ствараць свае чары і клапаціцца пра гэты свет, здзяйсняючы сваё наканаванне чарадзея берагчы зямлю. І ніводзін з бессмяротных не заступіў бы шлях. Не пазбавіў бы права зрабіць вялікі дарунак сваёй зямлі, якая так лёгка цябе насіла. Дараваць стваральную магію ў бессмяротнай справе, нязгасную памяць пра сябе гэтаму хуткаплыннаму свету... Пра сваё кароткае смяротнае жыццё, што ўспыхнула яснай знічкай, на імгненне асвятліўшы неба і зямлю, на імгненне засланіўшы магутнасць і веліч бессмяротных. Тваё жыццё не

прайшло дарма, твая магія не спала, і ты, чараўнік і чарадзей, дадаў сябе да высокіх адвечных скрыжаляў людзей і багоў... Як я разумею цябе, Дзіў. Цябе, хто бярог кволае смяротнае жыццё болей за жыццё бессмяротнага. Апошні заўсёды паспее... усё, што можна паспець. А жыццё смяротнага так лёгка спыніць, яго не абараняюць ні магутная зброя, ні вялікая магія. І таму ён павінен паспець прынесці тым даражэйшы свету дарунак, што гэты дарунак адзіны. Непаўторны. Незамяняльны. Неабходны, як паветра. Гэты дарунак ставарае свет, як ніколі не створаць яго бессмяротныя багі. Навошта ты ўчыніла так, Каліна?

Ці гэта дрэва яму адказала, ці гэта вецер прынёс пакінутыя чары, але чарадзей пачуў. «Час святла мінаецца, неўр. Спяшайся. Ты доўга быў у небыцці і шмат чаго не ведаеш.

Пасля таго, як знікла, захлынуўшыся ў крыві, твая Неўрыда, многае для зямлі аказалася страчаным. Магіяй сталі ўладаць чарадзеі, што былі людзьмі і таму не маглі быць роўныя неўрам. І я таксама з іх роду. Чарадзей, мы ніколі не маглі зраўняцца з вамі, мы не маглі спазнаць вашых таямніц, мы не змаглі зберагчы вашу спадчыну. А вы... вы даравалі свету занадта многа. Вашы дарункі былі дасканалымі, магутнымі і амаль жывымі, з памяццю і ведамі свайго стваральніка. Яны доўга бераглі зямлю пасля вашай смерці. Але нават стварэнні народа чарадзеяў не маглі існаваць бясконца. Ты ведаеш, неўр, што без наступнікаў, якія падтрымліваюць яго сваёй магіяй, дарунак чарадзея траціць сілу. Мы доўга не маглі стаць вашымі наступнікамі. Занадта доўга. І цяпер дарунак вашых вялікіх чарадзеяў, дарунак святла, амаль страчаны. Час святла мінаецца, неўр».

*Ствараецца чарамі ласкавае, прамяністае святло. Ужо цяпер іскрыцца ў ім вялікая жыватворная сіла. І са здзіўленнем глядзіць неўр, як сплятаюцца ў немагчыма складаным узоры промні сілы. Скачуць бліщчастыя водсветы. «Глядзі ўважліва, вучань, — кажа між тым задаволены голас настаўніка. — Цяпер ты бачыш вялікую магію. Яна яшчэ не скора стане маім дарункам гэтаму свету. Ды і не толькі маім. Але гэта будуць вялікія чары. Памятай, што дарунак кожнага чарадзея — незвычайнае майстэрства яго самога і вялікая міласць духаў стыхій. Твае стыхіі — Зямля і Агонь. Стыхія Зямлі будзе падтрымліваць цябе па праве твайго нараджэння. Уладар Агню таксама з табою. Цяпер табе трэба стварыць сабе Абярэг. Гэта будзе тваім першым крокам у пазнанні высокага майстэрства». «Як мне стварыць Абярэг, настаўнік? — Заклапочана пытае ён. — Як мне злучыць у Абярэгу дзве такія розныя стыхіі?» — «Пра гэта мы пагаворым пасля, вучань. А пакуль што глядзі ўважліва, якія чары ты будзеш падтрымліваць у свой час. Гэта тое, што будзе аберагаць цябе як свайго захавальніка, што будзе патрабаваць ад цябе высокай годнасці і найвялікшага майстэрства. Калі ты зможаш стаць такім, якім належыць быць чарадзею, ты будзеш маім наступнікам».*

«Але з пакалення ў пакаленне зямных чарадзеяў перадаецца адно вяшчунства».

* * *

«З пакалення ў пакаленне перадаецца вяшчунства, што калісьці на зямлю вернецца адзін з неўраў, сын народа чарадзеяў. З тых, хто мог прымаць аблічча звера, ваўка-ваўкалака, адно па сваім жаданні. З нямногіх абазнаных свайго народа, якія ведалі больш за звычайныя чары, стваралі магію самай цудадзейнай зямлі. Ён, народжаны Зямлёй і лесам, спасціг многія таямніцы свету і стаў роўным самому Агню. Ён ад святла і нашчадак святла. Але будзе несці ў сабе боль, скруху, расчараванне, бо прыйдзе адтуль, дзе былі і боль, і скруха, і расчараванне. І створыць ён новую

зямлю, імя якой будзе Неўрыда. Вялікую краіну, якую памятаў у жыцці і смерці. Суджана яму тройчы памерці і нарадзіцца, атрымаць вялікую спадчыну і знайсці заклятую Вялікую Кветку, мацнейшую за ягоныя чары», — гучаў непераадольны голас людской чараўніцы. Гучаў упэўнена і пранікнёна, нібы сабраўшы ў сабе магію цэлага жыцця.

Чараўніца Каліна верыла ў тое, пра што казала. Нават у немагчымае, нездзяйсняльнае вяшчунства пра стварэнне новай Неўрыды. Адраджэнне маленькай зямлі чараў, якое таму немагчымае, што яго нельга здзейсніць ніякімі чарамі.

«І пазнае Вялікая Кветка ў ім свайго стваральніка, першага і апошняга, і дасць яму вялікую выратавальную сілу...»

*Свеціцца магіяй толькі што створаны Абярэг, які з гэтага моманту будзе дапамагаць крыніцамі магічнай сілы. І ведае неўр, што нічога не скажа пра яго настаўніку. Проста не зможа сказаць. Таму што такія Абярэгі ствараюцца адзін раз і на ўсё жыццё. Неўр сам не ведае, як так атрымалася. Ён, як і трэба, знайшоў дрэва, дух якога пагадзіўся стаць ягоным ахоўнікам. Закляў стыхію Зямлі. Паклікаў уладара Агню. Ужо рыхтавалася патрэбная магія, калі здарылася гэта...*

«...якая запатрабуе яго жыцця ў апошні раз. І не зможа ён перамагчы сваю смерць, калі толькі не...»

*Гэта было зацятае змаганне двух бессмяротных, якое па законах чараў і магіі аднаго з іх пазбаўляла жыцця. Усемагутны Грамаўнік, які, ведаў чарадзей, не вельмі прыкмячаў неўраў, змагаўся з такім жа ўсемагутным Першым уладаром неба. Цмокам. Нашчадкам Сусветнага. Вялікім воінам, роўным ва ўсім самому Перуну.*

*Ён ніколі не забудзе гэтай бітвы. Узмоцненыя няскончанымі чарамі слых і зрок лавілі ў небе тое, што не чуў і не бачыў неўр да гэтага ніколі. Вось падае Перуноў агністы меч на цмока, але ўхіляецца той, прымушаючы Грамаўніка праваліцца ў свой удар. І сам нападае на бога, выпусціўшы доўгі слуп знішчальнага агню. Захіляецца Пярун ад агню шчытом, і скаланае неба і зямлю грукат ягонага мяча, які сутыкнуўся з мячом цмока ўжо на зямлі.*

«...зберажэ яго сіла Абярэга, якая прыйдзе неспадзеўкі для яго самога, што ведае і не ведае пра яе, памятае і не памятае...»

*Меч Грамаўніка сустрэў меч цмока, і бачыць са здзіўленнем неўр, што абодва яны прынялі зусім людскія аблічы. Пярун, як і трэба было чакаць, удаўся высокім, каржакаватым воінам сярэдніх гадоў з чорнай барадой. А вось цмок, не паверыў сваім вачам неўр, зусім маладым хлопцам, статным і светлавалосым. Зліваюцца ў нешта суцэльнае, незразумелае імклівыя росчыркі іхніх мячоў.*

«...і даруе Кветка шчасце за пакуты яго. Верне зямлі вялікае святло, таму што не могуць не вярнуць святла чары веры, надзеі і памяці», — змоўкнуў голас чараўніцы Каліны. Ярка пыхнулі гронкі дрэва, даруючы свету астатнія кроплі святла.

*«Ты зноў мне прайграў, цмок», — падае ўдар Перуновага мяча на чалавека-цмока. Але немагчымым намаганнем зноў — каторы ўжо раз — ухіляецца ён ад прамога, смяротнага ўдару. «Шкада, цмок, ты не падобны да сваіх братоў. Ты ўжо амаль роўны мне. Амаль роўны. Але роўным не станеш ніколі». Падае Перуноў меч. Падае апошні раз, не сустрэўшы ніякай перашкоды. І гатовы неўр паклясціся, што на імгненне, на нейкае маленькае імгненне, ён убачыў, як вусны пераможанага кранула ўсмешка. Спакойная, упэўненая, мудрая. «Смяешся, паганы ўладар неба. Смейся, смейся. Ніхто не дапаможа табе, ні бог, ні смяротны. Зараз ты памрэш, не паспеўшы ні звярнуцца да бессмяротных багоў, ні стаць Абярэгам смяротнага. Памрэш апошні раз і назаўсёды». А ў адказ — толькі светлая, заспакоеная ўсмешка. Як ты можаш быць такім мужным, нашчадак Сусветнага? Як у цябе хапае*

*такой выключнай дзёрзкасці? Як магчыма трываць зноў і зноў балючыя ўдары Перуновага мяча?*

— Ты ўратавала мяне ад небыцця, Каліна? — сам неўр ужо не сумняваўся, што гэта так.

— Нават бессмяротныя не могуць такога рабіць, а я толькі людская чараўніца. Я благаслаўляю цябе. Знайдзі сваю Кветку, чарадзей. Не зрабі марным мой дарунак гэтаму свету. Знайдзі Вялікую Кветку Неўрыды, якая стала дарункам краінычарадзеяў усёй зямлі. І стане тваім дарункам...

*Пярун даўно пайшоў, палічыўшы сваю справу скончанай, калі неўр нарэшце адважыўся падысці да таго, хто ляжаў на зямлі. Да забітага цмока, які ўжо перастаў быць уладаром неба. У гэтым законы Сусвету аднолькавыя для ўсіх бессмяротных і суровыя да пераможаных. Немагчыма, але цмок быў яшчэ жывы. У ім трапятала апошняя іскрынка жыцця, якая трымалася невядома якой воляй. Але хутка і яна павінна адляцець, адысці за Калінавы мост, які пераходзяць аднойчы ўсе смяротныя. І бессмяротныя. Былыя бессмяротныя.*

*Неўр нахіліўся над паміраючым. Той неадрыўна глядзеў у высокае, сіняе неба, якое ён бярог безліч гадоў бессмяротнага жыцця. Якім ён уладарыў нароўні з багамі і за якое змагаўся. За якое цяпер паміраў. Немагчыма, але за нейкую хвіліну неўр спасцігнуў горыч паражэння, смутак страты бессмяротнага жыцця і бязмежную любоў да сіняй далі, якія валодалі душой нашчадка Сусветнага. Ясныя пачуцці, зусім чалавечыя. Той, каго запаветы цяперашніх багоў называлі пачварай і хціўцам, неадрыўна глядзеў у сіняе неба, нібы хочучы забраць яго з сабою. Неба, дзе ён так шчасліва лётаў. Неба, дзе кожны вецер быў ягонай душой. А таму і цяпер ён заставаўся ўладаром неба, не роўным багам, але лепшым за іх.*

*Неўр ведаў, што ён рабіў. Але ведаў таксама, што ніколі і нікому не раскажа пра гэта. І асабліва свайму настаўніку. Неўр дакрануўся да чалавека-цмока, прыўзняўшы яго галаву. Позіркі сустрэліся. Неўраў, спачувальны і засцярожаны, і цмокаў, пакутлівы, мудры і крыху раўнадушны. Быў упэўнены, што нічога не зможа зрабіць смяротны. І не спадзяваўся. Памыляешся, нашчадак Сусветнага. Табе не спазнаць людской утрапёнасці і веры.*

*— Будзь маім Абярэгам, Першы ўладар неба, — адно ціха прамовіў неўр.*

*Вусны таго, да каго ён звяртаўся, кранула ўдзячная, такая знаёмая ўсмешка.*

## СПАДЧЫНА НЕЎРА

Такая знаёмая ўсмешка святла клікала на дапамогу. Чарадзейным, бачным толькі для магічнага зроку, святлом было заліта ўсё навокал. І хоць не здаваліся яшчэ светла-іскрыстыя чары, але неўр ведаў, што час святла няўмольна мінаўся. Неўр ішоў далей, у нязведаны шлях, з сумам пакінуўшы Каліну. Барвянае ў сваёй іскрыстай, неўтаймаванай чырвані, паціху заходзіла над зямлёй сонца. Ягоныя нябачныя промні развітальна краналіся ўсяго, што жыло на гэтай зямлі. Краналіся і цёмных ялін, што засталіся дзесьці далёка-далёка, у пачатку неўравага шляху. Шляху чараў, які пакуль што хаваўся ў смузе нязведанага. Гэта казала неўру пра тое, што ўсё наступнае пакуль залежыць толькі ад яго.

Промні сонца падалі на парослую густой травой сцежку пад нагамі неўра, што хавала ў сабе нязгасныя сляды людскіх чараў. І рабіліся гэтыя сляды пад жыццядайным святлом то засохлымі калючымі, жорсткімі купінамі травы, то ярка-зялёнай, трапяткой і ласкавай рунню, што не ведала пра змярканне і таму радасна і аддана

вітала сонца. Бачыў неўр, як цягнуліся маладыя парасткі да аслаблага сонца, чакаючы ад яго ўсходу, дапамогі і жыцця. І, бадай, толькі ён адзін ведаў, што гэтыя добрыя ўчынкі людскіх чарадзеяў ніколі не змогуць атрымаць свайго законнага працягу. Таму што час святла мінаўся. А жорсткай траве было ўжо ўсё роўна, яна не ведала далейшага жыцця і не спадзявалася на літасць.

Гарачыя, ласкавыя промні святла зніклі ў асмужанай шэрані, што раптоўна паўстала перад неўрам, зацінаючы яму шлях. Там, падказвалі выкліканыя чары, было шэрае аднастайнае неба, якое злівалася з яшчэ больш аднастайна-шэрай халоднай зямлёю. Там лятуць шолахі ветру, кратаючы адно толькі парослыя абапал шляху, высахлыя галінкі быльнягу. Там калышацца ў сумётах чорная лістота, што не мае памяці. Там толькі шэрань... Там толькі пустэча... Там толькі адзінота...

Неўравы чары пранікалі ўсё далей і далей. Пакуль нарэшце не напаткалі ціхую іскрынку святла, што лучылася мудрасцю і спакоем. І не мог сказаць чарадзей, каго адшукала пасланая далёка наперад магія. Хто мог валодаць такімі чарамі, вытрымкай і мэтай, што змог жыць у гэтым шэрым свеце. Але тая істота чакала... Чакала таго, хто здолее здзейсніць чарадзейства, якое б пераўзышло шэрань створанага невядомымі чарамі свету. Чакала таго, у каго хопіць мужнасці і веры перайсці страшную мяжу. Неўр амаль не вагаўся. Ён паклікаў магію, якую даўно не бачыў гэты свет, і імкліва пайшоў наперад.

Ён перайшоў мяжу і трапіў у сіні дзень, пра які не папярэджвалі чары. Да непазнавальнасці змяніўся вакольны свет. У густым паўзмроку патанала тое ж неба, цьмянай і шэрай зрабілася тая ж зямля. Нібы ўяўныя згусткі змроку плылі навокал, усё атуляючы сабою, нагадвалі чарадзею такое знаёмае небыццё. І ўсё ж гэта не магло быць небыццём, таму што была магія сіняга дня рукатворнай. Той, хто стварыў гэта, быў магутным, як Першы Неўр, мудрым, як Сусветны Змей, непрадказальным, як Дзіў. Ён змог задзейнічаць людскія чары, падначаліць сабе духаў усіх чатырох стыхій і ператварыць сілу небыцця. Хто ж ты такі, што стварыў сіні дзень?

— Але я не вяртаўся  адтуль. Падыдзі да мяне, я хачу бачыць таго, хто спазнаў небыццё, — ціха, але настойліва прашалясцеў голас. І яму немагчыма было пярэчыць.

Са здзіўленнем убачыў неўр, што кожны крок у гэтай прасторы становіцца чарамі, якія пераносяць яго далёка наперад. Тут, дзе ўжо не было дня, але не настала яшчэ і ноч, на хісткай і небяспечнай мяжы, мусіў ён крочыць па пройдзеных людскімі чарадзеямі магічных шляхах. З кожным крокам змянялася прастора, і пазнаваў неўр людскія страты і радасці, перажываў іх, як свае. Цуд усёй смяротнай і бессмяротнай магіі, сіні дзень. Ён клікаў надзеяй нераскрытых таямніц, песняй вартых скарбаў, якія былі зусім побач. У адным адчайна-рашучым кроку. Нібы ўвачавідкі назіраў чарадзей набліжэнне зорнага сонца ўсёй Неўрыды... Свет стане лепшым. Цяпер абавязкова стане. І навошта было звацца моцным неўрыдскім чарадзеем, які мог ствараць чары спадчыннай, крэўнай памяці? Не, не трэба... Тыя, хто прайшоў тут раней, не дайшлі якіх паўкроку. Але яны пакінулі ў спадчыну мэту, да якой вялі сляды іхніх чараў. Яны клічуць здоўжыць шлях пошуку, трывожныя і вечныя сляды.

Магія невядомага і непрадказальнага завалодала ім, прымусіўшы змоўкнуць яго ўласную. І стаў цяпер неўр адным з людскіх чараўнікоў, слабыя чары якога падтрымлівала толькі трапяткая сіла яго душы. З цяжкасцю даецца кожны крок, нібы там, на Калінавым мосце. Не можа людская магія пераадолець таго, чаго ёй пераадолець не наканавана. І з кожным крокам набліжаецца чалавек да Калінавага моста, па кроплі аддаючы сваю душу чарам. З кожным крокам бліжэй і бліжэй

незваротнае, якое ніколі не зможа пераадолець смяротны. Не цёмны сіні дзень. Так пяшчотна раскрывае свае абдымкі шэрань, абяцаючы збавенне ад пакутаў і спакой. І, здаецца, праменіцца сіняе святло, у водбліскаў якога патанае зямля і неба. Сіняе, светлае, празрыстае. Крок, яшчэ крок. У абдымкі сіняга святла. Ціха пакалыхваецца Калінавы мост пад нагамі.

*Невядомая сіла ўзрывае на мірыяды маленькіх іскрынак неўраву свядомасць. За спінаю з'яўляюцца бліскучыя крылы, па якіх пазнаюцца ўсе нашчадкі Сусветнага. Нечакана ў руках неўра з'яўляецца зброя. З лязгатам сутыкаюцца мячы. Невядомая сіла прымушае неўра сустракаць гулкія Перуновы ўдары, ухіляцца і падаць, прапускаючы над галавою знішчальны бліскучы меч і ў сваю чаргу заносіць над богам зброю, імкнучыся прабіцца праз яго шчыльную абарону. Гэтая сіла прымусіла знікнуць усе думкі, акрамя адной: ёсць толькі змаганне, дзе слабы памрэ, а моцны — будзе жыць. Не думаць, змагацца. Не думаць, адкуль ён, смяротны, ведае, што зараз зробіць лепшы воін Сусвету. Не думаць, як ён, хто ніколі не ўмеў трымаць у руках зброю, змог прымусіць самога Грамаўніка сысці ў глухую абарону. Толькі змагацца. Ужо не кіруе ім невядомая сіла, а становіцца існасцю яго, раскрываючы ў гэтым змаганні сваё вялікае майстэрства валодання зброяй, якое ніколі не спасцігнуць неўру. Ухіліцца, паймаць Перуновы меч на свой, даць бессмяротнаму найглыбей праваліцца у свой удар, і, вокамгненна крутануўшы зброю, ударыць самому... Каб дасягнуць мэты.*

*— Я Свеціч з роду Свецічаў, я апошні чарадзей Вялікага Кола, я апошні неўр ахвяраванага табой народа. І мы не размінёмся на маім Калінавым мосце.*

*Доўга не азываўся паранены Грамаўнік, глядзеў на неўра, свайго пераможцу. Глядзі-глядзі, бессмяротны. Я сапраўды апошні з пакінутых багамі і табою, Пярун. Я паўстаў з небыцця. Што мне да вас, багоў. Не мне папракаць вас у жорсткасці, таму што папракаць — гэта значыць верыць. Апошні Свеціч, апошні чарадзей, апошні неўр, я ведаю пра вас усё і я не веру ў вас. Вашу боскасць, літасць, мудрасць. І ў жорсткасць. Вы толькі абыякавыя ў сваёй уладарнасці, вы толькі раўнадушныя ў сваёй барацьбе за лад і парадак. Мне сапраўды няма чаго губляць. І я буду верным сабе. На гэтым баку моста ці на тым.*

*— Будзь ты пракляты, паганы цмок, — толькі і сказаў Грамаўнік, пакідаючы мост.*

Невядомая сіла пераадольвае прастору сіняга дня. Лёгка і хораша ляцець у паветры. Вялікая магія нашчадка Сусветнага праганяе змрок. Зніклі невядомыя чары, і тады чарадзей убачыў таго, хто стварыў сіняе небыццё.

* * *

Чарадзей убачыў таго, хто стварыў сіняе небыццё. Але гэты не меў ні магутнасці Першага Неўра, ні мудрасці Сусветнага Змея, ні непрадказальнасці Дзіва. Ён быў мацнейшы за ўсіх. Таму што гэта быў ягоны брат, вучань яго настаўніка. Неўр.

— Адкуль ты тут, брат мой? — ціха прашаптаў неўр з роду Свецічаў.

Але маўчаў у адказ ягоны брат, толькі з жахам узіраўся ў Свецічаў твар, нібыта глядзеў і не пазнаваў, бачыў і не мог убачыць. Клікаў да сябе магію сіняга дня, робячы з яе моцныя абарончыя чары. Маўчаў і Свеціч, усё больш разумеючы пра таго, з кім звёў яго шлях. І ніяк не мог спасцігнуць: як гэта здарылася з такім, як ён, з чарадзеем, неўрам. Цяпер жа Свеціч мог толькі асуджальна глядзець на таго, хто страціў сваю волю і стаў адно цацкай у руках багоў. Яны падпарадкавалі яму вялікую магію, якою неўр не ўладарыў. Не мог уладарыць. Толькі выконваў волю бессмяротных: прыцягваць чарамі ўсіх тых, хто меў замнога дзёрзкасці і надзеі. На

самога сябе і свае чары. А не на магутнасць багоў. Такі, утрапёны і смелы, рана ці позна прыходзіў сюды. І пераходзіў мяжу, як і ён, Свецiч. Таму што бачыў боль і пакуты, якія нельга было не ўбачыць, бо чары заўсёды бачаць сапраўднае. І, дапамагаючы, чарадзей хутка сам трапляў у палон чараў сіняга дня: боль, раздзелены з неўрам, якога трымала на мяжы жыцця і нежыцця магія бессмяротных, быў занадта вялікі для любога смяротнага і пасылаў таго за Калінавы мост, адкуль ужо не было вяртання.

— Колькіх ты забіў, брат мой? — ціха прашаптаў Свецiч, які ўжо зразумеў, што не зможа вызваліцца з гэтай так старанна падрыхтаванай бессмяротнымі пасткі. — Колькіх адправіў за Калінавы мост?

Неўравы чары пацягнуліся да Свецiча. Але той нават не імкнуўся абараніцца. Багі ўсё ведалі. Сорамна, што яго так лёгка прадбачыць. Ён не мог змагацца супраць таго, хто быў ягоным братам. Бязвольнай цацкай, што мусіла выконваць волю бессмяротных, але братам. Забойцам лепшых і невінаватых, ды адзіным па крыві.

І тады невядомая сіла ўзнялася з нетраў свядомасці таго неўра, што быў Свецiчам.

*— Я не брат твой, не чакай ад мяне літасці, — спакойна прамовіў ён. — І я не дазволю забіць табе твайго брата, як ты забіў многіх іншых, адзіных па крыві. І не толькі адзіных.*

*— Я не забіваў сваіх братоў, гэта зрабілі багі.*

*— Тваімі рукамі. Ты ведаеш законы магіі. Ты мог не рабіць тое, што рабіў. А ты дапамог ім упадобіцца Дзіву.*

*— Што ты можаш зразумець у законах магіі смяротных, жорсткі вораг Перуна... У цябе нават няма сваёй душы, ты жывеш душой майго брата.*

*— Дык адпусці яго, не забівай. Ведаеш, неўр, амаль у кожнага з іх была такая ж вялікая душа. Здольная дараваць свой свет іншаму. Таму, у каго гэтага сапраўды не было. Не па праве выбару, як у цябе. Па праве нараджэння.*

*— Ты бачыш сляды магіі смяротных? Мой брат вялікі чараўнік. Ён здолеў дараваць табе... зямное быццё.*

*— Не, проста многа зямлі і неба, неўр. Многа чалавечых пачуццяў, якіх раней я не мог зведаць. І цяпер я маю сваю душу, свой смяротны свет, які адмаўляе смерць і здраду. Я спазнаў законы магіі смяротных.*

*— Я не магу зберагчы жыццё майму брату. Ты ведаеш, што з гэтай пасткі няма ратавання.*

*— Гэта толькі вартая жалю падробка пад Дзіваву непрадказальнасць, яго боскую непаслядоўнасць. Пад чалавечую глыбіню пачуццяў і чараў. Яны ўзялі ў цябе тое, што ніколі не мелі самі. І гэта па-ранейшаму ім не належыць.*

*— Табе не зразумець, нашчадак бессмяротнага, як хочацца жыць.*

*— У цябе ўжо няма жыцця, неўр. Яго не стала, калі ты толькі згадзіўся на гэта. Ты, які бачыў світанне Неўрыды, доўга быў амаль у небыцці і не ведаеш, што тваіх братоў знішчылі гэтыя самыя багі.*

*— Мае браты не нашчадкі Сусветнага. Іх не могуць знішчыць багі. Багі — твае ворагі, але не нашы.*

*— Багі знішчаюць усіх, хто можа калісьці стаць больш мудрым, чым трэба смяротнаму.*

*— Багі зберагаюць адвечны лад, без якога парушыцца свет.*

*— Значыць, ты забіваеш сваіх братоў толькі таму, што яны былі крыху лепшыя за іншых. Больш сталыя. Больш літасцівыя. Больш мужныя. У чым яны былі вінаватыя, неўр?*

*— Я прынёс дарунак сваёй Неўрыдзе.*

*— Каб паскорыць яе змярканне, якога ты, на шчасце, не бачыў.*

*— Табе лёгка казаць. Ты сам роўны багам. А што мог зрабіць я, смяротны... Толькі падпарадкавацца іх волі.*

*— Цябе ніхто не мог змусіць рабіць тое, што ты рабіў.*

*— Дапамажы мне, нашчадак Сусветнага. Я шукаў свайго Дзіва. Дапамажы мне, як ты дапамог майму брату.*

*— Я не стану тваім Абярогам, неўр. Любы смяротны павінны быць вартым.*

*— Я варты. Ты не ведаеш, што за таямніцу мне ўдалося захаваць. Каб дазналіся пра яе бессмяротныя багі...*

*— То знішчылі б цябе на месцы. Яны ведаюць, неўр. Яны ведаюць. І дазваляюць табе зрабіць тое, што ты маешся зрабіць.*

*— Як гэта можа быць. Ніхто не ўладны над маімі думкамі.*

*— Ты іх цацка, неўр. Ты цацка ўсіх бессмяротных. Хочаш, скажу, пра што ты думаеш? Дык слухай. Тым, хто падпарадкаваўся багам, толькі здаецца, што яны па-ранейшаму самастойныя. Самі распараджаюцца, самі выбіраюць на шляху чараў. Чым яны замовілі цябе, неўр, калі прымалі тваю службу? Ці не замовай крыві? Яны ведалі, што рабілі. Калісьці, калі я быў яшчэ адзіным уладаром неба, я спазнаў ваш народ. Вашых продкаў, што толькі заснавалі Неўрыду і імкнуліся зрабіць яе прыгожай і велічнай. Тады лепшыя з вашых чараўнікоў прыходзілі да мяне. Ты ведаеш, неўр, але наўрад ці ты здольны спасцігнуць сэнс гэтых чарадзейных слоў: «Кроў адкрые магутнасць, кроў дасць мудрасць, кроў зберажэ вартых». Я бачу, што ты цяпер адчуваеш. Ваша легендарная таямніца запэўнівае: гэтыя словы сказаў першым чарадзеям Вялікага Кола Сусветны. Сказаў і надзяліў сілай, зрабіўшы іх чарамі для кожнага неўра. З таго моманту любы з вашага народа мог звяртацца да сілы і мудрасці сваіх кроўных родзічаў, якія заўсёды прыходзілі на дапамогу. Слаўныя трынаццаць продкаў, лепшыя чарадзеі народа чарадзееў. Памяць пра іх стала для вас нечым большым, чым звычайным ушанаваннем. Вы не проста памяталі тых, хто годна жыў і варта пайшоў з жыцця. Вы не проста зберагалі здабытую імі мудрасць. Вы заўсёды знаходзіліся побач з імі, карысталіся іх ведамі, як сваімі. Калі стаялі ў бітве, то побач з кожным з вас нябачна было трынаццаць вялікіх, якія трымалі ў сваіх руках магію крыві. Вялікую магію, што дазволіць доўга не загінуць вартаму нашчадку нават там, дзе ўсеўладныя толькі Пярун і Чарнабог. Калі чаравалі, то маглі звяртацца да мудрасці трынаццаці абазнаных, кожны з якіх памятаў скарбы свайго часу не як легендарную паказку, а як сапраўднасць. Так, кожны з трынаццаці вечна жыве ў сваім часе, і толькі тыя, хто не сталі волатамі вашай мудрасці, велічы і славы, пайшлі на Шлях Продкаў, значаць змену пакаленняў. Далей не буду казаць, далей усё вядома. І пра тое, што кожны неўр лічыць сябе абавязаным нашчадку Сусветнага, і нават пра тое, што пазней неўраў сталі называць народам Першага ўладара. Я калісьці прамовіў тыя словы, неўр, але я не ствараў твой народ. Я толькі раскрыў тое, чым надзяліў неўраў свет. Сіла крэўнай сувязі знітоўвае род, робіць яго адным, магутным чалавекам. Мудрым чалавекам, які не стане цацкай у чыіхсьці бессмяротных, але не годных справах. Нават выступаючы супраць волі ўсеўладных багоў, ён застанецца вартым. Такога чалавека амаль немагчыма падпарадкаваць, падмануць, прымусіць. Ён становіцца амаль што роўным бессмяротным багам. Ты хочаш спытаць, неўр, ці прадбачыў я тады, што калісьці маё валадарства скончыцца, ці не імкнуўся я пакінуць на зямлі моцны народ чарадзееў, які будзе не рады новым багам? Я не мог не прадбачыць, што калісьці маё валадарства скончыцца. Але паўтаруся: я не ствараў твой народ. Калі вы прыйшлі да мяне, вы ўжо былі мудрыя. Вы ўжо мелі вялікую крэўную сілу. І я рады, што ў маім свеце жылі твае родзічы: яны рабілі*

*гэты свет ясным і годным. А цяпер адкажы мне неўр, чым цябе замовілі? Ці не адрокся ты ад дапамогі продкаў? І стаў слабым, нават не чалавекам, адсечаным кавалкам, які будзе выконваць любую, любую волю сваіх уладароў. Ты не верыў, што гэта замова пазбавіць цябе сілы, якая стала тваім дыханнем, думкай, пачуццём? І цяпер ты не можаш зразумець, як так здарылася: ты жывы, а не маеш таго, што заўсёды меў. Што, быў упэўнены ты, можаш страціць толькі за Калінавым мостам. Мае наступнікі ведалі, што рабілі.*

*— Дапамажы мне, Сусветны. Я памру замест яго...*

*— Чаму раптам?*

*— Ён Светлы. Дзеля святла...*

*— Дзеля святла. Успомні, як ласкава бруіліся Нараў, Гарынь і Ясельда. Як лёгка калыхалі цябе іх празрыстыя хвалі. Як глядзеліся ў іхняе люстэрка высокія яліны. Як зусім не балюча краталі цябе іглістымі рукамі...*

* * *

«Успомні, як ласкава бруіліся Нараў, Гарынь і Ясельда. Як лёгка калыхалі цябе іх празрыстыя хвалі. Як глядзеліся ў іхняе люстэрка высокія яліны. Як зусім не балюча краталі цябе іглістымі рукамі», — шаптаў Свецічу невядомы голас. І ведаў неўр, што гэты, каму належаў голас, памятаў яго Неўрыду. Невядомы разумеў яго пачуцці, адчуваў, як уласныя, яго ўспаміны. Невядомы сапраўды памятаў, як неадступна кліча да сябе хуткаплынны Нараў, як ціха-ціха адзываецца ледзьве чутным плёскатам Гарынь, як вялёсай песняй струменіцца Ясельда. Невядомы ведаў, якія пачуцці перажывае чарадзей. Успаміны плылі роднымі рэкамі, неслі, як жыццё, твары і постаці тых, хто нават для Свеціча заўсёды будуць чыстымі вытокамі святла. Гэтыя ўспаміны прайшлі з ім праз небыццё. Подых смерці зрабіў іх цьмяна-трывожнымі, аддалена-сінімі. Як гэты дзень, што быў рукатворным небыццём і развейваў многія сапраўдныя пачуцці. Яго пачуцці, Свеціча. А замест іх насылаў свае, якія пазбаўлялі чарадзея волі. Не было ў гэтым прымусу. Проста той, хто спачувае іншаму, той, хто радуецца за іншага, той, хто сумуе па-іншаму, той, хто абяцае працягваць справу іншага, не будзе адчуваць насланых чараў. Ён побач з іншым, ён з іншым адзінае цэлае, яны разам. Яны браты, іх з’яднаў асмужаны ў сваёй далечы магічны шлях.

Але было ў гэтым такое падабенства сіняга небыцця да сапраўднага, чорнага і бясконцага, што неўр сумеўся. Сапраўднае небыццё адбірае памяць, разрывае сувязі з родам, робіць чалавека слабым, як адсталая ад чарады птушка, і нязначным, як маленькая пясчынка. Толькі пасля гэтага чорнае небыццё можа паглынуць смяротнага. Тады, на Калінавым мосце, ён, Свеціч, аддаліў сваё небыццё. Сіні дзень не быў сапраўдным небыццём, але Свеціч толькі цяпер зразумеў, што з самага пачатку рабіла магія гэтай прасторы: спакваля насылала на чалавека сон. Не аднастайным, не сумна шэрым здаваўся смяротнаму вакольны свет. Ён нават быў прыгожы, свет сіняга дня. Ён быў поўны трывожных, жывых пачуццяў іншых чарадзеяў, якія калісьці тут былі. Тут была спадчына іх дасягненняў і памылак. Тут быў шлях, багаты на чарадзейныя сляды. Ён прапаноўваў адкрыць вялікія таямніцы і зрабіць вялікі дарунак свету. Большы за той, што меўся зрабіць чарадзей. Шлях прапаноўваў мудрасць і веды, якія можна прынесці сваёй зямлі, калі ты толькі... толькі пойдзеш па гэтым шляху. Ён не быў страшным шляхам у нябыт, ён загадваў верыць у свае ўласныя сілы. Ён ставіў перад чарадзеем мэту, ад якой нельга было адмовіцца. Таму што кожны носьбіт чараў імкнецца здабыць вялікую мудрасць і зрабіць найгоднейшы дарунак свайму свету. Зямлі, што яго стварыла, даўшы вялікую здольнасць ствараць самому.

Бачыць вялікую мэту чарадзей, і засынае ў яго свядомасці самая моцная, самая выратавальная магія, магія сілы яго роду. Немагчыма такія чары знішчыць, немагчыма абысці. Але тут той, каго дакранулася сіняе небыццё, сам адмаўляецца ад іх. Далей быў толькі адзін крок. У сапраўднае небыццё. І ён, Свеціч, ледзь не зрабіў яго. Але тыя неўры, чые пачуцці ён спазнаў, зрабілі. Яны пайшлі па гэтым шляху, сталі звычайнымі людскімі чарадзеямі і ўзышлі на Калінавы мост.

Зберaглі неўра Свеціча ўспаміны. Яны сталі яркімі, моцнымі і трывалымі. Нібы побач быў яго брат, які адчуваў тое ж, што і Свеціч. Яны абодва ўглядаліся ў люстраную плынь, і Свеціч ведаў, што думае яго брат, а той ведаў, што думае Свеціч. Свеціч нібыта плыў па рацэ пачуццяў, якія належалі таму, хто быў з ім адзіны крывёй. Абуджалася, бруілася выратавальная магія, якая адвеку была самай моцнай для неўраў. Голас гучаў, здаецца, у нетрах свядомасці, запаланяў усе думкі і пачуцці ўспамінамі. І здавалася неўру, што ён дзесьці чуў такі знаёмы голас.

— Я забіў многіх, мой брат. Многіх братоў адправіў дачасна за Калінавы мост. Яны былі не вінаватыя. Ты правільна здагадаўся, брат. Годныя, яны хацелі адно толькі мудрасці і ведаў, якія б даравалі гэтаму свету. Я ведаю гэта, як ніхто. Гэты шлях я прайшоў самым першым. Многія пайшлі па гэтым шляху пасля мяне. Я радаваўся, што ўжо даўно ніхто да мяне не прыходзіў. Ты прыйшоў, мой брат... я зайздрошчу табе, нават калі ты застаўся апошнім, калі страціў усіх і пераўжыў змрок небыцця... Цяпер багі мне даруюць літасць няпамяці. Забудзь пра сіні свет. Успамінай яго толькі як сон. Але памятай, што сапраўдную спадчыну глыбокай мудрасці, якую адкрывае ўласная годнасць, майстэрства, смеласць, неўр можа здабыць адно са сваім родам.

* * *

«Сапраўдную спадчыну глыбокай мудрасці, якую адкрывае ўласная годнасць, майстэрства, смеласць, неўр можа здабыць адно са сваім родам», — прамовіў неўр Свеціч, абудзіўшыся ад сну. Ён быў яркім і кароткім, гэты сон пра сіні свет. Неўр не адпачыў пасля яго. У свядомасці мроіліся ўбачаныя вобразы, а ўласная магія адгукалася балючым, шчымлівым плачам. Нібыта ў сапраўднасці неўр змагаўся за тое, каб зноў не трапіць на Калінавы мост. І адкуль гэта такі знаёмы голас, што кажа пра сілу роду, якая здабываецца адно цеснай крэўнай повяззю родзічаў? Адкуль спакойны і мудры яго ўладар, што змог існаваць у рукатворным небыцці, ведаў пра таямніцу неўраў? Сам быў неўрам? Толькі так. Ягоны народ умеў хаваць і зберагаць свае таямніцы. Значыць, ён, Свеціч, не адзіны і не апошні. На гэтай зямлі і пад гэтым небам ёсць яго брат. Ну і што, што знаходзіцца той у рукатворным небыцці. Ён жа сам вярнуўся з небыцця. Не з сіняга свету, з сапраўднага. Мабыць, вернецца і той з шэрані смутку. Галоўнае, што цяпер ён не адзін.

Але які сапраўдны сон. Сон пра сіні свет. Неўр раней ніколі б не паверыў, што можа быць хоць бы і бессмяротнымі створана такое небыццё. Свеціч засяродзіўся, намагаючыся ўспомніць усё да драбніц. Так, пераходзячы мяжу, ён паклікаў свае чары. Але вось далей, далей... Квяцістыя, прыгожыя краявіды. Сіні золак чарадзейнага сонца. Сіні, трапяткі дзень. Ён нібыта глядзіць на свет вачыма людскога чарадзея, адчувае яго думкі, перажывае яго пачуцці. Такі зманлівы сіні дзень, столькі ён хавае таямніц вялікай магіі. Раскрый іх, даруй свету, і свет стане лепшым. І не ведае чарадзей, што вядома неўру Свечічу, сыну вялікага народа чараўнікоў. Свет робіць лепшым не раскрытая таямніца. Свет робіць лепшым не створаная магія. Свет робіць лепшым нават не сам дарунак гэтаму свету любога чарадзея. Свет робіць лепшым сам чарадзей, які сваёй воляй аддаў часцінку сваёй душы гэтаму свету.

Аддаў, стварыўшы чары, раскрыўшы таямніцу, ды ці мала яшчэ як. Але ўвасобіў сваю радасць і дабрыню, свае надзеі і імкненні, свае лепшыя жаданні ў гэтым свеце. Людскі чарадзей, зрабіўшы такі дарунак гэтаму свету, цяпер будзе не слабейшым за неўра-чараўніка. Таму што вялікую радасць і дабрыню пасылае ён у гэты свет. А гэтыя пачуцці ствараюць магію. Складаную, непрадказальную, немагчыма цяжкую для самога чарадзея, але магію. Вялікую магію. Тым мацнейшую і вялікшую, чым большай і лепшай была адданая часцінка душы яе стваральніка. Спрадвеку кожны неўр бярог сваю душу, таму што трэба было пакінуць спадчыну. Стаць адным з годных, адным з трынаццаці. Ведаў: аддай занадта многа, і ты сам знікнеш, станеш тым, дзеля чаго аддаў. Зямлёй, паветрам, вадой, агнём. Возерам, дрэвам, валуном. Нават не людскім чарадзеем, звычайным смяротным. А людскі чарадзей дараваў сябе цалкам, таму што яго ніхто і ніколі не чакаў. Ну і каго цяпер назваць народам чарадзеяў...

Нестрывальны боль апякае твар. У чорным небыцці знікае амаль адданы дарунак. Дарунак, які так і не атрымала яго зямля. Не слухаюцца ўласныя чары. Дранцвее свядомасць. Захлынае небыццё. Не сіняе, але сапраўднае. Што гэта? Людскі чарадзей забіты. Кім і навошта? Як так магло атрымацца?.. Не веру, не можа быць. Дзеля зямлі і неба, навошта, мой брат?! Якім багам ты прынёс такую ахвяру? Неўр цягнецца да сваіх успамінаў, спрабуючы магічна абудзіць памяць. Квяцістыя, прыгожыя малюнкі. Яны і толькі яны. Маўчыць, стаміўшыся як ад вялікага цяжару, уласная магія. Адкуль жа, адкуль такі знаёмы голас...

Парослая густой травой сцежка хавала ў сабе нязгасныя сляды людскіх чараў. Неўр ляжаў на сцежцы і глядзеў на захад сонца. Ён не мог паверыць, што хтосьці тут ішоў у апошні раз. Знікла з абшараў зямных рукатворнае небыццё. І была навокал толькі зямля, якой не ставала святла. Барвяна-іскрыстае, знікала сонца, плылі лёгкія празрыста-ружовыя аблокі, ападалі і ўздымаліся пад уздыхамі ветру травы. І лавіў чуйны слых чарадзея ў гэтых лёгкіх павевах такую мілую і знаёмую лясную песню. Неўр заўсёды застаецца неўрам. Ён заўсёды будзе чуць лес.

Люба і хораша было навокал. Не бачна і не чутна было нічога, што б прадказвала бяду. Але неўр ведаў, што час святла няўмольна мінаўся. І як ніводзін з неўрыдскага народа, неўр з роду Свецічаў адчуваў гэта. Святла навокал было яшчэ многа, але яно памірала. Як людскі чарадзей, што не паспеў прынесці дарунак гэтаму свету, няўмольна і жахліва...

Неўр думаў. У нязведанай, асмужанай далечы хаваўся ягоны шлях. Шлях жыцця. Шлях магіі. А гэта значыла, што будучыня па-ранейшаму залежыць толькі ад яго. Яго воля і жаданне пакуль што могуць перамагчы ўсё. Але... Але была загадка Дзіва пра яго настаўніка, Першага Неўра, якую ён, Свеціч, мусіць адгадаць. Але была надзея Каліны, надзея на тое, што ён, Свеціч, знойдзе Вялікую Кветку. Людская чараўніца была ўпэўнена ў сваім вяшчунстве: з Вялікай Кветкай неўр зможа вярнуць святло. Немагчыма не выканаць яе апошнюю волю. Неўр у сінім небыцці, мой брат. Тваім апошнім уздыхам быў напамін пра самую надзейную нашу неўрыдскую магію. Дзеля чаго... Толькі дзеля вялікіх учынкаў на мяжы жыцця і смерці. Бо дзе ж яшчэ можа спатрэбіцца дапамога радовічаў... Яны былі са мною ў апошняй бітве. Насуперак усім магічным скрыжалям яны былі са мною, з апошнім сваім нашчадкам, у небыцці. Таму што як інакшай я змог бы вярнуцца? Яны будуць са мною яшчэ раз.

Не трэба ніякіх пачуццяў, толькі халодная развага. Настаўнік, мне не пад сілу самому разгадаць загадку пра цябе. І толькі твой дарунак гэтаму свету — той, што назвала Каліна Вялікай Кветкай, — дапаможа мне. Каліна, я не ведаю, ці спраўдзіцца тваё вяшчунства. Я хачу, каб не спраўдзілася. Я хачу, каб не пакутліва адраджа-

лася, а засталося на зямлі дараванае цэлым народам святло. Маім народам, чарадзеямі-неўрамі. На радасць і шчасце. Яго немагчыма адрадзіць аднаму, як і немагчыма абудзіць аднаму магію Вялікай Кветкі. Мой брат з сіняга небыцця, ты не проста нагадваў пра тое, пра што ніколі не забудзецца ніводзін з неўраў. І цяпер я ведаю, што спадзявацца мне толькі на сілу майго Абярэга...

## СІЛА АБЯРЭГА

Вялікая сіла Абярэга вярнула яго да жыцця. Пакутлівым было ўміранне. Нечаканым стала вяртанне. Не толькі нечаканым, амаль нездзяйсняльным. Ён, Першы ўладар неба, паміраў, пераможаны іншым бессмяротным. Надзейна і незваротна, без права на новае нараджэнне. І ён памёр бы, каб не малады неўрыдскі чарадзей, што ўбачыў у ім цмока, нашчадка Сусветнага. Смерць аднолькавая для ўсіх: і для яго нашчадкаў, і для яго самога, Сусветнага Змея, Першага бога і стваральніка гэтага свету, які можа прымаць аблічча любога свайго наступніка, валодае яго магіяй нібы сваёй.

*«Будзь маім Абярэгам, Першы ўладар неба», — ціха прамовіў да яго неўр. І яму стала нечакана хораша і смешна. Ён не памрэ. Таму што побач смяротны чарадзей, які жадае працягу яго жыцця. Смяротны, ён усхваляваны спачуваннем, павагай да смеласці. І таму насуперак усім скрыжалям зробіць Абярэгам таго, хто ніколі ім не быў. Зробіць насуперак сваёй жа ўпэўненасці ў тым, што ніколі не можа быць бессмяротны Абярэгам смяротнага. Глядзеў Першы ўладар неба ў вочы чарадзею і спасцігаў усю боскую веліч яго душы. Тым больш вялікую і вартую, што была гэта душа смяротнага. «Я дапамагу табе, смяротны. Ты і не ведаеш, наколькі магчыма здзейсніць тваё жаданне». Першы ўладар неба ведаў тое, пра што не здагадваўся самы мудры неўрыдскі чарадзей. Чараўнікі-неўры, якія зрабілі чары Абярэга сапраўдным майстэрствам, не маглі ведаць, што сілу Абярэга прызнаюць усе магічныя скрыжалі, аднолькавыя для багоў і людзей: «І павінен той, хто стаў ім, берагчы жыццё захаванага. І павінен захаваны аддаваць часцінку жыццядайнай магіі свайму Абярэгу. Калі памірае захаваны, памірае і Абярэг. Калі памірае Абярэг, памірае і захаваны». А калі Абярэгам стане бессмяротны, а захаваным — смяротны людскі чарадзей... то бессмяротны выбірае: якую жыццядайную магію смяротны яму аддасць. Выбірае таксама чары, якія будуць аберагаць такое патрэбнае яму жыццё. Стварае і абуджае магію, што, аддаляючы самога Абярэга ад захаванага, дазваляе бессмяротнаму нябачна знаходзіцца побач. Заўжды і заўсёды. І няхай ён, амаль што Абярэг неўрыдскага чарадзея, быў страціў сваю бессмяротнасць, нават, бадай што, страціў жыццё. Пакуль ён жыве, ён застанецца Першым уладаром неба, уладаром усіх цмокаў. Ім можа быць толькі магутны, толькі мудры, толькі бессмяротны. І кожнае стварэнне чатырох стыхій гатова аддаць сваё бясконцае жыццё за Першага і Сусветнага. Але пакуль што ад апошняй смерці яго ратавала магія смяротнага неўра. Задумлівы, нават самотны, той моўчкі рабіў абрад, наступствы якога не мог прадказаць. Неўр ведаў, што ягонае жыццё як сваё будзе берагчы Першы. Ведаў, што яны абодва памруць, калі хтосьці, той жа ўсемагутны Пярун, пераможа ўладара цмокаў. Але не ведаў, не мог ведаць таго, чаго самыя мудрыя з яго народа не ведаюць. Ды малады чарадзей і не быў самым мудрым.*

Рассякаюць крылы лёгкае паветра. Хутка, імкліва ляціць Першы ўладар неба, які па праву мудрасці і ўчынкаў назаўсёды застанецца Першым. І што яму цяперашнія ўладары, бессмяротныя багі. Занадта руплівыя, занадта прадбачлівыя, занадта

асцярожныя. Яны не ведаюць, якім зманлівым бывае неба ў час бессмяротнага і смяротнага ўмірання. Яны зайздросцяць. Яны ніколі не ўмелі жыць.

А ён, Першы, умеў. Таму што чуў і бачыў зямлю. Яе чарадзееў — маленькі неўрыдскі народ, схаваны падляснымі шатамі. Таму цяпер адзін з неўраў — яго захаваны. Таму па праву абярожных чараў атрымана часцінка смяротнай, неспасцігальнай душы. І наперадзе — далёкі вырай.

Згодна ўздымаюцца-апускаюцца крылы. Далёка ўнізе застаецца зямля. А Першы ўладар неба ляціць вышэй і вышэй. Неба, нябёсы, наднябессе. Неба ахінае сабою зямлю. Яго, то сіняе і вясёлае, то шэрае і пахмурнае, бачаць чалавечыя вочы. У яго ўглядаюцца з надзеяй вочы чараўнікоў. Але нават яны не бачаць нябёсаў — схаванага ад зямлі іншага, таемнага неба, дзе жывуць багі. Там стаяць іх троны, і адтуль кіруюць маладыя бессмяротныя зямлёй, сузіраючы яе з вышыні свайго неба. Але не ўсё адбываецца згодна і зладжана, хоць і імкнуцца яны да таго. Ён, Першы, памятае час, які пасля быў названы Вялікім Бязладдзем. Ды і не толькі памятае: тады не сведкам, удзельнікам быў. Вясёлы, бесклапотны бог Месяца, пыхлівы, разважлівы бог Сонца. Тады ён, Першы ўладар, здолеў, каторы ўжо раз, але на памяці маладых багоў — першы, адрадзіцца ў гэтым свеце.

У гэтым Сусвеце — над зямлёй і ў нябёсах — ён заўсёды быў Першым. Першым сярод сваіх падданых, надзеленых моцнай магіяй чатырох стыхій. Першым богам, стаўшы ім па праву нараджэння. Першым стваральнікам гэтага свету, якім цяпер уладарыць не ён. Ды ён ніколі ім і не ўладарыў. Сапраўднай велічы не трэба самаўладства. А ён быў сапраўдным, не створаным верай людзей, хоць і ў яго таксама верылі. Яго могуць забыць, як забываюцца ў рэшце рэшт на самых магутных багоў. Але ён не памрэ, як памруць тыя бессмяротныя. Не знікне ў небыцці. Няма яму небыцця. Для яго смерць — толькі кароткае імгненне перад новым нараджэннем. Дарунак ад свету, які памятае свайго стваральніка.

Але як жа балюча смыляць пакінутыя Перуновым мячом раны. Ён, Першы, заўсёды адчуваў боль, хоць і жыў у высокім наднябессі, дзе няма месца звычайным чалавечым законам. Проста гэты боль быў сваім, як створаны ім свет. Цяжка, невыносна, амаль немагчыма трываць. Але чамусьці ён, Сусветны, ніколі не спяшаўся паклікаць чары, каб суняць нясцерпныя пакуты. Як і ніколі не ашчаджаў свайго жыцця: гэта было патрэбна яго стварэнню, яго свету. І няхай маладыя багі трасуцца над сваім адзіным бессмяротным жыццём, аддаюць свету ўсё новыя і новыя загады. Ім усім не пад сілу змяніць тое, што стала мудрым і вяшчунным задоўга да іх нараджэння. Ён жа ведае створанае ім самім. Зямля, ашчадна ўзятая ў людскую руку. Плямёны, народы. Ён ведаў, што рабіў, калі дараваў зямлі вялікае права свайго сцвярджэння. Яго захаваны назваў гэта б вялікім дарункам, прынесеным свету. І смешнай здаецца яму дзіцячая пагарда маладых бессмяротных. Яшчэ да іх з’яўлення ён, Першы, наканаваў, што ў ягоным свеце будуць уладарныя Трыглавы. Будзе такі вясёлы, прадказальны Кляскун. Будзе чуйная багіня Знічка. Будзе яго вораг Пярун. Будуць усе, хто патрэбны яго свету. А яго свету патрэбны лепшыя і горшыя, што нясуць злое і добрае. Таму, што злое дазваляе ўбачыць дабрыню, а дабрыня — паверыць у гэты свет. І будзе ён, Сусветны Змей, якога назавуць маладыя багі жорсткім, хцівым, абыякавым. Няхай, што яму да таго, калі ён спазнае шчасце стаць Абярэгам смяротнага: атрымае здольнасць глядзець на створаны ім свет вачыма чарадзея-неўра. А для чарадзея-неўра не было адмерана безліч гадоў, і таму свет яго складаўся з жыццяў тых, каго ён ведаў. Жыццяў смяротных, а таму кароткіх, кволых, безабаронных. Іх так лёгка незваротна страціць. Не паспець дайсці па сваім шляху чараў. Не паспець прынесці свой дарунак свету. Не паспець... і знікнуць у небыцці. Бясследна знікнуць.

Ён, Першы і Сусветны, жыве ў наднябессі. Туды можа патрапіць толькі ўладар старэйшай за свет цмокавай магіі. Балюча пякуць раны, пакінутыя Перуном. Але ён звыкла творыць магію, што дазволіць вырвацца з абалонкі яго свету. І вось далёка застаюцца нябёсы, яшчэ далей застаецца зямля, а ён бачыць блізкія белыя вежы драконавай цытадэлі — Наднябеснай Брамы. Кіруецца да адной з іх, найбольш стромкай і блішчастай. Самы мудры ў Свеце, ён правільна зрабіў, што дараваў свайму захаванаму сваё майстэрства зброі і магіі. Аберагаць такое кволае жыццё.

* * *

— Аберагаць жыццё смяротнага чарадзея-неўра? Мы правільна цябе зразумелі, уладар? — непакоіліся яго падданыя, яго радцы. З таго моманту, як ён з’явіўся ў сваёй вежы, бачыў толькі іх здзіўленне і заклапочанасць. Было з чаго. Кожны цмок адчувае іншага. Радасць, гнеў, боль. І кожны цмок ведае, дзе знаходзіцца і што робіць яго Першы. І тады, калі ён паміраў пад мячом Перуна, то ўсе іншыя цмокі ведалі гэта. І не спадзяваліся яго зноў убачыць. Тым больш жывым Абярэгам зямнога чарадзея. Асабліва зямнога чарадзея. Але ж ён вярнуўся...

— Ты ведаеш бессмяротных чарадзеяў-неўраў? Пакажы хаця б аднаго. — Ён быў спакойны. Ён ведаў, што яго падданыя не памыляліся. Ні ў чым. Не могуць цмокі памыляцца.

— Кожны слаўны неўр крышачку бессмяротны. Калі прыходзіць ягоны час, то ён памірае, але і застаецца поруч з тым, з кім адзіны крывёй. — Гэта ягоны Брамны, вочы і вушы Сусветнага ў створаным ім свеце.

Маўчыць Першы. Нашто казаць, калі цябе даўно разумеюць без слоў. Калі бачаць тое, што бачыш ты, і перажываюць твае пачуцці, як свае. Ад зброі Грамаўніка, ад смерці без наступнага нараджэння, ад створанай ім самім зямлі ў наднябессе вярнуўся Сусветны. Вярнуўся, калі яго ўжо не чакалі. І прынёс з сабою адказнасць за свайго захаванага, што б там ні казалі, — смяротнага, які памрэ ў адзначаны час і, мабыць, стане адным з трынаццаці, каго будуць шанаваць нашчадкі. Але ўжо нашчадкам неўра Першы жыццём не абавязаны. Не абавязаны нічым. Але свайму захаванаму — абавязаны і заўсёды. А захаваны будзе жыць у памяці сваіх наступнікаў. Стане продкам-абаронцам для кожнага кроўнага радовіча, якому будзе патрэбны ў вялікай справе. Будзе побач з кожным вартым нашчадкам. І ён, Першы і Сусветны, ягоны Абярэг, будзе заўсёды бачыць аблічча маладога чарадзея такім, якім убачыў яго тады, у момант сваёй смерці. Такім, якім неўр пераступіў мяжу зямной магіі. Такім, якім, радасны і шчаслівы, чарадзей спазнаваў сваю зямлю, растаўшы сваёй існасцю ва ўсіх яе чарах. У яе скарбах і мудрасці, у спадчыне ўсіх славутых неўраў свайго народа, якія пайшлі па крутым, няроўным шляху. Ва ўсмешцы, што люстэркам адбівае вобразы чарадзейных замоў, патанае ў глыбокіх лясных нератах, цягнецца да ясных зор. Творацца чары дзеля дарунку на радасць зямлі, любай і лёгкай. Топчацца, схаваны ў смузе нязведанага, магічны шлях. Свецяцца постаці і твары: настаўнік, брат, бацька. Мара, надзея, шчасце. Сны, ява, чары. Учора, сёння, заўтра. Разам і побач дзеля маленькага святла, свету, Сусвету, імя якому — Неўрыда.

Ён заўсёды будзе Абярэгам толькі Свецічу з роду Свецічаў. Толькі аднаму неўру з Вялікага Кола. Адзінаму неўру з усёй Неўрыды.

— Цяпер і да скону, няхай доўга не спаткаецца Грамаўнік, мы будзем берагчы адзіны абраны народ — народ чарадзеяў. — Вястунны, для якога была адкрытай будучыня, зірнуў на свайго Першага. — Нашы маладыя... гэтага баяліся і крыху прадбачылі.

— Крыху. Яны ўпэўнены, — Стажарны, які ствараў нябесныя зоркі і таму бачыў сапраўдную існасць кожнай рэчы, не хаваў свае пагарды, — што няма магутнейшай магіі за магію бессмяротных. Нашэсце ворагаў павінна знішчыць народ чарадзеяў. Для гэтага яны змусілі паверыць Першага Неўра, настаўніка нашага захаванага, што толькі Закляцце Веры з Чарнабогам можа ратаваць яго Неўрыду. Першы Неўр не баіцца смерці, але ён не ведае, што Чарнабог не адпусціць нікога з тых, дзеля якіх зроблена такая ахвяра. Смяротныя чарадзеі ніколі не змогуць прадбачыць, што Закляцце Веры не мае мяжы. Чарнабог жа стаіць на чале ворагаў нашага захаванага. Першымі загінуць чарадзеі Вялікага Кола. Цяпер, калі ў нашага захаванага ёсць Абярэг, гэты неўр хутка стане адным з іх.

— Нашага захаванага можна выбавіць ад Закляцця Веры. — Чараспеўны, які ведаў усе таямніцы смяротнай і бессмяротнай магіі, усміхнуўся. — Але ратаваць сапраўды можа толькі цуд неўрыдскіх чараў. А Закляцце... Гэта зробіш не ты, Першы, і не Дзіў, які пазней знойдзе маладога чарадзея. Таму што нельга дазволіць, каб знікла Неўрыда.

— Калі знікне Неўрыда, то непапраўна зменіцца створаны намі свет. А жыць бясконца не ў сваім свеце, жыць вечнымі выгнаннікамі — гэта сумна. — Адчужана змоўкнуў Вандроўны, што падарожнічаў у іншых Сусветах. — Тым больш, што неўры яшчэ толькі пачалі ствараць вялікі цуд сваёй магіі. А нашы маладыя прыспешваюць кола часу.

— Калі можна прыспешыць гатовае павярнуцца кола часу, то свет вяртаецца да сябе. Ад улады Чарнабога неўра Свеціча выбавіць пракляцце яго настаўніка, — усміхнуўся Першы. — І мой захаваны яго атрымае. Няхай ён будзе хоць тройчы неўрам, але я пакуль што Сусветны, уладар Наднябеснай Брамы. А да зорнай мудрасці і сілы свайго народа ён прыйдзе сам.

Цішыня і згода пануе ў Наднябеснай Браме. Тут, на парозе свету, даўно ўсё прадбачана і сказана. Даўно без слоў разумеюць адзін аднаго тыя, хто старэйшыя за багоў. Іх маўчанне дарue спакой ім і іх свету перад нявыказаным, што мае адбыцца і адбудзецца. Калі памыляюцца маладыя багі... Калі нязнанае раскрывае ў сабе зямная магія... Калі маленькі народ лясной Неўрыды... Свет сам стварае сябе. Яны не ўмешваюцца. Яны толькі жывуць у гэтым свеце, што чароўны такім зямным, такім вечным святлом.

## КВЕТКА НЕЎРЫДЫ

«Зямное і вечнае святло, твой час незваротна мінаецца. Зусім, зусім мала засталося цябе на гэтай зямлі. Ты знікнеш, як знікла мая лясная Неўрыда. Што мне зрабіць, каб цябе зберагчы? Якая ўладарная бессмяротная магія можа цябе затрымаць у быцці?»

У дальняй далечы туманом шарэе нязведаны шлях. То блісне нешта, праясніцца на момант, то зноў схаваецца, як і не было гэтага. Што ўжо не залежыць ад мяне, пакручасты і неспазнаны? Што яшчэ залежыць? Адкажы мне, што? Як мне шукаць выйсця і ратунку?.. Пакрыху спавівае зямлю снегавы вянок. Спавівае ды не спаўе, таму што тоіць яшчэ зямля іскрынкі святла. Чакае, падказваюць чары, спадзяецца дачакацца. Таго, вялікага, хто ўжо не будзе неўрам па крыві, але будзе неўрам па духу. Князя-чарадзея, які зведае вялікае зямное чарадзейства і вялікую славу сярод смяротных чараўнікоў. Так ён і будзе звацца — слаўным. Усяслаўным, таму што ўсёй славы і спадчыны неўраў будзе ён наступнікам. Таму ён, Свеціч, не мае права не захаваць тое, што спрадвеку захоўваў ягоны род. Святло зямлі. Святло Неўрыды.

— Дзе ж мне шукаць цябе, жаданая кветка? Зніклі твае захавальнікі, і стала ты сама толькі казкай. Але ты квітнела калісьці на маёй зямлі і ты цяпер патрэбна ёй. Без цябе на зямлі застанецца толькі стынь, золь і холад. Без цябе на зямлі запануе цемра, стварэнне магіі Чарнабога. Дзе ж мне адшукаць цябе?

І тады неўр Свеціч успомніў.

*Ціха гойдаюцца самыя высокія на свеце яловыя шаты. Ён, самы малады чарадзей Вялікага Кола, стаіць поруч з астатнімі. Стаяць усе чарадзеі ў храме, ля сваіх валуноў, утвараючы сапраўднае кола. Зусім хутка мае адбыцца вялікая магія, якой раней не ведала Неўрыда. А Першы Неўр між тым кажа: «Будзе цвісці гэтая Кветка раз у год у час летняга сонцастаяння. І будзе тады найвялікшае святло. Будуць ахоўваць яе тыя, каго людское слова назаве нячыстай сілай. І з веку ў век будуць смяротныя шукаць яе. Таму ж, хто знойдзе яе, і сапраўды будзе даравана шмат з нашай чарадзейнай спадчыны, а галоўнае — здольнасць быць усевідушчым і мудрым. Але найвялікшы дарунак Кветкі будзе любому з нашага народа — яе стваральніка».*

*Мякка закалыхваюць словы Першага, самага вялікага чарадзея Неўрыды. І далучаецца неўр да сузірання і прадбачання, якое павінна будзе стаць вялікай магіяй стварэння. Спакой, засяроджанасць, яснасць. Адкрываюцца магічнаму зроку неўра глыбіні чараў.*

*Ад цёмных магутных ялін шырыцца-разліваецца прыгожая яснасць, нібыта не ў лясным сэрцы Неўрыды, а ў нябеснай сонечнай высі стаіць чарадзей. Гарача-іскрыстае, запаланяе святло ўсю неўраву істоту, даючы чарам вялікую сілу. Ціха гучыць голас Першага, запісваюцца словы ў магічныя скрыжалі: «Пакуль ходзіць народ Неўрыды па сваёй зямлі, пакуль бачыць сонца над сваёй зямлёй, пакуль беражэ лясныя нетры сваёй зямлі, будзе дараваць святло Кветка, якой кожны з Вялікага Кола аддасць часцінку сваіх чараў — сваёй веры, сваёй любові, сваёй мары. Яна будзе нашай памяццю і сумленнем, нашай світальнай думкай і нашай надзеяй змяркання. Яна — душа наша, што не мае смерці. І няхай веліч і слава зямлі Неўрыды, магія ўсіх яе чарадзеяў і жыцці неўраў будуць вечнымі ў гэтай Кветцы, якой наканавана бясконца доўжыць магію, славу, жыццё. Будуць збірацца да Кветкі чарадзеі Вялікага Кола, па адным з кожнага роду, і кожны будзе адказваць за свой род. Я, Першы Неўр, Першы чарадзей Вялікага Кола, заклінаю...».*

*— Я, неўр Свеціч з роду Свецічаў, малодшы чарадзей Вялікага Кола, заклінаю, — успыхвае і гасне святло Кветкі, як было ўжо колькі разоў пасля закляццяў іншых чарадзеяў. А што ён, неўр Свеціч з роду Свецічаў, згубіць, калі даруе незвычайныя чары, магію, роўную цэламу жыццю… Яго жыццю. Здабыў жа ён незвычайнага Абярэга. Што рабіць, калі мала проста вялікіх дарункаў. Тое, што чаравалі іншыя — гэта найвялікшая неўрыдская магія, цуд пачуцця і майстэрства. Але Кветка так і не замігцела роўным ясным святлом.*

*— Я, неўр Свеціч з роду Свецічаў, малодшы чарадзей Вялікага Кола, заклінаю, — паўтарае ён і чуе папераджальныя шэпты старэйшых братоў. Няхай. Ён зробіць тое, што зробіць. Праз вялікую прастору адчувае цёплую ўсмешку свайго Абярога, маўляў, рабі, што робіш, а я заўсёды з табою. Збіраецца на яго, неўраў, заклік, вялікая сіла стыхій. Зямля. Вада. Паветра. Агонь. Агонь... Агонь... Чуйна слухае яго і становіцца поруч з ім усемагутны уладар Агню. «Ты — мой, — нібыта чуе Свеціч, — ты заўсёды быў маім. З твайго першага недазволенага кроку па шляху чараў і да стварэння немагчымага для смяротных Абярэга ты быў тым, кім станеш — пераможцам цемры, слаўнейшым за тваіх прашчураў».*

*Немагчымыя для смяротнага сілы аддае яму ўладар Агню. Утрымаць бы такі цяжар. І адкуль узнікла недарэчнае ў гэтую хвіліну пачуццё наканаванасці.*

*Невядома за што, але ён стаў абраннікам Кветкі — ужо цяпер вялікага стварэння чараў яго народа. Неўр Свеціч быў упэўнены, што для яго Кветка стане нечым большым за... што? Але абраннікам... Няхай ён аддаваў чары, роўныя жыццю. Хіба ж вакол няма больш вартых?*

*Толькі тры разы можна паўтарыць заклён. Невыносна цяжка, нельга далей марудзіць.*

*— Я, неўр Свеціч з роду Свецічаў, малодшы чарадзей Вялікага Кола, заклінаю... — радасна свеціцца роўным гарачым святлом Кветка. Яго Кветка.*

* * *

Кветка. Яго Кветка, што даравала зямлі святло. Што была святлом гэтай зямлі. Была святлом яго Неўрыды. Тады, калі чарадзеі Вялікага Кола стварылі гэты цуд, ніхто не ведаў, навошта трэба яе хаваць. Кожны неўр меў тое, што берагла магія Кветкі.

Пра яе згадваў Дзіў, які ведаў вялікую справу майго настаўніка. Ведаў Першага праз яго майстэрства, што дапамагло тады майму непрадбачанаму нікім чараўніцтву стаць плённым. Але не ведаў самога чарадзея. Таму што не мог яго бачыць.

Пра яе казала Каліна, якая даравала святлу сваё чалавечае жыццё. Яна ведала болей за ўсіх нас, хоць была смяротнай людской чараўніцай. Даруй мне, Каліна.

Пра яе ўспамінаў і мой брат. Многіх адправіў дачасна за Калінавы мост, але і сам у адным кроку да яго быў годным. Пазнаў, з якога я роду, памятаў, чым былі для неўраў усе Свецічы. І таму нагадаў мне пра сілу крэўнай дапамогі свайго роду. Я не забудуся пра гэты напамін.

Але Кветка. Яго агністая Кветка, якую трэба знайсці, а знайсці невядома як. Таямніцу захавання Кветкі ведаюць іншыя чарадзеі Вялікага Кола. Замову захавання зрабілі ўжо без яго: занадта многа ён, абраны, аддаў сваёй магіі вялікаму стварэнню чараў. Аддаў сваёй душы, як зрабіў дарунак зямлі. Аддаў нешта большае, чым душа. Ніхто так і не спазнаў, на што закляў малады чарадзей жывое стварэнне неўрыдскай магіі. Ніхто ўжо і не спазнае: вялікі Агонь умее хаваць свае таямніцы. Свеціцца Кветка полымем, іскрыстым, барвяна-зыркім... Каб толькі ён ведаў таямніцу захавання...

Неўр звяртаўся да ўсіх чарадзеяў Вялікага Кола. Да ўсіх тых, хто быў цяпер у небыцці. Да ўсіх тых, каго ўжо не было. У вытанчаныя ўзоры слоў сплятаюцца чары, у якіх зорным святлом ззяюць імёны... Яны адгукнуцца дзеля ўсяго таго, што пакінулі ў дарунак гэтаму свету. Таму што без Кветкі не застанецца святла. І тады на зямлю і ў свет прыйдзе Чарнабог, супраць якога адвеку змагаўся род Свецічаў.

Вялікае Кола заўсёды шанавала кожнага свайго. І цяпер яго чарадзеі прыходзілі на заклік адзінага, хто яшчэ не перайшоў Калінавы мост. Хто яго амаль перайшоў і здолеў вярнуцца назад. Амаль... Мёртвыя браты прыходзілі да адзінага жывога, каб дапамагчы яму памерці.

*— Блізкага табе зорнага сонца, брат наш, — прамовіў вусцішны голас. — Няхай доўга асвятляе яно твой шлях чараў...*

*Ясным і надзіва празрыстым робіцца ягоны, неўраў, шлях, які знікае з дарог быцця. І адчувае Свеціч, як мінаецца Калінавы мост, застаўшыся за спінаю. Няма і не будзе ўжо ратунку. Не стане сілы другі раз вярнуцца. Але... ён сам хацеў гэтага.*

*Вялікае Кола пачула свайго брата.*

*Пачула і прыйшло да яго.*

*І цяпер яны стаялі побач, усе восем, што былі ў небыцці. Сумныя, сцішаныя*

*твары. Нават чарадзею тут самотна і адзінока. Асабліва, калі на зямлі мінаецца пакінутае дзеля жыцця і радасці святло.*

*— Даруйце мне, браты. Даруйце, што дадам смутак да вашага смутку і горыч да вашай горычы, — з жалем прамовіў неўр.*

*— Не прасі даравання, брат наш. Калі-небудзь у небыцці мы сустрэнемся. І тады ў нас будзе час пагаварыць пра гэта. У нас будзе многа часу. Цэлая вечнасць, — усміхаюцца чарадзеі яго Кола.*

*Усё так. Ён адзіны, дзяваты, быў з імі, але яшчэ не іх. Ён адзіны яшчэ быў. Неўр і чарадзей. Апошні.*

*— Я прашу вас адкрыць мне таямніцу захавання Кветкі Неўрыды дзеля астатняй зямлі, дзеля свету быцця, у якім мінаецца дараванае намі, браты, святло.*

*Ціха іскрыцца амаль жывы смех. Гэта смяюцца ягоныя браты.*

* * *

*Смяюцца ягоныя браты, чарадзеі Вялікага Кола. Не смяецца толькі адзін з тых, хто пакінуў свет. Не смяецца толькі Першы Неўр, яго настаўнік.*

*— У цябе аднаго не хапіла мужнасці пайсці ад святла. Ты занадта прагна хацеў жыць, калі трэба было годна памерці, — з дакорам прамаўляе той. Змаўкае іскрысты, бесклапотны смех, і маўклівымі ценямі заміраюць іншыя чарадзеі, нібы ведаючы, што ўчыніцца далей. Згаджаюцца з безвыходным.*

*Маўчыць неўр Свеціч. Што можна сказаць на справядлівы дакор?*

*— Ты адзіны аказаўся слабым перад мяжой непазбежнага, выклікаў гнеў бессмяротных, парушыўшы ўсё, што можна парушыць, — гнеўна гучаць словы.*

*І адчувае неўр, як паціху збіраецца, цягнецца да Вялікага Кола злая, варожая сіла. Тая, з якой змагаўся ў апошні дзень мінулага жыцця. Храм. Чары. Кроў.*

*— Настаўнік...*

*— Маўчы! Хіба такому можна даверыць Вялікую Кветку, апошнюю нашу надзею. Каб з усіх нас жывым застаўся годны... ён бы вярнуў Неўрыду. — У гнеўным голасе Першага загучалі пакліканыя ім чары, якімі ён тварыў, ведаў Свеціч, самыя небяспечныя закляцці. — Будзь ты на векі вечныя пракляты... мой наступнік, захавальнік крэўнага дарунку, адданага той зямлі і таму свету. — Завірылася, пайшла карагодам злая сіла, якая запаланіла сабою, здаецца, усё.*

*— Я даўно чакаў гэтага. Чакаў, апошні з ненавісных мне чарадзеяў, калі ты зробіш сваю апошнюю памылку. Я нават прыходзіў у ваш разбураны храм. Але ты сам прыйшоў да мяне, прыйшоў туды, адкуль ледзь вырваўся. Ты заўсёды быў упартым. Але болей ніякая людская чараўніца не перашкодзіць маім намерам. Я таксама доўга чакаў. Разам з табою.*

*Зніклі ягоныя браты з Вялікага Кола. І вакол сябе цяпер бачыў неўр толькі цемру, з якой гучаў гэты голас. Такі знаёмы голас... Але ў адным Свеціч не сумняваўся: гэта голас таго, супраць каго ён трымаў апошнюю мяжу абароны. Ад яго сыходзілі тыя чары, змаганне з якімі неўр не спыніць да апошняй кроплі крыві. Кроплі. Крыві.*

*— Мы зрадніліся, неўр. Мы сталі амаль братамі. Ты спаў на маіх руках у небыцці. І я здолеў зрабіць так, каб ты забыўся. Але праклятая цацка, у яго засталося зашмат волі. За гэта я знайшоў яго. Няхай цяпер не чакае збавення і спачыну. І ты не чакай. Вам будзе на векі вечныя дараванае самім Чарнабогам нежыццё.*

*Большае мой доўг перад табою, брат мой. Але я і сапраўды амаль забыўся. Але не забыўся зусім. І ты, вораг, не ведаеш пра Абярэг.*

*— Але нарэшце ты прыйшоў сюды, каб атрымаць праклёнце. Табе болей не памогуць твае прашчуры, неўр. Хто б мог падумаць, што крэўную повязь так лёгка*

*зніштожыць. Хутка ты знікнеш, як зніклі тыя, і ніколі ўжо не народзішся. Нават Вялікая Кветка не выратуе ад Закляцця Веры, — да неўра пацягнулася чорная магія.*

*Чарнабог. Гэта тая знішчальная сіла, якая забіла ўсіх з яго народа. Закляцце Веры. Яго мог прынесці толькі Першы Неўр. «Чаму ты прынёс Закляцце Веры, настаўнік, — ціха пашкадаваў Свеціч. — Ці так спадзяваўся ратаваць свой народ?.. Чаму не звярнуўся да свайго крэўнага, дараванага зямлі і свету? Дарунку. Крэўнага».*

*Змагацца з Чарнабогам. Змагацца з Закляццем Веры. У небыцці. У небыццё... Але няма чаго губляць яму, апошняму. Сплятае чары неўр супраць чорнай магіі, і звыкла адгукаюцца на заклік тыя, хто заўсёды змагаўся з цемрай. Як і ён, неўр. Ён Свеціч, Светавіт з роду Свецічаў. З роду тых, хто, перамагаючы, нёс святло. За многія пакаленні святло ўвайшло ў яго кроў. Стала ім самім. Яно стварае яго самога, як святло Вялікай Кветкі стварае цуд жыцця.*

*Годнасць і спакой. Толькі цвёрдасць. Яго апошняя бітва. Загінулі ўсе, хто быў яму даручаны. Але цемра не можа паглынуць яго, Свеціча. І ніколі не зможа. Бо найперш трэба паглынуць памяць тых змагароў, ад якіх ён нарадзіўся. А гэта немагчыма, пакуль ён трымае згубу цемры ў руках — прасветлы прамень, што ўдаецца бліскучым мячом, цуд магічнага майстэрства. Ён знаходзіць цёмныя, гатовыя крануць смерцю чары. Іх многа, але зброя святла мацнейшая за іх. А цемру прасвятляе ён, Свеціч. Святло, якое ўвайшло ў кроў, сталася крывёю, ім самім. Ад вас, трынаццаць лепшых, вы са мною ў маёй бітве. І я смелы разам з вамі. Няма смутку і адчаю. Ёсць толькі змаганне, у якім патанае ўсё, але не сам светлы. Лёгка ходзіць меч, рукі не чуюць змогі. Хутчэй. Яшчэ хутчэй, кліча неўра голас крыві. Пранясіся святлом над бітвай, майстра. Даруй смерць ворагам сваёй зямлі. Яны яшчэ не ведаюць, што так лёгка памерці. Яны ўжо нікому не раскажуць пра цябе. І новыя, што прыйдуць на іх месца, не будуць ведаць, з кім яны сустрэліся... у астатні раз. Ніхто не вяртаецца з-за Калінавага моста. Не вернешся і ты адтуль. Але хіба гэта так важна цяпер, калі так лёгка лётае меч. Святла, яшчэ святла. Безліч святла, колькі можа дараваць толькі сапраўдны светлы. Колькі можна дараваць жыццём сапраўднага светлага. Колькі можна дараваць самым палымяным яго гарэннем на апошняй мяжы... Светавіт. Вітае свет. Свет вітае яго, і яго нельга перамагчы, пакуль нельга перамагчы кроў. Выпакутаваны пакаленнямі, неўр і чарадзей, будзе святлом нават у паглынаючым змроку. Таму што ніколі не будзе пераможана кроў. Раскрываецца свядомасць, выпускаючы на волю вялікую магію крыві. Чары твораць чары. І зноў, як калісь, даруецца перамога святлом крыві. Цёплымі кроплямі крыві, што збягае на дол... Адкрывае шлях. Крэўны шлях святла... Святла Вялікай Кветкі.*

*Шчымліва трымціць Абярэг, заступаючы цемры шлях. Што ж ты сумеўся, Чарнабог? Але ці так ты яшчэ здзівішся?..*

*Балюча, нясцерпна балюча. І цяжка, як тады, калі атрымаў дараваную ўладаром Агню моц. Але цяпер гэта выратавальны боль. Марудна, але няўхільна пляцецца закляцце. Мой доўг неаплачаны перад табой, настаўнік, ты выбавіў мяне ад улады Закляцця Веры. Я разгадаў тваю загадку, Дзіў. Цяпер я ніколі не буду тваім. А калісьці пакліканы варты — Першы Неўр — цяпер сапраўды твой. Ты дараваў яму два бясконца доўгія жыцці: адно на тым, зямным, другое — на гэтым свеце. І гэта, другое, сталася чаканнем свайго наступніка — мяне. Дзеля майго выратавання. Неўры заўсёды будуць памятаць пра цябе, мудрая людская чараўніца Каліна, ты вартая спадчыны народа чарадзеяў. Мы хутка ўбачымся, мой пакутны брат, што пайшоў за мяне на Калінавы мост, але раней трынаццаць і адзін абудзяць вялікую*

*магію. Разам гэта цалкам магчыма. Бывай назаўсёды, Чарнабог, я больш ніколі не сустрэнуся з тваёй цемрай. Адгукніся, Вялікая Кветка, што спіш у маёй крыві. Тваё святло стварае зямлю і свет, жыццё і быццё... Я нарэшце знайшоў цябе.*

*— Я, неўр Свеціч, Светавіт з роду Свецічаў, малодшы чарадзей Вялікага Кола, заклінаю верай, надзеяй і памяццю...*

* * *

Неўр Свеціч, Светавіт з роду Свецічаў, малодшы чарадзей Вялікага Кола, ляцеў з неба. Неўра над лясной і роснай, ахутанай святлом зямлёй, нёс яго Абярэг, які прыняў сваё першае і сапраўднае аблічча. Не шапацелі крылы Сусветнага, уладара Наднябеснай Брамы, стромка трымаючы вышыню і хуткасць. Велічны і мудры, ён плыў па-над сваім светам лёгкім белым ветразем. Не журыліся сінія вочы азёр, не шумелі лясныя нетры, не плакалі журботна травы. Свет звыкла і проста вітаў свайго стваральніка.

А дзесьці на зямлі, у глыбокіх лясных нетрах, хаваўся неўрыдскі род. Адзін з яго нашчадкаў быў чарадзеем, што калісь наймацней закляў Вялікую Кветку. І цяпер ён, Свеціч, раз-пораз паглядаў на зямлю. Але ўсё спакойна было на зямлі. На асветленай прыгожай зямлі. Бачыў неўрыдскі чарадзей, адзіны чарадзей свайго роду, вачамі сваіх братоў пакінуты і забыты храм. І ведаў, што не доўга храм такім застанецца. Няхутка яшчэ будуць шукаць неўры былой велічы і славы, але ўсё пачынаецца з таго, дзе завяршылася.

— Настаўнік назваў мяне наступнікам і захавальнікам. Яны не забудуцца. І зробленага не даруюць.

— Мабыць. Маладыя багі помслівыя. Але што табе да гэтага.

Неўр яшчэ не ведаў, што яны ляцелі насустрач зорнаму сонцу. Пранікліва маўчаў Сусветны, думаў пра штосьці сваё, пра тое, што прадбачыў адзін толькі ён. А неўр, неўр бачыў наперадзе, як калісьці, асмужаны і нязведаны шлях. Аднойчы ягоны шлях чараў асвятліла самая агністая на свеце, самая чарадзейная Кветка... Асмужаны шлях наперадзе. Шлях несамотны.

— Ці бачыў ты калісьці зблізку, неўр, славутае зорнае сонца вашага народа? — весела і бесклапотна пытаўся Абярэг.

— Я думаю, што яно было блізкім мне, калі я ўбачыў тваё змаганне з Перуном. І калі я змагаўся з Чарнабогам.

— Калі зразумеў покліч Дзіва.

— І калі сустрэў Каліну.

— Калі выйшаў з сіняга небыцця.

— І калі закляў Кветку. Але зараз яно далёкае ад мяне.

— Зараз яно як ніколі блізкае табе. Глядзі. Памятай.

*Неўра паланілі і панеслі некуды магутныя цмокавы чары...*





*Віктар Шніп нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў у часопісе «Беларусь», газеце «Літаратура і мастацтва», цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар зборнікаў паэзіі «Гронка святла», «Пошук радасці», «Шляхам ветру», «Горад утопія» і інш. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за 2008 год.*

Віктар ШНІП

# БАЛАДЫ КРЫВІ І ЛЮБОВІ

## БАЛАДА СЯРГЕЯ ПАЛУЯНА
***(19.10.1890—24.04.1910)***

Змяёй сціскае горла адзінота.
І кожны дзень усё мацней, мацней,
І так, што жыць на свеце неахвота
Сярод самотных, як крыжы, людзей
У родным краі, што не мае волі.
Без волі знікне мова і народ,
Як і без мовы родны край ніколі
Краінаю не будзе... Чорны лёд
Пад сонцам растае, вадой сцякае
Па вуліцы, кудой дамоў ідзеш.
І прад табой вада, як залатая,
І, як са срэбра, прад табой капеж
Усё танчэйшы з кожным днём вясновым,
Нібыта нітка, на якой вісіць
Тваё жыццё. І ў творы ткуцца словы
Твае, якім і без цябе тут жыць
І дачакацца часу залатога
У Беларусі, для якой і ты
Праз сум да волі пракладаў дарогу,
Застаўшыся ў самоце маладым.

## БАЛАДА ЯЗЭПА ВАРОНКІ
***(17.04.1891—4.06.1952)***

Ад беларускіх ніў, ад роднай хаты
З’язджаеш у Амерыку і ты,
Але не для таго, каб стаць багатым,
Каб беларусам быць на ўсе гады,
Што Бог яшчэ пражыць табе даруе
І каб у беларусах абуджаць
Любоў да Беларусі, што гарує,
Ніяк не можа незалежнай стаць
І сэрцам быць Еўропы назаўсёды.

Плыве праз акіяны параход,
Дзе айсбергі, нібыта параходы,
Дзе людзі схаладалыя, як лёд,
Плывуць абы далей ад роднай хаты.

А ты плывеш, нібы сляза плыве
З вачэй Айчыны, быццам вінаватай,
Што ты не так, як жыць хацеў, жывеш.

І сыдзеш ты, нібыта на Галгофу,
На бераг незнаёмы і чужы,
Каб помніць пра пакутную Еўропу
І беларускай Беларуссю жыць...

## БАЛАДА МАКАРА КРАЎЦОВА
***(18.08.1891—1939)***

Еўропу снегам замятае
Нееўрапейская зіма.
Тваю душу ў кулак сціскае
Сырая польская турма,
Па-за якою скрыпка грае,
Як у дзяцінстве, у якім
Дарога ў небе залатая,
Нібыта ў Ерусалім,
У Вільню, да якой ты прыйдзеш
Не каву піць і не ўздыхаць,
Што беларусаў моцна крыўдзяць,
Змагацца будзеш заклікаць...

І ўжо Еўропу прадзімаюць
Нееўрапейскія вятры.
Бальшавікі ў турме трымаюць
Цябе, лютуюць, як звяры.
Табе ж пра волю скрыпка грае,
Спявае, плача, жыць заве
І за табою паўтарае
Ажыўлены крывёю верш:
«Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны наш прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!..»

І ў вёску вестка заспяшае,
Што жыў ты годна і ў журбе
І хай ніхто больш не чакае
Цябе...

## БАЛАДА МІКОЛЫ КАСПЯРОВІЧА
***(9.05.1900 — 26.12.1937)***

…Зноў на шэрай вуліцы зіма
Белая, нібы самлелая.
І ў табе твайго жыцця няма,
І душа сняжынкай белаю
Узлятае і ляціць, ляціць
Па-над нашым краем, у якім
Не дазволена табе любіць
Роднае і ўсім краям чужым
Нельга добрых слоў сказаць…

У нябёсах поўня, як сляза,
Што над Беларуссю Бог згубіў,
Гледзячы на белую зямлю,
Белую, якую ты любіў,
І якую сёння я люблю
За бярозы белыя і лён
Сіні, як бязмежнасць у вышы,
За царкоўны і касцельны звон
І найбольш за тое, што ты жыў,
Веручы, што прыйдзе светлы час,
У якім ёсць Беларусь для нас…

І глядзіш на свет з нябёсаў ты,
І ляціш сняжынкай на зямлю,
Каб у Беларусі белаты
Больш было, як шчырых слоў: «Люблю
Родную бялюткую зямлю…»

## БАЛАДА МІХАСЯ ЗАРЭЦКАГА
***(20.11.1901—29.10.1937)***

...А ты быў рамантык, вясёлы, прыгожы
І верыў, што здзейсняцца мары твае
У гэтай краіне, якая ўсё ж зможа
Асіліць цямрэчу, што жыць не дае.
Цябе ж расстралялі, а творы спалілі,
І чорны кастрычнік зрабіўся чарней.
Тваёй анікалі не знойдзем магілы,
Айчына магілаю стала тваёй.
І людзі баяцца заплакаць, бо слёзы
Прыцягваюць чорны расстрэльны свінец,
Таму адзінокія плачуць бярозы
У шэрані ранняй, нібы ў сівізне.
І попел змяцецца ад спаленых твораў,
І змыецца кроў, і пральецца зноў кроў,
І гэта яшчэ сотні раз тут паўтораць
Злыднюгі, якім не патрэбна любоў
Да роднай зямлі і да роднае мовы.
З нябёс на зямлю ты спакойна глядзіш,
Бо знаеш, што прыйдзе час лепшы і новы,
З травы прарасце беларускі наш крыж,
Той крыж, за які тут стралялі, душылі

Усіх, хто не траціў пачуццяў людскіх,
І мы іх не знойдзем ніколі магілаў,
Айчына магілаю стала для іх.

## БАЛАДА ГЕНАДЗЯ ЦІТОВІЧА
***(7.08.1910—20.06.1986)***

Вецер іграе на струнах бяроз.
Сонца на снезе, апошні мароз,
І ўжо вясна недзе там за лясамі,
Быццам за чорнымі ў снезе гарамі,
Дзе жаваронкі маўкліва зімуюць,
Па каласістых палетках сумуюць,
Па курганах і празрыстых азёрах,
Па валунах заімшэлых і зорах,
Што па начах у туман ападаюць,
Кветкамі ўранні з травы прарастаюць...

Сцежка дадому цябе саграваé,
Быццам бы песня, што маці спявае
Ціха і ўзнёсла, як моляцца Богу.
Светла ўплятаецца сцежка ў дарогу,
Дзе, нібы золата, промні саломы,
Нібы ў нябёсы, умерзлыя ў снег.
Тут табе роднае ўсё і знаёма
Кожная хата, іх бачыў у сне,
Будучы ў Вільні, што нам не чужая.
Сонечны снег пад нагамі спявае
І з твайго сэрца, як птах, вылятае:
«Жавароначкі, прыляціце,
Вясну-красну прынясіце!..»

## БАЛАДА ЯЗЭПА ЮХО
***(19.03.1921—29.07.2004)***

Ты знайшоў залатую жылу —
Гэта наш беларускі шлях,
На якім у траве магілы
І вуголле ў крыві й слязах.

Значыць, тут мы жылі спрадвеку,
Значыць, тут нам і далей жыць,
І цячы ў акіяны рэкам,
Нашым рэкам не знаць мяжы.

І Еўропа ні недзе ў далі,
А яна ёсць і будзе тут.
Мы стагоддзі яе шукалі
Ледзь не трацячы родны кут.

І мінулася ўсё, не зніклі
Нашы мова, палацы, кроў.
«Адкажы, каго любіш?!» — крыкні
І пачуеш нязменна зноў:

«Я люблю Беларусь!» І ў сэрцах
Словам гэтым заўсёды жыць,
Бо аб іх, як аб сцены, б’ецца
І вятрыска, і меч чужы.

І табе болей тут не трэба
Анічога, чым родны край,
Над якім залатое неба,
Дзе Шлях Млечны, як шлях у рай.

Ты аддаў залатую жылу
Беларусам, што будуць жыць
У краіне, дзе ў кветках магілы
І стаяць на магілах крыжы…

## БАЛАДА КАСТУСЯ ТАРАСАВА
***(10.10.1940—20.03.2010)***

З-пад снегу праразаюцца дарогі,
Як праз туман віднеюцца крыжы.
Крыжоў, нібыта лесу, густа, многа,
Але шчэ болей без крыжоў ляжыць
Тых, хто любіў няшчасную Айчыну,
Як сонца, што за хмарамі плыло.
Ты мог спакойна родны край пакінуць
І жыць чужым, нібы палын, святлом,
Не ўспамінаючы легенды, песні
Пра беларускіх волатаў, князёў.
На рэчках лёд, нібыта сцены, трэснуў
І хлынула вада, нібыта кроў.
А кроў жа наша — не вада рудая,
Яна — агонь: і ў слове, і ў зямлі,
Што нас, нібы грахі ў душу, прымае,
Каб мы яе пясчынкамі былі.
І пішаш ты пра нашы замкі, Храмы,
І ў кожным сказе Беларусь жыве,
І Беларусь на карце — больш не пляма,
Не бруд дарожны на гнілой траве,
Калі з-пад снегу свецяцца дарогі,
Як праз туман віднеюцца крыжы,
З якімі ўсе ідзём, ідзём да Бога
Не паміраць, а ў Беларусі жыць...

Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА*

## *Кніга пра кнігі*

ЭСЭ

## ПАЛІЦА ПЕРШАЯ

*Значыць, Джон Стэйнбек.* Раман «Квартал Тартылля Флэт». Аладкавая раўніна. Заселеная выхадцамі з Мексікі. Гісторыя жыцця чатырох пайсана, чатырох сяброў, расказаная з гумарам.

Пайсана — гэта нашчадак іспанцаў, індзейцаў і мексіканцаў. Ды яшчэ і шмат якіх іншых еўрапейцаў. Па-англійску ён гаворыць, як пайсана, і па-іспанску ён зноў жа гаворыць, як пайсана. Пайсана нічым нельга аблытаць, ашукаць, бо ў яго няма ніякай маёмасці — у яго няма чаго ўкрасці!

Не, мы, чытачы, любілі гэтага пайсана Дэкі. І яго сяброў — таксама.

А Стэйнбеку ён прынёс славу і грошы.

Яго ж «Жамчужына». З яе дапамогай Кіна марыў даць сыну адукацыю, а калі Кайаціта памірае, жамчужына траціць для яго ўсялякі сэнс, рэальную каштоўнасць, і Кіна выкідвае яе ў мора…

«Зіма трывогі нашай» — апошні раман Стэйнбека. Выйшаў ён у 1961 годзе. Гэта ўжо не родная яго Каліфорнія, а дагледжаны гарадок у Новай Англіі.

У той час, калі я пішу гэтыя радкі, беларускае радыё прынесла сумную вестку: у сваім доме ў Нью-Гэмпшыры на 92-ім годзе жыцця памёр выдатны амерыканскі пісьменнік, аўтар адзінага рамана «Над прадоннем у жыце» (так і сказалі: адзінага!) славуты Майстра Джэром Сэлінджэр. Удзельнік Другой сусветнай вайны. На фронце пазнаёміўся з Эрнестам Хемінгуэем. У апошнія гады жыў пустэльнікам — не прымаў нікога, адмаўляўся ад сустрэчы з прэсаю. Толькі летась дамогся забароны публікацыі рамана «60 гадоў пасля: прабіраючыся праз жыта», які напісаў прыхільнік яго творчасці і які нібыта з’яўляецца працягам рамана «Над прадоннем у жыце».

Аўтар аднаго рамана? Такі знакаміты пісьменнік?

Не, вядома ж, Сэлінджэр — аўтар не толькі аднаго рамана. У яго ёсць выдатныя апавяданні і эпічны цыкл твораў — сага пра сям’ю Глас.

Аднак толькі адзіны раман «Над прадоннем у жыце» ўключаны ў школьныя праграмы.

Першая кніга Джэрома Сэлінджэра, якую я прачытаў, быў томік з хлапчуком на вокладцы, які, абапёршыся на вушак рукою, задумліва і крыху сумнавата глядзіць кудысьці ўдалячынь. Мне падабаецца, што аўтар нам, чытачам, нічога не навязвае, не разжоўвае, не тлумачыць — маўляў, самі чытайце і разбірайцеся ва ўсім.

Я, чытаючы раман, атаясамліваў шаснаццацігадовага Холдэна з тым хлапчуком, што на вокладцы, і імкнуўся зразумець, усё вяртаючыся да вокладкі, углядаючыся ў малюнак, адкуль у юнага героя гэтая далікатная ранімасць душы, гэтае непрыманне фальшу, якія вылучаюць яго з равеснікаў.

* Працяг. Пачатак у № 1 2011 г.

Першаю маёю кнігаю Самерсэта Моэма, якую я купіў у 1965 годзе, быў зборнік яго апавяданняў «Дождж». Нават першы сказ з загаловачнага апавядання, у які я ўткнуўся яшчэ ў кніжным магазіне, здзіўляў і заварожваў:

«Хутка час класціся, а заўтра, калі яны прачнуцца, ужо будзе відна зямля».

Як шмат тут сказана! Якая шырыня і спрасаванасць думкі і які прастор для яе разгарнення — куды хочаш, туды і вядзі! Ужо адкрываецца столькі накірункаў для роздуму!

А хто не ведаў тады віёнаўскае чатырохрадкоўе, якое ў турме напісаў паэт, прысуджаны да павешання:

Я — Франсуа, чему не рад.
Увы, ждет смерть злодея,
И сколько весит этот зад,
Узнает скоро шея.

Франсуа Віёна ведалі сучаснікі як магістра мастацтваў і бадзягу. Адначасова! Гэтак здзіўляюча дваіўся вобраз паэта. Бадзяжніцтва і турмы, сувязі з прафесійнымі разбойнікамі, удзел у іхніх грабяжах ды забойствах, і ў той жа час — ён паэт акружэння двара самога герцага і паэта Карла Арлеанскага і піша па яго просьбе «Баладу паэтычнага спаборніцтва ў Блуа» — для яго альбома — «Над ручаём ад смагі паміраю».

От жажды умираю над ручьём.
Смеюсь сквозь слёзы и тружусь играя.
Куда бы не пошел, везде мой дом,
Чужбина мне — страна моя родная.
Я знаю всё, я ничего не знаю.
Мне из людей всего понятен тот,
Кто лебедицу вороном зовет.
Я сомневаюсь в явном, верю чуду.
Нагой, как червь, пышнее всех господ.
Я всеми принят, изгнан отовсюду.

Кола ягоных сяброў — маладзёны з паважаных сем'яў, багатыя купцы ды чыноўнікі і стражнікі, жабракі, прастытуткі, сталыя заўсёднікі гарадскога дна.

Незалежны, дзёрзкі, злаязыкі «шкаляр Віён» — як ён сам сябе ўвесь час называў. І ягонае:

«Прыняты ўсімі я і адусюль прагнаны»…

Ды гэта ж шэдэўр! Вечны! Яму пяцьсот год — а ён як новы. Яму пяць стагоддзяў — а ён не вяне. Яму палавіна тысячагоддзя — а ён жывы!

На рускую мову гэты шэдэўр выдатна пераклаў Ілья Эрэнбург. Як і тое славутае чатырохрадкоўе пра зад і шыю, напісанае ў чаканні вісельні.

Дарэчы, калі смяротны прысуд быў заменены на дзесяцігадовае выгнанне з Парыжа, Віён усё роўна застаўся Віёнам: ён яшчэ і пасля новага прысуду просіць тры дні адтэрміноўкі выгнання — для нейкіх там збораў…

Ды бег бы хутчэй, уцякаў бы з усіх ног з гэтага ненавіснага Парыжа, які табе ледзь-ледзь не накінуў пятлю на шыю, а ён, жартаўнік, бачыце, яшчэ нейкай адтэрміноўкі ў суддзяў просіць…

Магутныя людзі, моцныя асобы, якія, ведаючы пра смерць, знаходзяць у сабе сілы вось гэтак жартаваць:

И сколько весит этот зад,
Узнает скоро шея.

Якая ж патрэбна сіла волі, каб прымусіць сябе смяяцца там, дзе трэба плакаць!

Памятаю, як затрэсліся ў мяне рукі, калі набыў, нарэшце, гэты прыгожы томік Франсуа Віёна. Ён быў вельмі прыстойна аформлены. Нават бездакорна. Чорная, як ноч, вокладка з чырвона-срэбнымі лініямі, што нагадваюць дрэва, з якога ападае лісце, і светла-жоўтае, як сонечны дзень, рыфлёная супервокладка.

А пад імі — амаль поўны збор твораў Франсуа Віёна. У кнігу не ўвайшлі толькі балады, напісаныя на зладзейскім жаргоне, ды слабое зусім «Слова на выпадак нараджэння Марыі Арлеанскай», якое не мае ніякага мастацкага значэння.

Муса Джаліль. Татарскі паэт. Вяршыня творчасці — «Маабіцкі сшытак», напісаны ў Маабіцкай турме, у камеры смяротнікаў, палонным савецкім воінам. А ў ім — верш «Каханне і насмарк». А ў ім — вось такія радкі. Паспрабую ўзнавіць іх па памяці — я ведаў калісьці гэты верш увесь на памяць.

Прощай, любовь! Погиб успех!
Сижу. Из носа льётся.
И нос, как будто бы на грех,
Бездоннее колодца.

Что делать мне? Что предпринять?
Не насморк, а стихия.
«Душа моя» — хочу сказать,
А говорю: «Апчхи!» — я.

За что страдания терплю?
Краснеть я начал, каюсь.
Хочу я ёй сказать: «Люблю!»,
Но не могу — сморкаюсь.

Уже, растроганный до слёз,
Хотел вздохнуть я страстно,
Но мой неумолимый нос
Вдруг свистнул безобразно.

Аж не верыцца, што паэт, які так смяецца, ужо глядзіць у вочы смерці…

Мусу Джаліля, у адрозненне ад Франсуа Віёна, з шыі якога знялі пятлю, пакаралі смерцю ў Берліне, у ваеннай турме Шпандаў.

А, можа, вось гэты смех якраз і ёсць абарончая рэакцыя смяротнікаў, каб не звар'яцець ад адной толькі думкі, што іх, жывых, вось-вось зусім не стане?

Мы зачытваліся Эрнестам Хемінгуэем. Вядома, мы з захапленнем чыталі і ягоныя раманы, аднак настольнымі кнігамі майго пакалення былі аповесць «Стары і мора» і кніга ўспамінаў «Свята, якое заўсёды з табою». Гэтыя творы напісаны ў 1952 і 1964 гадах — прыкладна тады ж, як пісалі ўжо і мы.

Аповесці «Стары і мора» папярэднічаў нарыс Хемінгуэя «На блакітнай вадзе», у якім — пра лоўлю марлінаў у Гальфстрыме. Нарыс пра тую радасць, задавальненне ад лоўлі рыбы з кацера. Задавальненне ад таго, што маеш магчымасць адчуць, як гэтае дзіўнае і дзікае стварэнне валодае такою хуткасцю і сілаю, што ты раптам аказваешся прывязаным да рыбіны, адчуваеш яе імклівасць, яе моц і раз'юшаную сілу, быццам ты едзеш на кані, які ўстае на дыбкі.

«Паўгадзіны, гадзіну, пяць гадзін ты прывязаны да рыбіны гэтак жа, як і яна да цябе, і ты ўціхамірваеш, аб'язджаеш яе, нібы дзікага каня, і нарэшце падводзіш да лодкі. З гордасцю і таму, што рыба каштуе шмат грошай на гаванскім рынку, ты багрыш яе і бярэш на борт, аднак у тым, што яна ў лодцы, ужо няма нічога цікавага; барацьба з ёю — вось што прыносіць насалоду».

А сюжэтнаю асноваю аповесці стаў выпадак, расказаны Хемінгуэем зноў жа ў гэтым нарысе:

«Іншым разам ля Кабаньяса стары злавіў велічэзнага марліна, які ўвалок, сцягнуў яго лодку ў мора. Праз два дні старога падабралі рыбакі ў шасцідзесяці мілях ва ўсходнім накірунку. Галава і пярэдняя частка рыбы былі прывязаны да лодкі. Тое, што засталося ад рыбы, было меней за палавіну і важыла васемсот фунтаў. Стары не расставаўся з рыбаю дзень і ноч, і яшчэ дзень, і яшчэ ноч, і ўвесь гэты час рыба плыла на вялікай глыбіні і цягнула за сабою лодку. Калі яна ўсплыла, стары падцягнуў да яе лодку і ўдарыў яе гарпунам. Прывязаную да лодкі, яе атакавалі акулы, і стары змагаўся з імі зусім адзін у Гальфстрыме на маленькай лодцы. Ён біў іх багром, калоў гарпунам, адбіваў вяслом, пакуль не выдахся, і тады акулы з'елі ўсё, што маглі. Ён рыдаў, калі рыбакі падабралі яго, амаль звар'яцелага ад сваёй страты, а акулы ўсё яшчэ прадаўжалі кружыць вакол лодкі».

«Стары і мора», кніга, якою мы зачытваліся ў маладосці, — несумненна, адзін з найлепшых твораў Хемінгуэя. Яму ў 1953 годзе была прысуджана Пулітцэраўская прэмія. Думаецца, што і Нобелеўскі камітэт, які праз год ушанаваў пісьменніка Нобелеўскай прэміяй, меў на ўвазе зноў жа і яе, гэтую вечную аповесць-прытчу «Стары і мора».

«Свята, якое заўсёды з табою» — кніга ўспамінаў, якую надрукаваў Хемінгуэй, ужо лаўрэат Нобелеўскай прэміі, — стала і нашым святам. Яна — пра Парыж, куды дваццацігадовы Хемінгуэй прыехаў як раз'язны карэспандэнт газеты «Таронта дэйлі стар» са штаб-кватэраю ў французскай сталіцы. Прыехаў з маладою жонкаю, якую ўсе звалі проста Хэдлі — яны ажаніліся толькі што, у верасні, а ўжо ў снежні 1921 года на старым французскім параходзе «Леапальдзіна» адплылі з Нью-Ёрка ў Францыю. З рэкамендацыйнымі пісьмамі Шэрвуда Андэрсена, які прасіў сваіх французскіх сяброў (Гертруду Стайн і іншых) дапамагчы ў Парыжы Эрнесту Хемінгуэю — «майму сябру і слаўнаму чалавеку».

І вось ужо «ўвесь Парыж належыць мне, а я належу гэтаму блакноту і алоўку».

Маладажоны радаваліся Парыжу, былі захоплены ім.

«Нашым домам на вуліцы Кардынала Лемуна, — чыталі мы ў «Свяце, якое заўсёды з табою», — была двухпакаёвая кватэрка без гарачай вады і каналізацыі, якую замяняў бак, што не было такой ужо і нязручнасцю для тых, хто прывык да мічыганскіх прыбіральняў у двары. Затое з акна адкрываўся цудоўны краявід. На падлозе ляжаў добры спружынны матрац, які быў нам зручнай пасцеллю, на сценах віселі карціны, якія нам падабаліся, і кватэра здавалася нам светлаю і ўтульнаю».

Кватэрка была на другім паверсе, над забаўляльнаю ўстановаю, дзе пілі і танцавалі жыхары з бліжэйшых вуліц — у раёне рабочай беднаты. Аднак Хемінгуэй, не зважаючы на гэта, будзе потым часта вяртацца з любоўю і ў тую просценькую кватэрку, і на тыя вуліцы сваёй парыжскай маладосці.

Значыць, і мы ў сваёй маладосці пабывалі ў Парыжы — разам з Хемінгуэем. Праўда, тады нам, цнатлівым савецкім юнакам, няёмка было чытаць тое, што ўспамінаў пісьменнік. Да прыкладу, такое: «І потым мы падняліся да сябе ў пакой, каб любіць адно аднаго». Нам здавалася, што такія «падняцці» ў іх здараліся вельмі часта…

Што ж, тады, калі тыя, хто вярнуўся з Францыі, расказвалі нам, што там цалуюцца на вуліцах, нікога не саромеючыся, мы не верылі і чырванелі…

Значыць, з Парыжам нас пазнаёміў Хемінгуэй.

Цікава, але штосьці падобнае я потым сустрэў і ў самога Хемінгуэя. У «Зялёных пагорках Афрыкі» пісьменнік расказвае як кнігі знаёмілі яго з іншымі краінамі. Ён піша: «І я думаў, што, дзякуючы Тургеневу, я сам жыў у Расіі, гэтак жа як жыў у Будэнброкаў і ў «Чырвоным і чорным» лазіў да жанчыны ў акно, а яшчэ была тая

раніца, калі мы ўвайшлі ў Парыж праз гарадскія вароты і ўбачылі, як Сальседа прывязалі да коней і чацверавалі на Грэўскай плошчы. Усё гэта бачыў я сам. І то ж мяне так і не падпялі на дыбу, таму што я быў далікатна ветлівы з катамі, калі нас з Какана́ каралі смерцю».

Здорава! Пісьменнік усё перажывае як і звычайны чытач. Але ж наколькі ў яго мацней і глыбей гэта атрымліваецца!

Хемінгуэй выдатна ведаў вялікую і магутную рускую літаратуру. Звычайна пералік выдатных пісьменнікаў свету ён пачынаў са Льва Талстога, з яго рамана «Вайна і мір». У яго запісах часта можна сустрэць:

«Я з задавальненнем усеўся пад дрэвам, прысланіўся да яго спінаю і адкрыў «Севастопальскія апавяданні» Талстога».

«У мяне ўсё яшчэ былі «Севастопальскія апавяданні» Талстога, і ў гэтым жа томіку я чытаў аповесць «Казакі» — вельмі добрую аповесць».

«Дастаеўскі стаў Дастаеўскім таму, што яго саслалі ў Сібір».

Гэта з кнігі публіцыстыкі Хемінгуэя «Стары газетчык піша». З серыі публіцыстычных кніг, якія выдавала маскоўскае выдавецтва «Прагрэс». Я набыў яе амаль усю: Байран, Маруа, Прыстлі, Сіменон, Чэстэртон, Марыяк, Сэнт-Экзюпеpы і іншыя.

З Хемінгуэеўскай кнігі мастацкай публіцыстыкі я даведаўся і пра тое, што падчас Другой сусветнай вайны ён «распарадзіўся, каб ні адна з маіх кніг не з'явілася ў германскіх дзяржаўных выданнях, пакуль ва ўладзе там фашызм».

І пра тое, што гэты мудры чалавек сказаў у сваёй кароткай, вельмі кароткай прамове пры атрыманні Нобелеўскай прэміі:

«Кожны пісьменнік, ведаючы, якія вялікія пісьменнікі ў мінулым гэтай прэміі не атрымалі, прымае яе з пачуццём пакорлівасці».

Значыць, Хемінгуэй любіў рускую літаратуру. Захапляўся ёю і вучыўся ў яе.

Мы таксама раслі на гэтай вялікай літаратуры. Аднак ужо маё пакаленне адкрывала для сябе і вялікую глыбу — цікавую амерыканскую літаратуру, сярод якой вяршыняю ўзвышаўся і Эрнест Хемінгуэй.

Дык што ж гэта, урэшце, за глыба такая, і сам ён, Хемінгуэй? Давайце паспрабуем нешта зразумець па фотаздымках, якімі ілюстравана яго біяграфія ў «ЖЗЛ».

Вось маленькі хлапчук у самбрэра вудзіць стронгу. Хемінгуэю ўсяго пяць гадоў, а ён ужо, як маеш, рыбалоў…

Хемінгуэй на фронце ў Італіі (1918 г.). А крыху далей — ён ужо на мыліцах, з кіёчкам. Дзевятнаццацігадовы Эрнест уступае ў транспартны корпус Амерыканскага Чырвонага Крыжа і едзе на італа-аўстрыйскі фронт, адкуль, цяжка паранены ў абедзве нагі, пасля трохмесячнага лячэння ў шпіталі ў Мілане, вяртаецца дадому. Вяртаецца з кіёчкам.

Іспанія. Карыда. Бой быкоў. І вось ён на феерыі. Перад раз'юшаным быком.

А вось ён на рынгу. У баксёрскіх буцах. Здаецца, перад пачаткам матча, бо ніхто яшчэ не пабіты.

А вось Эрнест са сваімі паляўнічымі трафеямі. Якія магутныя рогі! Па іх відаць, якім волатам быў той, каго ён перамог.

А гэта ён з забітым ім жа буйвалам у даліне Серэнгеці.

А гэта ў Іспаніі, на вайне. А вось на сваім кацеры «Пілар» — ого, які ён мацак, здаравяка.

А вось і сам «Пілар». Дарэчы, падчас Другой сусветнай вайны на ім Хемінгуэй палябаў за нямецкімі падводнымі лодкамі ў Карыбскім моры.

А вось ён, Хемінгуэй, на святкаванні свайго шасцідзесяцігоддзя ў Малазе. Адстрэльвае попел с цыгарэты, якая ў вуснах сябра — знакамітага тарэадора Антоніё Ардоньеса…

Мы любілі яго ўсёю душою, а ўжо пакаленне, якое ішло за намі, дык і ўвогуле абагаўляла. Яны звалі Хемінгуэя проста «Хэм», адпускалі, як у яго, бароды, імкнуліся ва ўсім пераймаць свайго куміра: «Як там у Хэма?», «Хэм сказаў»…

Таму набыццё пасля нялёгкіх захадаў яго чатырохтомніка я ўжо ўспрыняў як вельмі вялікую радасць.

Усе яго творы чыталіся запоем. І таму нам зусім было не зразумела, чаму ён, гэты жыццялюб і моцны чалавек, які толькі што адсвяткаваў сваё шасцідзесяцігоддзе, паляўнічы і рыбалоў, які загарпуньваў нават кашалотаў, уцёк з клінікі, дзе лячыўся, прыехаў дадому, узяў у збройным пакоі сваю самую лепшую стрэльбу, зарадзіў яе на абодва ствалы, уклаў рулю сабе ў рот і выстраліў з абодвух…

Чаму?!

Успамінаюцца «Зялёныя пагоркі Афрыкі»:

«А бывае, што пісьменнік і сам не ведае, што яму трэба. Генры Джэймсу трэба было разбагацець. Ну і вядома, багацця ён не ўбачыў.

— А вы?

— У мяне шмат іншых інтарэсаў. Жыццём сваім я вельмі задаволены, але пісаць мне неабходна, таму што, калі я не напішу нейкай колькасці слоў, усё астатняе жыццё траціць сваю прывабнасць.

— А што вам трэба?

— Мне трэба пісаць — і як можна лепей, і вучыцца ў працэсе працы. І яшчэ я жыву жыццём, якое дае мне радасць».

Пра тое ж, скардзячыся на старасць, пісаў у сваіх успамінах і наш Іван Шамякін — маўляў, не магу прыдумаць ужо ніводнага, нават дробнага, сюжэта. «А я ж увесь свой век толькі пісаў. І без гэтага жыццё маё траціць усялякі сэнс».

Мы ж мелі асалоду ад яго «Начных успамінаў» і не разумелі, чаго ён іх не прадаўжае…

Шчаслівы пісьменнік, калі яму пішацца вось так лёгка і нязмушана:

«Вясною я звычайна працаваў рана раніцою, калі жонка яшчэ спала. Вокны былі расчынены насцеж, і каменне бруку абсыхала пасля дажджу. Сонца высушвала мокрыя твары дамоў насупраць майго акна. У магазінах яшчэ не адкрывалі аканіц. Пастух гнаў па вуліцы статак, іграючы на дудцы, і жанчына, якая жыла над намі, выйшла на тратуар з вялікім збанам. Пастух выбраў чорную казу з набухлым вымем і падаіў яе адразу ў збан, а яго сабака загнаў тым часам астатніх коз на тратуар. Козы пазіралі па баках і круцілі галовамі, як турысты. Пастух узяў у жанчыны грошы, падзякаваў ёй і пайшоў далей, іграючы на сваёй дудцы, а сабака пагнаў коз, і яны пабеглі трушком па бруку, устрэсваючы рагамі».

Які малюнак! Гэта зноў жа ён, Эрнест Хемінгуэй. У сваім «Свяце, якое заўсёды з табою».

Франсуаза Саган — наша равесніца. Таму мы вельмі пільна сачылі, наколькі гэта было магчыма тады, за кожнай яе кнігаю.

Сваю першую аповесць «Вітанне, смутак» гэтая французская пісьменніца напісала ў 1954 годзе. Ёй тады не было яшчэ і дзевятнаццаці год. А ўжо першая кніга Франсуазы стала сапраўднай сенсацыяй не толькі ў Францыі, але і ў свеце. У дзевятнаццаць гадоў яна, дачка прамыслоўца і студэнтка літаратурнага факультэта Сарбоны, зрабілася літаратурнай зоркаю. Пра яе шмат пісалі, яе здымкі ды інтэрв'ю з ёю з'явіліся ў многіх газетах і часопісах. Яна, гэтае «даўганосае, узлахмачанае дзяўчо з разумнымі і сумнымі вачамі», хвацка, зухавата, на вар'яцкай хуткасці вадзіла свой «Ягуар» босая, была заўсёднíцай фешэнебельных пляжаў і рэстаранаў, піла віскі і пісала свае аповесці пра Сесіль, Поль ды Наталі.

А яе ж ваеннае дзяцінства было гэткім жа, як і наша. Яна жыла ў бабулі і, таксама, як і мы, ела «суп з бручкі», пра што піша Франсуаза ў сваёй кнізе «Сінякі душы».

Яе гераіні рабілі балюча іншым, але часцей за ўсё самі сабе. Пісьменніцу атаясамлівалі з яе гераінямі, якія адчуваюць сваю непатрэбнасць у жыцці, бо яна вельмі шмат чаго ўклала ў іх свайго, аўтабіяграфічнага. Саган злавалася на тых, хто так гаварыў, і я таксама быў на яе баку: не, Сесіль — гэта не Франсуаза. Не можа ж пісьменніца вось так давесці да самагубства чалавека, як Сесіль давяла сваю мачаху, а потым спакойна і нават з нейкім задавальненнем апісваць усё гэта ў сваім творы. Не, не, не! Франсуаза гэта Франсуаза, а Сесіль — гэта Сесіль. Сесіль, якую Франсуа Марыяк назваў «чароўнаю маленькаю пачвараю», не можа напісаць такую адкрытую кнігу. Проста па этычнай прычыне.

Першы аднатомнік Франсуазы Саган, у які ўвайшлі аповесці «Вітанне, смутак», «Ці любіце вы Брамса?» і «Крыху сонца ў халоднай вадзе», выйшаў у 1974 годзе. Думаю, вы не сумняваецеся, што ён стаіць і сёння на кніжных паліцах маёй бібліятэкі.

Мне ў ім найбольш спадабалася «Крыху сонца ў халоднай вадзе». Кніга пра няздзейсненае, нясправўджанае каханне. Пра той «туман ілжы і жалю, што навісае над абдымкамі».

З тэмай невыразнага смутку прыйшла ў літаратуру Саган. А ён, гэты смутак, згінае слабых і ламае нават моцных.

Наталі з аповесці «Крыху сонца ў халоднай вадзе» — моцная натура. Але ж…

Муж паставіў ёй умову: «Або заставайся зараз, або ўходзь назаўсёды».

Каханы, да якога яна прыйшла, п’яніца, гуляка, любіць іншых жанчын. Надоечы яна дала яму дзве аплявухі — Жыль усю ноч правёў у доме спатканняў пасля папойкі на Манмартры, а яна чакала яго адна…

Жылю ўжо ніхто не верыць, нават родная яго сястра не разумее, як з ім можна быць шчаслівай, а яна кахае яго.

Безвыходнае становішча.

І вось вялікая доза гардэнала. Бальніца. Рыжы доктар бядуе: «Вельмі позна».

І яе перадсмяротная запіска:

«Ты тут ні пры чым, мой дарагі. Я заўсёды была крыху экзальтаваная і ніколі нікога не кахала, акрамя цябе».

І ён бяжыць з бальніцы — куды, чаму, навошта? І толькі ўжо на апошняй прыступцы лесвіцы спыняецца. І чуе голас доктара, які крычыць яму ў пралёт:

— У яе нікога няма, акрамя вас?

І ён, задыхаючыся ад сэрцабіцця, «завагаўся, аднак адказаў праўду — ён ведаў, што гэта праўда:

— Нікога».

Эрве Базен, выдатны пісьменнік Францыі, якога я ведаў па раманах «Змяя ў кулаку», «Смерць коніка» і «Крык савы», спрабуючы разабрацца ў «новай хвалі» ў літаратуры, у сваім «Пісьме да маладога пісьменніка, які хоча атрымаць Ганкураўскую прэмію», піша і пра Саган:

«Па-першае, ёсць прытулак для Маленькага Я: сваё ўласнае нутро, Месье, Мадам і трэці; самалюбаванне: якія ж мы адзінокія ўдваіх, якія расчараваныя! Услед за Саган — за яе зманлівым поспехам — кідаецца цэлае пакаленне».

Прызнаюся, што і для нас, маладых і пачынаючых, проза Франсуазы Саган была своеасаблівым наркотыкам — мы ўвесь час памяталі, што яна ёсць у свеце. Аднак я шкадаваў тады, шкадую і цяпер, што ў нас, у нашай прозе не знайшлося ніводнай таленавітай паслядоўніцы гэтай выдатнай французскай пісьменніцы. У

паэзіі, праўда, былі Жэня Янішчыц і Рая Баравікова, чый шчыры, захоплены, звонкі голас хваляваў, якія цудоўна пісалі і пра радасць, і пра сум на дваіх, а вось у нашай прозе такой жанчыны-пісьменніцы чамусьці не з'явілася дасюль, хоць беларускай літаратуры гэта, лічу, вельмі і вельмі трэба.

Дарэчы, Яўгенія Янішчыц і Раіса Баравікова сваёй маладой і бездакорна-адкрытай, сардэчнай паэзіяй так высока ўзнялі планку нашай беларускай жаночай лірыкі, што, на маю думку, і сёння ніхто не змог яе пераадолець.

У Ганны Ахматавай быў свой Парыж, свая вышыня. Гэтая выдатная руская паэтэса, здаецца, заўсёды, усё сваё жыццё жыла ў апале, у няміласці, яе імя нельга было нават упамінаць: акмеістка, апявала дваранства і яго сядзібы; была жонкаю Мікалая Гумілёва, паэта, расстралянага бальшавікамі за ўдзел у контррэвалюцыйным мецяжы ў Кранштаце; пра яе жорстка гаварылася — безыдэйнасць, апалітычнасць, забыццё пра высокую адказнасць перад народам — у 1946 годзе ў пастанове ЦК партыі «Аб часопісах «Звязда» і «Ленінград», пасля якой Ахматаву разам з Міхаілам Зошчанкам выключылі з Саюза пісьменнікаў СССР.

Зразумела, вось гэтая эпіграмка не пра Ахматаву, аднак і яна пра тое ж:

Ах, томит меня истома —
Уж хотел повеситься:
Исключили из писдома
На четыре месяца.

Праўда, пасля крытыкі культу асобы тую пастанову ў 1958 годзе адмянілі, аднак Ганна Андрэеўна ўвесь гэты час і жыла і нібыта не жыла: фізічна яна жыла, пісала, аднак насамрэч яе ўжо не было — яе добрае імя выкрэслівалася адусюль…

Дык вось у прадмове да саліднага аднатомніка, які выйшаў пасля скасавання ранейшай пастановы ЦК, Ганна Ахматава піша:

«У 1910-м (25 красавіка ст. ст.) я выйшла замуж за М. С. Гумілёва, і мы паехалі на месяц у Парыж».

А да гэтага Мікалай Гумілёў, таксама малады паэт, які быў заснавальнікам і тэарэтыкам акмеізму, усюды прадстаўляў будучую жонку як акмеістку. Карней Чукоўскі пра гэта ўспамінаў так:

«Тоненькая, стройная, падобная на нясмелую пятнаццацігадовую дзяўчынку, яна ні на крок не адыходзілася ад мужа, маладога паэта М. С. Гумілёва, які тады ж, пры першым знаёмстве, назваў яе сваёй вучаніцай».

Дык вось пра Парыж. Яе Парыж.

«Пракладка новых бульвараў па жывому целу Парыжа (якую апісаў Заля), — успамінае Ганна Андрэеўна ўсё ў той жа прадмове, — была яшчэ не закончана (бульвар Raspail). Вернер, сябра Эдысона, паказаў мне ў таверне «Taverne de Pantéon» два сталы і сказаў: «А гэта вашы сацыял-дэмакраты: тут — бальшавікі, а там — меншавікі». Жанчыны з пераменным поспехам спрабавалі насіць то штаны, то амаль спавівалі ногі. Вершы былі ў поўным запусценні, і іх куплялі толькі з-за віньетак больш ці менш вядомых мастакоў. Я ўжо тады разумела, што парыжскі жывапіс з'еў французскую паэзію».

Для яе Парыж — гэта і Амедыё Мадзільяні. Яна згадвае пра мастака:

«Верагодна, мы абое разумелі адну істотную рэч: усё, што адбывалася, было для нас абоіх перадгісторыяй нашага жыцця: яго — вельмі кароткага, майго — вельмі доўгага… Усё чароўнае ў Мадзільяні толькі іскрылася праз якісьці змрок… Ён быў зусім не падобны ні на кога на свеце… Я ведала яго жабраком, і было незразумела, чым ён жыве. Як мастак ён не меў і ценю прызнання».

Але ж які далікатны, уважлівы і ласкавы ён быў!

Гаварыў толькі па-французску:

«Вы для мяне як насланнё».

«Як мы разумеем адно аднаго».

«Толькі вы здольная ўлавіць гэта».

Юнацтва Ахматавай заўсёды памятала Мадзільяні. І потым яна распытвала часам пра яго ў тых, хто вяртаўся з Парыжа, але ніхто нават нічога не чуў пра мастака.

«Толькі аднойчы М. С. Гумілёў, калі мы ў апошні раз разам ехалі ў Бежацк (у маі 1918 г.), і я ўпамянула імя Мадзільяні, назваў яго «п'янай пачвараю ці чымсьці падобным на гэта і сказаў, што ў Парыжы ў іх была сутычка з-за таго, што Гумілёў у нейкай кампаніі гаварыў па-руску, а Мадзільяні пратэставаў…»

Ганну Ахматаву малявалі шмат якія тагачасныя мастакі — Н. Альтман, О. Дэла-Вос-Кардоўская, К. Пятроў-Водкін, Н. Тырса, Г. Вярэйскі, А. Тышлер.

Ганна Андрэеўна была характэрнаю, ці, як бы цяпер сказалі, вельмі фотагенічнай асобаю, і таму яе любілі маляваць. І на партрэтах яна атрымлівалася такая ж: элегантная, выкшталцоная, задумлівая, недасяжная, стройная, велічная, поўная годнасці.

Гэтыя партрэты ўпрыгожылі першую манаграфію пра Ганну Ахматаву, якую напісаў А. І. Цяўлоўскі і якая выйшла праз восем гадоў пасля адмены той сумнавядомай пастановы ЦК «Аб часопісах «Звязда» і «Ленінград».

Аднак быў яшчэ — самы першы! — партрэт паэтэсы, якога ў манаграфіі няма. Ахматаву шмат маляваў Мадзільяні, калі яна ў 1910 годзе ўпершыню прыехала ў Парыж.

Гэта нават не партрэт. Гэта ўсяго толькі росчырк пяра. Хуткая і лятучая лінія, імклівая і амаль невагомая. Амаль такая ж няўлоўная, як і сама паэзія Ганны Ахматавай.

Кнігі, пра якія я расказваў, з'явіліся потым. А найперш пасля таго, як Ахматаву і Зошчанку наноў прынялі ў Саюз пісьменнікаў, быў светлы, як свята, томік выбранай паэзіі Ганны Андрэеўны. Аформлены з густам, шыкоўна. Белая чыстая супервокладка. Справа ўнізе — невялікія, але вельмі выразныя літары: «Анна Ахматова». І яшчэ меншыя: «Бег времени». А на ўсю светлую супервокладку — тая імклівая і лятучая лінія. Мадзільяні! Знакаміты партрэт Ганны Ахматавай! Усяго толькі росчырк пяра…

Упершыню я ўбачыў гэты томік у руках Барыса Сачанкі. І не сумнявайцеся нават: не супакоіўся, пакуль не набыў яго сабе. Вунь і цяпер адтуль, дзе ён стаіць на паліцы, нібыта выпраменьваецца нейкае дзіўнае святло.

Тую ноч я не спаў. Зачытаўся.

Першы верш. З кнігі «Вечар». Увогуле, першы твор Ганны Ахматавай.

Молюсь оконному лучу —
Он бледен, тонок, прям.
Сегодня я с утра молчу,
А сердце — пополам.
На рукомойнике моем
Позеленела медь.
Но так играет луч на нем,
Что весело глядеть.
Такой невинный и простой
В вечерней тишине,
Но в этой храмине пустой
Он словно праздник золотой
И утешенье мне.

Ён жа, гэты верш, цешыць усё — вока, слых, розум, душу. А які настрой! «Молюсь оконному лучу»? Як богу, як абразу?
«Такой невинный и простой… он словно праздник золотой…».
А гэтае загадкавае «Сегодня я с утра молчу».
Першы верш, а ўжо класіка!

Был он ревнивым, тревожным и нежным,
Как божье солнце, меня любил,
А чтобы она не запела о прежнем,
Он белую птицу мою убил.

Промолвил, войдя на закате в светлицу:
«Люби меня, смейся, пиши стихи!»
И я закопала веселую птицу
За круглым колодцем у старой ольхи.

Ему обещала, что плакать не буду.
Но каменным сделалось сердце мое,
И кажется мне, что всегда и повсюду
Услышу я сладостный голос ее.

Гэта ўжо з «Белай чарады». Прачытаў, сяджу, думаю. Хачу за што-небудзь прычапіцца, каб пакрытыкаваць, — і не магу: няма за што прычапіцца! Верш адразу ж кладзецца ў душу і, сам вельмі спакойны, уздымае буру пачуццяў, кожнага змушае хвалявацца. Яго хочацца цытаваць і цытаваць. Як і шмат што іншае з гэтага томіка. Як, дарэчы, і вось гэтую мініяцюру з «Сёмай кнігі», якая называецца «Пушкін».

Кто знает, что такое слава!
Какой ценой купил он право,
Возможность или благодать
Над всем так мудро и лукаво
Шутить, таинственно молчать
И ногу ножкой называть?..

Чамусьці тады, заюшыўшыся з «Бегам часу», я так і не натрапіў на тыя нечаканыя радкі, якімі ў наш час салонна захапляліся амаль усе: «Я на правую руку надела перчатку с левой руки».

З паэзіі мужа Ахматавай — Мікалая Сцяпанавіча Гумілёва я найбольш люблю вершы з яго апошняга зборніка «Вогненны стоўп». Ён сам падрыхтаваў кнігу, аднак убачыць яе выдадзенай так і не змог — яна выйшла пасля ягонага расстрэлу. Гэта адбылося амаль так жа, як ён і прадчуваў:

И умру я не на постели
При нотариусе и враче,
А в какой-нибудь дикой щели,
Утонувшей в густом плюще.

Звонкі ў маладосці паэт загаварыў у гэтай кнізе на ўсю шчырасць. Нібы прадчуваючы хуткае развітанне.

Только змеи сбрасывают кожи,
Чтоб душа старела и росла.
Мы, увы, со змеями не схожи.
Мы меняем души, не тела.

Память, ты рукою великанши
Жизнь ведешь, как под уздцы коня,
Ты расскажешь мне о тех, кто раньше
В этом теле жили до меня.

«Вогненны стоўп» — апошняя і самая яркая кніга паэта. Да яе Гумілёў ужо добра памітусіўся па свеце: Афрыка, Егіпет, Абісінія, куды ён арганізаваў экспедыцыю. Гарады Стамбул, Ізмір, Порт-Саід, Каір, Парыж…

Аднак свой апошні зборнік Мікалай Сцяпанавіч прысвяціў не Ахматавай. Ён таксама прысвечаны Ганне. Але ж іншай — Ганне Мікалаеўне Гумілёвай, другой сваёй жонцы.

Калі яго расстрэльвалі бальшавікі, яму было ўсяго толькі 35 гадоў. Паэту прапаноўвалі захаваць жыццё ў абмен на пакаяннае пісьмо, але ён, чалавек гонару, кажуць, адмовіўся — «рускія афіцэры так не робяць…»

У мяне ёсць і рарытэт апошняй кнігі Гумілёва — факсімільнае выданне «Вогненнага стаўпа», зробленае з першадруку, выдадзенага ў 1922 годзе ў выдавецтве «Petrapolis» у Берліне. Прывёз мне яго ў падарунак з Нью-Ёрка Барыс Сачанка.

Мікалай Гумілёў перакладаў вавілонскую паэзію, эпас «Гільгамеш» на рускую мову.

І я таксама перакладаў вавілонскую паэзію — на сваю, беларускую, мову. У вялікай падборцы вершаў вавіланян ёсць таксама і ўрыўкі з «Гільгамеша», з гліянай кнігі, у якой нярэдка сустракаеш і такое: «Ад гэтай табліцы захаваліся толькі фрагменты».

Ён абмыў сваё цела, уся зброя зіхцела,
І з ілба валасы на спіну ён закінуў,
З усім брудам расстаўся, ахінуўся ўсім чыстым.
Як накінуў ён плашч і як падперазаўся,
Як сябе ўвянчаў Гільгамеш тыярай, —
На яго прыгажосць заглядзелася Іштар, багіня:
«Я хачу, Гільгамеш, каб ты быў маім мужам».

Але Гільгамеш непахісны — нават багіню не хоча ён браць сабе за жонку!

Але ў жонкі сабе цябе не вазьму я!

І тлумачыць чаму:

З году ў год ты прыносіла адны рыданні.
Птушку-пастушка яшчэ ты любіла —
Ты яго ўдарыла, крылы зламала;
Ён жыве між лясоў і крычыць: «Мае крылы!»
І льва ты любіла, дасканалага сваёй сілаю, —
Сем і сем яму выкапала пастак.
І каня ты любіла, слаўнага ў бітве, —
Бізун, цуглі і плётку яму ты судзіла,
Мутнае піццё ты яму дазваляла наперад…
І яшчэ ты любіла пастуха — казапаса,
Які табе насіў папяловыя хлябцы,
Кожны дзень сасункоў табе рэзаў:
Ты яго ўдарыла — у ваўка ператварыла, —
Ганяюць яго цяпер свае ж падпаскі,
І сабакі свае яго за лыткі кусаюць…

Адчуваеце, з якою асалодаю я перакладаў на родную мову гэтыя даўнявечныя радкі!

І ў Афрыцы нібыта таксама сутыкнуліся нашы шляхі.

Мікалай Сцяпанавіч, прагнучы ўбачыць «загадкавыя, нецывілізаваныя землі», паехаў у Афрыку і дасягнуў цэнтра мацерыка — у Эфіопію ён трапіў увесь абадраны, у лахманах, з хвораю нагою, з чырвонымі ад запалення вачамі. Пасля вяртання ён напісаў афрыканскую паэму «Мік».

Сквозь голубую темноту,
Неслышно от куста к кусту
Переползая, словно змей,
Среди трясин, среди камней
Свирепых воинов отряд
Идет — по десятеро в ряд.
Мех леопарда на плечах,
Меч на боку, ружьё в руках, —
То абиссинцы; вся страна
Их негусу покорена,
И только племя Гурабе
Своей противится судьбе,
Сто жалких деревянных пик —
И рассердился Менелик.

Менелік? Цар цароў? Сам негус? Пра імператара Эфіопіі Менеліка II я ўжо сёе-тое ведаў. Дзякуючы беларусу Аляксандру Булатовічу, — гусару, удзельніку Расійскага экспедыцыйнага корпуса ў Абісініі, які з войскам цара цароў прайшоў усю Эфіопію, аж да возера Рудольфа. У гэтым паходзе ён вёў эфіопаў! Булатовіч быў асабістым госцем Менеліка, Менелік узнагародзіў яго залатым шчытом і шабляю. «Я паслаў на вайну з расам Вальдэ Георгісам Аляксандра Булатовіча», — паведамляе цар цароў у Расію.

Булатовіч напісаў успаміны «З войскам цара цароў». Дзякуючы яму, чытаючы яго кнігу, і я прайшоў разам з імі той і складаны, і цікавы шлях па Афрыцы.

І таму каментарыі, якія зрабіў да паэмы «Мік» сам Гумілёў, мяне парадавалі, бо амаль усё з іх, што ён тлумачыць, я ведаў. Ведаў, што Аўта-Георгіс — ваенны міністр Абісініі, які вырас да гэтай пасады з рабоў; што Гурабе, маленькае негрыцянскае племя на паўднёвай мяжы Абісініі, якое захопліваў і Булатовіч; што Менелік — абісінскі негус; што негус — гэта цар; што Харар — горад у Абісініі: ад Харара да Энтата Булатовіч ехаў наперадзе войска; што тэдж — гэта абісінскае піва, любімы напітак эфіопаў.

Дзякуючы земляку мне ўдалося напісаць сваё афрыканскае апавяданне, якое ўвайшло ў кнігу «Зубрэвіцкая сага».

Увесь час мне карцела перакласці што-кольвек з Марыны Цвятаевай. Яе вершы ўражвалі і здзіўлялі. Яны ў савецкай паэзіі нібыта стаялі асобна. І гэта разумела сама паэтэса.

Моим стихам, написанным так рано,
Что и не знала я, что я — поэт…

Ворвавшимся, как маленькие черти,
В святилище, где сон и фимиам…

Разбросанным в пыли по магазинам
(Где их никто не брал и не берет!)
Моим стихам, как драгоценным винам,
Настанет свой черед, —

пісала ў 1913 годзе юная паэтэса, нібыта падбадзёрваючы сама сябе на нялёгкі і пакутны літаратурны шлях. Гэта быў першы яе верш і напісала яна яго ў валошынскім Кактэбелі.

Потым гэты сам Кактэбель любіў і я, адпачываючы там з сям'ёй як не кожнае лета, аднак пра гэта я напішу потым.

Марына Іванаўна ведала, пра што гаварыла. І яе час сапраўды прыйшоў. Аднак ужо, на жаль, пасля смерці паэтэсы. Папулярнасць яе расла — у СССР, можна сказаць, быў бум Цвятаевай. Калі першая кніга яе выбранай паэзіі выйшла тыражом 25 тысяч экзэмпляраў, то ўжо яе аднатомнікі потым мелі наклады ў сто, дзвесце тысяч экзэмпляраў. І разыходзіліся. І іх не хапала. І іх даводзілася даставаць.

Я ж адчуваю, вельмі люблю — душою! — два яе, усхвалявана прамоўленыя, выдыхнутыя, як паветра, вершы — «Мне нравится, что вы больны не мной» і «Вчера ещё в глаза глядел».

Мне нравится, что вы больны не мной,
Мне нравится, что я больна не вами,
Что никогда тяжёлый шар земной
Не уплывет под нашими ногами.
Мне нравится, что можно быть смешной —
Распущенной — и не играть словами,
И не краснеть удушливой волной,
Слегка соприкоснувшись рукавами.
Мне нравится ещё, что вы при мне
Спокойно обнимаете другую,
Не прочите мне в адовом огне
Гореть за то, что я не вас целую.

Якая цнатлівасць гэтых, здавалася б, не вельмі цнатлівых прызнанняў! А другі твор! Гэта ж да немагчымасці вельмі шчыры верш, роспачная, як крык, пранізлівасць: «Мой мілы, што табе зрабіла я?!»

Я глупая, а ты умен,
Живой, а я остолбенелая,
О, вопль женщин всех времен:
«Мой милый, что тебе я сделала?!»

Увозят милых корабли,
Уводит их дорога белая.
И стон стоит вдоль всей земли:
«Мой милый, что тебе я сделала?!»

Жить приучил в самом огне,
Сам бросил — в степь заледенелую!
Вот что ты, милый, сделал — мне.
Мой милый, что тебе я сделала?

Гэтыя вершы, здаецца, заўважылі ўсе. Кампазітары напісалі на іх музыку. Зрабіў гэта таленавіта Тарывердзіеў, і ў мінулым стагоддзі гэтыя песні зрабіліся найпапулярнейшымі савецкімі хітамі: «Мой мілы, што табе зрабіла я?!»

Але ж гэта, на мой погляд, не песні. Гэта плач па няспраўджаным каханні ўсіх жанчын свету…

Свой боль Марына Цвятаева, дачка Івана Уладзіміравіча Цвятаева, прафесара, заснавальніка Маскоўскага музея выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, яго будаўніка і першага дырэктара, адчувала вельмі тонка. А да болю іншых, здаецца, адносілася часам крыху абыякава.

Не хочацца ў гэта верыць, але ж гэта так: сваіх абедзвюх маленькіх дачушак яна аддала ў прытулак… Ага, было цяжка, ага, як кажуць рускія, «невмоготу»… Але…

Старэйшую Алю-Арыядну ўсё ж такі потым забрала зноў да сябе, а Ірачка, малодшанькая, так і памерла там. З голаду.

Анастасія Цвятаева, малодшая сястра Марыны. «Успаміны». Чытаю ў надзеі знайсці ў ёй што-кольвек пра дачок Марыны Іванаўны. На жаль, успаміны толькі пра дзяцінства і юнацтва — яны заканчваюцца 1914 годам: «У гэтую восень нам споўнілася — Марыне дваццаць два, мне — дваццаць гадоў».

А вось у асобным раздзеле «Сустрэча з Марынай», дзе расказваецца пра гасцяванне Анастасіі ў сястры, якая жыла ў Парыжы, і да якой яна прыехала пасля сустрэчы з Максімам Горкім у Сарэнта, згадваецца і пра Алю, забраную з прытулку.

Сустракае Марынін муж Сяргей: «Марына, Асенька, чакае вас — дома! Яна з Мурам. Аля дапамагае ёй па гаспадарцы. Вы не пазнаеце Алю — вялікая!»

З сястрою сустрэча. З яе малым сынам Мурам: «Ускокваю. Поціск рукі. Марына! Які дзівосны! Ён вельмі падобны да цябе! Але, перапыняючы нашы позіркі, трэці твар над плячом Марыны — блакітныя вялікія вочы, усмешка і дзве касы: Аля! Алечка! Якая вялікая! І як на бацьку падобная!.. Толькі вочы святлейшыя!»

Марына: «А я ўжо даўно нічога не люблю, апрача жывёл, дрэў… Аля ў цяжкім пераходным узросце. Яна вельмі таленавітая. Вельмі разумная. Аднак яна — уся іншая. Мур — мой. Ён — дзівосны… Ён менш незвычайны, чым Аля была ў яго гады… Аля была — суцэльны бляск! Ты ж памятаеш… Але ён — у мяне. Роднае. І ён куды меней гаворыць, чым Аля ў амаль тры гады, — але ён разумее!»

А пра дзяўчынку Ірачку, якая не вярнулася з прытулку, ужо ніхто і не ўспамінае…

У гібелі Марыны Іванаўны некаторыя даследчыкі яе жыцця і творчасці і сёння вінавацяць Мура, жорсткага, бескампраміснага, ганарыстага і таленавітага сына паэтэсы, які пакінуў гэты свет усяго толькі дзевятнаццацігадовым і якога яна так утрапёна і бязмежна любіла.

Мур, Георгій Эфрон, упарты і катэгарычны, у сваім дзёрзкім, нават цынічным хлапчукоўскім дзённіку вельмі недалікатна, з пагардаю і грэбліва, піша пра тую, што яго абагаўляла, сцвярджаючы, быццам бы яна так і не стала яму маці.

У Анастасіі Цвятаевай — таксама пісьменніцкі погляд, бездакорны стыль. Вось як па-мастацку яна апісвае з'яўленне ў іхнім доме Максіміліяна Валошына:

«І з ёй (Марынай) — я ніколі яшчэ не бачыла падобнага чалавека. Першае адчуванне — жаданне глядзець, слухаць, мець асалоду — і падрабязна разглядаць: вялікі? — не, зусім не. Але аграмадны. Сярэдняга росту. Нечалавечая галава на мажных, вельмі шырокіх плячах. Зеўс з татавай шафы! Гара кучараў, барада — невялікая. Як вогненная лава, што ўпала з кратара галавы. Каштанавая, з рыжынкаю. Рука — не па-мужчынску, а вялікая і цёплая, абдымае маю, вочы радасна, дапытліва ўцягваюць мой сустрэчны позірк. Вочы Пана з карціны Врубеля?! Не, не Пана. У таго — пустыя і страшныя. Гэтыя такія ж светлыя, як і тыя, але позірк запоўз у душу і ўлёгся там. Утульна, як кот, што скруціўся. Макс задаволена адпускае маю руку на волю, а позірк прадаўжаецца, і ў ім плаўна, без усялякай трывогі кружыцца пакой, уносячы мяне ў незнаёмую мне добразычлівасць, падбадзёрванне, супакаенне, пазнаванне. Вядзьмак! (Добры чарадзей з Марыніных вершаў?)»

Хіба гэта не мастацтва? Прафесійны пісьменніцкі погляд!

Аднак — стой! стой! стой! Пра Максіміліяна Валошына, пра ягоны Кактэбель я раскажу ў іншым месцы…

Я любіў слухаць, як чытала свае вершы Бэла Ахмадуліна. Словы, ціхія і даверлівыя, добрыя і шчырыя, клекаталі тады, як у птушкі, у яе горле.

У 1975 годзе у Ахмадулінай выйшаў у «Художественной литературе» тоненькі томік выбраных вершаў. Проста, але з вялікім густам афармлены. З прадмоваю самога Паўла Антакольскага. Прадмова цудоўная, але мне не спадабаўся пачатак. Прызнаны мэтр піша:

«Талент па-мужчынску моцны, розум па-мужчынску праніклівы… І калі пры гэтым Бэла Ахмадуліна прыгожая і абаяльная, то адным гэтым і абмежавана яе прыналежнасць да «слабой» паловы чалавечага роду. Яна паэт, а не паэтэса».

«Не! — хацелася мне пярэчыць знанаму паэту, якога я таксама любіў тады, хочацца ўсім пярэчыць і цяпер. — Не, Бэла Ахатаўна ў сваёй паэзіі заўсёды элегантная жанчына, яна менавіта паэтэса, а не паэт!»

Я вельмі люблю яе паэму пра Дождж.

Со мной с утра не расставался Дождь.
— О, отвяжись! — я говорила грубо.
Он отступал, но преданно и грустно
Вновь шел за мной, как маленькая дочь.

Дождь, как крыло, прирос к моей спине.
Его корила я:
— Стыдись, негодник!
К тебе в слезах взывает огородник!
Иди к цветам!
Что ты нашел во мне?

Меж тем вокруг стоял суровый зной.
Дождь был со мной, забыв про всё на свете.
Вокруг меня приплясывали дети,
Как около машины поливной…

Не, так ласкава мужчына-паэт не напіша. Так можа напісаць толькі жанчына-паэтэса!

Гэтая паэма «Казка пра дождж» прысвечана Яўгену Еўтушэнку. Ён, здаецца, быў тады ці не галоўны ў славутай тройцы — Ахмадуліна, Вазнясенскі, Еўтушэнка. І ўжо — муж Бэлы Ахмадулінай. Ці то яе мужам ён зрабіўся крыху пазней? А на той час быў проста закаханым у яе маладым паэтам.

У маёй бібліятэцы ранні Еўтушэнка сабраны амаль поўнасцю. А гэтай кнігі, я кажу пра «Узмах рукі», якая выйшла ў 1962 годзе, я пакуль што не меў. Пагартаў яе ў Барыса Сачанкі, у якога яна, вядома, ужо была. Спадабалася. Вершы пра Парыж. Толькі што, у 1960 годзе, напісаныя.

Какие девочки в Париже, черт возьми!
И черт — он с удовольствием их взял бы!

Гнеўны верш пра Верлена:

Мне гид цитирует Верлена,
Париж рукою обводя,
Так умиленно, так елейно
Под шелест легкого дождя…

Он не укладывался в рамки
благочестиво лживых фраз,
а он прикладывался к рюмке
и был безнравственным для вас.

І, нарэшце, цяжкое, як прысуд:

Вы под Верлена выпиваете
с набитым плотно животом.
Вы всех поэтов убиваете,
чтобы цитировать потом!

Слізгануў вачыма па змесце: «Ты ў каханні, вялікая, ацелая», «Верш адзеў на галінку я», «Босая жанчына каля рэчкі». А вось «Капенгагенская сустрэча». Аэрадром у Капенгагене. І раптам ідзе стары ў простай зялёнай куртцы з капюшонам. Ён не з'явіўся, а ўзнік. Ён — нібыта толькі што ад штурвала.

И, расстегнув рубахи грубый ворот,
Он отвергая вермут и перно,
спросил у стойки рюмку русской водки,
и соду он отвел рукою: «No…»
…Он так похож был на Хемингуэя!
…А после я узнал, что это был Хемингуэй.

Ага, у гэтай кнізе яшчэ не было тых адкрытых радкоў, якія на нейкі час стануць нібыта візіткаю Еўтушэнкі, будуць паблажліва ўсміхацца на шмат якіх вуснах і выклічуць нават непрыстойныя пароды:

Кровать была расстелена,
И ты была растеряна…
Ты спрашивала шёпотом:
— А что потом? А что потом…

Не было тут яшчэ і ягонай паэмы «Мама і нейтронная бомба», у якой ён, расказваючы, як шукаў свае беларускія карані ў вёсцы Хомічы, што на Гомельшчыне, у Калінкавіцкім раёне, вельмі перабольшаў, а то і гіпербалізаваў наша, беларускае, умельства піць гарэлку — маўляў, баба Ганна, яго родзічка, наліла поўную шклянку самагонкі, выпіла да дна, а тады другую, а пасля — трэцюю, пятую, дзясятую, і толькі потым пачала расказваць.

Словам, кніга і без усяго гэтага запала мне ў душу. І я пачаў шукаць яе. Сіненькую такую кніжачку. З серабрыстымі палосамі на ёй.

А тут раптам на радаснай пачостцы, на якую нас, сваіх сяброў, запрасіў Грыша Барадулін — у яго нарадзілася дачушка Ілонка! — з'явіўся Фёдар Яфімаў з важкім пакункам у руках, у якіх была гэтая сіненькая кніжачка. Можа, дзесяць, ці нават больш экзэмпляраў… Фёдар, нібыта штосьці прадчуваючы, не хацеў нават разгортваць пакунак, аднак яго ўсё ж змусілі гэта зрабіць. Усе перадавалі кнігу з рук у рукі, усе разглядалі, гарталі яе, цмокалі языкамі, прасілі Яфімава прадаць яе ім, аднак кніжнік, суворавец, афіцэр-пехацінец, камандзір узвода і малады рускі паэт, якога я ўжо ведаў па першай кнізе вершаў «Армія», па яго армейскім афарызме: «Я ввинчивался в армию через левое плечо», нікому не аддаў ніводнага экзэмпляра.

І таму Грыша, калі Фёдар некуды адлучыўся на хвілінку, бачачы, што на кнігу найбольш гарэлі мае вочы, хуценька дастаў з пакунка адзін томік і махнуў яго па падлозе пад шафу.

Вярнуўся Фёдар, пералічыў кнігі — адной не хапае! Абшукаў літаральна ўсіх нас — няма! Абшукаў і ўсё, і ўсюды ў пакоі — таксама нідзе не знайшоў. А зазірнуць пад шафу — не здагадаўся.

Мы з Грышам маўчалі. А то і дапамагалі Фёдару шукаць. А я, вядома ж, не знай-

шоў у сабе сілы, каб падказаць Фёдару Архіпавічу: «Паглядзі пад шафаю. Можа, яна там…»

Назаўтра я забраў у Рыгора кнігу.

Ведаеце, я і сёння вінюся перад Яфімавым, мне няёмка, што я ў яго, па сутнасці, скраў кнігу. Але ж як я ганарыўся тады перад сябрамі — у мяне ёсць «Узмах рукі» Я. Еўтушэнкі!

Яна і цяпер стаіць у мяне на кніжнай паліцы. Сіненькая такая, з серабрыстымі палосамі…

Я, пішучы гэтае эсэ пра кнігі, узяў яе, пакарыстаўся, выпісаў цытаты і зноў беражліва паставіў на паліцу. І зноў сказаў:

Даруй мне, Фёдар Архіпавіч…

А, можа, з яе і пачаць?

**3**

Якую ж кнігу адшкадаваць, зняць з паліцы першаю?

Амаль кожную тады трэба было даставаць. І каб лягчэй гэтае даставанне адбывалася, завязваліся знаёмствы з кнігарнямі, кніжнымі базамі, у калектывах ствараліся таварыствы кнігалюбаў. Гэтыя таварыствы на сваіх пасяджэннях разглядалі, каго ўзнагародзіць з іх кнігаю «за працоўныя поспехі», арганізоўвалі жараб'ёўкі, каб вызначыць шчасліўчыка, які атрымае вельмі дэфіцытную падпіску. Тады нават выдаваліся спецыяльныя, так званыя «макулатурныя кнігі», для набыцця якіх трэба было абавязкова здаць пэўную колькасць кілаграмаў папяровай макулатуры.

Да гэтага кніжнага дэфіцыту падключаліся райкамы, гаркамы, абкамы і нават ЦК партыі, дзе складаліся свае спісы шчасліўчыкаў.

Мая аднакласніца, з якой я сядзеў за адной партаю ў школе і якая потым загадвала прадуктовым магазінам, нядаўна на сустрэчы аднакласнікаў пахвалілася мне:

— І ў мяне вялікая бібліятэка. Да мяне заўсёды прыходзілі хлопцы з райкама партыі са спісамі кніг і падпісак і пыталіся: «Што, Яфімаўна, будзем браць?» Ці паверыш, у мяне ўвесь Меражкоўскі стаіць!

І ў маёй бібліятэцы ёсць Меражкоўскі. Таксама, здаецца, увесь. Выбраныя творы ў чатырох важкіх тамах. А да рэвалюцыі поўны збор ягоных твораў выйшаў у 17 кнігах.

Дзмітрый Меражкоўскі — адзін з пачынальнікаў рускага сімвалізму, люты вораг савецкай улады.

Эстэтызм, індывідуалізм, крайні містыцызм, штучнасць тону паэзіі, бледныя вобразы ў прозе. Такім бачылі Меражкоўскага сучаснікі. Мусіць, ёсць такія думкі пра яго творчасць і сёння.

Самы значны твор Меражкоўскага ў прозе — гэта яго трылогія «Хрыстос і Антыхрыст». Пісьменнік выбіраў для даследавання самыя вострыя перыяды змагання паміж язычніцтвам і хрысціянствам, калі гэтая барацьба праяўлялася з найбольшай сілаю. Першы раман «Смерць багоў» (Юліян Адступнік) — пра гібель элінскага свету. «Уваскросшыя багі» — пра славутага Леанарда да Вінчы, які адначасова малюе «Тайную вячэру» і брыдкія твары язычніцкіх ідалаў, сумяшчаючы ў сабе два пачаткі — язычніцкі і хрысціянскі. І трэці раман — «Петр і Аляксей», бацька і сын, цар і царэвіч, дзе даследуецца супярэчлівасць старога і новага пачаткаў у гісторыі.

Тая ж, ужо згаданая, першая савецкая «Літаратурная энцыклапедыя», якая выходзіла ў 30-ыя гады пад рэдакцыяй А. В. Луначарскага, у сваім сёмым томе, дзе змешчаны і некралог з выпадку смерці Анатоля Васільевіча, піша пра герояў меражкоўскіх раманаў:

«Яны вядуць схаластычныя спрэчкі, цытуюць элінскіх мудрацоў, бачаць доўгія сны, вядуць вельмі сумныя дзённікі. Халоднае рэзанёрства, фальшывы пафас і прарочы тон пераважаюць у размовах і заглушаюць нямногія яркія старонкі».

Вось яшчэ некаторыя цытаты з той жа самай энцыклапедыі:

«Пралетарскую рэвалюцыю Мережкоўскі сустрэў з дзікай фанатычнай злосцю».

«Мастацкая творчасць Мераажкоўскага эміграцкага перыяду з'яўляецца яркім прыкладам ідэйнай дэградацыі і культурнага дзікунства белай эміграцыі».

«У плане літаратурнай спадчыны творчасць Мераажкоўскага, рэакцыйная ад пачатку да канца, уяўляе безумоўна адмоўную велічыню».

Я не сумняваюся і радуюся, што мая аднакласніца чытала Мераажкоўскага. Аднак яшчэ больш радуюся, што яе бібліятэка будзе чытацца і ў будучыні: сын ее — навуковец, выкладчык універсітэта, і яму кнігі, сабраныя маці, будуць вельмі і вельмі патрэбныя.

Значыць, Мераажкоўскі ёсць і ў мяне. Ёсць і Андрэй Белы. Ягоны славуты раман «Пецярбург». Збянтэжанасць, разгубленасць пачуццяў.

Да «Пецярбурга» Белы — паэт, найвядомейшы паэт. З выдатнай рэпутацыяй. Ён папулярны і яго чытаюць. Ён — побач з Блокам. Тэарэтык і практык сімвалізму.

Раман пачаты ўвосень 1911 года. Гэта своеасаблівы вобраз, партрэт Пецярбурга. Партрэт праз людзей і падзеі.

Ліхалецце. Нейкі няпэўны час, які заражае няўпэўненасцю і аўтара. Аўтар не ведае, куды, у які бок павярнуць усё сваё даследаванне часу, светапоглядную мітусню. І гэтую яго няўпэўненасць адчуваем і мы. Зараз, у новым тысячагоддзі.

Белы разумее, што Расія стаіць на самым парозе нейкага новага павароту, нейкага новага жыцця. Але не разумее, якога. Ён ведае, што так, як жыла Расія, далей жыць немагчыма, але як трэба жыць — не ведае. Таму і мітусіцца.

А наперадзе — вайна, рэвалюцыя. А войны ж ды рэвалюцыі ніколі і нікому не дапамагалі разабрацца, не тлумачылі, як можна і трэба жыць.

І войны, і рэвалюцыі заўсёды толькі забівалі. Гэта тысячы, сотні тысяч, мільёны, дзясяткі мільёнаў забітых маладых людзей. Хлопцаў і маладых мужчын, ды і жанчын таксама, — у самым росквіце жыцця! — якім толькі жыць, кахаць, нараджаць дзяцей. Рэвалюцыі і войны — гэта катастрофы, якія вынішчаюць усё тое, што самае дзетароднае.

«Праблемы творчасці». Вялікі, тоўсты, амаль тысячастаронкавы фаліянт. Гэта — калектыўная манаграфія пра жыццё і творчасць Андрэя Белага — Барыса Мікалаевіча Бугаёва. Першая, лічыцца, манаграфія.

«Як мы пішам» і «Пра сябе як пісьменніка» — роздум над сваёй літаратурнаю працаю і пра мастацкую творчасць увогуле. І яшчэ пра тыя абавязковыя сувязі з чытачом, пра якія павінен думаць і рупіцца кожны пісьменнік. Тут размова ідзе пра ўзаемаадносіны А. Белага са сваімі чытачамі. Белы вучыць чытачоў, як трэба чытаць. Цікавая думка: агульнадаступнасць для ўсіх друкаванага тэксту стварыла ілюзію яго лёгкага разумення. Пісьменны, умееш чытаць — і любая кніга адкрыта перад табою. Белы ж абвяргае гэту думку, сцвярджаючы, што чытанне — не толькі напружанне зроку, але і намаганне ўнутранага слыху, псіхалагічнага настрою, мабілізацыя сіл і працы: «Незразумелае не тое, што цяжкае (цяжкае сёння, заўтра — лёгкае); незразумела тое, што ў выніку намаганняў навучыцца па-мастацку чытаць, застаецца незразумелым».

«На мяжы двух стагоддзяў», «Пачатак веку» і «Паміж дзвюх рэвалюцый» — мемуарная трылогія Андрэя Белага — як лічаць даследчыкі яго творчасці, лепшае, што напісана Белым пасля «Пецярбурга».

Л. К. Даўгаполаў, аўтар першай савецкай кнігі пра Белага, піша: «Мы многае б не ведалі пра літаратурны рух на мяжы стагоддзяў, калі б гэта трылогія не была напісана… Белы стварыў абагулены вобраз часу — катастрафічнага, багатага на выбухі і ўзрушэнні сусветнага маштабу і значэння…»

Пра тое ж казаў і Л. Флейшман у калектыўнай амерыканскай манаграфіі пра рускага пісьменніка:

«Ніякія іншыя надрукаваныя мемуары, якія датычацца рускай літаратуры мадэрнізму, не могуць сапернічаць з мемуарамі Белага па багацці інфармацыі, па шырыні адлюстравання літаратурнага жыцця ці па таму ўнёску, які зрабіў іх аўтар у развіццё рускага сімвалізму».

Гэтая трылогія выйшла ў 1989 годзе ў шаноўнай намі, кнігалюбамі, «Серыі літаратурных мемуараў». Знаўцы сцвярджаюць, што яна па шырыні ахопу гістарычнага жыцця, багаццю яркіх характарыстык, паўнаце аўтабіяграфічнай споведзі роўная «Былому і думам» Герцэна ды «Гісторыі майго сучасніка» Караленкі.

Барыс Бугаёў, будучы Андрэй Белы, нарадзіўся ў сям'і прафесара матэматыкі Маскоўскага ўніверсітэта. Закончыў матэматычны факультэт таго ж універсітэта. Выхоўваўся ў асяроддзі тагачаснай маскоўскай прафесуры.

Ім, юнакам канца стагоддзя, усё было зразумела. Звыклы быт, дамашнія ачагі, сямейныя чаяванні… Яны наперад ведалі свой шлях. І раптам — мяжа веку. І невядомыя ім удары лёсу. Ліхалецце. Разгубленасць.

Нават спакойны Аляксандр Блок, аднагодак Белага, захваляваўся: «Что же делать? Что же делать? Нет больше домашнего очага!.. Радость остыла, потухли очаги… Двери открыты на вьюжную площадь»…

«Не прайшло і пяці гадоў, — піша і Андрэй Белы, — як гэтыя «чайныя сталы», за якімі мы адпачывалі, выгнаныя адусюль, зрабіліся гурткамі, салонамі, рэдакцыямі, кнігавыдавецтвамі»…

У мінулым засталося старое стагоддзе, дзяцінства, дзе ён для ўсіх быў проста «Боранька».

«Брусава не цкавалі так, — скардзіўся Барыс Мікалаевіч, — таму што ён і не быў «Валенькай»; а я, Андрэй Белы, я менавіта «Боранькам» — быў: сядзеў на каленях Льва Талстога і мяне кармілі канфектамі».

Дзяцінства на каленях Талстога? Цікава. Але звычайна. Леў Мікалаевіч заходзіў да іх дадому. Заступаўся за каго-небудзь: тата Боранькі быў дэканам, і таму прыходзілі многія — прасіць за студэнтаў.

«Выразна памятаю, — згадвае Боранька, — мне гады чатыры; сяджу на каленях; і — пальчыкамі беражна за пылінкай здымаю пыліначку я з шараватых штаноў; бачу: з-за пляча шэры касмыль барады высоўваецца, густы, ён казыча шчочку; і голас, здавалася, такі, нібы ў плачы, мяккі, але густа-выразлівы, як у Танеева, штосьці даказвае; а бацька пацірае рукі; і чымсьці задаволены; і чуецца:

— Леў Мікалаевіч!

Я ведаю ўжо, што той шэры, упэўнены барадач — Леў Талстой; хто такі Леў Талстой, я не ведаю; і думаю: званне гэта, ці пасада ганаровая; пра Льва Талстога я чуў ужо вельмі часта; і — вось ён: здымае з каленяў, паварочвае; я стаю між каленяў, са здзіўленнем бачу такую вялізную бараду; такіх я ніколі не бачыў!»

Якія вобразы — і таго, пра каго расказваецца, і самога таго, хто расказвае! А якая дакладнасць малюнка!

Бацькі няма дома, маці разбірае бялізну, каб аддаць прачцы. Рэзкі званок, пытаюцца пра бацьку. Яму адмовілі. Маці пытаецца: «Хто быў?» — «Ды нейкі сівы дзядок з простых». Маці раптам зрываецца з месца, бяжыць да парэнчаў. «Леў Мікалаевіч, а вы мяне не хочаце і бачыць?» — «Не, чаму ж!» — усміхаецца

Талстой. Смех мяккі і старэчы». Вяртаецца. Маці няёмка: «Не, не сюды, тут я бялізну перабіраю». Дзядок настойвае, каб яна працягвала працу. Садзіцца побач. «Я той жа час злучыў гэты вобраз з тым, які жыў у памяці; і адразу заўважыў, што шэрая барада зрабілася зусім белаю, парадзела яна і зменшылася»…

А які партрэт Пятра Бабарыкіна, вядомага на той час раманіста!

«Бабарыкін быў лысы, такі ж; але быў жаўтавусы, а не сівавусы, худы і барвовы; высокі, вельмі рухавы, ён круціў галавою на тонкай выгібістай шыі з такой хуткасцю, што здавалася: адкруціцца; успыхваў, ускокваў з месца, рукамі хапаючыся за крэслы; і зноў садзіўся, каб зноў ускочыць і — стаць у позу, адну руку схаваўшы за жоўты пінжак (хадзіў у жоўтым ён), закінуўшыся галавою і спінаю і настаўляючы ларнет на вочы, на якіх, калі памяць мне не здраджвае, ужо былі акуляры.

Ён любіў уговорваць маці стаць актрысаю:

— Артыстычныя схільнасці, а — тут дом, быт і іншае…

І заканчваў панегірыкам захаду, эмансіпацыяй жанчыны ці шпількамі па адрасе В. І. Танеева.

— Гэта таму, — усміхаўся Танееў, — што гады тры назад Бабарыкін падыходзіць і пытаецца: «Ты чытаў мой апошні раман?» Ну, а я адказваю: «Павінен табе заўважыць, што я ніколі не чытаю цябе…» З таго часу ён і лаецца… Хто ж, акрамя дурня бязмозглага, будзе чытаць Бабарыкіна».

Які жывапіс! Не, я не чытаў гэта, а бачыў! Я быў там, і на маіх вачах пératвaралася ў арыгінальнага чалавека, у жывую субстанцыю гэтае ўцялесненае слова Белага.

Белы, калі яму трэба было знайсці нечаканае слова, часам зазіраў у лексікон Веліміра Хлебнікава.

Я ж Хлебнікава нават адважыўся перакладаць.

Непадобны ні на каго Велімір Хлебнікаў — легенда паэзіі ХХ стагоддзя. Ён здзіўляў усіх сваім незвычайным няўдзелам у звычайнай чалавечай мітусні.

«Быў ён, — піша яго вучань Мікалай Асееў, — падобны больш за ўсё на даўганогую задумліваю птушку, з яго прывычкай стаяць на аднойназе, і яго ўважлівым вокам, з яго раптоўнымі адлётамі… і ўлётамі ў часаванне будучыні».

А яго настаўнік акмеіст Міхаіл Кузьмін запісвае ў дзённіках: «Прыйшоў Хлебнікаў… у яго рэчах ёсць штосьці яркае і небывалае… Чытаў свае рэчы геніяльна-вар'яцкія».

Сам жа ён называў сябе «Грамадзянінам свету». І нават не супраць быў узначаліць Урад Зямнога Шара, пра што і піша ў «Адозве Старшынь Зямнога Шара».

А на труне, у якой Хлебнікаў, трыццацісямігадовы паэт, «апушчаны ў магілку 1½ аршына глыбінёю на могілках у Ручаях Наўгародскай губерні Цімафееўскай воласці, у левым заднім вуглу каля самой агароджы паміж елкаю і сасной», было напісана: «Першы Старшыня Зямнога Шара».

З якой апантанасцю я перакладаў некаторыя яго вершы:

Там, где жили свиристели,
Где качались тихо ели…

Вось як яны загучалі па-беларуску:

Там, дзе пелі амялушкі
І дзе белень елкі гушкаў,
Праляцелі, нібы птушкі,
У чародцы часары.
Там, дзе елкі век шумелі

Дзе пяюны крык прапелі,
Праляцелі, паляцелі
У чародцы часары.

А «Закляцце смехам»! Па-мойму, і яно ў мяне атрымалася:

О, засмейцеся, смяюны!
О, засмейцеся, смяшліўцы!
Што смяюцца смехунамі, што смяяняцца смяшліва,
О, засмейцеся усмейна!
О, рассмешышч смехатлівых — смех засмейных смеюноў!

Хлебнікаў ганарыўся гэтым сваім вершам. Нават у кароценькай аўтабіяграфічнай заметцы згадвае яго як падзею: «Надрукаваў: «О, засмейцеся, смяюны».

Праўда, у гэтай жа заметцы ёсць і іншыя цікавыя падзеі:

«Пераплыў заліў Судака (3 вярсты) і Волгу каля Енатаеўска. Ездзіў на незацугляных конях з чужых стайняў».

«У 1913 годзе быў названы вялікім геніем сучаснасці і гэтае званне захоўваю і да сёння».

«Не быў на ваеннай службе».

Перачытваю вялікі том Веліміра Хлебнікава «Творения». З вензелем «VX» на вокладцы, са здымкамі і малюнкамі. Гэта вельмі ёмкая кніга выбранага, у якой каля 200 вершаў, 26 паэм, драматычныя творы, «звышаповесці», проза, дэкларацыі, заметкі, аўтабіяграфічныя матэрыялы.

Я белорукая,
Я белокожая,
Ручьям аукая,
На щук похожая,
О землю стукая,
Досуг тревожу я.

Ах, гэта мова! Ах, яе вытанчанасць, прыгажосць! Яна ж сама сабою любуецца… Цешыцца… Гуляе! Так і чэшуцца рукі — хочацца адразу ж перакладаць, каб такое было і па-беларуску!

А некаторыя вершы, калі б іх захацелася перастварыць па-нашаму, перакладаць вельмі нават лёгка. Як, да прыкладу, вось гэтыя радкі:

Бруву ру ру ру ру ру!
Піце цапе сэ сэ сэ!
Бруву руру ру-ру-ру!

Гэта з так званай «заумной» паэзіі Хлебнікава. З яго мудрагельства. А зірніце як лёгка перакладаецца на нашу мову: «пицце» замяніў на «піце» — і ўжо перакладзена, і ўжо па-нашаму.

А вось што і як гаворыць яго афрыканскі бог Ункулункулу:

Рапр, грапр, апр! Жай!
Каф! Бзуй! Каф!
Жраб, габ, бака — кук
  ртупт! тунт!

Гэта з паэмы «Зангезі». Пакуль перапісаў — замучыўся. Запісваў па літарах. Па некалькі разоў пераправяраў. Усё думаў, ці правільна запісаў.

Затое перапісаў — і верш ужо адразу перакладзены! На ўсе мовы свету! Бо гэта не словы, а толькі гукі. А гукі не перакладаюцца. Яны ж для ўсіх моў аднолькавыя. Як, скажыце, можна перакласці мяўканне кошкі, гаўканне сабакі, мычанне каровы…

Ну і футурысты! Футурыст Уладзімір Маякоўскі, пра якога Іосіф Вісарыёнавіч Сталін сказаў, што ён «быў і застаецца найлепшым, таленавітым паэтам нашай савецкай эпохі». Застаецца такім і сёння. Сёння ў Расіі паэтаў, здаецца, шмат, а Маякоўскага — няма.

Цікава. Няма ўжо краіны, якую славіў Уладзімір Маякоўскі, а ён, нібыта нейкі міфічны слон, падняўшы высока над сабою — і над светам! — свой хобат, грамавым голасам-клічам трубіць сваю пераможную песню:

Мой стих трудом
громаду лет прорвет
И явится весомо,
грубо,
зримо,
как в наши дни
вошел водопровод,
сработанный
еще рабами Рима.

Вядома ж, яго сёння не чуюць. Некаторыя не чуюць і напраўду, а некаторыя проста прыкідваюцца, што не чуюць, а то і зусім не хочуць чуць. А ён жа жывы!

Поэзия —
та же добыча радия
В грам добыча,
в год труды.
Изводишь,
единого слова ради,
тысячи тон
словесной руды.

Гэты, сціпла аформлены, двухтомнік Уладзіміра Уладзіміравіча я набыў 5 мая 1955 года ў Шклове, дзе тады пасля заканчэння Зубрэвіцкай дзесяцігодкі працаваў у шклоўскай раённай газеце. Мне тады вельмі падабаўся Маякоўскі, здаваўся нейкім гігантам, які ўзвышаўся над усёй савецкай паэзіяй:

Я
земной шар
чуть не весь
обошел, —
и жизнь
хороша,
и жить
хорошо.
А в нашей буче,
боевой, кипучей, —
и того лучше.
Вьётся
Улица-змея.
Дома
вдоль змеи.
Улица —
моя.
Дома —
мои.
Окна
разинув,

стоят
магазины.
В окнах
продукты:
вина,
фрукты…
Надо мною
небо —
синий
шелк.
Никогда
не было
так
хорошо!

Гэта радкі з паэмы «Добра!». Іх мы, маё пакаленне, памятаем яшчэ са школы.

Маякоўскі — летапісец свайго часу. Я і сёння, калі падыходжу да паліцы, дзе стаіць гэты сціплы двухтомнік, адчуваю, як бурліць, кіпіць, бунтуе, бруіць, струменіць у цесных вокладках тая вялікая і складаная эпоха.

Разумею, што цяпер шмат каму не падабаюцца ягоныя «Вершы пра савецкі пашпарт»:

Читайте,
завидуйте,
я —
гражданин
Советского Союза.

Няма ўжо Савецкага Саюза. Няма «малаткастага, сярпастага» савецкага пашпарта.

Але ж паэзія ёсць! Яна засталася, бо яна сапраўдная! І яшчэ — яна сведка гісторыі. Якая расказвае пра Дзяржаву, што калісьці была вялікай і гордай…

Гэта вам не «шаплетка» ці «боа на раяль»…

Ігар Севяранін, аўтар апошніх радкоў, — таксама футурыст. Але ўжо як эгафутурыст, потым — кубафутурыст. Брусаў вітаў яго прыход у паэзію. Горкі, адзначаючы натуральнасць яго таленту, крытыкаваў за «рэстаранна-будуарныя» матывы.

Ты пришла в шоколадной шаплетке,
Подняла золотую вуаль.
И, смотря на паркетные клетки,
Положила боа на рояль.

Ты затихла на палевом кресле,
Каблучком молоточа паркет…
Отчего-то шепнула: «А если?...»
И лицо окунула в букет.

Сваю першую кнігу «Громакіпячы кубак», якая нарабіла шуму ў тагачасным літаратурным свеце, Севяранін закончыў своеасаблівым эпілогам:

Я, гений Игорь Северянин,
Своей победой упоен:
Я повсеградно оэкранен!
Я повсесердно утверждён!

От Боязета к Порт-Артуру
Черту упорную провёл.
Я покорил Литературу!
Взорлил, гремящий, на престол!

А былі ж у яго і вось такія вершы, у якіх ён ніякі ні эгафутурыст, ніякі ні кубафутурыст, а проста цудоўны паэт-лірык:

Весенний день горяч и золот, —
Весь город солнцем ослеплен!
Я снова — я: я снова молод!
Я снова весел и влюблён!

Душа поёт и рвется в поле,
Я всех чужих зову на «ты»…
Какой простор! Какая воля!
Какие песни и цветы!

Шумите, вешние дубравы!
Расти, трава! Цвети сирень!
Виновных нет: все люди правы
В такой благословенный день!

А кім тады быў у літаратуры Данііл Хармс? Сын мічмана-нарадовольца, у якога дзед націрaў паркет у царскім Анічкавым палацы. Бачыце, бацька бацькі націрaў падлогу, па якой хадзіў імператар Аляксандр III, а ўжо сам бацька прапаноўваў праект забойства цара ў тым самым палацы.

Дык кім жа ў маладосці быў Хармс? «Заумником»! Так называлі тады сябе маладыя яго сябры-равеснікі. І ён — таксама. Можа, яны і напраўду былі «заумниками». Мудрагельцамі. Аднак мне здаецца, што ўсе яны найперш — усяго толькі «балагуры»: проста гаваруны, і ўсё. Гаварылі як гаворыцца. Пісалі як пішацца. Не думаючы. Скамарошнічалі.

Люди спят:
урлы-мурлы.
Над людьми
парят орлы.
Люди спят,
и ночь пуста.
Сторож ходит
вкруг куста.
Сторож он
не то, что ты
сон блудливый,
как мечты.
Сон ленивый, как перелет.
руки длинные, как переплет.

«Чудит Даня», — паціскаў адно плячыма, нічога не разумеючы, бацька-мічман, які ўжо вярнуўся са ссылкі з Сахаліна і напісаў свае дзве кнігі — «Шлісельбургская крэпасць» і «Восем гадоў на Сахаліне». Дарэчы, Чэхаў, калі быў на востраве, пазнаёміўся з былым мічманам Іванам Ювачовым і ўспомніў яго ў сваім нарысе «Востраў Сахалін», назваўшы ссыльнага «вельмі працавітым і добрым чалавекам».

А Даня Ювачоў паходзіць-паходзіць і зноў за сваё «балагурства», за свой мадэрнізм:

Голубь-турман вьет гнездо.
Подъезжал к крыльцу ездок.
Пыхот слышался машин.
Дева падала в кувшин.
Ноги падали в овраг.
Леший бегал —
людий враг.
Ночь свистела —
плыл орел.
Дочь мерцала —
путник брел.
Люди спали —
я не спал:
деньги я пересыпал.

А, во яно што! Усе спяць, а ён пералічвае грошы! Верш жа гэтак і называецца «Скупасць».

Цікава так пасля кожнага верша чытаць аўтарскае: «усё»… Маўляў, верш закончаны…

У творчасці Даніїла Хармса гратэскна ўсё!

Андрэй Вазнясенскі, наш равеснік-шасцідзясятнік, вучыўся ў Хармса? У Хлебнікава? Ён жа таксама мадэрніст.

Он хохочет оглушительно.
На снегу горят ножи.
И как два огнетушителя
Наши красные носы!

В полушубке, как бульдозер,
Боков в бурную струю
Валит дъявольскими дозами
Рыбин, судьбы, чешую.

Церкви, луковки, кортошка,
Ух — в уху!
Головешками голоши
Расплясались на снегу.

Гэта з яго кнігі «Трохвугольная груша. Сорок лірычных адступленняў з паэмы». Радкі з «Адступлення, у якім рыбак Бокаў варыць суп».

А гэта ўжо яго «Ахілесава сэрца». З чорнаю, амаль антрацытаваю вокладкай, на якой толькі маленечкае срабрыстае «а», у якім — чырвонае сэрцайка. І ўсё. Ну і пабегаў жа я за ім!

У кнізе — партрэт маладога аўтара. Губаценькі такі, амаль як дзіця, хлапчук. А бачыш, як ён піша:

…бьешься ты в миллиметре от лезвия,
ахиллесово сердце моё!

А гэты верш прысвечаны Бэле Ахмадулінай:

Ах, Белка, лихач катастрофный,
Нездешняя, ангел на вид,

хорош твой фарфоровый профиль,
как белая лампа горит!

В аду в сковородки долдонят
и вышлют к воротам патруль,
когда на предельном спидометре
ты куришь, отбросивши руль.

Што, і Бэла Ахмадуліна ліхачыла гэтак жа ў Расіі, як і Франсуаза Саган у Францыі? Можа, і машыну яна вадзіла босая? На шалёнай хуткасці?

Андрэйка, гэтак яго чамусьці зваў і заве Іван Пташнікаў, быў у нас у гасцях у «Маладосці». Памятаю яго нейкі вельмі ўчэпісты, вывучаючы позірк — ён аж драпаўся. Генадзь Бураўкін сябраваў з ім, Рыгор Барадулін пераклаў на беларускую мову кнігу яго вершаў.

Калі я быў старшынёю праўлення Літфонду Беларусі і членам прэзідыума Літфонду СССР, часта даводзілася ездзіць у Маскву і ўдзельнічаць у пасяджэннях Літфонду. Там нярэдка ўзнікалі прозвішчы Вазнясенскага і Еўтушэнкі — то аднаму трэба адрамантаваць на дачы ў Перадзелкіне дом для гасцей, то другому там жа пабудаваць яшчэ і лесьнічоўку.

А вось зноў верш Андрэя Вазнясенскага з «Ахілесава сэрца»:

А не махнуть ли на море?

І ўсё! Усяго толькі нейкі радок. Не, нават паўрадка. На ўсю старонку!

Прызнаюся, мне тады гэта гульня не спадабалася: не паэзія! А, можа, гэта проза? Не!

Каюся, не падабаецца ён, той верш, мне і сёння — гэта ж усяго толькі некалькі слоў. І ні перад імі, і ні за імі, ну, выключна анічога няма. Пустата…

«Чудит Даня», — сказаў бы, мусіць, і пра Андрэйку, каб дажыў да нашых дзён, мічман і катаржнік, бацька Данііла Хармса.

Гэта напісалася тады, калі Андрэй Вазнясенскі быў жывы. Пасля ягонай смерці, даведаўшыся, якія пакуты прыняў у свае апошнія гады Андрэй, хацеў выкінуць гэтыя развагі. А потым падумаў: «Навошта?» То ж яшчэ раз падкрэслівае, якім таленавіта-арыгінальным паэтам, ён, нястомны шукальнік, эксперыментатар і геолаг у паэзіі.

«Ахілесава сэрца», як і наступнаю кнігу «Антыміры», я ўсё ж набыў. Крыху папабегаў, але купіў.

А вось «Трохвугольную грушу» ніяк не мог дастаць. Хоць і выйшла яна тыражом у 50 тысяч экзэмпляраў. І гэта зразумела — рэдактарам у кнігі быў славуты Эдуардас Межэлайціс.

Дзіўна, што і Барыс Сачанка, мой сябра і кніжнік-фанат, набыў «Тровугольную грушу» не ў такім стане, у якім бы яму хацелася яе мець, — яна была без вокладкі, падклееная. Я, ведаючы яго патрабаванні да кнігі, разумеў, што Барыс не спыніцца, пакуль не знойдзе штосьці вартае яго ўнікальнай бібліятэкі, а «Трохвугольная груша» можа тады стаць маёю.

Так яно і атрымалася. Неўзабаве Барыс дастаў найвыдатнейшы экземпляр гэтай кнігі, а той, ранейшы, аддаў мне.

Кніга гэта каштавала тады 12 капеек. У букіністаў Барыс купіў яе, абдзёртую, за 10 капеек. Мне аддаў бясплатна. Падараваў. І я быў, як кажуць, неймаверна рады: я маю «Трохвугольную грушу»!

Зноў жа падклеіў яе, разгладзіў. Яна і сёння стаіць на маёй кніжнай паліцы.

А можа, з яе і пачаць?

Не! Па-першае, я вось і сёння карыстаюся ёю. Па-другое — гэта ж падарунак. І я берагу яе — як памяць пра нашу маладосць. Як святыню. Бо ўсе нашы, намі набытыя кнігі, былі тады нашымі святынямі.

Няхай пастаіць…

**4**

Значыць, мы ўпіваліся кнігаю. Кніга была для нас як сапраўдны наркотык. Кнігі нам дарылі на дні нараджэння, і мы былі вельмі рады гэтым падарункам.

Але ж нашы кнігі — амаль усе! — нам даводзілася даставаць. Адны прыходзілі ў нашы рукі лягчэй, іншыя цяжэй, а за некаторымі даводзілася нават наладжваць ловы — сапраўднае паляванне на кнігу.

Для таго, каб займець томік выбраных твораў Франца Кафкі, які тады, у 1965 годзе ў перакладзе з нямецкай мовы ўпершыню ў Савецкім Саюзе выйшаў з друку, я сабраў нават ладнаватае застолле чалавек на дзесяць у рэстаране аэрапорта.

Я працаваў тады ў «Вожыку». Нашым шаноўным рэдактарам быў Павел Кавалёў. А ён меў ці то за добрага знаёмага, ці то нават за сябра слыннага, недасяжнага тады нам, маладым, Патупчыка, у руках якога знаходзіўся кніжны гандаль. Калі я расказаў Кавалёву пра свой клопат, Павел Нічыпаравіч добра так усміхнуўся і, плюснуўшы вачыма, супакоіў мяне: «Зробім».

Такі жаданы мною томік Патупчык прынёс у аэрапорт. І я, ужо за сталом, прагна і нецярпліва пачаў гартаць яго. Найперш наткнуўся на «Ператварэнне».

«Прачнуўшыся аднойчы раніцою пасля неспакойнага сну, Грэгар Замза зразумеў, што ён ператварыўся ў страшэннае насякомае. Лежачы на панцырна-цвёрдай спіне, ён бачыў, варта было прыўзняць яму галаву, свой карычневы, выпуклы, раздзелены дугападобнымі лускавінкамі жывот, на самым версе якога ледзь трымалася коўдра, гатовая вось-вось спаўзці. Яго шматлікія, убога тонкія ў параўнанні з усім целам, ножкі бездапаможна шавяліліся ў яго перад вачамі.

«Што са мною здарылася?» — падумаў ён».

Ого, цікава. Вельмі нават цікава. У нас, у Савецкім Саюзе, цяпер так не пішуць...

— Глядзі ты, сабраў нас, а сам не п’е, — сказаў хтосьці.

— П’ю, п’ю! — адказаў я. — За ўжо майго Франца Кафку! — я ўзяў са стала чарку, глынуў крыху з яе і, не закусваючы, зноў уткнуўся ў кнігу.

Там ужо ўсе хваляваліся.

Асцярожна пастукала ў дзверы маці: «Грэгар, ужо без чвэрці сем. Хіба ты не збіраўся ехаць?»

«Грэгар! Грэгар! — крычаў, грукаючыся, бацька. — Што здарылася?»

«Грэгар, — шаптала сястра, — адчыні, прашу цябе».

А як жа ён адчыніць тыя дзверы, якія звык, як і ў сваіх частых раз’ездах камівояжора, замыкаць, зачыняць на ўсе засаўкі?!

«Яму патрэбны былі рукі, каб падняцца; а замест гэтага ў яго было мноства ножак, якія не пераставалі бязладна і з якімі ён да таго ж ніяк не мог саўладаць».

За сталом мае госці ўжо ажыўлена, забыўшыся на мяне, размаўлялі між сабою, а я быў у тым пакоі, дзе са свайго ложка спрабаваў злезці камівояжор-насякомае.

«І ён пачаў выпіхвацца з ложка, разгойдваючы тулава па ўсёй яго даўжыні раўнамерна… Больш за ўсё турбавала яго думка пра тое, што цела яго ўпадзе з грукатам і гэта выкліча за ўсімі дзвярыма калі не жах, то ўжо ва ўсякім выпадку трывогу. І ўсё ж на гэта трэба было адважыцца».

І ён рыўком скаціўся з ложка.

«Удар быў гучны, але не тое каб аглушальны. Падзенне крыху змякчыў дыван, ды і спіна аказалася эластычней, чым думаў Грэгар, таму гук атрымаўся глухі, не такі ўжо і ашаламляльны».

І усё ж:

«Там штосьці ўпала», — усхвалявана сказаў кіраўнік фірмы, які прыйшоў ужо да Грэгара сам, каб разабрацца, чаму Земза не паехаў туды, куды яго паслалі.

Нарэшце, ён вызваліў сябе ад ложка! А як, з якімі цяжкасцямі, дапоўзшы, нарэшце, да дзвярэй, прысланіўшыся да іх, узняўся да замочнай адтуліны і ротам, у якім ужо не было зубоў, паварочваў, каб адчыніць у шчыліне ключ!

Адным словам, «Ператварэнне» я прачытаў у застоллі.

А раман «Працэс» смакаваў ужо дома.

Недзе нехта некага за нешта па нейкім, наперад устаноўленым, законе ўсур’ёз судзіць.

«Хтосьці, хутчэй за ўсё, узвёў паклёп на Йозефа К., таму што, не зрабіўшы нічога дрэннага, ён трапіў пад арышт. Кухарка яго кватэрнай гаспадыні фрау Грубах, якая штодзённа прыносіла яму сняданне каля васьмі, на гэты раз не з’явілася. Такога выпадку яшчэ не здаралася».

Ён крыху пачакаў і пазваніў. Адразу ж у пакой увайшоў нейкі чалавек.

— Хто вы такі? — спытаўся К. і прыўзняўся на ложку.

Аднак той, што ўвайшоў, нічога не адказаў, быццам бы ўсё гэта было звычайным, штодзённым, толькі сам спытаўся:

— Вы званілі?

— Хай Анна прынясе мне сняданне, — злосна адказаў К. і пачаў уважліва разглядаць незнаёмца.

— Ён хоча, каб Анна падала яму сняданне, — прычыніўшы дзверы, сказаў незнаёмец.

Там зарагаталі:

— Гэта не дазволена!

Ён выйшаў у другі пакой, але той, хто смяяўся, спыніў яго:

— Вам нельга выходзіць. Вы ж арыштаваны. Ідзіце ў свой пакой і чакайце.

Так быў арыштаваны хтосьці Йозеф К.

На поўным сур’ёзе пачынаецца, рыхтуецца працэс, у яго ўключаюцца шматлікія рэальныя інспектары, пракуроры, абвінаваўцы, ахова, выканаўцы, хоць сама па сабе сітуацыя робіцца зусім абсурднай, нерэальнай: ніхто не ведае, за што Йозефа К. арыштавалі, але ўсе імкнуцца даказаць, што ён вінаваты:

«Вось бачыш, Вілен, ён прызнаўся, што не ведае закона, а сам пры гэтым сцвярджае, што невінаваты».

І, урэшце, увесь гэты абсурд завяршаецца яшчэ большым абсурдам: уночы, недзе за горадам, каля невялікай закінутай каменяломні двое суб’ектаў-выканаўцаў у сурдутах і цыліндрах, якія, здаецца, прыраслі да іх валасоў, кладуць галаву Йозефа К. на камень і дастаюць нож — адзін на двух…

Ахвяра яшчэ паспявае падумаць: «Дзе ж суддзя, якога ён ні разу не бачыў? Дзе высокі суд, куды ён так і не трапіў?»

Відавочна, што так думае і сам Франц Кафка.

Ага, не для лёгкага чытання гэты раман.

Не, і сапраўды такога ў Савецкім Саюзе тады яшчэ не чыталі…

Пасля, у 1989 годзе, я набыў грунтоўны том твораў Кафкі, выдадзены ў серыі «Майстры сучаснай прозы». З цікавасцю перачытваю яго дзённікі, змешчаныя там. Аказваецца, ён цікавіўся рускай літаратурай, захапляўся Дастаеўскім.

15 сакавіка 1914 года Кафка запісаў:

«За труною Дастаеўскага студэнты хацелі несці яго кайданы. Ён памёр у рабочым квартале, на чацвёртым паверсе даходнага дома».

Шмат згадак пра Майстра і ў іншых месцах.

«Пісьмо Дастаеўскага да брата пра жыццё на катарзе».

«Сёння даволі-такі добрая нядзеля. У Хатэкскім скверы чытаў творы Дастаеўскага».

«Заўвага Макса пра Дастаеўскага, пра тое, што ў яго творах вельмі шмат псіхічна хворых. Зусім няправільна. Гэта не псіхічна хворыя. Азначэнне хваробы ёсць не што іншае, як сродак характарыстыкі, прычым сродак вельмі мяккі і дзейсны. Да прыкладу, калі ўвесь час гаворыш чалавеку, што ён абмежаваны і тупы, то, як толькі ў ім ёсць зерне дастаеўшчыны, гэта падштурхне яго паказаць усе свае магчымасці».

А вось што ён выпісвае з кнігі «Подзвігі Вялікага Аляксандра» рускага пісьменніка Міхаіла Кузьміна: «Дзіця, першая палова якога была мёртваю, ніжняя ж — з усімі прыкметамі жыцця… дзіцячы труп з чырвонымі ножкамі, якія варушацца». «Нячыстых цароў, Гогу і Магогу, якія харчаваліся чарвякамі і мухамі, загнаў у скалы, і там, у расколінах, да скончэння свету запячатаў Саламонаваю пячаткаю». «Каменныя патокі, што замест вады нясуць з грукатам камяні, пясчаныя ручаі, якія тры дні цякуць на поўдзень, тры дні — на поўнач». «Мужчынападобныя жанчыны, з выпаленымі правымі грудзямі, кароткімі валасамі, у мужчынскім абутку». «Кракадзілы, якія мачою спальваюць дрэва».

Паміраючы, Кафка завяшчаў знішчыць усе яго рукапісы. Аднак ягоны сябра і душапрыказчык Макс Брод не паслухаўся ягонага запавету. І таму, калі пры жыцці Кафку ведалі толькі ў вузкім інтэлігентным асяроддзі, то пасля смерці ён атрымаў міжнароднае прызнанне.

Кнігу-біяграфію Гаршына, — якая выйшла ў 1962 годзе ў папулярнай серыі «ЖЗЛ» і якую мне не ўдалося набыць у Мінску, я прывёз з вострава Пуцяцін, што ў Ціхім акіяне. І на ёй тады напісаў: «Востраў Пуцяцін. 1964 г. »

Менавіта тады, у 1964 годзе, мы з Уладзімірам Дамашэвічам, афіцэры запасу, праходзячы вайсковыя зборы на Ціхім акіяне, працавалі ў газеце Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта», бывалі ў камандзіроўках — нават на самых новых марскіх базах.

З бухты Стралок на Пуцяцін мяне прывёз мінны тральшчык. Высадзіў на бераг, а сам паплыў па сваіх справах далей. Мне сказалі, што калі будуць вяртацца назад — забяруць.

Я абышоў увесь востраў. Пакупаўся ў возеры лотасаў, што пасярод выспы, зайшоў у адзіны астраўны магазінчык, ён маленькі і цесны, здаўся мне вельмі прасторным, бо людзей у ім, як, здаецца, і на ўсім востраве, не было зусім.

Узрадаваўся, убачыўшы на паліцы «Гаршына», і купіў кнігу. Яна каштавала усяго толькі 61 капейку, аднак рэшты ва ўсім магазіне не знайшлося нават з траячкі.

На востраве не было грошай! Усе з нецярпеннем чакалі іхняга чарговага завозу.

Я яшчэ раз, ужо не спяшаючыся, абышоў востраў.

Мінны тральшчык пакуль не вярнуўся. Чакаючы яго, сеў на траву каля возера і залюбаваўся лотасамі, якія, буйныя і далікатныя, настойлівыя і вельмі прыгожыя, нібыта выстрэльвалі са спакойнай вады па ўсёй шырыні воднай прасторы: глядзі, дружа, запамінай, казаў я сабе, бо наўрад ці зможаш ты яшчэ калі-небудзь патрапіць сюды…

Потым разгарнуў толькі што набытага «Гаршына», якога напісаў Уладзімір Парудомінскі, і зачытаўся.

«Гаршын мала пражыў. Гаршын мала паспеў напісаць. Збор яго твораў — адна невялікая кніжка».

«Гаршынскія апавяданні (у іх, па словах самога пісьменніка, кожная літара вартая кроплі крыві) — гарачы пратэст супраць гвалту і несправядлівасці, вялікая любоў да людзей, якія пакутуюць і, прыніжаныя, шукаюць выйсця».

«Не было ў жыцці Гаршына дня, які б ён не марыў прысвяціць служэнню людзям. Не было ў творчасці Гаршына радка, у якім бы ён не сцвярджаў права чалавека на шчасце».

2 лютага 1855 года ў маёнтку «Прыемная даліна» Бахмуцкага павета Екацярынаслаўскай губерні ў ротмістра кірасірскага палка Міхаіла Ягоравіча Гаршына і яго жонкі Кацярыны Сцяпанаўны Акімавай нарадзіўся сын Усевалад.

Калі яму было пяць гадоў, у хлопчыка пачаўся вельмі бурны перыяд яго жыцця. Яго кралі: спачатку маці ў бацькі, а затым — бацька ў маці.

«Снег, снег. Палазы лёгка слізгаюць па наезджаным шляху… І раптам, як у казцы: «Стой! Стой!» Шалёныя чорныя коні аднекуль збоку, быццам якраз з-пад снегу, вырваліся на дарогу. Вазак спалохана нацягнуў лейцы. Кацярына Сцяпанаўна рэзка расчыніла дзверцы. Нечакана з'явіўся Пётр Васільевіч. Прапхнуў плечы ў вазок, узяў Усевалада пад паху: «Пойдзеш да мяне?» Нянька Ефрасіння ўчапілася ў хлапчуковую шубку, завыла, загаласіла: «Не аддам! Не аддам! Барын не дазволіў!» — «Ды пусці ты!» Рукаў шубкі затрашчаў. «Хутчэй! Хутчэй!» — крычала маці ўжо з кібіткі, якая стаяла поперак дарогі. «Грэх! Грэх!» — узняўся над белым стэпам няньчын голас. Усевалада загарнулі ў папону. «Пайшоў!» — загадаў Завадскі, падаючы на сядзенне побач з маці».

Міхаіл Ягоравіч, бацька, як даведаўся пра гэта, у гневе бегаў па кабінеце. Балюча шчыпаў сябе за бачкі. Ганьба! Знявага! Жонка не знойдзена. Сын не вернуты. Спакуснік не пакараны. Звадыяш! Добра б хто-небудзь, а то ж плюгавы семінарысцік, нікчэмны наёмны рахункавод, якому яны аддавалі паношаную панскую бялізну, натураліст, які ўявіў сабе, што ён геній. Вось яны, «ліберальныя ідэі», «Колокол», «Искандер»…

І Міхаіл Ягоравіч, павятовы памешчык, піша ліст «Яго правасхадзіцельству, Пану Генерал-Ад'ютанту, Начальніку Штаба Корпуса Жандармаў з просьбаю «вярнуць яму ўкрадзенага сына».

Вядома для Генерал-Ад'ютанта гэта звычайная, банальная гісторыя — павятовая «барынька» ўтрэскалася ў хатняга настаўніка! — але ж Герцэн, «Колокол», «ліберальныя ідэі»…

Калі Пятра Завадскага арыштоўваюць і ссылаюць у Аланецкую губерню, следчы прыстаў выклікае маці з Усеваладам — нібыта для спаткання з мужам. А там, у паліцэйскай часці, Міхаіл Ягоравіч выхоплівае з рук у Кацярыны Сцяпанаўны сына. Яна кідаецца да Усевалада, але квартальны адпіхвае яе…

Сева жыў з бацькам у вёсцы, у сваім маёнтку, і шмат чытаў.

А чытаць яго навучыў усё той жа Петр Завадскі, рэвалюцыянер…

1877 г. Пачынаецца руска-турэцкая вайна. Гаршын прыкладае шмат намаганняў, каб трапіць на яе, каб паехаць на Балканы, каб прыняць удзел у барацьбе славян за незалежнасць.

«Я не магу хавацца за сценамі ўстановы, калі «мае равеснікі лбы і грудзі падстаўляюць пад кулі».

На стале засталіся незакрытымі канспекты па хіміі.

10 мая роўна ў дзевяць раніцы 138-ы пяхотны Болхаўскі полк, у якім крочыў вольназапісаны радавы салдат Усевалад Гаршын, перайшоў мяжу.

Аркестр іграў бадзёрыя маршы. Салдаты, трошкі затрымліваючыся, аглядвалі-

ся, а потым скакалі цераз нешырокую канаўку каля пагранічнага кардона. Колькі ж за ёй аставалася — уся Радзіма! І кожны з сумам думаў: а ці давядзецца і назад вось так… Каго не далічымся мы заўтра?

Нарэшце, ён — салдат. Раз, два, тры… Злева Вася Афанасьеў — трапілі ў адзін полк, у адну роту, ротай камандуе старэйшы Васеў брат Іван Назаравіч, справа Фёдараў Сцяпан, бялявы весяльчак, ротны запявала.

Два тыдні ліў дождж. Дарог не было. Глыбокая гразь, перапаўзаючы праз галянішчы, цякла ў боты, чвякала ў іх. Засмоктвала колы павозак і гармат. Салдаты ўпрагаліся ў лямкі побач з коньмі.

І ён упрагаўся разам з усімі.

Вольназапісаны — гэта ўсё ж «барын». З пагонамі радавога, але ўсё роўна «барын».

Гаршын забыўся, што ён «барын», адмовіўся ад усіх ільгот. І салдаты яго вельмі любілі. Стомлены, ён не ішоў у афіцэрскую палатку адпачываць, а заставаўся з салдатамі, пісаў ім, непісьменным, пісьмы дадому.

Ішлі па Балгарыі. Змучанай і спустошанай.

Ішлі па вёсках. Выразаных і спалёных. Адна вёска так страшна і называлася: Агульная магіла. Усіх жыхароў яе туркі выразалі яшчэ гадоў дваццаць назад.

Бой каля Есярджы. Біліся ў густым кустоўі. Стралялі амаль наўздагад.

Бой за Аяслар — невялічкую вёсачку, што на рацэ Кара—Лом. Пятай, гаршынскай, роце было цяжка. Праціўнік падняўся ў атаку. Парадзелая рота адступіла. Гаршын раптам убачыў, што ён адзін на нешырокай «нічыёй» паласе. Трэба было хутчэй спаўзаць з яе, але тут ён раптам пачуў сваё імя.

Сцяпан Фёдараў — весяльчак і ротны запявала, заўсёдны сусед па страі — ляжаў перад ім, клікаў Гаршына і сцякаў крывёю.

Гаршын забыўся пра кулі і кінуўся да Фёдарава.

І ў гэты час раздаўся стрэл. Гаршын, ранены ў нагу, упаў непадалёку ад ужо мёртвага радавога пятай роты Сцяпана Фёдарава…

І вось — апошняе. Фінал. Амаль стэнаграфічна. Ужо 1888 год.

«Дарагая мама, я праз некалькі дзён ад’язджаю і прашу Вас дазволіць мне прыйці развітацца». Кацярына Сцяпанаўна дазволіла. Але развітанне было страшным.

Ілья Рэпін сустрэў Гаршына ў гасцінным двары.

— Што з вамі, Усевалад Міхайлавіч?

— Ды я ж вар’яцею! О, калі б знайшоўся сябра, які пакончыць са мною, калі я страчу розум!

— Адпачыць бы вам трэба. З’ехаць куды-небудзь.

— Ага, мы едзем на днях у Кіславодск.

— Вось і добра.

— Не! Не! Я нідзе не знайду спакою! Я ўчора з маці меў размову. Яна так абразіла мяне, жонку маю, Надзею Міхайлаўну.

— Ну, што вы, Усевалад Міхайлавіч! Пагарачыўшыся, чаго не здараецца!

— Дык яна ж мяне пракляла. Я б вытрымаў. Але яна Надзею Міхайлаўну абразіла такім словам, якога я не перанясу…

18 сакавіка Гаршын з жонкаю былі ў доктара Фрэя. Гаршын прасіў пакінуць яго ў лячэбніцы. Фрэй мовіў: «Навошта! Навошта! Едзьце на Каўказ». Калі Гаршыны пайшлі, асістэнтка спыталася:

— Можа, трэба было Гаршына пакласці ў лячэбніцу?

Фрэй замахаў рукамі:

— Што вы! Што вы! Ён жа вось-вось з сабою пакончыць!

— Тады тым больш гэта трэба было зрабіць!

Фрэй раззлаваўся:

— Я не жадаю, каб у маёй бальніцы хто-небудзь канчаў самагубствам! Хай едзе ў Кіславодск.

Рэчы ўжо былі складзены. Рана раніцою Гаршын ціха выйшаў на лесвіцу. Зірнуў у лесвічны пралёт…

Ведаў, што гэта нельга рабіць… І ўсё ж пералез цераз поручні…

— Зачыталіся? — пачуў я над сабою. — Во схаваліся — ледзь знайшоў. Паплылі дадому.

Матрос падаў мне руку, і мы разам з ім пайшлі да берага, ля якога ўжо стаяў мінны тральшчык, каб забраць мяне з вострава Пуцяціна і завезці «дадому» — у бухту Стралок.

У маёй бібліятэцы — каля палавіны кніг з найпапулярнейшай у Савецкім Саюзе серыі «ЖЗЛ», якія выйшлі ў ёй за ўвесь час яе існавання. У мяне ёсць біяграфіі Спартака, Кромвеля, Еўрыпіда, Пятра Першага, Аляксандра Неўскага, генералісімуса Суворава. Паганіні і Рублёў, Жорж Санд і Вердзі, Бетховен і Эдгар По, Перыкл і Нільс Бор, Дэні Дзідро і Бажэнаў, Леанарда да Вінчы і Эдуард Манэ, Ліст і Бёрнс, Кант і Сен-Сімон, Рылееў і Жанна д'Арк, Фур'е і Ньютан, Міклуха-Маклай і Ганчароў. На маіх кніжных паліцах стаяць два «Дастаеўскіх» (Ю. Селязнёва і Л. Гросмана), два «Талстых», два «Рублёвых».

Аднак маё сэрца неяк пачынае шчымець, калі я бяру ў рукі кнігу «Гаршын», якую я прывёз з Пуцяціна — невялічкага астраўка ў Ціхім акіяне.

Я ведаў, што сваё імя аддаў востраву славуты рускі адмірал Пуцяцін, які, яшчэ зусім юны, зрабіў кругасветнае падарожжа, потым удзельнічаў у шмат якіх экспедыцыях, адкрыў шэраг астравоў, у тым ліку і гэтую невялічкую выспу сярод Ціхага акіяна, якую людзі назвалі востравам Пуцяціна.

А што я ведаю пра самога Пуцяціна? А што пра яго пісала мая першая дзесяцітомная «Малая савецкая энцыклапедыя», на якую я, яшчэ студэнтам, на сціплую стыпендыю, падпісаўся ў 1959 годзе?

Ага, вось ён, сёмы том. Пуцяцін Яўхім Васільевіч. Нарадзіўся ў 1803 годзе. Рускі дзяржаўны дзеяч, адмірал, член Дзяржаўнага савета. У 1842 годзе ўзначальваў рускую дыпламатычную місію ў Іране. У 1852—1855 гадах удзельнічаў у экспедыцыі на фрэгаце «Палада» на чале дыпламатычнай місіі. Заключыў спрыяльны для Расіі руска-японскі дагавор 1855 года ў Сімодзе…

Як заключаўся той дагавор, я ведаю. Бо чытаў пра гэта ў рускага пісьменніка Івана Ганчарова, які таксама ўдзельнічаў у гэтай экспедыцыі і напісаў кнігу падарожных нарысаў «Фрэгат «Палада», які ў маім васьмітомным Зборы твораў Івана Аляксандравіча склаў аж два важкія тамы.

Аднак, прызнаюся шчыра, тады ў запісках Ганчарова цікавілі мяне не Пуцяцін і нават не сам Ганчароў.

На фрэгаце «Палада» ў складзе місіі быў і наш зямляк Іосіф Гашкевіч. Я збіраўся пісаць пра яго эсэ, і таму мяне цікавіла ўсё, што згадваў пра Іосіфа Антонавіча Ганчароў.

У 1852 годзе з дыпламатычнай місіяй у Японію была паслана эскадра з чатырох караблёў («Палада», «Дзіяна» і інш.), якую ўзначаліў віцэ-адмірал Я. В. Пуцяцін. Сакратаром да яго быў прызначаны пісьменнік, аўтар рамана «Звычайная гісторыя» Іван Ганчароў, а драгаманам, перакладчыкам — наш зямляк, ураджэнец Міншчыны, дыпламат, вучоны-мовавед, даследчык Кітая і Японіі, натураліст Іосіф Антонавіч Гашкевіч. Яны, Ганчароў і Гашкевіч, плылі на флагманскім караблі, і, вядома, ж сустракаліся і з Пуцяціным, і самі між сабою.

Гашкевіч па дарозе збірае сваю калекцыю флоры і фаўны невядомых краёў.

Расказвае Ганчароў:

«Я заўважыў шмат велізарных мятлушак, потым штосьці падобнае на вос, з поўсцю і з плямаю на галаве. Адна такая, напярэдадні, седзячы ўжо на шпільцы ў скрынцы Гашкевіча, пракусіла наскрозь сігару, якую я ёй падставіў».

«Рыбы тут таксама разнастайныя, бліскучыя і дзіўныя, як і ўсё іншае. Гашкевічу прынеслі іх процьму: яны нанізаны былі на нітку. Якіх толькі дзівосаў не было тут! У адной толькі і ёсць што галава, а рот такі, што камар не пралезе; у другой адно пуза, трэцяя ўся складаецца са спіны, чацвёртая ў нейкіх шыпах, у іншай вочы пасярод цела»…

«Тут Гашкевічу ўрачыста прынеслі змяю, такую вялікую, якой, за выключэннем удаваў, мы не бачылі: аршыны два даўжынёю і тоўстая. Яна варушылася ў бляшанай скрынцы; яе хацелі перасадзіць адтуль у вялікі шкляны слоік са спіртам; яна доўга ўпарцілася, аднак калі выгналі, то і самі не рады былі: яна раптам заслізгала па падлозе, і яе злавілі з цяжкасцю».

Гэта ў вольны ад працы час.

А вось і сама праца. Місія з «Палады» плыве ў Нагасакі на сустрэчу з японцамі:

«Ехалі на дзесяці шлюпках, якія расцягнуліся на вярсту. Парадак той жа, як і ў першую паездку ў горад, гэта значыць, наперадзе ехаў капітан-лейтэнант Пасвет, на адміральскай гічцы, каб сустрэць і расставіць на беразе каравул; далей, на баркасе, сам каравул, лікам пяцьдзясят чалавек; за імі кацер з музыкамі, потым кацер з крэсламі і слугамі, наступныя два займалі афіцэры: чалавек пятнаццаць з усіх судоў. Нарэшце адміральскі кацер: у ім, апрача самога адмірала, змяшчаліся камандзіры з усіх чатырох судоў: І. С. Ункоўскі, капітан-лейтэнант Рымскі-Корсакаў, Назімаў і Фуругельм, лейтэнант барон Круднер, перакладчык з кітайскай мовы І. А. Гашкевіч і ваш пакорны слуга».

Шматлікія калекцыі флоры і фаўны Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, сабраныя ў час падарожжаў, Гашкевіч перадаў Заалагічнаму музею Акадэміі навук у Пецярбургу.

На вялікі жаль, калекцыя, сабраная на «Паладзе», у гэты музей не трапіла: «Дзіяна», другі карабель эскадры, на якім яна захоўвалася, затануў падчас буры.

Потым Гашкевіч быў першым рускім консулам у Хакадатэ. У знак вялікай павагі яму дазволілі наведацца ў глыбіню Японіі. Ён нярэдка бываў у сталіцы Эда (цяперашні Токіа) яго прымаў сам сёгун-імператар.

Усе яго называлі проста: «Белавалосы консул», усе любілі і паважалі.

Аднак, час ужо нам вяртацца, як кажуць, у свае воды. Прабач, а гэтыя, у якіх мірна туркоча наш мінны тральшчык, хіба не свае нам? Яны ж амаль тыя, якія тады падміналі пад сябе і «Палада», і «Дзіяна», і іншыя караблі пуцяцінскай эскадры.

Пра гэта я напісаў эсэ «Гашкевіч: на фрэгаце і на зямлі» і надрукаваў яго ў часопісе «Беларусь», дзе тады працаваў, пад рубрыкаю «Беларусы ў свеце». Дарэчы, пад гэтаю рубрыкаю я змясціў у «Беларусі» і шмат іншых эсэ: «Прэзідэнт Гавайскіх астравоў» (Судзілоўскі), «Целаахоўнік Сталіна» (Уласік), «Калі не стае Кардыльераў» (Дамейка), «Той, хто на «ты» з гетэраструктурамі» (Алфёраў), «Вялікае жыццё беспрытульніка» (Алейнікаў), «Бацька якуцкай літаратуры» (Пякарскі), «Да белых плямаў Сібіры» (Чэрскі), «Архіпрамяністы» (Зан), «У шкляным доме, без занавесак» (Булгарын), «Маці Ягелонаў» (Гальшанская), «Балерыны з прыгоннага тэатра» (Азарэвічавы), «Паперадзе звышгуку» (Сухі) і іншыя публікацыі пра нашых землякоў.

Як хораша беларусы дапамагалі свету жыць і радавацца жыццю!

Калі сюды дадаць і кароткія заметкі, якія я друкаваў усё ў той жа «Беларусі» пад рубрыкай «XX стагоддзе ў творах беларускіх мастакоў» (М. Шагал, М. Савіцкі,

М. Селяшчук, В. Бялыніцкі-Біруля, Я. Батальёнак, Л. Шчамялёў, Я. Драздовіч, Г. Вашчанка, А. Марачкін, Ф. Рушчыц, П. Сергіевіч, Н. Шчасная, В. Шаранговіч, Ул. Басалыга, М. Станюта, К. Малевіч ды іншыя), мне здаецца, атрымалася б неблагая кніга. І нават назва ў яе ўжо, ведаеце, ёсць, — «Крыламі дакрануцца да Радзімы».

Потым, вярнуўшыся з Далёкага Усходу, я зацікавіўся Друцкім княствам, Друцк, сталіца якога, знаходзіўся кіламетрах у трыццаці ад маёй роднай вёскі. І яшчэ пазней на старажытных картах Друцкага княства я з радасцю сустракаў і свае Зубрэвічы. А калі ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» выйшла навукова-папулярная кніга «Друцк старажытны», выдадзеная да тысячагоддзя Друцка, я аж ахнуў, аж зніякавеў ад нечаканасці: аказваецца, Друцкае княства — вельмі ж, ну вельмі маё княства! Аказваецца, мае Зубрэвічы ў старажытнасці таксама былі своеасаблівай сталіцаю, у іх знаходзіўся княскі маёнтак, у іх жыў князь Мітка Сякіра, сын славутага князя Сямёна Дзмітравіча Друцкага, з якім лічыліся і дружылі кароль Польшчы Ягайла і вялікі князь ВКЛ Вітаўт. Міцька на ўсіх сваіх паперах падпісваўся: «Князь Дзмітрый Зубрэвіцкі». І я, урэшце, зразумеў, што востраў Пуцяціна, які ў Ціхім акіяне, мае, хоць і невялікія, але ўсё ж прыкметныя сувязі з маімі роднымі Зубрэвічамі.

Род Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага быў моцны і магутны. Два ягоныя сыны — Іван Баба і Іван Пуцята — сталі пачынальнікамі іншых слынных родаў: Бабічавых і Пуцятаў, Пуцяціных.

«Паводле расійскіх радаводаў, — чытаю ў кнізе «Друцк старажытны», — сын Івана Бабы Васіль даў пачатак князям Бабічавым, якія былі вядомы ў Расіі на працягу наступных стагоддзяў.

Да таго ж маскоўскія радаводы ведаюць чатырох братоў (Васіля, Багдана, Андрэя і Юрыя Дзмітрыевічаў Друцкіх), невядомых па крыніцах ВКЛ, якія нібыта выехалі з ВКЛ пасля паражэння мяцяжу Міхаіла Глінскага ў 1508 г.»

І далей у гэтым жа энцыклапедычным выданні я знаходжу:

«Род Івана Сямёнавіча Пуцяты працягнулі яго сыны Міхайла, Васіль, Дзмітрый і Іван Пуцяцічы… Ад Івана Іванавіча пайшлі князі Пуцяціны, прычым у ВКЛ іх лінія спынілася ўжо ў наступным калене, на пачатку 16 ст… Ад яго выводзіўся і род князёў Пуцяціных у Расіі».

Да таго ж, унук Івана Сямёнавіча Пуцяты Юрый у 1500 годзе ў бітве на Вядрошы трапіў у маскоўскі палон, застаўся ў Маскве, а ягоны сын Дзмітрый Юр'евіч ужо кіраваў абаронай супраць татар на рацэ Угра ў 1531—1543 гадах…

Ну, што, вы яшчэ сумняваецеся? Канечне ж, ён, Яўхім Васільевіч Пуцяцін, рускі адмірал і дзяржаўны дзеяч, спадкаемец друцкіх земляў, які асеў у Маскоўскай дзяржаве, і быў тою асобаю, у гонар якой і назвалі востраў пасярод Ціхага акіяна. І, як нашчадак земляў друцкіх, вядома ж, ён быў не чужы і маім Зубрэвічам, дзе жыў і яго далёкі родзіч па дзеду — князь Мітка Сякіра…

Вось такі я дзівак — пратаптаў сабе вузенькую сцежачку Зубрэвічы — востраў Пуцяцін і, наіўны, шчаслівы і задаволены, радуючыся, тапчуся, бегаю па ёй туды — сюды…

Тады ж з Далёкага Усходу я, апрача «Гаршына», прывёз у Мінск яшчэ маленечкую, амаль малютку ў папяровых вокладках «Кардыяграму» Эдуардаса Межэлайціса пад рэдакцыяй Барыса Слуцкага і з найвыдатнейшымі гравюрамі Стасіса Красаўскаса, якія пасля кнігі набылі самастойнае жыццё і зрабіліся класікай літоўскай савецкай графікі.

Набыў я яе, а правільней — выпрасіў, у кнігарні Уладзівастока. Вось у ёй на першай старонцы — экслібрыс горада: сопкі на даляглядзе, здаецца, гара Арліная — з

рэтранслятарам, карабель у гавані, дамы між сопак, і ён, помнік чырвонаармейцу ў шынялі і будзёнаўцы, са сцягам у адной руцэ і горнам — у другой…

І яшчэ адну кнігу цягнуў я ў плечуку, у рукзаку, у заплечным мяшку, такую далеч дадому — вельмі вялікі, тоўсты і цяжкі фаліянт прывёз аж з Находкі.

Разумееце, цераз усю вялікую краіну, сем сутак — та-та-та, та-та-та, та-та-та — мы з цягніком цягнулі гэты важкі том у Мінск. У поездзе — ніякіх, вядома, цяжкасцей, нязручнасцей я з-за фаліянта не адчуваў: ляжыць — ну і няхай ляжыць, вязе паравоз — ну і няхай вязе, а вось ужо ў Маскве напакутаваўся — электрычкі, турнікеты, розныя вакзалы, перасадкі…

Бачыце, колькі сіл было затрачана, каб даставіць гэты груз аж на самы ўскраек СССР, а я, дзівак, зноў вяртаю яго, як кажуць далёкаўсходнікі, на мацярык.

Я якраз тады збіраў шасцітомную «Усеагульную гісторыю мастацтваў», якая разраслася аж да дзевяці тамоў. І раптам у Находцы, гэтым далёкаўсходнім порце, я ў кнігарні бачу той том, якога ў мяне няма! Вочы ў мяне загараюцца, і я, не раздумваючы, адразу ж купляю яго.

Вось яны, аб’ёмістыя тамы, і цяпер стаяць у мяне радком на паліцы. Хачу знайсці між іх той, які я прывёз з такой далечыні, — і не магу: усе яны цяпер роўныя, усе аднолькавыя, усе мае.

Можа, вось гэты, чацвёрты том? Мастацтва 17—18 стагоддзяў. Мастацтва Італіі, Іспаніі, Фландрыі, Галандыі, Францыі, Беларусі.

Хусепе Рыбера, іспанскі жывапісец і гравёр. «Дыяген». 1637 г. Я нават і не думаў, што ёсць яго рэальны партрэт. Для мяне Дыяген — заўсёды быў міфічным вобразам, якога немагчыма пабачыць. А тут — глядзі, колькі хочаш. Жывы чалавек. Калматая, непрычасаная галава — нібыта ён і праўда толькі што вылез з бочкі. А ў руках — тагачасная свяцільня, лямпа, у якой гарыць свечка.

Рубенс. «Выкраданне дачок Леўкіпа». 1619—1620 гг. Усе прыгожыя. І тыя, каго крадуць, і тыя, хто крадзе — жанчыны, мужчыны, коні. І нават Амурчык, які трымаецца за грыву каня, — зноў жа прыгажунок.

Чакай, а што ж яны далі тут беларускае? Палац Радзівілаў у Нясвіжы. Канец 16—18 стст. Выгляд з боку двара. І яшчэ езуіцкі касцёл у Гародні. Выгляд з паўднёвага захаду. 1677 год.

А, можа, я вёз вось гэтую таміну? Том другі, кніга другая. Мастацтва сярэдніх стагоддзяў. Мастацтва Аравіі, Сірыі, Палесціны, Ірака, Егіпта, Туніса, Алжыра, Марока, Ірана, Індыі, Цэйлона, Інданезіі… Шэдэўры Кітая, Японіі, Камбоджы, Лаоса…

«Падзішах на слане». Мініяцюра з рукапісу «Акбар — наме». 16 стагоддзе.

Ся Гуй. «Горныя вяршыні ўдалечыні». 12—13 стагоддзі.

«Маджнун і Лейла ў пустыні». Мініяцюра з рукапісу Хасрова Дзехляві. 15—16 стагоддзі.

Хань Хуан. «Сад літаратуры». Жывапіс на шоўку.

«Разна́я лодка з выяваю продка» (Новая Зеландыя), вёслы (Маланезія), выява жывёлы, жывапіс на кары (Аўстралія), галава царыцы (Бенін), малюнак палявання (наскальны жывапіс бушменаў), пагада Якусідзі (Японія)…

Не, мусіць, усё-ткі з Далёкага Усходу я прывёз тады вось гэты трэці том «Усеагульнай гісторыі мастацтваў». Мастацтва эпохі Адраджэння. Вялізны фаліянт на тысячу старонак: палова ілюстрацый, палова — тэксту.

Мне здаецца, менавіта з гэтай кнігі пачалася мая любоў да творчасці вялікага галандца Пітэра Брэйгеля Старшага, якога называлі Брэйгелем Мужыцкім, каб адрозніваць яго ад сыноў-мастакоў ды і пазнейшых нашчадкаў, таксама мастакоў, якія выйшлі з гэтай таленавітай сям’і.

Брэйгель нарадзіўся ў маленечкай вёсачцы Брэйгель, што ў Нідэрландах, у 1525 годзе і пражыў крыху болей за сорак гадоў. З'явіўся на свет у вёсцы і вёсцы ж аддаў свой талент.

Усе тады пісалі вяльмож, мадоннаў, негацыянтаў, багатых людзей у багатым убранні, а ён маляваў сялян у звычайных, якія ёсць, сялянскіх апратках, і паказваў, як яны жнуць і косяць, як танцуюць і спраўляюць вяселлі. Яго героі — дабрадушныя і без хітрасці, яны працуюць у ахвоту і гэтак жа шчыра адпачываюць.

Жанравыя карціны з сялянскага жыцця Брэйгеля, своеасаблівая тэматыка іх былі тады нязвычнымі ў Еўропе.

Вось ягонае «Жніво». Усё, здаецца, як і ў нас. Толькі жнуць тут чамусьці не жнеі, а жнеяры. Мужчыны. Мусіць, таму, што яны не жнуць, а косяць. А гэта ўжо цяжкая, не жаночая праца.

Роўненька, руча́йкамі, пакладзена на зямлю скошанае. Яшчэ не звязанае ў снапы. А што звязана — тое ўжо ў бабках. Дзіўна, але вельмі зручна вязалі тады снапы. Не пасярод перавязвалі, а збіралі ў сноп толькі каласкі і каля самых іх вязьмом перацiскалі салому. Разумееце, як іх лёгка было малаціць! Не ўвесь сноп, а ўсяго толькі вось гэты букецік з каласкоў.

Хто яшчэ косіць, хто звязвае снапы, а хто ўжо і абедае. А адзін касар у белай сарочцы — дарэчы, усе яны ў белых сарочках! — відаць добра-такі натаміўся — рукі, ногі раскінуў і спіць сном праведніка… І ніхто яго нікуды не гоніць: ідзі есці, ідзі касіць…

Якія ж гэта Нідэрланды! То ж усё адбываецца нібыта пад маімі Зубрэвічамі. І роўненькія беражкі абкошанай нівы — такія ўжо роўненькія! — таксама нашыя.

Як і на карцінах славутага беларуса-мастака Язэпа Драздовіча. Як і каля ягоных Пунек, што на Глыбоччыне. Як і на ягоным малюнку «Вёска Стадолішча», які ў 1918 годзе тушшу і пяром напісаў мастак.

Высвятляецца, што фламандскія вёскі вельмі падобныя на нашы, беларускія. Толькі крыху болей узгорыстыя…

А «Сенакос»! Вунь тры жанчыны, апранутыя ў чысценькае, з граблямі ў руках і на плячах спяшаюцца, бягуць да сваіх пракосаў. А іншыя ўжо, бачыце, сушаць, варочаюць іх. А вунь злева — мужчыны ўскідваюць на воз ужо сухое сена. Высока на возе — таптун: ён заюшана парадчыць там пададзенае. Нічога сабе атрымаўся вазок — кругленькі, роўненькі, акуратненькі. Парка коней, сагнуўшы галовы, ядуць кінутую перад імі траву. Жанчыны аграбаюць ля воза…

А вось «Вяртанне статку». Гоняць дадому кароў. Каля малюнка, гледзячы на яго, так і хочацца цытаваць верш нашага паэта Анатоля Вярцінскага «Статак вяртаецца з поля».

Статак вяртаецца з поля.
У цішыні вечаровай
бягуць авечкі і козы,
спаважна ідуць каровы.
Статак вяртаецца з поля.
Што трэба вёсцы болей?
Вёска святкуе падзею,
выйшла ўся насустрач —
ад гаспадынь руплівых
да дзетвары шустрай.
Бляюць авечкі і козы,
ціха мычаць каровы.
Людзі ўздоўж пасталі,
як каравул ганаровы.

Людзі рады жывёле.
Ціха каровы рыкаюць,
знаюць, што іх сустракаюць,
рады, што іх чакаюць.

Верш хочацца цытаваць увесь, цалкам. Дарэчы, цытату гэтую я бяру з томіка ў «Бібліятэцы беларускай паэзіі», які мне ў 1973 г. падараваў і падпісаў Анатоль: «Дарагі Янка, гэта добра, што ідзем разам з вясны ў лета… і хай шуміць славянскае веча!»

А «Сялянскае вяселле» Брэйгеля Мужыцкага! Вялікае застолле. Аднак маладых нідзе не відно. На пярэднім плане толькі два ежаносцы з нейкім вялікім, наспех збітым з дошак паддонам, на якім стравы ў місачках, ды, побач з разносчыкамі закусак, яшчэ, мусіць, віначэрп, чашнік, які пералівае віно з большага гляка ў меншы збанок, і малое, што амаль прысланілася да парожніх ужо ад хмельных напіткаў гарлачоў і есць нейкі блін ці праснак. І яшчэ на пярэднім плане дудары! Ага, дудары!

А «Сялянскі танец»! Уся вёска на вуліцы. Усе скачуць. Хто шчыра падымае ногі, хто ўжо круціць дзяўчыну, хто яшчэ бяжыць да танца, а хто ўжо вунь, зірніце, і цалуецца. І зноў жа на пярэднім плане — дудар!

Дудар? Дуда? Гэты, здавалася мне, такі ўжо наш, беларускі музычны народны інструмент — скураны мяшок, з устаўленымі ў яго трубкамі ды соскаю, які ціскаецца рукамі, — і Фламандыя, Нідэрланды? Ага, і Галандыя таксама! І ў Шатландыі, як і ў нас, дуда — асноўны нацыянальны інструмент. Ён, аказваецца, свой амаль усяму свету! Толькі ўсюды па-рознаму называецца: у рускіх гэта валынка, у балгар — гайда, у палякаў — каза, у чувашоў — сарнай.

Ага, «Сялянскі танец» Брэйгеля — гэта танец рухаў, а не людзей. Усё струменіцца, хвалюецца, імчыцца. Зірніце, на ўсёй карціне не знойдзеце ніводнага падобнага руху.

«Гледзішча ж у цэлым нараджаецца з сувязі ўсіх рухаў у асаблівым, часавым, парадку, калі рухі ідуць адзін за адным, — піша венгерская даследчыца творчасці Брэйгеля Ева Селяшы — паднятая нага жанчыны, што знаходзіцца справа, нібы заканчвае свой рух у руху нагі партнёра, якая ўжо топае аб зямлю». Здорава! Якое тонкае назіранне!

А «Танец на вяселлі»! Столькі людзей! І такі віхор закручаны з іх, гэтых людзей!

О, як жа шчыльна ўвесь свет Пітэра Брэйгеля заселены людзьмі! Асабліва гэта відаць і ў ягонай карціне «Вавілонская вежа».

Вавілонская вежа — гэта нават не вежа. Гэта — горад. Вялікі, як цяпер бы сказалі, мегаполіс. І нават не горад гэта, а цэлая краіна. Не, не, не — і не краіна гэта, а ўся зямля. Так бы мовіць: зямля на зямлі. Зямля, у якую хацелі, пэўна,ператварыць усю зямлю стваральнікі гэтай недасяжнай у вышынях вежы.

Вежа прыгнятае ўвесь навакольны пейзаж, выціскае вакол сябе ўсё жывое, — нават паветра. Яна ўжо засланяе сабою ўсе далягляды. А вежа ж яшчэ толькі будуецца!

Бессэнсоўная маса, якая недарэчна прарастае ў воблакі, выклікае трывогу. Спачатку, з першага погляду гэтая будова здаецца нам зусім парожняю, нежылою. А потым, калі пачынаеш разглядаць яе фрагментамі, бачыш, як жа яна, вежа-страшыдлішча, перанаселена! І як менавіта яна ператварае людзей, тых, хто працуе на ёй, стараецца, увіхаецца, шчыруе, быццам бы ў мурашак, а сама сябе — усяго толькі ў вялізны мурашнік.

Вось вуліца. Яна ўся ў двухколках. Яны некуды едуць, нешта вязуць. Раз, два, тры… пяць. Аж пяць калёс!

Вось яшчэ нейкая вуліца. Ідзе ўгору. Ад яе, таксама ўверх, усходцы, ужо выдзеўбаныя ў створанай скале. Прыступкі да ячэек — акон, дзвярэй, уваходаў.

Вось ярусы, у якіх працуюць людзі. У новых, пачатых ячэях, прыслоненыя да сцен лесвіцы, на якіх — будаўнікі: яны ці то ўздымаюцца наверх, ці то, наадварот, спускаюцца ўніз. А вось тут з ніжняга яруса падымаюць, цягнуць наверх, здаецца, двухколку, вельмі ж падобную на якуюсьці гармату — яна, адчуваецца, цяжкая-цяжкая…

Зноў зірнуў на гэтаю змрочную збудовіну цалкам — Вавілонскую вежу. Халодная і мёртвая будыніна. І зноў жа — здаецца, бязлюдная. Нідзе няма ані чалавека. Хоць бы адзін — на развод, для прыліку. Нават ведаючы ужо, што яна — перанаселеная, анікога не бачу.

Вось што значыць іншы маштаб погляду.

Не, несумненна, якраз вось гэты том «Усеагульнай гісторыі мастацтва» я цягнуў тады з Уладзівастока!

Успомнілася, што тады, калі, вяртаючыся, у цягніку, у сваім купэ, мы з Уладзімірам Дамашэвічам разглядалі гэтую кнігу, якая папоўніць маю бібліятэку, Уладзімір Максімавіч, захапляючыся «Жнівом» ды «Сенакосам», здаецца, таксама здзіўляўся:

— Глядзі ты, як у нас усё роўна…

Значыць, усё ж трэці том «Усеагульнай гісторыі мастацтва» я прывёз аж з Далёкага Усходу. Той, на супервокладцы якога — нязвычны, не падобны ні да якога іншага партрэт Евы, створаны вялікім Мікеланджэла як фрагмент фрэскі «Грэхападзенне» з распісанага ім плафона Сіксцінскай капэлы ў Ватыкане.

Не, няхай «Усеагульная гісторыя мастацтваў» таксама пастаіць пакуль на маіх кніжных паліцах.

## 5

А за «Несвоечасовыя думкі» Максіма Горкага я ўступіў аднаму прайдзісвету сваю мэблевую чаргу на сценку «Кандыдат», якіх тады было не дастаць.

Кніга чыталася да мяне, у ёй ужо былі адкрэслены некаторыя абзацы. Да прыкладу, вось гэты:

«Вельмі верагодна, што мае думкі «наіўныя», я ўжо гаварыў, што лічу сябе дрэнным публіцыстам, але ўсё-ткі з упартасцю, вартай, можа быць, лепшага скарыстання, «я буду прадаўжаць сваю лінію», не бянтэжачыся ад таго, што «глас» мой застаецца «гласом вопиющего в пустыне», на жаль! — не бязлюднай.

З кніжнага рынку амаль зусім знікла добрая, сумленная кніга — найлепшы сродак асветы. Чаму знікла, — пра гэта іншым разам. Няма талковай, аб’ектыўна-павучальнай кнігі, і распладзілася мноства газет, якія з дня ў дзень вучаць людзей варожасці і нянавісці адно да аднаго, паклёпнічаюць, кешкаюцца ў падлейшым брудзе, равуць і скрыгочуць зубамі, нібыта працуючы над вырашэннем пытання пра тое, хто вінаваты ў разрусе Расіі?..

Счапіўшыся адна з адной, газеты качаюцца па вуліцах клубком ядавітых змей, атручаючы і палохаючы абываценя злосным шыпеннем сваім, вучачы яго «свабодзе слова» — дакладней кажучы, волі перакручвання праўды, волі паклёпу…

Вольнае, свабоднае слова паступова робіцца непрыстойным словам…

Якая атрута цячэ і пырскае са старонак той паганай паперы, на якой друкуюць газеты!»

І гэта «Несвоечасовыя думкі»?! Нішто сабе — «несвоечасовыя»! Своечасовыя! Ды яшчэ і як да часу! Яны нібыта сёння напісаны. Ці, можа, толькі ўчора…

Ды гары ён гарам, той «Кандыдат»! А гэта ж кніга!

«І я асабліва падазрона, асабліва недаверліва адношуся да рускага чалавека ва ўладзе, — нядаўні раб, ён робіцца самым разбэшчаным дэспатам, як толькі набывае магчымасць быць уладаром блізкага свайго».

Ну, ведаеце, такое… Адным словам, незнаёмы Горкі!

Мы ж ведалі М. Горкага-публіцыста ў асноўным па ягоным нарысе «Ул. І. Ленін». Памятаеце:

«Быў ён просты і непасрэдны, як і ўсё, што гаварылася пра яго».

«Ленін, знешне, увесь у словах, як рыба ў лусцэ».

І з пісьма Леніна Горкаму:

«А ў вас крывахарка́нне і Вы не едзеце!!! Гэта ж і напраўду і бессаромна, і нерацыянальна.

У Еўропе, у харошай санаторыі будзеце і лячыцца і ўдвая болей справу рабіць. Далібог. А ў нас — ні лячэння, ні справы — адна мітусня. Марная мітусня. Едзьце, вылечыцеся. Не ўпарціцеся, прашу Вас!»

Ну і, зразумела, вядомае ўсім яго, Леніна, выказванне пра Льва Мікалаевіча Талстога:

«— Якая глыба, га? Які мацёры чалавечышча! Вось гэта, бацюхна, мастак… І ведаеце, што яшчэ ўражвае? Да гэтага графа сапраўднага мужыка ў літаратуры не было.

Потым, гледзячы на мяне прыжмуранымі вочкамі, спытаўся:

— Каго ў Еўропе можна паставіць побач з ім?

Сам сабе адказаў:

— Няма каго.

І, паціраючы рукі, засмяяўся, задаволены».

Нават Франц Кафка, гэты экспрэсіяніст, экзістэнцыяліст, мадэрніст, майстар абсурду, які парваў з рэалістычнымі традыцыямі, у сваіх гутарках з Густавам Яноўхам, маладым пражанінам, што хадзіў за ім ценем і ўсё запісваў (гэта стала потым кнігаю «Размовы з Кафкам») прызнаваўся ў сваёй сімпатыі да Леніна і да Горкага і здзіўляўся, як цікава піша Горкі свае ўспаміны.

Прачытаўшы чэшскі пераклад згадак Максіма Горкага пра Льва Талстога, Кафка сказаў:

— Дзіўна, як Горкі малюе характэрныя рысы чалавека, не даючы сваёй ацэнкі. Я хацеў бы прачытаць яго заметкі пра Леніна.

— А хіба Горкі ўжо надрукаваў успаміны пра Леніна, — спытаўся Яноўх.

— Не, ён гэтага яшчэ не зрабіў. Але я думаю, што ён калі-небудзь абавязкова іх апублікуе. Ленін сябруе з Горкім. А Максім Горкі бачыць і ўсё адчувае пяром. Гэта відно па нататках аб Талстым. Пяро не інструмент, а орган пісьменніка.

Кафка прадбачыў, што Горкі абавязкова напіша свае ўспаміны пра Леніна!

Нарыс пра Леніна адкрывае кнігу М. Горкага «Партрэты» ў ЖЗЛ. Вялікі басяк, грузчык, пекар, дворнік, і славуты пралетарскі пісьменнік Аляксей Максімавіч Пешкаў расказвае ў ёй, успамінае, згадвае, знаходзячы кожнаму, пра каго піша, свой штрышок, сваё бачанне яго жыцця і творчасці, пра тых, каго ведаў і з кім быў знаёмы ды сябраваў: Чэхаў, Стасаў, Кацюбінскі, Леў Талстой, Леанід Андрэеў, Сава Марозаў, Сяргей Ясенін, Іван Паўлаў ды Іван Вальноў. Вось, да прыкладу, што ён піша пра Вальнова:

«Іван Ягоравіч Уладзіміраў — Іван Вальноў, селянін, вясковы настаўнік — з'явіўся на востраве Капры ў 1909 ці 1910 годзе. Да гэтага ён жыў недзе каля Генуі, здаецца, у Каві-дзі-Лаванья, а туды прыехаў з сібірскай ссылкі. Сасланы быў як член партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, арганізатар аграрнага руху ў

Малаархангельскім павеце Арлоўскай губерні, — да ссылкі сядзеў некалькі месяцаў у славутым садычнай жорсткасцю Арлоўскім «цэнтрале», катаржнай турме. Там турэмныя наглядчыкі некалькі разоў збівалі яго, а аднойчы, збіўшы да страты прытомнасці і кінуўшы ў карцар, аблілі салёнаю вадою; раствор гэты раз'еў сінякі і раны, пакінуўшы на скуры глыбокія рубцы».

Ссылку Вальноў адбываў у глухім сібірскім сяле. Ён працаваў батраком у заможных сялян, заслужыў іх павагу, і яны — па сваёй волі! — арганізавалі яму ўцёкі. Пра гэтыя ўцёкі расказвае ўжо сам Вальноў:

«Мужыкі там былі — добрыя, пісьменныя, я даволі шчыльна ўкрапіўся ў іх жыццё, працаваў, прапагандаваў і пра ўцёкі — не думаў. Але неяк уночы прыходзяць двое — і ўсцешылі: «Прыехаў ураднік з паперай, кажа, што цябе патрабуюць назад, у Расію, там яшчэ нешта адкрылася за табою, і табе, за грахі, дадаць трэба. А мы цябе лічым чалавекам харошым, дык ты ўцякай! Ураднiка напаілі, спіць, прачнецца — яшчэ напоім. Пра цябе яму сказана, што ты на паляванне ўчора пайшоў. Конь — запрэжаны, вось ён адвязе цябе; даедзеш да сваіх». Я ўцяміў, што начальства дарэмна ў Маскву не пакліча, а калі запатрабавала — значыць, ці катаргай пачастуе, ці павесіць. Вешалка мне пагражала; я быў арганізатарам баявой дружыны, удзельнічаў у эксах; атрымліваючы на поўдні літаратуру з Грэцыі, быў высачаны шпіёнамі, давялося страляць, аднаго, здаецца, укакошыў. Увогуле павесіць мяне было за што, ну і — акрамя таго — шыя ёсць. Расцалаваўся з прыяцелямі і — гайда! Ціхенька, чарапахай, прапоўз па Расіі; патаўхаўся сям-там за мяжою, вось — кінула сюды».

А калі ў яго спыталіся, ці спадабалася Еўропа, ён адказаў асцярожна:

«А не ведаю яшчэ! Страката вельмі ў вачах, і таўпёж у галаве. Ну, ведаеце, адразу бачыш: тут пабудавана, назапашана болей, чым у нас. Зямлю песцяць — цудоўна».

Ладны том твораў Івана Вальнова са шчырым подпісам яшчэ ў студэнцкія гады падараваў мне аднакурснік па журфаку Ваня Старавойтаў. Той Ваня, асобу якога мы абмяркоўвалі потым на камсамольскім сходзе, — ён хацеў паступіць у партыю, а мы чамусьці задумаліся ў тым, ці апраўдае ён як член КПСС гэтае наша вялікае давер'е. Потым Ваня працаваў недзе ў разведцы ў Скандынавіі, потым у Міністэрстве замежных спраў Савецкага Саюза, затым, пенсіянерам ужо, як кіраўнік дэлегацыі прывозіў у Беларусь, у Брэст, вялікую групу ветэранаў Міністэрства замежных спраў СССР. Першаму ён пазваніў мне. Ды сустрэцца тады нам, аднакурснікам, — час, час абмежаваны! — так і не ўдалося.

Аднак вернемся зноў да Максіма Горкага, да яго «Партрэтаў».

Гэта кніга выйшла ў серыі «ЖЗЛ» у 1963 годзе. Акурат да яе трыццаціголдзя. Значыць, серыя ўжо актыўна і напорыста працавала аж трыццаць гадоў. Парадкавы нумар «Партрэтаў» — 358. Значыць, трыста пяцьдзесят восем кніг пра славутых людзей свету ужо трымалі ў руках і мелі ў сваіх бібліятэках мільёны ўдзячных чытачоў!

«Жыццё славутых людзей» — гэтая ідэя поўнасцю належыць Максіму Горкаму. Ён, здаецца, і нарадзіўся з ёю, і пражыў, шануючы яе, усё сваё жыццё.

Максім Горкі задумаў, выпеставаў і разам са сваімі памочнікамі ды прадаўжальнікамі ажыццявіў гэтае цікавае і вельмі патрэбнае для моладзі выданне.

Ён пра гэтую серыю думаў, мусіць, заўсёды.

Яшчэ ў 1916 годзе Максім Горкі звяртаецца з пісьмом да Герберта Уэлса:

«Я прашу вас, Уэлс, напісаць кнігу для дзяцей пра Эдысана, пра яго жыццё і працы. Вы разумееце, як неабходна кніга, якая вучыць любіць навуку і працу».

І тады ж ён угаворвае Рамэна Ралана:

«Вельмі прашу Вас напісаць біяграфію Бетховена для дзяцей. Фрыціёф Нансен дае «Жыццё Хрыстафора Калумба» і г. д.»

Праз некалькі месяцаў Аляксей Максімавіч адсылае пісьмо К. А. Ціміразеву:

«… Я прашу вас, ці не возьмеце Вы на сябе працу скласці біяграфію Дарвіна».

Тады, на вялікі жаль, гэтыя высакародныя задумы не ажыццявіліся. Аднак біяграфіі і Эдысана, і Бетховена, і Дарвіна ўсё ж выйшлі. Толькі крыху пазней — ужо, як кажуць, за савецкім часам. У серыі «Жыццё славутых людзей».

А першая кніга ў «ЖЗЛ» — «Дантэ» А. Джывілегава — пабачыла свет у 1933 годзе.

Горкага ў юнацтве я любіў. Збіраў усё, што датычылася яго сувязяў з Беларуссю, з беларускай літаратурай. А такіх стасункаў, на мой погляд, было нямала.

Найперш — сяброўскія сувязі з абодвума нашымі Багдановічамі — бацькам, Адамам Ягоравічам, і сынам, Максімам Адамавічам.

Вось як пра гэта расказвае Ніна Барысаўна Ватацы, былы галоўны бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, у сваёй кнізе «Шляхі», якую яна шчыра падпісала маёй жонцы: «Дарагой Раісе Фёдараўне Сіпаковай на добры ўспамін аб сумеснай рабоце, клопатах і хваляваннях». Дарэчы, Раіса Фёдараўна, якая доўгі час працавала ў нашай галоўнай бібліятэцы загадчыкам сектара, з'яўляецца і сааўтарам-складальнікам рэкамендацыйнага бібліяграфічнага даведніка «Беларуская літаратура», выдадзенага ў Маскве ўсесаюзнай «Кніжнай палатай» пад грыфам Дзяржаўнай ордэна Леніна бібліятэкі СССР імя Ул. І. Леніна».

Дык вось Ватацы піша:

«У 1896 г. сям'я Багдановічаў пераязджае ў Ніжні Ноўгарад. Тут Адам Ягоравіч знаёміцца з Аляксеем Максімавічам Горкім. З гэтага часу і пачалася іх дружба, пра якую так цёпла пісаў Адам Ягоравіч у сваіх успамінах пра Горкага.

Праз тры гады сем'і іх парадніліся. У 1899 г. Адам Ягоравіч ажаніўся з роднай сястрой жонкі Горкага — Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай. Ёсць сямейнае фота тых гадоў. Стаяць Аляксей Максімавіч і Адам Ягоравіч, на пярэднім плане — сёстры Волжыны — Кацярына Паўлаўна Пешкава з маленькім сынам Максімам і Аляксандра Паўлаўна Багдановіч.

Па сведчанні самога Адама Ягоравіча, Аляксандра Паўлаўна была добрай маці ягоным дзецям. Ды спакой і шчасце ў сям'і Багдановічаў былі кароткімі. Нарадзіўшы сына, Аляксандра Паўлаўна памерла ад родаў. Сына яе назвалі Аляксандрам, выхоўваць яго ўзялі да сябе Кацярына Паўлаўна і Аляксей Максімавіч. Але пражыў Шурык нядоўга. Ён памёр ад дызентэрыі, калі яму было 5 гадоў».

М. Горкі пісаў пра А. Багдановіча: «Прыязджаў святлейшы князь, і Адам меў трыумф. Князь дзякаваў яму за парадак <u>раней</u> за ўпраўляючага (банка) і <u>пры</u> ўпраўляючым».

І самому Адаму: «Заўсёды мяне вабіла нястрымнасць энергіі Вашай, і — разумееце — рады я ведаць, што гэтая энергія не згасла».

Сам А. Багдановіч напісаў свае ўспаміны пра Горкага «З жыцця Аляксея Максімавіча Пешкава». Надрукаваў іх у кнізе «М. Горкі на Радзіме». Іх правілі, падкарацілі. Ён абураецца: «Гэта чорт ведае што! Што яны там зрабілі з маім рукапісам?» Але ўспаміны ўсё роўна хваляць — у «Літаратурным аглядзе», да прыкладу: «Яны напісаны жыва, выразна, акрэслены ў іх вобраз Горкага канкрэтны і дынамічны».

А гэты — лае. І хто б вы думалі? Плехаў! Адзіны з сяброў, што застаўся.

Той Плехаў, «які абавязаны мне, — скардзіцца Адам Ягоравіч, — усёй сваёй кар'ерай», піша: «Палавіну прачытаў уважліва, астатняе толькі прагледзеў: надакучыла, брыдка стала. Дзіцячыя думкі, усё вельмі павярхоўна, а галоўнае — брахня і самаўсхваленне, самарэклама».

«Ну, ведаеш, — скардзіцца Адам Ягоравіч, — усяму ёсць межы, але вінаваціць чалавека ў хлусні і карыслівых мэтах за кошт папулярнасці свайго старога друга — гэта ўжо занадта». І апраўдваецца:

«Пры тым я ж пісаў пра тое, што рабілася на вачах Кацярыны Паўлаўны Пешкавай, якая ўсё гэта чытала ў рукапісе і ніякіх заўваг і правак не зрабіла».

І яшчэ за адно Адам Ягоравіч, хоць і з лёгкім сумам, але ўсё ж сердаваў, гневаўся.

Ён — вядомы беларускі этнограф і фалькларыст, мовазнавец, навуковец, займаецца навуковай і літаратурнай дзейнасцю, друкуецца ў выданнях Акадэміі навук. Ён напісаў і выдаў навуковыя кнігі «Пра паншчыну», «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў», двухтомнік «Мова зямлі. Утварэнне моварачных імёнаў і тых, што ад іх паходзяць».

Ён зрабіў шмат запісаў беларускага фальклору. Частка іх надрукавана ў «Матэрыялах для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» Паўла Шэйна. У рукапісах засталіся яго працы — двухтомнік «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх» і «Этнічны склад беларускага народа».

Праўда ж, уражвае?

Вось кніга з маёй бібліятэкі — факсімільнае выданне навуковай працы Адама Багдановіча «Пережитки древняго міросозерцанія у белоруссовъ. Этнограграфическій очеркъ А. Е. Богдановича. Гродна. Губернская Типографія. 1895». Кніга, якую я вельмі шаную. Кніга, якую, падараваную яму, чытаў Максім Горкі і на якой зрабіў каля трыццаці адзнак.

Вось толькі кароткі прадметны паказальнік яе:

Аўлассе — конскае свята. Вампіры. Вялікадні (пасха). Веснянкі — песні. Вір — месцазнаходжанне вадзяніка. Сустрэча з ваўком, зайцам, з папом, з поўнымі вёдрамі. Ведзьмы-кароўніцы. Дзяды. Змей-грашаносец. Калыханне парожняй люлькі. Калядоўшчыкі. Куцця. Русалкі. Суроцы. Тлумачэнне сноў. Хатнік. Чараўнікі. Шопты (загаворы). Шчодрык. Юр'ева раса і інш.

Без цытавання гэтай кнігі і да сёння не абыходзіцца ніводнае сур'ёзнае даследаванне беларускага фальклору.

Працытуем і мы:

«Нельга размаўляць цераз парог ці праз акно: гэта да сваркі.

Нельга спаць перад заходам сонца: захварэеш на ліхаманку.

Нельга класці нож вастрыём угору: будзе непрыемнасць.

Нельга наступаць на саломенкі, якія ляжаць крыж на крыж: можа забалець нага».

І вось такія «перажыткі» непрыхільна асуджае Адам Багдановіч:

«Мы выбіралі з іх самае тыповае і найбольш распаўсюджанае ці, на нашу думку, каштоўнае для навукі. Аднак і з прыведзенага дастаткова відно, якой густой сеткаю прымхаў і забабонаў аблытаны розум беларуса, як зацемнена яго мысленне параджэннямі першабытнага мораку і як неабходна святло навукі, святло сапраўднага пазнання, каб рассеяць усе гэтыя прывіды, усё гэта царства цемры…»

І ты ўжо, дарагі мой чытач, можа, як і я, не з усім тым згаджаешся, пра што піша шаноўны Адам Ягоравіч, а з нечым, магчыма, хочацца нам з табою і паспрачацца з ім. Гэта наконт «царства цемры»…

У сваёй добротнай прадмове да гэтага факсімільнага выдання Алесь Бельскі слушна гаворыць:

«Безумоўна, у сучаснага чытача Уводзіны да яе (да гэтай кнігі) могуць выклікаць супярэчлівае пачуццё. Тут аўтар выступае з пазіцый адукаванага на расійскі манер тутэйшага інтэлігента, які з кніжак ідэалістычна ўспрымаў культуру рускага

народа, спрабуючы быць, на ягоную думку, падкрэслена аб'ектыўным да духоўнага жыцця беларусаў».

«БелСЭ» у артыкуле пра Адама Ягоравіча піша: «Багдановіч Адам (Адольф) Ягоравіч (20.3.1862, м. Халопенічы Мінскай губ. — 16.4. 1940), беларускі этнограф і фалькларыст, мовазнавец, бацька М. Багдановіча. З сям'і былога прыгоннага».

«Бацька Максіма Багдановіча». І ўсяго толькі? Ён, аўтар столькіх навуковых прац, і адно — «бацька»? Вось што ён з гэтага выпадку гаворыць. Цытую Н. Б. Ватацы, якая ў сваю чаргу цытуе Адама Ягоравіча — так бы мовіць, цытата ў цытаце:

«У тым пісьме ў Вільню ад 1939 года ён з лёгкім сумам скажа: «… бацька паэта» (мой тытул у Беларусі)».

Гэта быў той выпадак, калі сын узвысіўся над бацькам. І бацька, які спачатку не ўспрымаў усур'ёз літаратурных захапленняў сына, не зразумеў гэтага! А што тут, скажыце, дрэннае: «бацька славутага паэта»?

Аднак я адназначна перакананы, што, калі б не было бацькі, Адама Ягоравіча, калі б не было захаплення яго беларускім фальклорам і міфалогіяй, калі б не было вялікай бацькавай бібліятэкі, дзе любіў праводзіць час сын, не было б Максімавых перакладаў з Авідзія, Шылера, Гейнэ, Верлена, Вярхарна, Святагора, Пушкіна, Майкава, а таксама, мусіць, у беларускай літаратуры так і не з'явіўся б такі шэдэўр, якім з'яўляецца першая — і класічная! — кніга Максіма Багдановіча «Вянок», што выйшла ў 1913 годзе ў Вільні і надрукавана ў «друкарні пана Марціна Кухты».

Мая бібліятэка ганарыцца, што ў яе ёсць і факсімільнае выданне «Вянка» Максіма Багдановіча.

А Адам Ягоравіч, мусіць, хацеў, каб усё было наадварот — каб нашы энцыклапедыі пісалі «Максім Багдановіч — сын А. Я. Багдановіча».

Праблема: бацькі і дзеці…

Аднак вернемся зноў да Максіма Горкага.

Значыць, ён любіў Беларусь і паважаў беларусаў.

Гэта ж ён у Расіі заўважыў зусім невядомых яшчэ Янку Купалу і Якуба Коласа і шчыра падтрымаў іх: «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — цікавыя хлопцы… Пішуць проста, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы крыху гэтых якасцей».

Пераклаў на рускую мову купалаўскі верш «А хто там ідзе», які называў гімнам беларусаў. Дарэчы, і ў кнізе «А хто там ідзе» на мовах свету (восемдзесят тры мовы! Падарункавае выданне!) гэты верш на рускай мове друкуецца ў перакладзе Максіма Горкага.

Дайце веры, Горкі быў падпісчыкам і чытачом першай беларускай газеты «Наша ніва»! Глыбока ведаў беларускі фальклор. Высока цаніў паэму «Адвечная песня» Купалы і яшчэ ў 1911 годзе прапанаваў перакласці яе на рускую мову. А потым на рукапісе Купалавага верша «Лён», які праспяваўся ў Ляўках, Аляксей Максімавіч напісаў: «Славно!»

Затым «вялікага пралетарскага пісьменніка» Беларусь цёпла сустракала, калі ён вяртаўся ў СССР з Італіі, на станцыі Негарэлае, што на той час была ў Савецкім Саюзе памежнаю. Сярод тых, хто сустракаў, былі і беларускія пісьменнікі Я. Купала, Ц. Гартны, А. Александровіч, К. Крапіва, П. Галавач і інш.

Затым пачынальнік савецкай літаратуры падчас першага з'езда савецкіх пісьменнікаў, які Горкі і арганізоўваў, і праводзіў, запрасіў да сябе вялікую групу беларускіх пісьменнікаў, дэлегатаў з'езда, сярод якіх былі Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Галавач, А. Александровіч, І. Харык, М. Клімковіч…

Вядома ж, я любіў, як і ўсе тады, рэалістычныя апавяданні Горкага «Чалкаш», «Дзед Архіп і Лявонка», «Два басякі», «Па дарозе»… А «дзедка» — так зваў Горкага ўнук — больш за ўсё цаніў сваё «Нараджэнне чалавека». Памятаеце, як лірычны герой — сам аўтар — прымае выпадковыя роды ў стэпе, у выпадковай жанчыны. Тады гэтыя і іншыя творы Горкага вывучаліся ў школе.

Захапляўся ягонай трылогіяй: «Дзяцінства», «У людзях», «Мае ўніверсітэты». Раздумваў над яго раманамі: «А был ли мальчик?». А «Песня пра буравесніка»! А ягоныя п’есы! «На дне»! Сацін, які абараняе чалавека ў чалавеку…

Аднак больш за ўсё мяне ўзрушыла, усхвалявала апавяданне Аляксея Максімавіча «Страсці-мардасці?».

Хвалілі яго ўсе. Сам Горкі гэтае апавяданне лічыў сваёй творчай удачаю.

Дзе ж гэта мой шаснаццацітомны, аганькоўскі, Збор твораў Максіма Горкага? Што, ужо збіраешся спакаваць яго ў скрынку? А ў якім жа гэта томе «Страсці-мардасці?»? Ага, вось ён…

Памятаю першае ўражанне ад яго: геніяльна! Забываешся пра ўсё на свеце і толькі сочыш за шчырымі перажываннямі трох асоб, якія дзейнічаюць тут.

П’яная жанчына пялёхаецца ў лужы. Крычыць, спявае, лаецца. Мужчына, які праходзіць побач, хоча завесці яе дадому. Жанчына не даецца. Але, нарэшце, згаджаецца: «Идем, милый, я тебя приму. Я те дам утешеньице». Нейкая трушчоба, нейкі паўпадвал. Цемра — нічога не відаць. Дванаццацігадовы хлопчык ляжыць на нейкіх рызманах. «Вот какие ноги. Обе такие, с роду. Не ходят, не живут, а — так себе». «А что это в коробочках?» — «Зверильница». «Шевелиться кто-то…»— «Ага! Это поучишка там сидит, подлец!». «Таракашки… Муха… Жук». — «Бабочков и мотыльков нет у меня»… «Она всегда радуется, когда мужчины в другой раз приходят. Вот, — любит мужчинов, шкуреха, — проста беда! Она смешная девчонка, мамка у меня. Пятнадцати лет ухитрилась — родила меня и сама не знает — как!» А ты с ней ляжешь?» — «Зачем?» — «А все ложатся»… «Мамка, помой окошко — ничего не видно». «Мамка, вынеси меня на двор». «А то — останьтесь. Я рожу-то платком прикрою. Хочется мне за сына поблагодарить вас… я — закроюсь, а?» Яна — з праваленым носам. Але… «Я уже не заразная». Малы — як усё роўна гаспадар. З маці смяецца, пакеплівае: «Раз, пьяная, села на зверильницу мою, так столько подавила». «Жучки, тараканы, мухи разбегаются… Лови их!»

Душна! Няма чым дыхаць! Густа, моцна, буйна. Здорава і назаўсёды!

*Заканчэнне ў наступным нумары.*



Павел НАДОЛЬСКІ



Павел Надольскі нарадзіўся ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (2002). Аўтар двух паэтычных зборнікаў, мае шэраг публікацый у розных айчынных выданнях.

# НОЧ І ЗОРЫ

* * *

Часамі, бывае, здаецца,
што нервы, нібыта струна,
якая ледзь-ледзь не парвецца —
так моцна нацята яна.

Часамі, бывае, здаецца,
што ад неадступных нягод
не тое, што сэрца не б’ецца,
а б’ецца, як рыба аб лёд.

Часамі, бывае, здаецца,
што дыхаць даўно няма чым,
аж лямант з грудзей маіх рвецца.
Няма чым ім дапамагчы.

Часамі, бывае, здаецца,
што вочы не могуць глядзець,
што з гэтых вачэй не сарвецца
салёная кропля ледзь-ледзь.

Часамі, бывае, здаецца,
што вушы не чуюць здаўна
і ўсё, што да іх не праб’ецца,
свядомасць турбуе дарма.

Часамі, бывае, здаецца,
што вуснаў нічым не спыніць,
ды толькі з іх радасць не льецца
і сэнсу губляецца ніць.

Часамі, бывае, здаецца,
што час гэты не для мяне…
Ці, мо, гэта толькі здаецца
і ўсё гэта з часам міне?

**ТРЫЯЛЕТ**

Так кожны раз, як светлы маладзік
губляе ў вокнах позірк задуменны,
гадзіннік размаўляе з ім насценны.
Так кожны раз, як светлы маладзік
сыходзіць і жыццё цячэ нязменна,
здаецца мне, што я таксама знік…
Так кожны раз, як светлы маладзік
губляе ў вокнах позірк задуменны.

**ЧЫРВАНЬ**

Чырвань. Цёмная, густая,
амаль чорная.
Цёплая, як глеба
у гарачыню.
Мяккая, як вечар,
калі збіраюцца прыцемкі
і зоркі пачынаюць яго святкаваць,
і паветра такое ж густое,
бо ветрык не дзьме, і так ціха,
што недзе чуваць галасы.
Глухія, нібыта з гары далятаюць...
Мо Бог?.. Гэта Ты?
Ты гаворыш з ільдом небасхілу?..
Ціха зноў. Толькі ноч і зоры.
Дрыжаць, мільгацяць
і робяцца сведкамі,
як цёплую чырвань зямля глытае,
прагна смокча і п’е
да апошняй ейнай
гарачай кроплі.

Так, так заўжды, калі
дзве цеплыні зліліся…

* * *

Што чалавек, калі ён не жыве,
калі яго не сцерагуць пакуты,
калі ён жылы сам сабе не рве,
калі з жалеза часам ён не скуты?

Што чалавек, калі яго рука
адное здольна коўзаць па кішэні,
калі ў душы ніводнага радка,
а страх паставіў волю на калені?

Што чалавек, калі сваёй хлуснёй
ён забівае прыгажосць і веру,
бо можа бараніцца толькі ёй,
бо толькі ёй адчыненыя дзверы?

Што чалавек, калі яго няма
ў тым месцы, дзе ён больш за ўсё
патрэбны?
Жыццё такога страчана дарма
і шлях яго павінен быць ганебным.

Дзе ж Чалавек? Сапраўдны чалавек
у часе нашым дзікім ненажэрным,
які слязу не пусціць з-пад павек
з нагоды той, што кволы і мізэрны?

Дзе Ты? Дзе твая Вера, Моц, Любоў,
якой усім так не хапае востра?
Мо лоб Твой сярод тысячаў ілбоў
узвысіцца, нібыта ў моры востраў?

А, можа, ціха прыйдзеш, каб наш род
увогуле знайсці не змог нічога,
ажыццявіць апошні свой зварот
жывым увасабленнем Пана Бога?..



Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

Глава 2

### ЯК ЗВАЛІЦЬ ДУБ

* * *

— *Добра, а як мы ўсё гэта ў школу зацягнем?* — запытаўся Сеўка, засяроджана жуючы бутэрброд.

— Праз унутраны двор, — паведаміў Антоха. — Я ўжо ўсё прадумаў.

На самай справе нічога ён не прадумаў, і зараз усё ўзважваў на хаду.

— Мы падцягваем усё гэта да варот, я іду ў школу, кажу Васілічу, што забыў красоўкі ў раздзявальні на фізры. Ён бухціць, але мяне пускае. Я бягу тыпу ў раздзявальню, ён са мною не пойдзе, яму будзе ў лом. І я лячу і адчыняю знутры запасны выхад. Там без ключа можна адчыніць, я ведаю. Потым тэлефаную табе і, выходзячы са школы, распачынаю балбатню з вартаўніком. За гэты час ты, Сеўка, забягаеш у школу, нясешся ва ўнутраны двор, Мішка праз вароты перадае табе ўсё, што трэба. Тое, што не ўлезе, давядзецца несці на руках. Я выходжу, адпускаю вартаўніка і праз пяць хвілін далучаюся да вас. Усё зразумела?

— А можа, не трэба? — жаласна запытаў Сеўка, зразумеўшы, што жартачкі скончыліся.

— Трэба, — спыніў спробы ўхіліцца ад аперацыі Антоха.

Па дарозе ў школу Антон увесь час радаваўся, што скеміў гукнуць дужага Мішку. Той цягнуў самую вялікую скрынку, соп, але ўпарта ішоў уперад, зрэзваючы вуглы газонаў і пералазячы цераз невялікія агароджванні, якія аказваліся на шляху. Антон з Сеўкаю неслі ўсё астатняе і ледзь за ім паспявалі.

Калі дайшлі да школы, усё прайшло амаль па плане, нават лепш, таму што вартаўнік глядзеў футбол і не збіраўся адцягваць увагу ні на што іншае — нават на пытанне, якога д’ябла Антон прыпёрся ў школу на канікулах, ды яшчэ і гэтак пазнютка. Адчыніў дзверы і пайшоў глядзець далей. У гэты час можна было некалькі самазвалаў разгрузіць і ў школу пранесці, таму што тэлевізар роў так, што пачуць нешта было проста нерэальна.

Антон быў у неверагодна ўзбуджаным стане. Нервы. Нервы ўканец напятыя, усе пачуцці абвостраныя. Ён нават размаўляць пачаў адрывістымі кароткімі фразамі:

* Працяг. Пачатак у № 1 2011 г.

Мішку:

— Капай!

Мішка, як заведзены, пачаў капаць ямку, каб закласці туды бомбу.

Сеўку:

— Час?

— Хвілін дзесяць, каб усё ўсталяваць. Потым падпаліць і схавацца.

— Добра.

Сеўка панура агледзеўся?

— Баюся, вокны павылятаюць...

— А ты не бойся! — крыкнуў Антон. — Ты працуй.

Антон ужо ў думках прайшоў кропку незвароту. І цяпер, нават калі б вельмі схацеў спыніцца і задумацца над тым, што ён робіць, ужо б не змог. Быццам нейкая сіла пасялілася ў ім і кіравала ўсімі яго ўчынкамі.

Загрузілі, адышлі, раскацілі шнур. Антон узяў у рукі запалкі.

— Зараз я падпальваю, і мы — бягом да запаснога выхаду. Калі рване, ціха выходзім, там ужо не да нас будзе...

Запалала запалка, шнур хутка загарэўся, Антон паклаў яго на зямлю, секунду ўсе зачаравана глядзелі, як агеньчык папоўз па шнуры.

— Ідзем!

Трое сяброў, сагнуўшыся, як на вайне, ірванулі да ўваходу ў школу. Антоха прапусціў сяброў уперад.

Асцярожна заглядваючы за вуглы, хлопчыкі дабраліся да выхаду і замерлі. Час завіс. Секунды стукалі ў вушах, але лічбы на гадзінніку ў тэлефоне змяняліся катастрафічна марудна.

Першым здаўся Мішка:

— Пойдзем адсюль, а-а?

— Не! — адрэзаў Антоха, — трэба дачакацца...

І тут яны пачулі на ўваходзе дзеўчанячы голас.

— Там бойка! Дапамажыце! Там, на вуліцы...

Чуваць было, як Васіліч вылаяўся, але, ляпнуўшы дзвярамі, выйшаў са школы. А па пустым калідоры дробна зацокалі абцасікі.

— Зараз ірване, — збялеў Сеўка.

— Сядзець! Я сам!

Антон ускочыў і ўжо праз хвіліну быў у холе. Паспеў пазнаць Лёлю, паспеў адцягнуць яе ад вакна, што выходзіла на дуб, паспеў заўважыць, што агеньчык шнура ўжо каля дрэва, і з крыкам «Лажыся!» рухнуў сам, цягнучы дзяўчынку за сабою.

А роўна праз секунду ўсё і здарылася. Штосьці бахнула. Ціха, але магутна. Як быццам адкрылі агромністы слоік з салёнымі гуркамі. І святло пагасла. І цішыняяя... Яна распаўзлася па будынку, ахутваючы сабою ўсё, засцілаючы. Здавалася, што цішыню можна пакратаць, яна ватай заляпіла вушы. Антон спрабаваў штосьці сказаць і не змог — вымавіць хоць бы гук не атрымлівалася, цішыня лезла ў рот. Усё гэта больш нагадвала начны кашмар, толькі прачнуцца не атрымлівалася... Да таго часу, пакуль Лёля не пстрыкнула пальцамі.

Кашмар прайшоў, у свет вярнуліся хоць бы гукі. Антон перавярнуўся на спіну і спрабаваў апамятацца. Яму сорамна было прызнацца, што ён спужаўся. Цяпер ён спрабаваў выруліць з сітуацыі. Лёля тым часам паспела ўжо ўсхапіцца і цяпер моўчкі стаяла каля акна, штосьці напружана выглядаючы.

— І што? — запытаў Антоха.

— І ўсё... — незразумела адказала Лёля.

— Паваліўся?

У Антохі адразу адлягло ад сэрца. Відаць, гэта ў яго ад моцнага гуку вушы заклала, пэўна, ірванула, пакуль ён падаў, вось і не скумекаў, што адбываецца.

— Збягаць трэба, пакуль вартаўнік не вярнуўся... — прамармытаў Антон.

Ён падняўся і зірнуў у акно. Аграмадзіна дуба стаяла гэтак жа сама, як і раней. Антоха не паверыў і падышоў бліжэй, стаў побач з Лёляй, утаропіўся ў дворык. Дуб стаяў. Антон прыціснуўся тварам да шкла, імкнучыся выглядзець хоць якія-небудзь пашкоджанні. Дуб стаяў цэлы.

— Шнур, ці што, пагас? — пачаў было Антоха, але адразу ж сябе абарваў.

Калі б шнур пагас, такога бабахання не атрымалася б. Ён зноўку пачаў злавацца на гэтую дзіўную Лёлю.

— Ты чаго сюды з'явілася? — злосна сказаў Антоха.

— Думала, што паспею... Але не паспела...

«Што ў яе за дурная манера размаўляць?! — пакрыўдзіўся Антоха. — Са мной размаўляе, а сама на дуб вытарашчваецца!» Але цяпер трэба было думаць не пра гэта.

— Пайшлі! — пацягнуў ён Лёлю за сабою. — Зараз народ набяжыць!

Лёля зірнула на яго чамусьці з сумненнем, але дазволіла сябе звесці.

Мішка і Сеўка чакалі яго каля запаснога выхаду. Худы падгалісты Сеўка на фоне квадратнага Мішкі глядзеўся, як бусел побач з пінгвінам. «Малайцы! — на хаду падумаў Антоха. — Без мяне не сталі змывацца!»

— Чаго гэта яна тут? — запытаўся Сеўка, але Антоха адмахнуўся.

— Потым разбяромся! — сказаў ён. — Цяпер трэба даваць дзёру!

Антоха тарганyў дзверы. Яны не паддаліся.

— Заклінавала, — змрочна сказаў Сеўка.

«Значыцца, спрабавалі ўсё-такі без мяне...» — падумаў Антоха.

— Выбіваць! — раўнуў ён і адышоў на некалькі крокаў, каб лепей разагнацца.

Але Мішка і Сеўка да яго не далучыліся.

— Не выбіваецца, — уздыхнуў Мішка. — Нават мною не выбіваецца...

## Глава 3.

## У КАЗКУ ТРАПІЛІ

Яны абышлі школу знутры па перыметры. Усе дзверы аказаліся намертва заклінаванымі. Хужэй таго — калі Антоха ў адчаі паспрабаваў разбіць акно ў холе крэслам, тое адскочыла ад шыбы, як ад гумавае сцяны. У астатніх вокнах шыбы таксама не разбіваліся. У адчаі Антоха і яго каманда выскачылі ва ўнутраны двор. Тут Лёля, якая ўвесь гэты час моўчкі суправаджала іх, узняла галаву і бясколерна сказала:

— Неба няма.

Усе міжволі паглядзелі ўверх.

Неба сапраўды не было. Не толькі месяца і зорак — гэта няхай, іх магло проста хмарамі закрыць — уверсе раскінулася нешта выключна чорнае. Самае цёмнае неба ў самую бязмесячную ноч не бывае такім, у ім заўжды ёсць фіялетавае адценне, а гарадское неба ўвесь час падсвятляецца агнямі знізу. Але не цяпер. Зараз усё наўкол асвятлялася быццам само па сабе. Як быццам кожная рэч трошкі-трошкі свяцілася, але гэтага свячэння хапала толькі каб разгледзець агульныя контуры.

— Морак... — сказаў Сеўка.

І потым паглядзеў пад дуб.

— Змрочны морак...

Каструля, у якой была ўзрыўчатка, стаяла цалюткая, але і прыкмет бікфордавага шнура нідзе не назіралася. Сеўка зараз жа палез у яе рукамі.

— Ай! — заверашчаў ён, — пячэ!

— Чаму? — запытаў Антон.

— Не ведаю... — прашаптаў Сеўка.

Раптам зверху расчынілася акно, якое выходзіла ва ўнутраны двор, і пачуўся немы крык:

— Хто туууууут ёёёёсць? Дапамажыыыыце!!!

Падлеткі кінуліся назад у школу, штурхаючыся, узляцелі па лесвіцы і знайшлі Машу-выдатніцу, усю ў слязах і істэрыцы. Маша калацілася ў абдымках Любы Мяцёлкінай. Пры іншых абставінах гэта выклікала б агульны смех: Маша выглядала, як верабейка ў кіпцюрах вялікай добрай кошкі. Але цяпер было не да смеху.

— А вы тут адкуль? — атарапела Лёля.

— А мы матэматыку рабілі, — панура паведаміла Люба. — У мяне «шасцёрка» за чвэрць, а мама сказала, што калі і за год будзе, дык яна... Карацей, я папрасіла Машку дапамагчы. Мы ўжо сабраліся ісці, у калідоры стаялі, калі святло пагасла. А потым...

Любу перасмыкнула, а Маша надрыўна ўсхліпнула.

— Што потым? — Лёля запытала пра гэта такім ціхім, ліслівым голасам, што Машыны слёзы высахлі, не паспеўшы выкаціцца з вачэй.

— А потым, — сказала Машка шэптам, — з дворыка прыляцеў вялікі белы, а потым вялікі чорны... А потым шмат дробных... І яны хіхікалі...

— А потым?

— Потым усё, — сказала Маша. — Толькі цяпер у мяне тэлефон не працуе...

Усе ліхаманкава заляпалі па кішэнях і выцягнулі тэлефоны.

Экранчыкі мабілак амаль сінхронна засвяціліся, і пачуўся агульны ўздых палёгкі... Але рана.

— Дзіўна, сувязь як быццам ёсць, а нават гудкоў няма... — сказаў Антон.

— А час? — усклікнула Люба.

— Што час? — здзівілася Лёля.

— Я ўжо некалькі хвілін спрабую датэлефанавацца, і ўвесь гэты час на экране 18-35. Зламалася нешта?

— І ў мяне 18-35, — ціха сказала Лёля.

— Морак, — паўтарыў Сеўка, гледзячы ў свой тэлефон.

— Ды не раві ты! — прыкрыкнуў Антоха на Машу.

— Мне трэба дамоооў... Я баюююся... Правядзіце мяне да дзвярэээй...

— Дзверы не адчыняюцца, — вяла адказаў Мішка.

— Штооо? — ускрыкнула Маша. — Я дамоў хачу! — і чамусьці пачала крычаць на Любу. — Гэта ўсё з-за цябе! Гэта ты ва ўсім вінаватая!

Люба ўздрыгнула і ўцягнула галаву ў плечы, і цяпер ужо Лёля выключна нязветліва кінула:

— Заткніся!

Маша замерла на паўноце і нават стала здавацца яшчэ больш меншай, чым звычайна.

— Ніхто не вінаваты, — працягнула Лёля. — Ды цяпер гэта ўжо і не істотна, хто вінаваты. Трэба разабрацца, што здарылася.

Усе пачалі пераглядвацца. Спачатку паглядзелі на Лёлю. Накшталт, яна задала пытанне, дык, можа, яна і адкажа. Але Лёля, не адводзячы вачэй, гіпнатызавала

Антоху. І ў яе позірку відавочна чыталася, што разбірацца ў сітуацыі павінен менавіта ён.

У Антохі ажно спіна ўзмакрэла. А ў галаве ў яго была гулкая пустата. Ды трэба ж людзей чымсьці заняць...

— Давайце святло адрамантуем! — знайшоўся ён.

Усе з палёгкай выдыхнулі.

— Я ведаю, дзе пробкі, — паведаміў Сеўка...

...Праз паўгадзіны Антоха зразумеў, што трэба знайсці занятак усім. Таму што пакуль Сеўка лаяўся і корпаўся ў правадках пры няяркім падсвечванні тэлефона, астатнія ўчынілі хныканне. Як толькі супакойваўся нехта адзін, адразу ж пачынаў хныкаць другі. Некалькі разоў зрываўся Мішка і ішоў біць шыбы — беспаспяхова, але хоць душу адводзіў. Маша ўпадала ў істэрыку амаль безупынна, на яе ўжо не звярталі ўвагі, Люба хадзіла па калідоры як цень, перыядычна спрабуючы ўключыць тэлефон, Лёля...

— А дзе Лёля? — страпянуўся Антон. — Лёля! Лёль!..

Сеўка ўпусціў адвёртку, і рэха разляцелася па калідоры. Антон кінуўся направа, потым налева, затым спыніўся. Паспрабаваў успомніць, калі бачыў Лёлю апошні раз, і не змог. Пабег да лесвіцы і натыркнуўся проста на прапажу, якая выплыла на яго з цемры.

— Ты што? — спытаў Антон. — Ты куды хадзіла? Ты нас гэтак больш не палохай!

— Я ў пакой вартаўніка хадзіла, свечкі там знайшла.

Тут Антоха злёгку пасур'ёзнеў:

— Паслухай, а ты не магла мне сказаць, куды ідзеш, а-а? Ты магла хоць камунебудзь сказаць, што выходзіш? І як ты швэндаешся па школе ў цемры? А раптам тут яшчэ нехта ёсць?

— Не крычы, — ціха сказала Лёля. — Ты тут галоўны, і ты павінен быць спакойным. Пойдзем лепш у сталоўку, раптам ежа там засталася.

Антон задумаўся. Я — галоўны... Я і спакойны... Гэта правільна! Але чаму тады Лёля загадвае мне, што рабіць? Калі я галоўны, дык я павінен загадваць... Але яна ж сама сказала, што я галоўны...

* * *

Апамятаўся Антон ужо ў сталоўцы. Лёля расставіла свечкі на стале, і ўсе дружна пачалі абшнарваць халадзільнікі і шафы. Удалося расшукаць толькі соль, перац і пакет лаўровага ліста.

— Ссабойкі ні ў кога няма? — без асаблівай надзеі запытаўся Антон.

Тут Люба густа пачырванела, ляпнула сябе па ілбу (пакінуўшы белы след ад пяцярні) і выбегла са сталоўкі.

— Куды гэта яна? — здзівіўся Сеўка.

— Не ведаю... — пачала было Машка, але перабіла сама сябе: — Вой, у яе ж з сабою пакет быў! Поўны...

Мішка летуценна аблізнуўся. Больш ніхто нічога не шукаў, чакалі Любу. І, як аказалася, недарэмна. Яна з'явілася праз пяць хвілін, на хаду выцягваючы з пакета бохан чорнага хлеба. Мішка тут жа схапіў зазубраны нож, адабраў хлеб і пачаў яго нарэзваць.

— Што-небудзь салодзенькае ёсць? — Сеўка яшчэ больш выцягнуў шыю, каб зазірнуць у пакет.

Антон і Лёля таксама паімкнуліся разгледзець прынесеную ежу і ледзьве не сутыкнуліся ілбамі.

— Там толькі смятана і яйкі, — выбачлівым тонам сказала Люба. — Сырыя. Я зараз звару!

Яна асцярожна паставіла пакет на стол і ўзяла самую вялікую каструлю. Люба сунула яе пад кран, адкрыла яго... і нічога не адбылося. Не палілося, не забулькала, нават не зашыпела, як звычайна бывае, калі адключаюць ваду.

— Дзіўна, — расчаравана прамовіла Люба і панесла каструлю на месца.

— А кран хто будзе закручваць? — строга і разам з тым жаласна запыталіся з-за Любінай спіны.

І тут жа з крана палілася вада.

Усе разам павярнуліся да рукамыйніка.

На яго краі сядзела Ніна Канстанцінаўна, загадчыца сталоўкі, і старанна закручвала кран. Фантастычнасць карціны заключалася яшчэ і ў тым, што Ніна Канстанцінаўна ростам была ў паўметра, не болей.

— Іііііі, — заверашчала на адной ноце Маша, закрываючы вочы рукамі.

— Ні-і-на К-к-канстанцінаўна, а шт-т-то з вамі? — выціснуў з сябе Антон.

— А што са мной? — здзівавалася жанчына, і паправіла прычоску. — Я ў маркоце. Усе шафы парасчынялі, усё параскідвалі, кран адкрылі ды кінулі...

З вачэй Ніны Канстанцінаўны пырснулі слёзы і паліліся безупыннымі струменьчыкамі.

Пакуль Антон стаяў і разважаў, як на гэта можна рэагаваць (шчыра кажучы, больш за ўсё хацелася падставіць тазік пад слёзапад, таму што лужына ўтварылася немалая), ззаду нячутна падышла Лёля.

— Спадар-бацюхна,васпан дамавік, мяне палюбі ды не адмоўся, мой пачастунак прымі, — прамовіла яна нараспеў, працягнуўшы Ніне Канстанцінаўне акраец хлеба, які яна, відаць, толькі што выцягнула з-пад нажа Мішкі.

Слёзы загсталоўкай зараз жа высахлі.

— Пасоленая? — запыталася яна.

Лёля толькі кіўнула.

— Вой, добра! — узрадавалася яна і пачала лопаць акраец так, быццам яе месяц не кармілі.

— Гэта не Ніна Канстанцінаўна... — скеміў Антоха.

Лёля кіўнула.

Цяпер было бачна, што «яно» вельмі падобнае на загадчыцу, але не зусім. Збівалі з панталыку якраз такія ж прычоска, фартух і голас. Але пры больш блізкім і больш спакойным разгледжванні выявіліся вялікія валасатыя рукі і буйныя мужчынскія рысы твару.

Усе сабраліся вакол стала і глядзелі на незразумелую істоту. Толькі Мішка ганебна схаваўся за шырокімі Любчынымі плячамі.

— Гэта дамавік? — ціха запыталася Люба.

— Я Сталавік, — паведаміла істота і аблізнулася. — За акраец дзякуй. Есці схочаце, гукайце. З халадзільнікамі я дамоўлюся, яны пакуль без электрычнасці папрацуюць.

— Як? — выгукнуў Сеўка. — Гэта немагчыма!

— Ххм, — толькі хмыкнуў Сталавік.

— А святло? — запытала Лёля. — Можа, вы і святло зробіце без электрычнасці?

— Навошта? — здзівіўся Сталавік. — Святло мне непатрэбна...

І растаў у паветры.

* * *

Пасля перакусу сітуацыя падалася не такой ужо і безнадзейнай. Толькі Маша працягвала дзьмуцца, але пры яе запалых шчоках гэта не надта атрымлівалася. Люба сядзела блізка ззаду яе, і, здавалася, вось-вось пачне гладзіць Машыны бліскучыя чорныя валасы і прыгаворваць: «Усё будзе добра, усё як-небудзь уладзіцца...»

Сеўка быў цалкам нейтралізаваны халадзільнікам, які працаваў без электрычнасці — прычым па ўсіх халадзільнікавых правілах перыядычна ўзрыкваў, гудзеў некалькі хвілін, а затым супакойваўся. Сеўка спачатку доўга ў халадзільніку корпаўся, потым ціха сеў пісаць формулы, але затое потым ператварыўся ва ўраган. Ён бегаў па сталоўцы, размахваючы сарванымі з носа акулярамі і трасучы галавой.

— Гэта супярэчыць! Ён немагчымы! І калі мы адменім другі закон, дык давядзецца адмяняць і першы! І трэці! А гэта канец! Вы разумееце? Гэта катастрофа!

— Чаму? — запытаўся Антон.

Сеўка падляцеў да яго і зашыпеў проста ў твар:

— Таму што гэта фундаментальны закон, разумееш? Паваліцца фундамент — паваліцца ўсё! Вечны рухавік немагчымы — і кропка. А калі ён тут магчымы, дык нам усім канцы, таму што гэта не наш свет, і не наш сусвет, і ўсе нашы законы тут не працуюць!

— Нам усім кан-н-нцы, — зноўку загаласіла Маша, улавіўшы ў Сеўчыным маналогу галоўнае.

Лёля толькі пакутна заламала рукі.

— Добра, Сева, ты толькі не гарачыся, — сказаў Антон, згадаўшы, што ён тут галоўны. — Ну а калі нашы законы тут не працуюць, дык, напэўна, працуюць нейкія іншыя... Ты можаш уведаць якія?

— Ха! Ха! Ха! — сказаў Сева, — каб гэта зразумець, трэба быць Эйнштэйнам. «Зразумець»! Ды я нават уявіць сабе такое не магу, а ты кажаш «зразумець»!

Сеўка выгаварыўся і з усяго маху шлёпнуўся на бліжэйшае крэсла. Крэсла жаласна ўсхліпнула, ад’ехала на паўметра, а потым усё-такі не ўстояла на расхістаных ножках і развалілася. Сеўка так і не зразумеў, якім чынам ён пасля сваёй палымянай тырады апынуўся на падлозе, і выгляд у яго быў такі пацешны, што ўсе не ўтрымаліся і заўсміхаліся.

— Ну калі ўжо Сеўка не можа зразумець... — працягнула Люба.

— А вы думалі, у казку трапілі? — хіхікнуў Мішка.

І тут позірк у Сеўкі праяснеў, і ён закрычаў, не ўстаючы з падлогі:

— Сапраўды! Вось! У казку трапілі! Тады ўсё сыходзіцца! Тут любы вечны рухавік магчымы, хоць дыван-самалёт, хоць боты-скараходы. І дамавікі, дарэчы, таксама тут водзяцца.

Сеўка начапіў на нос акуляры, якія цудам уцалелі, склаў на грудзях рукі і стаў вельмі падобны адначасова на Напалеона-падлетка і разумнага трусіка.

— У казку трапілі... Цу-до-ўна... — Антоха проста не ведаў, што яшчэ сказаць, і тупа паўтарыў апошнюю фразу, спадзеючыся, што ў галаве праясніцца. Не праяснілася.

— А калі мы ў казку нейкім чынам трапілі, значыцца можна з яе неяк выпасці? — спыталася Люба.

— Страсянуць яе трэба як след! — прапанаваў Мішка і выпраставаў плечы.

— Стоп! — сказала Лёля. — Ужо страсянулі. Дастаткова.

— Сапраўды! — сцяміў Антон. — З выбуху ўсё пачалося! Калі павінна было рвануць, штосьці такое здарылася...

— Энергія выбуху кудысьці знікла, — перапыніў яго Сеўка.

— Зноў ты са сваім мудрагельствам, Сева...

— Гэта не мудрагельства. Гэта ў шэрагу бязглуздзіцы... А што, калі энергія выбуху трансфармавалася ў нешта такое... І ў нас прастора згарнулася?

— І што?

— А тое! Каб нам адсюль выбрацца, нам трэба неяк правярнуць зваротны працэс, тады энергія разгортвання прасторы пяройдзе ў энергію выбуху... Ну што вы ўсе на мяне так пазіраеце? Я ж сказаў — у шэрагу бязглуздзіцы. У вас ёсць лепшыя ідэі?

— Мне казка больш падабаецца, — сказала Лёля, — яна прасцейшая.

— Мне таксама, — пагадзіўся Антон і ўрачыста прамовіў: — Такім чынам, мы трапілі ў казку.

Мішка насмешліва хмыкнуў.

— Ды ўжо ж, абрагочашся, — з'едліва заўважыла Люба.

Але Антоха пастараўся на гэта не звяртаць ніякай увагі і гнуў сваё.

— Так, мы трапілі ў казку, і цяпер нам трэба адсюль выбрацца. Мы ведаем, што трапілі сюды ў момант спробы ўзарваць дуб, правільна?

Антон казаў як быццам для ўсіх, але за пацвярджэннем звярнуўся да Лёлі. Яна кіўнула.

— Добра. Значыцца, наша казка неяк звязана з дубам, згодны? Якія мы ведаем казкі пра дуб?

— «У Лукоморья дуб зелёный»* — выпаліла Люба.

— Што яшчэ?

— Яшчэ смерць Кашча на дубе хаваецца, — падаў голас Сеўка. — Я нядаўна брату казкі чытаў...

Больш варыянтаў ні ў кога не было.

— Добра, — уздыхнуў Антон, — пайшлі глядзець на дуб.

Калі яны вывалілі ва ўнутраны дворык, там нічога не змянілася. Усё гэтак жа гублялася ў гарачым шарыку дыму каструля і ўсё гэтак жа не было неба.

Антон падышоў да дуба, прытуліўся да яго, абняў ствол і паглядзеў уверх. Там, наверсе, магло хавацца ўсё што заўгодна: і русалкі, і Кашчы, і нават «тридесятое царство, тридевятое государство»** — там, наверсе, была амаль абсалютная цемра. Светла-чорныя ніжнія галіны вылучаліся на фоне цёмна-чорнай масы, якая ішла ў бясконцасць. Антон уздыхнуў і сказаў:

— Трэба было б туды залезці...

Сказаў і зразумеў, што добраахвотнікаў не будзе. Сеўка зноў сышоў у свой свет, нешта напружана абдумваючы, дзяўчынкі ціснуліся да Лёлі, Мішка цалкам падышоў бы, каб трэба было штосьці патрэсці, а лезці трэба акуратна, у яго зграбнасці бракуе.

Антон цяжка ўздыхнуў:

— Хто-небудзь лесвіцу ў школе бачыў?

— У вартаўніка ў каморцы стаіць, — адазвалася Лёля.

— Міш, прынясеш?

Міша важна кіўнуў і пайшоў да школьных дзвярэй, але каля самага парога раптам спыніўся і жаласна ўсхліпнуў:

— Вой, мамачкі!

У Антохі проста сэрца абарвалася. Але ўжо праз секунду Мішка загаварыў нармальным голасам.

---

* З казкі А. С. Пушкіна.

** З рускіх народных казак.

— Вось зараза, да смерці напалохаў. Я гляджу — вочы ў цемры свецяцца, я ўжо думаў, зноў нейкая нечысць...

— І хто там? — запыталася Лёля.

— Ды Васька гэта.

У праёме ўваходных дзвярэй сядзеў агромністы школьны кот. Выкармлены ў сталоўцы на недаедзеных дзіцячых порцыях, ён быў, відаць, самым сытым катом горада, але пры гэтым спраўна кленчыў марожанае ў гімназістаў, вельмі ўмела падрабляючыся пад «беднага галоднага коціка, які не еў ужо тыдзень». У марожаным кот разбіраўся выдатна — уплятаў толькі пламбір мясцовай вытворчасці, а ад прывазнога, як быццам малочнага, крывіў морду так, што гімназісты паміралі са смеху. Трэба сказаць, што вельмі хутка ўся гімназія навучылася гэтак жа крывіць морды пры выглядзе імпартнага марожанага, і прадаўшчыца бліжэйшага кіёска, як толькі ўгледжвала гімназістаў, адразу даставала з халадзільніка мясцовы пламбір.

Дык вось, Васька прачнуўся і зразумеў, што ў школе штосьці не гэтак. Па ідэі ноччу павінна быць ціха, а тут беганіна, крыкі, слёзы. Кот да такога не прывык. Кот прыйшоў праверыць, што здарылася. Цяпер ён сядзеў і з цікавасцю пазіраў на гурт нявызначаных наведвальнікаў, якія стоўпіліся ва ўнутраным дворыку школы.

— Кіць-кіць, — аўтаматычна гукнула Лёля.

— Мяў! — адказаў Васька.

— І Ваську ў школе зачыніла... — прашаптала Люба. — Бедненькі...

— Чаго гэта ён бедненькі? — здзівіўся Антон. — Ён і так са школы амаль не выходзіць, толькі яды ў нас няма...

Пры слове «яда» кот ажывіўся, падышоў бліжэй і пачаў з асалодай вастрыць кіпцюры аб стары дуб.

— Дуб, кот... — выціснула з сябе Люба.

— Што? — запыталіся ўсе.

Але Люба так расхвалявалася, што гаварыла з цяжкасцю.

— Кот пад дубам... ходзіць... і ходзіць... туды-сюды... Цьфу, усё з галавы вылецела... Песні пяе... ля Лукамор’я... Маш!

Люба ўмольна паглядзела на сяброўку. Маша тут жа забалабоніла:

— У Лукоморья дуб зелёный! Златая цепь на дубе том! И днем и ночью кот ученый! Все ходит по цепи кругом! Идет направо — песнь заводит…*

Васька дэманстратыўна павярнуўся да ўсіх хвастом і працягваў драпаць кару.

— Маш, дзякуй, — сказала Люба.

— Налево — сказку говорит! Там чудеса, там леший бродит…**

Люба сцепанулася.

— Русалка на ветвях сидит…***

Усе, як па загадзе, задзерлі галовы ўверх і зрабілі крок ад дуба.

— Там на неведомых дорожках следы невиданных зверей!****

— Маша, сядай, дзесяць! — загадала Лёля.

Выдатніца замоўкла.

— Значыцца, у казку трапілі, — сказаў Мішка і закасаў рукавы. — Ну, ідзі сюды, коцік, ты нам зараз усё раскажаш!

Васька быў вельмі разумным катом. Інакш бы ён нізавошта не выжыў у акружэнні амаль тысячы школьнікаў. Таму ён, ласкава пасміхаючыся і распушыўшы

*, **, ***, **** З казкі А. С. Пушкіна.

свой агромністы хвост, пачаў павольна абыходзіць дуб, максімальна аддаляючыся ад Мішкі.

— Не спудзь! — зашыпела Лёля і пайшла насустрач кату.

— Кіць-кіць-кіць, — праспяваў Мішка.

— Мрррр, — адказаў Васька.

Пацерся аб дуб, загадкава паглядзеў наверх і, калі ўсе таксама ўзнялі галовы, каб зразумець, што ён там выглядвае, адным скачком сігануў убок, а потым на шалёнай хуткасці кінуўся да ўваходных дзвярэй. Толькі яго і бачылі.

— Ну вооось, — працягнуў Мішка. — Што рабіць будзем?

— Чакаць! — коратка адказаў Антон. — Жэрці схоча — прыйдзе. А пакуль нам трэба ланцуг залаты знайсці. Ні ў кога няма з сабою? Сеўка! Сева! — закрычаў Антоха. — Ты зможаш нам зрабіць залаты ланцуг?

Сеўка падазрона не адказваў, хоць яго сілуэт быў цудоўна бачны побач з дубам. У Антохі ў чарговы раз абарвалася сэрца, і пакуль ён з заміраннем дайшоў да сябра, дык ужо прыдумаў сабе сто жахаў, адзін жахлівей другога.

— Не палохайся, спыніла яго Лёля, — ён проста спіць.

Сеўка сапраўды проста спаў на пагорачку, які ўтварыўся пасля капання ямкі, сціскаючы ў руцэ чарговы аркушык, спісаны формуламі.

— Нам усім трэба паспаць, — працягнула Лёля. — Напэўна, ужо позняя ноч.

— Тут нязручна, — сказаў Антон.

— А мы ў спартзалу пойдзем, на маты, — прапанавала Люба, — мы там часта пасля трэніровак адпачываем.

Мішка ўзваліў Сеўку сабе на плечы. І той, звісаючы, як худы Страшыдла, у сне працягваў мармытаць штосьці пра другі закон тэрмадынамікі. Правільная Маша настаяла на тым, каб яе правялі да туалета, таму што перад сном трэба мыцца, з ёю пайшла Лёля, а астатнія проста ўваліліся ў залу і паваліліся на маты.

— Дзяжурнага пакідаць будзем? — запытаўся Мішка.

— А сэнс? — адказаў Антон. — Горш не будзе.

На гэтай радаснай ноце і заснулі.

Сны ім сніліся самыя звычайныя.

Мішка з агнямётам наперавес ганяўся за Васькам па лабірынтах «Контры».

Маша атрымала вялізны залаты медаль за выдатныя поспехі ў вучобе — праўда, чамусьці з рук Ніны Канстанцінаўны, якая патрабавала медаль тэрмінова з'есці, пакуль ён гарачы.

Лёля таксама бачыла ката, але не Ваську, а вялізнага рыжага кацяру, які прыносіў ёй у зубах то рыбіну, то галінку дуба, то залаты ланцужок.

Люба плыла сваю любімую «пяцідзясятку», але басейн усё не канчаўся, і ёй давялося ўзляцець над вадою і пераадолець адлегласць да фінішу па паветры. Яна ляцела і баялася, што яе дыскваліфікуюць за парушэнне спаборніцтваў.

Сеўка лётаў на халадзільніку, які час ад часу пачынаў раўсці, і ласкава называў яго то «дыванам-скараходам», то «ботамі-самалётамі». На баку ў халадзільніка красаваўся надпіс: «Даеш другі закон чараўнічай тэрмадынамікі!».

Толькі ў Антона сон быў нейкі вельмі загадкавы. Яму здавалася, што ён бяжыць па асветленым поўняй полі. Срэбная трава даходзіла да пояса, але бегчы ў ёй было вельмі лёгка, яна быццам бы сама расхіналася перад Волкавым, а потым змыкалася за яго спінаю так, што і следу не заставалася. А побач, цалкам схаваны кавылём, гэтак жа лёгка бег воўк. Антоха яго не бачыў, але дакладна ведаў — воўк там. Ды зусім яго не баяўся, наадварот, радаваўся, што воўк суправаджае яго. Антон нават

час ад часу падвываў, каб падбадзёрыць спадарожніка. Воўк адзываўся кароткім вітальным рыкам. На большае часу не заставалася — там, наперадзе, іх чакала нешта вельмі важнае і тэрміновае.

Самае дзіўнае ў гэтым сне было тое, што ён зусім не быў падобным на сон.

Глава 4.

## МІТУСНЯ ВАКОЛ КАТА

Прачнуўся Антон першым. Час вызначыць было немагчыма, усе гадзіннікі паранейшаму паказвалі 18-35, але адчуваў ён сябе бадзёра, як чалавек, які адпачыў. Хлопчык ускочыў і для бадзёрасці забраўся на шведскую сценку, некалькі разоў качнуў прэс...

— Слабавата, — прамовіў голас фізрука Аркадзя Іванавіча. — Давай яшчэ некалькі разоў.

Антон скасавурыў вочы. Каля падножжа шведскай сценкі стаяла карыкатура на Аркадзя Іванавіча (ці, як яго зусім несправядліва дражнілі, «Алкадзіча»). Росту ў карыкатуры было меней метра, але прапорцыі аказаліся захаванымі дакладна. Тая ж трохвугольная постаць — асіная талія і шырачэзныя плечы — тая ж кароткая шыя і тыя ж бугры цяглiц паўсюль.

— Добры дзень, — сказаў Волкаў як можна больш ветліва. — А вы... гэты... фізкультурны?

Міні-Алкадзіч чмыхнуў:

— Фізкультурным толькі тэхнікум бывае, — строга сказаў ён. — На крайні выпадак, інстытут. Залавік я, зразумеў! Хопіць балбатаць! Да практыкаванняў на прыладах!

Давялося скакаць цераз казла. Потым падцягвацца. Потым адціскацца. Антоху фізкультура і раней давалася лёгка, а сёння, пасля асвяжаючай прабежкі ў сне, ён увогуле адчуваў сябе выдатна. Залавік ухвальна бурчаў штосьці пад нос. Паступова ад грукату, якога нарабіў Волкаў, прачнуліся астатнія. Яны нават не сталі палохацца ці здзіўляцца. Ці то не прачнуліся яшчэ канчаткова, ці то ўжо прывыклі. Адзін Мішка баязліва цiснуўся ў куток.

— Малайчына! — нарэшце зжаліўся «фізрук». — Дзявятка.

І хоць Антон не імкнуўся аспрэчваць адзнаку, залавік няўмольна растлумачыў:

— Не дзясятка, таму што фіксацыя пры саскоку — як у пачвары! Стань у строй.

Антоха вырашыў гуляць да канца і стаў у строй, які пакуль складаўся з аднаго яго.

— Наступны! — аб’явіў Залавік.

Усе па звычцы замерлі — раптам пранясе. Акрамя Антохі і Любы, ніхто з прысутных фізкультуру не любіў. «Фізрук» вытрымаў тэатральную паўзу — зусім у духу свайго прататыпа.

— Беркін! — аб’явіў ён, калі нацешыўся цішынёю.

Нават у паўзмроку стала прыкметна, як абяскровіўся Мішкаў твар. Цяпер ён калі і нагадваў мядзведзя, дык белага. Ці нават якога-небудзь пясца — так ён скурчыўся.

— Давай-давай! — нецярпліва пастукаў ножкаю Залавік. — Праз казла будзем скакаць!

Мішка пад спачувальнымі позіркамі сяброў пацягнуўся на зыходную. Казёл быў самым страшным яго выпрабаваннем. Разагнацца Мішка яшчэ мог. Мог і адштурхнуцца. Але прызямляўся заўжды не пасля шкоднага казла, а проста на яго. Казёл, відаць, таксама згадаў Мішкаву звычку плюхацца на яго ўсім целам, таму што раптам падбрыкнуў і пачаў адыходзіць назад.

— Стаяць у мяне! — прыкрыкнуў на яго Залавік, ніколечкі не здзівіўшыся капрызу спартыўнай прылады. — Воўчая сыць, травяны мяшок! А вось я цябе Воласеню скармлю!

Апошняя пагроза падзейнічала. Казёл, працягваючы дробна трэсціся ўсімі чатырма нагамі, павольна вярнуўся на месца. Мішка, які быў паверыў у вызваленне ад зневажальнага скачка, цяжка ўздыхнуў.

Але скакаць яму ўсё ж не давялося. Залавік раптам натапырыў вушы — толькі цяпер усе заўважылі, што яны завостраныя на канцах, як у кіношных эльфаў, — і сказаў амаль нармальным голасам:

— Адставіць...

Потым замер, пашавяліў вушкамі і дадаў пераканана:

— Так, Антон, вядзі адсюль сваю чараду. Зараз тут бітва будзе.

Пасля чаго скочыў на канат і з нечалавечай спрытнасцю стаў па ім ускарасквацца. Маша войкнула і кінулася да выхаду. За ёю рушылі астатнія (соннага Сеўку цягнула за сабой Люба). Толькі Антон затрымаўся, каб запытацца:

— А хто біцца будзе? І з кім?

— Усе з усімі! — адказаў Залавік з-пад самай столі.

Антоха зразумеў, што час для высвятлення падрабязнасцей ён выбраў няўдалы. Сваю «чараду» ён дагнаў каля раздзявальняў. І пачуў (ці адчуў), што насустрач з калідора імчыцца нешта вельмі небяспечнае.

— У раздзявальню! — загадаў ён страшным голасам.

Ніхто не стаў спрачацца ці задаваць дурныя пытанні. Затрымка ўзнікла толькі таму, што хлопчыкі па інерцыі кінуліся ў сваю раздзявальню, дзяўчынкі — у сваю.

Антоха зайшоў у раздзявальню апошнім, але дзверы прычыніў няшчыльна. Яму вельмі хацелася пагледзець, што ж там такое рухаецца па калідоры. Ён пакінуў шчыліну.

І ўсё роўна нічога не зразумеў. Міма дзвярэй пранеслася штосьці незразумелае — нейкія лапы, змяіныя хвасты, дзюбы і ўвогуле дзіўныя часткі цела.

— З-з-зачыні! — папрасіў Мішка. — С-с-страшна!

Волкаў зачыніў, хоць і знайшоў у сабе сілы пажартаваць:

— Гэта табе не «Контра»!

Над жартам Мішка не засмяяўся. Антоха агледзеўся і зразумеў, што яны тут удвух. Відаць, Сеўка не змог вырвацца з учэпістых Любкіных рук і цяпер хаваецца разам з дзяўчынкамі.

Антоха прыслухаўся. З залы спачатку чуліся неразборлівыя галасы і выкрыкі: «Рун!» і, быццам бы, «Ра!». А потым пачалася бітва. Волкаў у думках падзякаваў Залавіка за тое, што той папярэдзіў іх, — нават з-за сцяны бітва ўражвала. Ад глухіх удараў уздрыгвала столь (а адзін раз здрыгануліся дзверы раздзявальні — відаць, нехта ўрэзаўся ў яе здуру). Крыкі ўзмацніліся і сталі нечленараздзельнымі. А аднойчы пачуўся і зусім нечалавечы лямант. Праўда, ён вельмі хутка абарваўся. Мяркуючы па ўсім, істоту, якая лямантавала, тут жа разарвалі на шматкі.

А потым усё рэзка перапынілася. Антон пачакаў хвілінку і прыслухаўся не столькі да цішыні звонку, колькі да чуцця ўнутры сябе. Чуццё казала, што небяспека прамінула.

— Усё, Мішка, абышлося! — сказаў ён.

Адказу не было. Волкаў устрывожана азірнуўся. Мішка сядзеў на падлозе ў дальнім кутку і троссяся, бы ў ліхаманцы, захінуўшы твар рукамі. Гэта было нават не смешна. Антоха падышоў да Мішкі, сеў перад ім на кукішкі і моцна ўзяў яго за рукі.

— Усё! — сказаў ён ціха. — Яны пайшлі. Усё скончылася.

І нечакана для сябе пачаў напяваць нейкую нудную песню, якая складалася са слова «М-м-м-м». З першых жа гукаў Мішка перастаў калаціцца.

Ён ужо амаль супакоіўся, калі дзверы раздзявальні расчыніліся, і ўваліліся дзяўчынкі з Сеўкаю. Сеўка з Машай наперабой расказвалі, як было страшна, як было жахліва і як добра, што ўсё скончылася. Люба лагодна пасміхалася. Лёля выцірала з далоні кроў насовачкай.

— Яны што, — трывожна запытаўся Антоха, — да вас дабраліся?

Сеўка разрагатаўся, Маша збянтэжана замоўкла, а Лёля сурова адказала:

— Чуў жудасны лямант усярэдзіне бою? Гэта Машка загарлапаніла. Давялося ёй рот затыкаць, — яна зноўку прамакнула далонь і паморшчылася. — А яна кусаецца.

Цяпер ужо смяяліся і Люба, і Антоха, і — самае важнае — Мішка.

— Добра, — сказаў Волкаў, паднімаючыся, — трэба здабываць інфармацыю. Лёля, Мішка і Люба — лавіце ката. А мы з Сеўкай зоймемся залатым ланцугом.

Лёля паглядзела на яго, здаецца, з непадробнай павагай. Па крайняй меры, нічога не дадала.

— Я есці хачу, — заявіў Мішка.

— У нас толькі смятана засталася, — развяла рукамі Люба, — але мы на яе ката лавіць будзем.

— Наогул, — мройліва прамовіў Сеўка, — калі мы ўжо ў казцы, дык тут дзесьці павінен валяцца абрус-самабор... І філасофскі камень, які ператварае любы метал у золата.

— А як ён выглядае? — зацікавіўся Антоха.

Сеўка пачухаў патыліцу.

— Зразумела, — Антоха ўздыхнуў. — Прапаную для пачатку раздабыць хоць які-небудзь ланцуг.

— А ежу? — запытаўся Мішка.

Яму ніхто не адказаў. Антон з Сеўкаю ўзялі свечкі і пайшлі на пошукі. Спачатку абшнарылі кладоўкі — безвынікова. Хоць вынік, канечне, быў, яны знайшлі вялікую колькасць розных рэчаў, у прынцыпе бясцэнных, але ў дадзены момант выключна непатрэбных. Потым яны пайшлі ў падсобку пры кабінеце фізікі. Там стаў цалкам непатрэбны Сеўка, таму што ён імгненна забыўся, дзеля чаго тут знаходзіцца, і з асалодаю разглядваў усялякія бляшаначкі і развінчваў усялякія жалязячкі.

— Сеўка, нам ланцуг патрэбны! — гаркнуў на яго ў чарговы раз Антон, калі пабачыў, што Сеўка хуценька разбірае нейкі складаны прыборчык.

— А? — ачнуўся Сеўка. — Даруй, захапіўся. А ланцуг тут ёсць. Толькі электрычны. О! А гэта ідэя! Якая розніца, які ланцуг, давай я хуценька збяру што-небудзь, мы падключым туды ката...

— Сеўка! — зноў гаркнуў Антон. — Ты што, з дуба зваліўся?

— Не яшчэ, — захіхікаў Сеўка. — А па-мойму, ідэя някепская. О! А давай збярэм невялікі размаўляльны прыбор, назавем яго КАТ, падключым у электрычны ланцуг, павесім на дуб. І пабачым, што ён нам скажа.

— А чаму КАТ?

— Ну... Кібернетычны Агульны Таварыш, напрыклад...

— Бязглуздзіца нейкая!

— У цябе ёсць ідэі лепшыя?

— Ланцуг трэба знайсці.

Сеўка ўздыхнуў і адклаў распатрошаны прыбор.

— Давай разважаць лагічна, — сказаў ён. — Для чаго выкарыстоўваюцца ланцугі?

— Вязняў прыкоўваюць... — сказаў Антон.

— Гэтага ў школе няма. Напэўна... — Сеўка ўздрыгнуў. — Хацелася б у гэта верыць.

— Кайданы на ланцугах бываюць, — працягваў Антоха.

— Ды ідзі ты! — выгукнуў Сеўка. — Што-небудзь жыццярадаснае можаш прыдумаць?

— Яшчэ агароджваюць ланцугамі ўсялякія помнікі, выдатныя мясціны. Мы ў Піцеры былі, я помню там такія прыгожыя былі ланцугі на набярэжнай...

— Антоха, ты геній! — закрычаў Сеўка.

— Што ты кажаш? — усумніўся Антон.

— Ну канечне ж! У нас у музеі на трэцім паверсе, помніш, нейкая тумбачка ланцужком агароджана. Мы яшчэ яго абрывалі ўвесь час, калі на экскурсіі там былі.

— Сапраўды! — чамусьці шэптам сказаў Антон. — Пабеглі!

***Працяг у наступным нумары.***

*Пераклад з рускай Р. БАРАВІКОВАЙ.*



Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга першая*

...Людзі ў паданнях даўно пра такога героя спявалі:
Меў ён з’явіцца якраз як нашчадак славутага роду,
Меў ён дзяржаву — Літву — бараніць у ваеннай навале,
Ворагаў лютых прагнаць з гарадоў сваёй любай Айчыны;
Меў ён натхніць грамадзян непахіснаю верай, узняўшы
Тыя харугвы ізноў, што быў вораг парваў на Вядрошы[1].
Звязаных сотняй вузлоў, ваяводаў варожага войска
Меў захапіць у палон і ўзвялічыць айчынную славу.
З гэтых часоў вешчуны прадракалі яго перамогу —
Аж затрымцела Масква і мардвіны суровыя разам,
Страх пасяліўся тады за мурамі маскоўскіх узвышшаў.
Што за паразы яшчэ, што за ўцёкі чакаюць маскоўцаў!
Колькі яшчэ гарадоў апусцеюць праз гэтага хлопца!
Шлемы, шчыты ваяроў панясуць гаманлівыя рэкі…
Гэтым, жахлівы Іван, ты заплаціш за слёзы людскія!
Час, о вялікі юнак, нарадзіся, аздоба Айчыны,
Годны нашчадак свайго знакамітага бацькі. Георгій
Быў і ў вайне, і ў спакоі найлепшым, і подзвігам ратным
Славіў Айчыну сваю. Так, напрыклад, з Літоўскай дзяржавы
З войскам магутным сваім ён прагнаў мэатыйцаў[2] суровых,
Вогнішчаў скіфскіх агонь аддаліўшы ад родных сядзібаў.
Кінуўся вораг на ўцёкі (згадайма!), спустошыўшы землі.
Толькі ратунку не меў ён, бо ты, Канстанцін, і магнаты,
Шчыт і апора твая (сярод іх — і адважны Георгій),
З нашых сасновых лясоў праслед несупынны чынілі
Аж да сцяпных кавылёў, там адправіўшы ворага ў пекла.
Сведчаць Гальшанкі віры пра паразу суровую скіфаў,

---

* Працяг. Пачатак у № 1 2011 г.

[1] 14 ліпеня 1500 г. адбылася бітва на рацэ Вядрошы, недалёка Дарагабужа (на Смаленшчыне), паміж васьмітысячным войскам Вялікага Княства Літоўскага пад камандаваннем гетмана Канстанціна Іванавіча Астрожскага і дваццацітысячным войскам Вялікага Княства Маскоўскага. Войска Астрожскага пацярпела паразу, а сам гетман трапіў у палон, адкуль уцёк у 1507 г.

[2] *Мэатыйцы* — тут: татары. Мэатыйскім морам (або балотам) называлі ў старажытнасці Азоўскае мора.

Сведчаць пра матак яны, што сыноў апусцілі ў магілы,
Сведчаць пра подзвіг айцоў, пра дзясніцу магутнага мужа![1]
Што ж прыгадаць мне яшчэ? Можа, мноства адоленых прусаў?
Хіжы пляменнік[2] тады, назбіраўшы злачыннае войска,
Нават не ўспомніў, што ты — і сваяк, і кароль, Жыгімонце,
Пнуўся адолець цябе. Пад мурамі высокімі Гданьска
Зброяй сваёй грукатаў і агні рассыпаў: напалохаць
Думаў нябёсы й людзей… Неўзабаве ж пабачыў пагрэбы:
Воін літоўскі пагнаў расцярушаных прусаў з навукай,
Што караля шанаваць трэба толькі з апушчанай зброяй!
Нават Айчына сама за заслугі твае перад ёю
Гонар высокі табе прысудзіла — пасаду ў дзяржаве.
Віленскім стаў кашталянам, адважны Георгій! Тым часам
Моцны спачыў Канстанцін, і дзяржава табе загадала
Годна прыняць булаву ваяводы літоўскага войска,
Гэткага правадыра замяніўшы ў часы неспакою.
Хутка дзясніцай сваёй ты кіруеш — цяпер трыумфальна —
Марса, спрыяльнага войску твайму, на слабейшых маскоўцаў:
Вось да сяверскіх муроў ты наблізіў бліскучыя раці.
Меціш крывёю палі, адзначаеш пажарам мястэчкі,
З войскам магутным сваім пераможна праходзіш па землях.
Горад ляжыць Старадуб, уладанне даўнейшых русінаў.
Вежаў драўляных сваіх ён узняў старажытныя чолы.
Служыць аховай не мур — рыштаванні з дубоў стогадовых.
Люты Аўчына[3], які праз таемную сувязь з царыцай
Быў узвялічаны, тут, з гэтай моцнай цвярдыні, задумаў
Выбухнуць дзёрзкай вайной, бо ставала і вежаў, і раці.
Так пачалася вайна. Вось сюды і прыводзіць Георгій
Войска сваё і сцягі. Раздзіраюць вялікае сэрца
Здрада, бязлітасны Марс ды ганебныя войнаў праявы:
Бацька забіты і сын, на вачах таго ж бацькі забіты.
Вогнішча новай вайны, у Літве шчэ нязнанай, Георгій
Цвёрдай рукой распаліў, лейцы гневу свайго адпусціўшы.
«Што ж, дзікі вораг бяспечна паліць будзе нашыя землі?
Лютым забойствам маіх суайчыннікаў цешыцца будзе?
Гэй, грамадзяне набожныя! Хто ўсхваляваны няпраўдай,
Зброю ўздымайце сваю, каб вярнуць супакой у Айчыну!»
Тут жа на гэты загад вылятаюць з жахліваю сілай

---

[1] 27 студзеня 1527 г. войска Канстанціна Астрожскага разграміла крымскіх татараў за Кіевам пры Альшаніцы (Гальшанцы). Гісторыкі разыходзяцца ў меркаваннях пра тое, што такое Альшаніца (Гальшанка) – рака ці вёска? Паводле «Хронікі» Мацея Стрыйкоўскага, «літоўскія паны... падышоўшы з войскам да Кіева, гналі татар за Кіеў 40 міль, аж на Гальшаніцу...». У крыніцах па гісторыі Беларусі звычайна згадваецца бітва на рацэ Гальшанцы.

[2] Прускі герцаг Альбрэхт (Альберт) Гогенцолерн, які быў сынам Зоф'і, сястры Жыгімонта Першага, прыходзіўся апошняму пляменнікам. У 1519 г. герцаг Альбрэхт выступіў з вайною супраць караля Жыгімонта, а ў 1520 г. зрабіў аблогу Гданьска. У абароне горада ўдзельнічаў Георгій Радзівіл.

[3] Іван Аўчына-Абаленскі-Целяпнёў, які, паводле сведчанняў гісторыкаў, меў патаемную сувязь з вялікай княгіняй Маскоўскай Аленай Васільеўнай (Глінскай), жонкай вялікага князя Васілія III, маці Івана IV (Жахлівага).

Выбухі моцных гармат у страшэннай віхуры жалеза,
Смерць несучы для людзей, для муроў — зруйнаванне імгненна.
Толькі стаіць Старадуб, кананада яго не турбуе:
Сіла магутных дубоў у нападах жалеза трывае.
З вежаў высокіх грымяць у адказ тых жа выбухаў стрэлы,
Крэпасць плюецца металам, і скрозь адзываецца рэхам
Грукату зброі зямля. Ды нарэшце з глыбінных сутонняў
Вырваўся моцны агонь, узляцеўшы да самага неба.
Ён і абрушыў тады ўсе апоры дашчэнту, і потым
Аж берагі разышліся, затрэслася неба навокал.
Вось, пракладаючы шлях, пакацілася шлейфам агністым
З попелам чорным зямля і згарнула магутнаю хваляй
Вежаў рыштунак слабы. Праз агонь, калатэчу і стрэлы
Крочаць літвіны хутчэй, пачынаецца лютая сеча.
Так заняпаў Старадуб і з зямлёю ссівелай зраўняўся:
Попелам сталася шэрым красуня Сяверскага краю.
Што ж ты падумаў цяпер, о Аўчына, убачыўшы гэта?
Што там на сэрцы, калі аглядаеш ты зверху руіны,
Горкіх пажарышчаў дым і пагібель няшчасных падданых?
Дзе твая пыха, скажы? Дзе задумы пустога натхнення?
Ты абяцаў каралеўству няволю і путы палону?
О рызыкоўныя Марсавы гульні, ганебныя войны!
З тварам збялелым, апушчаным долу, выводзяць Аўчыну.
Гнюсны свой шлюб прыгадаў ён, салодкую брыдкую сувязь.
Дух таямнічы людскі! Перамога твая на нябёсах
Марсу спрыянне дала, ды ўсё роўна ты прагнеш спакою!
Смела наперад ідзі з міраноснай галінкаю лаўра!
Цяжка цяпер прыгадаць, палічыць немагчыма дакладна
Подзвігі Марса твайго, Радзівіл: зруйнаваў ты дашчэнту
Крэпасцяў шмат, ды аднак ты вярнуў для Літоўскай дзяржавы
Гомель! Прывёў у палон закаваных у путы вяльможаў.
Цэлае племя Мардвы і насельнікі краю таўрыйцаў,
Скіфскія воды, бязмежны Манкоп[1], жыхары Танаіса
Моцна баяцца цябе, і трымціць чужаземная Волга.
Значыць, пакуль сваім шляхам цякуць серабрыстыя рэкі,
Значыць, пакуль ваяўніча трывае Літва ў небяспецы,
Вечная слава твая не змарнее на многа стагоддзяў.
О Мікалай, ты паходзіш з айчыннага слаўнага роду,
О Мікалай, дасягнеш сваім подзвігам брамы нябеснай,
Ты — для Айчыны апора, Літва на ёй вечна, трывала
Будзе трымацца заўжды: яе моц — у задумах магутных.
Што за надзея, багі, на такога вялікага мужа!
Веліч у ім і хвала! Што за гонар чакае героя!
Век свой юнацкі, калі болей гнуткі ў навуках наш розум,
Годна правёў Мікалай між свяшчэнных настаўнікаў мудрых.
Тыя вучылі яго ўсім мастацтвам высокага духу,

[1] У гістарычных крыніцах XVI стагоддзя («Пра дзве Сарматыі» Мацея Мяхоўскага, «Хроніка» Мацея Стрыйкоўскага) Манкоп узгадваецца як апошняя цвярдыня готаў у Крыме, якая засталася там з часоў вялікага перасялення народаў.

З твораў сівой даўніны наталялі юначае сэрца:
Што ёсць дабро, і чаго бараніцца належыць, што шчасцем
Трэба лічыць, што брыдой, што для Бога, а што для Айчыны;
Што дазваляецца, што супакойвае сэрца і розум.
Многа й ахвотна чытаў ён гісторыю грэкаў і рымлян:
Як Ганібал перайшоў паднябёсныя Альпаў вяршыні,
Пра Сцыпіядаў і Дэцыяў, пра справядлівасць Катона;
Цэзар, яшчэ й пра цябе разам з цесцем тваім[1]. Каціліна,
Ведаў ён ночы твае![2] Потым рокашы Сулы, пілосца
Трохвекавога спазнаў, Эякіда, Хіронава вучня[3], —
Словам, найлепшых мужоў — іх антычная Грэцыя славіць.
Добрай навука была: вельмі вабіў настаўніка голас,
Розум разважны яго засяваў у вучнёўскія вушы
Мудрасці вечнай плады. Так найлепшым прыгожым мастацтвам
Мужны гартуецца дух для высокіх геройскіх учынкаў.
Слухае моўчкі юнак, прыкладае цярплівае вуха,
Нават баіцца — ды хто! Гэты будучы пострах маскоўцаў!
Гэтак магутны Ахіл, баючыся дубца ад кентаўра,
Вельмі старанна спяваў між айчынных высокіх узгоркаў.
З добрай ахвотай сваёй ды з вялікай любоўю да Музаў
Ён спасцігае, у чым трэба бачыць жыццёвую мудрасць.
Хоча пранікнуць углыб, да нязнаных мясцін Піэрыдаў[4].
Той, хто шукае, знаходзіць, і вось ён — ля ўзвышшаў Кастальскіх.

---

[1] Маецца на ўвазе Луцый Карнэлій Цына, з малодшай дачкой якога ажаніўся Цэзар. Цына побач з Луцыем Карнэліем Сулам быў адной з цэнтральных фігур грамадзянскіх войнаў, якія пачаліся ў Старажытным Рыме ў 80-х гадах I ст. да Р. Х.

[2] Алюзія на фрагмент славутай першай прамовы Цыцэрона супраць Луцыя Сергія Каціліны, у якой ёсць такія словы: *Quid proxima, quid superiore nocte egeris, ubi fueris, quos convocaveris, quid consilii ceperis quem nostrum ignorare arbitraris? O tempora, o mores!* («Ты думаеш, хтосьці з нас не ведае, што рабіў ты апошняй, што папярэдняй ноччу, дзе ты быў, каго склікаў, якое рашэнне прыняў? О часы, о норавы!»).

[3] *Хіронава вучня* – Ахіла.

[4] Піэрыдаў = Музаў.

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ.***

***Працяг у наступным нумары.***



*Да 90-годдзя з дня нараджэння*
*народнага пісьменніка Беларусі*
*Івана Мележа*

# ЁН УСМІХАЎСЯ ВАЧАМІ



**З**разумела, што як і ў кожнай рэдакцыі, у «Маладосці» ёсць свой фотаархіў, які мы з году ў год зберагаем. Час не стаіць на месцы, і сучасныя фотамайстры карыстаюцца найноўшымі фотакамерамі, адпраўляючы свае здымкі адразу на камп'ютар... А тыя, ранейшыя, якія можна патрымаць у руках, нярэдка пажоўклыя ад часу, гэта ўжо, безумоўна, гісторыя, але для кожнага пісьменніка — дарагая... На тых фотаздымках — пісьменніцкае жыццё не аднаго пакалення і, канечне ж, самыя прыцягальныя з іх тыя, на якіх можна пабачыць класікаў нашай літаратуры.

Да здымкаў часта даводзіцца звяртацца. Вось і ў гэты нумар адабралі тыя, дзе ў розныя моманты свайго жыцця, зразумела, і рознымі фотамайстрамі, сфатаграфаваны народны пісьменнік Беларусі **Іван Паўлавіч МЕЛЕЖ.** Для гэтага ёсць пэўная нагода: восьмага лютага споўнілася дзевяноста гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962) за раман «Людзі на балоце», Ленінскай прэміі (1972) за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», Дзяржаўнай прэміі БССР (1976) за кнігу крытычных нарысаў, артыкулаў «Жыццёвыя клопаты» (пасмяротна).

Вядома ж, пад фотаздымкамі зробяцца подпісы, а мне хочацца з чытачамі «Маладосці» падзяліцца сваімі ўспамінамі пра тыя тры кароценькія сустрэчы з класікам, дзе ўсё яшчэ так жыва помніцца, нібыта кожная з гэтых сустрэч адбывалася толькі ўчора...

## З ПАЭТАМ МІКОЛАМ ФЕДЗЮКОВІЧАМ ГЛЯДЗІМ СПЕКТАКЛЬ «ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ»

Так, было гэта позняй вясной 1967 года... Мы з Міколам Федзюковічам — студэнты маскоўскага Літаратурнага інстытута імя Горкага. Я заканчваю першы курс, ён — другі, рыхтуемся да летняй сесіі. У інстытуцкім дворыку сустракаю надзвычай усхваляванага Міколу, які проста кідаецца да мяне: «Ты ведаеш!.. Ведаеш... Сёння ў тэатры імя Пушкіна спектакль купалаўцаў «Людзі на балоце» па Мележу. Чуў, што на яго нібыта прыязджае і сам Іван Паўлавіч... Дык што, пойдзем?!»...

І мы тут жа пайшлі купляць білеты, балазе, гэты маскоўскі драматычны тэатр быў недалёка ад нашага інстытута, там жа на Цвярскім бульвары. У інтэрнат не паехалі, у інстытуцкай бібліятэцы чакалі запаветнай гадзіны... Мікола паступіў у інстытут пасля вайсковай службы, ён ужо быў даволі вядомым маладым паэтам, друкаваўся ў некаторых выданнях і бажыўся, што, калі быў у Мінску, у Саюзе пісьменнікаў здаля бачыў Мележа.



*З пісьменнікамі (злева направа):*
*С. Сартаковым, І. Шамякіным і А. Астрэйкам.*

І вось мы, нарэшце, у тэатры. Зала поўная, і мы ў ёй нікога не ведаем. Але пачынаецца спектакль, і ўжо ўся ўвага скіравана на сцэну... Помню, што ў тым спектаклі ролю Ганны Чарнушкі выконвала непаўторная Лілія Давідовіч, у будучым — народная артыстка Беларусі. У нейкі момант Мікола тузануў мяне за руку і зашаптаў: «Глядзі, вунь там у ложы — Мележ»... Я павярнула галаву і... далей ужо глядзела то на сцэну, то на ложу, дзе сядзеў класік. Жывы класік! Тымі часамі ў нас, зусім маладых творцаў, былі вельмі трапятлівыя адносіны да пісьменнікаў старэйшых пакаленняў, гэта было штосьці большае і чым павага, і чым захапленне. Яны ўвасаблялі сабою нешта вельмі вялікае, ужо ў самім слове пісьменнік гучала не проста — аўтар таго ці іншага твора, а, напэўна, — носьбіт чагосьці вельмі значнага, нездарма ж у нас ёсць такое высокае, і разам з тым такое непаўторна-мілагучнае слова: пясняр! Але вярнуся да Івана Паўлавіча Мележа...

Пачаўся антракт, мы з Міколам выйшлі ў фае і, вядома ж, кожны з нас спадзяваўся, што вось зараз... Зараз тут з'явіцца Мележ! «Ён, напэўна, пойдзе да артыстаў, за сцэну», — нарэшце сказала я, а Федзюковіч адазваўся ў адказ: «Ды вось жа ён, глядзі... Каля буфетных сталоў у чарзе, можа, ліманаду хоча ўзяць!» І тут жа пачаў лёгенька штурхаць мяне: «Нам трэба абавязкова падысці да яго... Але спачатку ты! Пачні размову, маўляў, мы тут, студэнты з Беларусі... І пасля я далучуся»...

Мікола мяне ўгаварыў, я падышла да Івана Паўлавіча і адразу адзначыла, што ў яго вельмі мяккія вочы і яны ўмеюць усміхацца. І голас у яго таксама быў мяккі і ціхі. І, калі я сказала, што мы студэнты, але вучыцца прыехалі з Беларусі, ён неяк гэтак жа мякка ажывіўся. А галоўнае — у ім бачыўся і адчуваўся вельмі далікатны і надзвычай інтэлігентны чалавек, такая мяккая шляхетнасць...

Мікола Федзюковіч далучыўся да нас, калі Іван Паўлавіч ужо заказваў сабе бутэлечку мінералкі і яшчэ вялізны не кулёк, а цэлы куль цукерак — «Чырвоны мак» у белай абгортцы з чырвонай кветкай пасярэдзіне. Гэты куль аддаў нам! Потым распытваў, адкуль мы родам, з якіх мясцін у Маскву прыехалі, як нам тут вучыцца?.. Празвінеў званок, які запрашаў у глядзельную залу. Мы развіталіся з класікам і адчувалі сябе горда-шчаслівымі... На сцэне журыліся і радаваліся Васіль Дзяцел і Ганна Чарнушка, а мы з Міколам шапталіся пра сваё, як нам неймаверна пашанцавала так нечаканна сустрэцца з Мележам, і што гэта цяпер будзе помніцца ўсё жыццё, і як проста ён з намі размаўляў, і як зацікаўлена і клапатліва пра ўсё распытваў... І цукеркі! Для нас, не спешчаных прысмакамі, мы фактычна жылі ў Маскве на адну стыпендыю, гэта быў не проста дарагі падарунак ці няхай сабе і знак увагі, а яшчэ і вельмі каштоўны.

Калі ў 1979 годзе ў Міколы Федзюковіча выйшаў зборнік паэзіі пад назвай «Макаў цвет», мне чамусьці падумалася, што даючы гэтую назву, ён успамінаў Івана Паўлавіча Мележа.



*Хойнікі... І. Мележ у двары школы,*
*дзе вучыўся да вайны.*

## ВІНШАВАННЕ — З ЧАТЫРОХ РАДКОЎ

Гэта ўжо быў 1972 год. Закончыўшы Літінстытут, па накіраванні я рада была прыехаць у Мінск і працавала тады ў сцэнарнай майстэрні на кінастудыі «Беларусьфільм». І вось увесь творчы асяродак літаральна ўскалыхнула радасная вестка: Івану Паўлавічу Мележу за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» прысуджана Ленінская прэмія. На той час гэта была вялікая, вельмі ганаровая ўзнагарода, бадай, самая высокая ў СССР. На яе вылучаліся творы з усіх рэспублік і, што называецца, канкурэнцыя была не слабая! Трэба было мець і адпаведны твор, і вядомае на ўвесь Савецкі Саюз імя.

Адразу ж іду ў рэдакцыі літаратурных выданняў на Захарава, 19. Цікава даведацца, як гэта ўсё адбывалася, хто з пісьменнікаў яшчэ быў вылучаны? У які кабінет не зойдзеш, усе гавораць пра Мележа, пра прэмію, а нехта паспеў ужо і павіншаваць класіка і пераказвае, як ён гэта ўспрыняў і ўвогуле ў якім настроі. З'явілася жаданне і ў мяне павіншаваць Івана Паўлавіча, але па тэлефоне не асмельвалася. Ці запомнілася яму тая студэнтка-першакурсніца з Беларусі? Прайшоў не адзін год, а ў Мінску я была яшчэ вельмі зялёнай пачаткоўкай, не членам творчага саюза, ды і працавала не ў літаратурных выданнях, а наводшыбе! Неяк нялоўка, што называецца, лезці ў вочы, і разам з тым, чаму б не далучыцца да віншаванняў іншых людзей? Што ў гэтым кепскага? Адным словам, раніцай наступнага дня паслала Івану Паўлавічу тэлеграму: «Шаноўны Іван Паўлавіч, я Вам скажу ў якой самоце стаялі б кніжныя паліцы, калі б не «Людзі на балоце», калі б не «Подых навальніцы»! Сардэчна віншую» — і далей подпіс.



*Масква. V з'езд пісьменнікаў СССР. З Э. Межэлайцісам і Я. Брылём.*



*1941 год. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны.*

Ну а потым дзесьці праз месяц ці, можа, праз два паднімаюся я на другі паверх у старым будынку Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса, а з другога паверха ўніз спускаецца Іван Паўлавіч Мележ. Я збянтэжылася, хуценька прывіталася, а ён нечакана прыпыніўся. Запытаўся, ці хутка я збіраюся выдаваць сваю першую кніжку і ўвогуле, ці ёсць дастаткова вершаў, каб скласці яе? Тут жа сказаў, што чамусьці рэдка сустракае маё імя ў друку, што маладосць сама-сама той час, каб вельмі актыўна працаваць, асабліва ў паэзіі, што страчанага часу ўжо ніколі не вернеш... І дадаў: «Вы ж здольны чалавек. У чатырох радках, можна сказаць, усю сутнасць выказалі. Дзякуй за цёплае віншаванне».

Помніцца тая лесвіца на другі паверх, тыя сходы, і нязменна мяккі-мяккі, далікатны, ціхі голас...

## СУСТРЭЧА АПОШНЯЯ

Я тады працавала ў рэдакцыі штотыднёвіка «ЛіМ» у аддзеле публіцыстыкі, якім загадваў Міхаіл Майсеевіч Замскі. І напэўна, гэта было ў годзе 1975-м. У нашым кабінеце знаходзіўся і аддзел пісьмаў і інфармацыі. Ім загадвала Яўгенія Рыгораўна Данская,



*З пісьменнікам І. Чыгрынавым.*

якой аднойчы тагачасны галоўны рэдактар Хведар Жычка даручыў звязацца з Іванам Мележам і папрасіць яго напісаць хоць колькі тэксту з нагоды нейкага свята.

Яўгенія Рыгораўна патэлефанавала, і Іван Паўлавіч сказаў, што хварэе, таму, на вялікі жаль, нічога напісаць не можа. Адным словам, адмовіўся. І тады заўпарціўся галоўны рэдактар, ён у гэтай адмове ўгледзеў нейкае сваё меркаванне і настойваў, каб Данская абавязкова ўгаварыла Мележа. Яўгенія Рыгораўна была ў адчаі, а мне падумалася: «А што, калі я паспрабую патэлефанаваць? Раптам ён передумае і пойдзе насустрач мне, пагодзіцца напісаць тыя некалькі старонак?!» Гэтае маё нечаканае жаданне патэлефанаваць Івану Паўлавічу падагравалася, трэба сказаць, і нейкім маім маленькім уласным інтарэсам.

Справа ў тым, што ў 1974 годзе выйшаў мой першы зборнік паэзіі «Рамонкавы бераг». Яго даволі прыхільна ўспрыняла крытыка, з’явілася не адна рэцэнзія ў друку, а вось пісьменніцкі асяродак аднёсся да гэтага майго першага выдання даволі прахалодна. Я пра гэта ведала, адчувала, хацелася некаму пажаліцца, іншымі словамі, не тое, каб падтрымкі, а хутчэй — суцяшэння і падбадзёрвання. Да таго ж, Іван Паўлавіч Мележ тады ўзначальваў прыёмную камісію, і пры прыёме ў пісьменніцкі саюз яго слова, безумоўна ж, было вельмі важкім. Мне ж, як і кожнаму маладому аўтару ў тыя ўжо далёкія гады, марылася стаць членам творчага саюза. «Трэба тэлефанаваць!» — вырашыла я і сказала пра гэта Данской, якая не стала мяне адгаворваць. І вось тэлефаную, прадстаўляюся: «Іван Паўлавіч, а раптам вы перадумалі... Раптам, трошкі акрыялі і з’явілася такая магчымасць...» Спачатку ён катэгарычна адмовіўся, а потым, чаго ўжо я і сама не чакала, пагадзіўся! «Добра, я паспрабую напісаць, прыходзьце заўтра да мяне дамоў дзесьці пасля абеду, каб забраць напісанае, толькі перад гэтым пазваніце»!

Назаўтра я кранальна падпісала Івану Паўлавічу свой «Рамонкавы бераг», патэлефанавала папярэдне, пачула, што ён напісаў тыя дзве старонachкі, і рушыла цераз парк Горкага да яго, каб, як і дамаўляліся, забраць іх.

Хвалююся, думаю, з якімі словамі ўручу яму сваю кніжачку, спадзяюся, што ён абавязкова павінен пахваліць яе, пераводжу дых каля дзвярэй, нарэшце націскаю на званок... Дзверы адчыняюцца, бачу Івана Паўлавіча, і паперадзе яго — вялікую аўчарку, якая ўтаропілася на мяне... Які ж лямант я ўмомант усчала! (Вельмі люблю сабак і з дзяцінства неверагодна іх баюся. Нават свайго ўласнага невялічкага сабачку, які жыў у нас шаснаццаць гадоў, пабойвалася). А Мележ тады спалохаўся майго лямантy: «Што вы, што вы... Ды яна ж нічога кепскага вам не зробіць... Я зараз зачыню яе на кухні...».

Цяпер праз гады мне і смешна, і неяк нават сорамна за той свой перапуджаны лямант. І размовы асаблівай у нас тады не атрымалася. Я ўся лекацела ад перапуду, што нават забылася пра свой зборнічак. Так і не аддала яго Івану Паўлавічу і ён, падпісаны, дзесьці да гэтага часу ляжыць у маіх кніжных шафах. А дзве старонкі тэксту, напісаныя ад рукі Іванам Паўлавічам, я прынесла ў рэдакцыю, і гэты матэрыял, зразумела, быў адразу ж надрукаваны. А тыя рукапісныя старонкі, думаю, што і цяпер ляжаць у нейкім лімаўскім архіве, пра што, калі шчыра прызнацца, я шкадую. Трэба было іх захаваць у сябе як памяць пра тры сустрэчы, хай сабе і не вельмі значныя, кароценькія, але сустрэчы з вялікім пісьменнікам, класікам нашай айчыннай літаратуры Іванам Паўлавічам Мележам, што не забываецца і не забудзецца ніколі.

***Раіса БАРАВІКОВА***

Уладзімір ЛІПСКІ

# МОЙ МАЙ

## Эсэ

*Мой май.* Мама на Юр'я ў свет пусціла. З таго часу і маюся. У шалёнай майскай зеляніне купаюся. Ад блакітных нябёсаў натхняюся.

Пасля зімы святы Юр'я каня варанога асядлаў, паехаў аж да Бога. Узяў ключы залатыя. Адамкнуў зямлю, пусціў расу. На кані сенажаці аб'ехаў. Кароў на пашу выгнаў. З гэтага дня зязюля пачала куваць.

Святому Юр'ю храмы будавалі. У яго гонар маліліся. Спрадвеку беларусы лічылі яго сваім апекуном.

І мяне хацелі назваць у гонар Юр'я. Але ў Шоўкавічах ужо быў адзін Юрка, крыху на розум слабаваты. Сёстры Клава і Люба хадзілі ў школу, ім ужо ўбілі ў галовы, што самы святы на той час быў Уладзімір Ленін. Мяне і назвалі Валодзькам.

Хто з мяне атрымаўся, ведаюць Бог і людзі.

А ўзброены ваяр-вершнік Юр'я ўпрыгожвае мой хатні літаратурны кабінет у Мінску. Карціну падарыў на мой юбілей сардэчны сябар-вясёлкавец Жэня Ларчанка. І гэта сталася яго ці не апошняй мастацкай удачай.

* * *

*Мой май.* Мае імяніны ў шосты майскі дзень. Тады я першы раз і кугікнуў, ухапіў першыя глыткі дняпроўска-бярэзінскага паветра.

Быў панядзелак. Будзённы дзень засвяціўся райскай Зоркай. З той нагоды люблю ў неба ўзірацца.

Паверыў: кожны чалавек на зямлі — зорка. Колькі людзей на нашай планеце — ведаем. Колькі зорак на небе — ніхто не падлічыў.

* * *

*Мой май.* У маі — букет святаў. І ўсе знакавыя: дзень Працы, Друку, Радыё, Перамогі.

І ў маім жыцці Праца — заслужаны настаўнік. Друк вывеў да мастацкага Слова. На Радыё — я свой чалавек, а Перамога — мой сімвал і сэнс жыцця.

* * *

*Мой май.* У маі салаўі здаюць экзамен па вакале. Я пажыццёвы іх слухач, улюбёнец.

Кажуць, выдувае трэлі, свішча, шчоўкае, спявае ўхажор. Гэткім чынам заманьвае да сябе каханку. Не перастае спяваць салавей ва ўсе майскія дні, пакуль не заціўкаюць у сям'і птушаняты. Тут ужо не да канцэртаў. Трэба даглядаць і карміць малышню.

У майскіх салаўёў, як і ў людзей, найбольш дзяцей атрымліваецца ў актыўных, галасістых. Маўклівыя, лянівыя кавалеры, бывае, і жонку сабе не высвішчуць.

Я вельмі маладзенькім праспяваў сваю салаўіную песню дзяўчыне Ніне. Яна паверыла мне. На радасцях выveліся ў нашым сямейным гняздзечку сын Ігар і дачка Марына, а ў іх свае дзеткі — Антон, Маша, Толік, нашы ўнукі.

Вось чаму мая біяграфія ў адзін радок: «Як сябе помню, увесь час — жанаты».

* * *

*Мой май.* У маі — маладая рунь, зялёныя-прызялёныя лісцікі, спевы лясных музыкаў, кваканне вадзяных гаспадынь, высокі блакіт нябёсаў. Усё абвяшчае хвалу Багародзіцы, Маці Божай.

У маі Найсвяцейшую Панну Марыю царква называе Маёвай, Каралевай прыгожага маю, Каралевай нябёсаў.

І мне хочацца ў маі класці першыя вясновыя кветкі да ног маёй Мамы Марыі. Хочацца плакаць па ёй, як плакаў Хрыстос, каб ніхто не бачыў слёз. Хочацца складаць найшчырэйшую малітву пра маю Нябесную Зорку, пра маю святую зямную Марыю, якая ў свае сорак два гады рашылася завесці мой гадзіннік жыцця.

Мама, ведай маю майскую малітву. Яе прамаўляю перад сном, на ўзыходзе дня. Мая малітва, як споведзь, як прызнанне, як ачышчэнне.

Калі падступае навала спакусы —
клічу цябе.
Калі падкатвае зайздрасць —
прыгадваю цябе.
Калі гнеў адбірае мой спакой —
гляджу на цябе.
Калі агортвае сум, роспач —
думаю пра цябе.
Калі цяжка на душы і адчуваю небяспеку —
прамаўляю імя тваё.
Калі дзень пражыў годна —
дзякую табе...

Паверыў: з табой, Мама, нідзе не заблудзішся, ты ніколі не падманеш, з тваёй падмогай не ўпадзеш, з верай у тваё заступніцтва заўсёды дойдзеш да жаданай мэты.

Кожным новым маем, Мама, усё мацней адчуваю цябе сваёй іконай. Мне здаецца, акушэрка ў Горвалі забылася адшчыкнуць ад цябе маю пупавіну. Таму мы разам, мы адно цэлае. І ў гэтым моц маёй жыццёвай батарэйкі.

Мама, вартуй і далей свайго апошненькага. А я не стамлюся цябе ўслаўляць вясновым маем і ва ўсе месяцы, і ва ўсе дні свайго зямнога раю.

* * *

*Мой май.* У першы дзень мая валадар неба Сонца ўзыходзіць на трон у пяць гадзін трыццаць чатыры хвіліны. Працоўны дзень доўжыцца пятнаццаць гадзін і сем хвілін. Мала хто на зямлі столькі працуе!

А да канца месяца дзень павялічваецца яшчэ на паўтары гадзіны. Дык май-працаголік вызначыў і маю долю. Як сябе помню, ніколі толкам не гуляў. Самую здавалася б лёгкую працу я ацяжарваў сваімі цяльцовымі клопатамі, асабістай выдумкай і прыдумкай. Нават падчас законнага адпачынку не меў супакою: то трэба вудай нацягаць нарачанскіх акунёў-матросаў, то нашукаць кош баравікоў, то праплыць у басейне і рэчцы рэкордную колькасць кіламетраў, то наталіцца смакатою слоў літаратурных класікаў, засеяць белы палетак паперы сваімі думкамі.

Часам пасля адпачынку хочацца супакоіцца. Але ж дзе там, наплываюць, як летнія навальніцы, нечакана і грымотна, новыя захапленні і турботы. Дзякуй, май, што ўстурваеш раніцай, пазбаўляеш ляноты і сну на доўгі дзень.

«На спіне мы яшчэ наляжымся», — заўсёды ў маі прыгадваю мудрую падказку майго земляка, духоўнага брата — паэта Анатоля Грачанікава.

* * *

*Мой май.* Ажыло маё святое, гаючае дрэва — ліпа. Ліпскі і ліпа — радня на вечныя вякі.

Ліпа, што ўзяла ад Божай прыроды, тое і аддае чалавеку, злепленаму па Божым вобразе і падабенстве.

З ліпавых кветак пчолкі выпрабляюць лячэбны мёд. Адвар ліпавых лісцікаў — лекі. Дрэва ліпы грэх паліць у печы. З яго можна вырабіць посуд, мэблю, добра ашаляваць лазню. З маладой кары ліпак плялі лапці — абутак на святы.

Зумкаюць пчолкі на кашлатай ліпе. Пад дрэвам сядзіць шоўкаўскі пастушок Валодзька. У торбачцы — бутэлька малака, румяны акраец хлеба з мамінай печы. Карова Зорка хрумае росную мураву. А вочы хлопчыка цешацца майскай красой. Ён збірае на спод сваёй душы нектар любові да ўсяго, што вакол яго.

Божа, тая ліпа за нашым прыгуменнем была маім камп’ютарам, Інтэрнэтам, сайтам, блогам. Праз тую ліпу бачылася высокае неба, а ў ім — воблакі, як казачныя гарады, замкі, храмы. Яны згадвалі і нашых кароў, авечак, коз. Неба было вялізным экранам, праз які лёгка мроілася, хутка лёталася ў землі з райскімі птушкамі і рэкамі з кісельнымі берагамі.

Цяпер разумею, чаму так ўзнёсла марылася пад нашай ліпай. Побач жа стаялі таямніча-маўклівыя дубы-волаты, вечна шапатлівыя бярозы, асіны. Непадалёк — сенажаць з духмянымі зёлкамі і сажалкай з вёрткімі ўюнамі. У гэтай маляўнічай прасторы клекаталі буслы, шчабяталі сарокі,

ціўкалі сініцы, чырыкалі вераб'і, заліваліся спевамі салаўі, кувалі зязюлі, дралі ноты дзеркачы, вухкалі дзікія галубы. Яны будзілі ў душы музыку, фантазію і шчымлівую прагу пазнаць свет за нашымі Шоўкавічамі, што спраўна і збылося за мае семдзесят жыццёвых маяў.

* * *

*Мой май.* Усё жыццё мару аб адным: сабраць бы на адну паляну ўсіх маёвых людзей. Разбілі б палаткі. А можа, збудавалі б горад Май і пачалі б па-вясноваму маяваць, дзяцей набываць, шчасце спажываць, на зайздрасць усім — раяваць.

Нашу ў сэрцы маёвага паэта, майго літаратурнага настаўніка, чарадзея Слова, заснавальніка «Вясёлкі» Васіля Вітку. Мудры, лагодны позірк. Усмешлівы, мілы твар. Ціхі, упэўнены голас. Асцярожная, як у маёй мамы, хада па зямлі. Каб не прымяць травінку, не патрывожыць птушку, не парушыць прыроднага суладдзя. Непрыкметна ішоў, а вышыню адолеў такую, з якой убачыла яго ўся Беларусь.

У маёй душы — маёвая сястра Люба. Пражыла ў азёрна-лясной Дабужы, як у лужы, каля ружы. У працы маялася, у горы качалася, потам мылася, мухаморам пякучым лячылася. Мужа, сына пахавала і сама тут звекавала.

У горад Май я б запрасіў маёвых драматурга Алеся Петрашкевіча, спевака Віктара Чарнабаева, жывапісца Пятра Янушкевіча, эстрадную зорку Тамару Раеўскую. Паэтаў Раю Баравікову, Уладзіміра Карызну, Сяргея Панізніка...

Каб можна была дагукацца да Неба, вярнуў бы адтуль у зямны райскі горад Май паэтаў Уладзіміра Жылку, Юрку Гаўрука, Алега Лойку, Юрася Свірку, народную артыстку Стэфанію Станюту, майго земляка, празаіка Леаніда Гаўрылкіна, заслужанага педагога, незабыўную Вольгу Казлову, кампазітара Ігара Паліводу...

Уяўляеце, у горадзе Май жывуць усе, хто нарадзіўся ў маі. Кожны дзень імяніны, госці, падарункі. Як і задумваў Бог — штодзень свята!

* * *

*Мой май.* У маі заўсёды задумваюся: што ёсць маё на гэтым свеце?

Галоўнае маё, дык гэта той міг жыцця, які падарыла мне Найвышэйшая Воля. Уключылі гадзіннік таго міга мае залатыя бацькі — мама Марыя і бацька Сцяпан.

Яшчэ маё ўсё тое, што паспеў набыць за гэты міг:

жонку, дзяцей і ўнукаў,
сівізну і маршчыны,
сяброў і зайздроснікаў,
спаленыя і жывыя нервовыя клеткі,
акуляры на носе і паліцу аўтарскіх кніжак,
кватэру ў Мінску і домік на Лысай гары,
вясёлкавыя клопаты ў «Вясёлцы»,
а яшчэ — радыкуліт, стэнакардыю, гастрыт...

За гэты міг быцця меў і страціў сто дваццаць сем родзічаў, землякоў, сяброў, аднадумцаў, спачувальнікаў.

Слава Богу, не страціў надзею, веру і аптымізм. З хаценнем сустракаю кожны свежы дзянёчак. Ён, як секундная стрэлка, мосціць, вычэквае мне сцяжынку ў абяцаную Біблняй вечнасць.

* * *

*Мой май.* У маі — трыццаць адзін дзень. Месяц напоўнены вясновымі родамі, абнаўленнем зямлі, леса, неба, вады. Шалеюць думкі ад досвітка да змяркання.

Май спраўляе спавядальны баль Вясне, падсумоўвае здабыткі адраджаемай прыроды.

Кожны дзень мая — памятны.

У першы дзень месяца — народзіны святога Кузьмы. Сей буракі, моркву. Ёсць гарантыя, што іх не падточаць чарвякі. А ў нас, людзей, — чырвоная дата календара. Дзень Першамая гуляем, святкуем, дэманструемся.

Другога мая трэба маліцца за абаронцу ад зладзейства, прападобнага Іаана Ветхапяшчэрніка. А мы што робім? Ці не злодзеі мы ўсе, калі забываем пра важную малітву?

У трэці дзень мая ўслаўляецца мучанік Гаўрыіл Беластоцкі. Жыў у XVII стагоддзі. Трагічна загінуў дзіцем. Закатаваны суседзямі-зайздроснікамі. Прызнаны Гаўрыіл святым і лічыцца ахоўнікам дзяцей. З гродзенскага храма, дзе захоўваюцца мошчы мучаніка-дзіцяці, я прывёз сваім унукам крыжыкі і іконкі з выяваю святога Гаўрыіла. Гадуйцеся са святой душой!

Чацвёртага мая варта памаліцца святому Проклу, ахоўніку ад нячыстай сілы: «Уратавальнік Нябесны, будзь уперадзі, а пашлі анёла-ахоўніка ззаду».

Кажа старое пісанне, што пятага мая трэба хадзіць басанож па зямлі, каб цэлы год не сустрэць змяі. А мы святкуем Дзень друку, таго самага друку, які джаліць нашу душу, свядомасць, розум самымі рознымі інтрыжкамі.

Шостага мая — мой Дзень і дзень святога Юр'я.

Пасля народзінаў зязюля пачынае адлічваць дні і гады. А ці справядліва, што давяраемся гэтай бяздомніцы, бессаромніцы? Божухна пусціў нас у зямны рай, Яму і лічыць нашы дні і гады. Не забывайма, мы пад Божым наглядам у кожны міг жыцця, і трэба ведаць яго пасланнікаў да нас.

Сёмага мая мусім маліцца за прападобную Елісавету, абаронцу ад розных хвароб.

Восьмага давайце ўспомнім святога Марка, у якога ключы ад дажджу і спёкі.

Дзявятага мая дзень Перамогі над цмокам дваццатага стагоддзя Гітлерам. У гонар свята цвітуць сады, распускаюцца цюльпаны, і продкі нашы ў гэты дзень прасілі Неба, каб бяда мінала іх.

Божа! Усе майскія дні і святочныя, і прыкметныя, і знакавыя. Умей толькі імі карыстацца і наталяцца. Тады пойдзе на здароўе цёплы майскі вецер, жывільны бярозавы сок. Тады будуць прыходзіць ноччу добрыя, прадказальныя сны.

Прамый вочы майскай расой.

Прымірыся з кім варагуеш.

Напіся майскага гаючага малака.

Абнаві кроў шчаўем і маладой крапівой.

Згатуй варэнне з дзьмухаўцоў, замацуй свае інтымныя пачуцці.

Майскія малітвы — абярэг ад п'яні: «Хмель і віно, адступіцеся ад раба Божага ў цёмны лес, дзе людзі не ходзяць, дзе змеі не поўзаюць».

У маі добра маліцца за дзяцей, сям'ю, каханне: «Каб былі адзін аднаму мілей за краснае сонца, святлей месяца, саладзей мёду, весялей салаўя, мацней лебядзінай вернасці».

Май просіць, каб усе маліліся за Зямлю: «Маці Божая, захавай зямельку, на якой родзіць хлебушка, па якой ходзім мы, падобныя на Сына Твайго. Амінь».

* * *

*Мой май.* На памяць прыходзяць словы, у якіх ёсць «май»: май-стар, май-стэрня. Дык мо гэта знак таго, што ўсе майскія абавязаны быць майстрамі сваёй справы, павінны мець сваю майстэрню?

Шмат людзей у сваім прозвішчы носяць «май». Хочацца верыць, што і біблейскі павадыр яўрэяў пісаўся праз «й» — Майсей. У маі сей, у маі працаваць умей.

У беларусаў быў свой мудры яўрэй — Май-ман Саламон. Жыў у васямнаццатым стагоддзі, паходзіў з Міра. Вывучаў побыт простых людзей Беларусі і Літвы. Сцвярджаў і верыў, што людзей злучае толькі адзін свет — свет свядомасці. Схіляў шапку перад матэматычнай логікай.

У беларускую энцыклапедыю ўвайшлі два лесаводы Май-сеенкі з Дубровенскага і Добрушскага раёна.

Героем Савецкага Саюза закончыў жыццё асіповіцкі хлопец, камандзір танка Барыс Май-стрэнка.

Насіў у прозвішчы майскі корань беларускі крытык і літаратуразнавец Сцяпан Майхровіч. Яго слова пра Скарыну, Шамякіна, Брыля важкае і аб'ектыўнае па сённяшні дзень.

А што майскага меў Ма-май?

А чаму далёкі востраў Я-май-ка замаены?

Сяджу ў задуменні. І раптам у фортку майго летняга доміка ўляцеў майскі жук. Пакружыў, пагудзеў па пакоі і прызямліўся на маім пісьмовым стале. Здарова, браток!

Прывітанне, майскі госць! Давай-ка паразмыслім разам, што ёсць на Зямлі майскага. І чым яно адметнае?..

* * *

*Мой май.* Семдзясят маяў адмаяваў на гаротнай і трывожнай зямлі.

За другім маем мяне дагнала вайна. Відаць, добра памаяліся маі бацькі са мною. Толькі гаварыць навучыўся, а тут — гаварыць рызыкоўна. Казалі, у Шоўкавічы папераменна прыходзілі то партызаны, то паліцаі, то немцы. З кім можна праўдзіва пагаварыць, як гэта ўмеюць Дзеці?

На трэцім маі згарэла наша хата. Усю вёску спалілі карнікі. Згарэлі мае цацкі. Аднялі ворагі цёплую печ і каровіна малако. Аднаму Богу вядома, як ратавалі ваенным ліхалеццем нас, малых.

Пасля сёмага мая адправілі мяне ў лапціках у школу. Аляксандра Лявонаўна Радкевіч навучыла засвоіць азбуку і табліцу памнажэння.

За сямнаццатым маем я пакінуў бацькоўскі парог. Аказалася, назаўжды. Наведваў

яго рэдка: быў на залатым вяселлі маіх святых бацькоў, прывозіў паказаць жонку Ніну і сына Ігара, румзаў на пахаванні мамы, таты, сястры Ліды, братоў Пятра, Колі. Душа мая часта-часта залятае ў балотна-камарыныя, арэхава-грыбныя, ягадна-лясістыя, кветкава-лугавыя Шоўкавічы. Аб'ехаўшы свет, сведчу: лепшай мясціны, чым мае Шоўкавічы, няма на ўсёй планеце.

На дваццаць першым маі мог бы ўтапіцца ў рэчцы Уша, каб не сусед Косця, з якім лавілі рыбу. Выцягнуў мяне з кручы, адвёз у бальніцу. Праз дзень Ніна нарадзіла нашага першынца. У той жа, гарадзейскай бальніцы, у якой ратавалі мяне...

Шмат памятных маяў у маім зямным жыцці. У кожнага чалавека, паверыў, яны свае, адметныя і непаўторныя. Яны ўсе зараней вызначаны лёсам. Іх рызыкоўна будаваць па загадзя намаляваных чарцяжах. Давайце слухацца Бога, спадзявацца, верыць і ў добрым накірунку раскручваць свае розум, мускулы, душу.

* * *

*Мой май.* Калі паверыць, што кожны чалавек — асобная кніга, то якога жанру мая маёвая кніга жыцця?

Раман?

Можа быць! Сюжэт рамантычны і пакутны, як з шоўкаўскіх балотаў шукаў шляхі ў вялікі свет, да верных сяброў, да адукацыі кніжнай і народнай, да любові трапяткой і ўзвышанай.

Драма?

А што, відавочна ўжо цяпер, што мой зямны лёс мог абарвацца ў вайну, калі партызанскі лекар у лесе рабіў мне аперацыю. У пятым класе мог бы застацца без правай нагі. Гулялі ў лесе і я, мядзведзь, скочыў з дуба на павуціннe каранёў. Выратавалі мазырскія дактары ў абласной бальніцы. Драмай магла б закончыцца рыбалка на рацэ Уша і на Нарачы. Драматычным быў бы мой лёс, каб бацьку засудзілі пасля вайны. Гэта ж добра, што ён не растраціў сумленне ў гады ліхалецця, захаваў яго чыстым. І добра, што знайшліся смелыя людзі, якія заступіліся, абаранілі яго чалавечы гонар. А значыць, і мой. Праношу па жыцці светлы вобраз аднаго з тых заступнікаў, камандзіра партызанскага атрада імя Катоўскага Мікалая Аляксандравіча Труснова.

Камедыя?

Камічнага ў маім жыцці шмат. А хаця б тое, што мне ўдалося адкрыць для фестываляў гумару вёскі Малыя і Вялікія Аўцюкі. Мне падфарціла запусціць у народную камедыю Каласка і Калінку і вывесці іх на арбіту ўсенароднага прызнання.

А можа, маё жыццё салідная дзіцячая кніга? Сюжэт просты: хлопчык, у якога вайна адабрала дзяцінства, шукае і знаходзіць казачнае дзіцячае царства пад назвай «Вясёлка», і ўзнёсла творыць там больш за трыццаць гадоў свядомага жыцця.

Не, маё жыццё на Зямлі — гістарычная аповесць. Я ў мінулым жыцці быў у Новай Зеландыі. Цяпер каторы год разгадваю загадку: чаму я апынуўся ў такой далечы і як аказаўся на Палессі, у балотнай, непрыкметнай вёсачцы Шоўкавічы?

Ды не, маё жыццё — паэма. Хай назва ў яе будзе — «Цялец». З цяльцовай упартасцю шукаю лірыкі ў віры зямных трывог, падману, нявернасці.

Божа, дай сілы і часу прыстойна дапісаць сваю кнігу жыцця ў зямным, непаўторным раі.

* * *

*Мой май.* Стаю пад зорным парасонам ночы, і, здаецца, увесь сусвет азірае мяне, прасвечвае з усіх бакоў. І апаноўвае шалёная думка, што мяне разглядваюць на касмічным камп'ютары. На ім бачны не толькі ўсе мае часткі цела, а нехта чытае мае думкі, адчувае рытм сэрца, праслухвае нервы. От, называецца, выйшаў падыхаць свежым паветрам, пацешыцца ноччу. Адчуваю сябе аголеным электрычным дротам. Не чапайце мяне. Не трывожце. Не ўздумайце гнуць, браць, красці, бо пачну кусацца.

Такім аголеным, чуллівым, ранімым нарадзіла Мама Марыя. Строгасць, прынцыповасць — ад бацькі Сцяпана. Ад шоўкаўцаў — дабрыня і цярплівасць. Ад нашых дубоў — моц і нетаропкасць. Ад квятастых сенажацяў — вясёлкавы позірк на свет.

Божа, пад зорным небам я выйшаў на сайт свайго жыцця. Націскаю кнопкі Дзяцінства, Юнацтва, Сталасці, і мне зусім не сорамна. Дык гэта ж і ёсць Божая ўзнагарода!

Вяртаюся ў аранжавую хатку. Грэюся цяплом новага адкрыцця. Прашу аднаго: Госпад, дай заўтрашні дзянёк, дазволь напоўніць яго новымі пачуццямі.

# ЧАЛАВЕК У МЕГАПОЛІСЕ

Вельмі прыемна адкрываць для сябе новыя імёны ў сучасным еўрапейскім мастацтве. Магчыма, мы часта спазняемся з іх прызнаннем, бо яшчэ вельмі мала кантактуем, мала вандруем па свеце. Тым больш, з'яўленне ў Мінску твораў выдатнага парыжскага фотамастака з вялікім прафесійным досведам — з'ява вельмі жаданая для першых жывых уражанняў мастацкага крытыка.

Напачатку невялічкая даведка пра мастака, імя і прозвішча якога — Цьеры Клеш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Брэтані. Пачынаў сваю творчую біяграфію ў 1987—1991 гг. як кінакрытык часопіса «Les cahiers du cinéma» («Кінасшыткі»). Затым працаваў сцэнарыстам і выкладчыкам сцэнарных курсаў. Цяпер жыве ў Парыжы, удзельнік шматлікіх выстаў, вандроўнік у 1990-х — 2000-х гг. з фотакамерай па Марока, Іспаніі, Італіі, ЗША, Сенегале, Мексіцы, Партугаліі, Турцыі і іншых краінах свету. Аўтар фотакніг «Déjà vu» («Ужо бачанае», 2007) і «Imprimer le monde» («Надрукаваць свет», 2010).

Па беларускіх крытэрыях, весці адначасова такі насычаны фотамастацкі, педагагічны і публіцыстычны прафесійны лад жыцця амаль што немагчыма для аднаго чалавека. Але шаноўны спадар Цьеры паспявае. Таму і выклікае ў нас сімпатыю (мы ж лічымся нацыяй працаголікаў) і жаданне пазнаёміцца з яго творчасцю бліжэй.

Для першага знаёмства можна абраць дзве фотасерыі, сугучныя па сваім характары. Яны прысвечаныя Ганконгу і Парыжу. Але адразу неабходна ўдакладніць, што гаворка не ідзе пра пошукі маляўнічых закуточкаў далёкаўсходняй экзотыкі ці рамантычных бульвараў на Манмартры. Аўтар прынцыпова ставіць іншыя творчыя задачы: паказаць суадносіны сучаснага чалавека і брутальнага архітэктурнага атачэння, якое мы называем па інерцыі яскравымі ўзорамі канструктывізму XX стагоддзя. Гэты міжнародны канструктывізм ужо запаланіў усю планету, не толькі падпарадкоўваючы цэнтры еўрапейскіх сталіц, але і ствараючы вобраз зусім іншай Азіі і іншых кантынентаў, праз гмахі халодных і дэгуманізаваных мегаполісаў, якія выключаюць нацыянальныя асаблівасці архітэктурнай спадчыны.



*Імкненне ўвысь. Ла Дэфанс, Парыж. 2006 г.*

Мы захапляемся жыццялюбнымі героямі-гараджанамі, вядомымі нам з творчых серый культавых парыжскіх фотамастакоў Анры Карцье-

Брэсона і Робэра Дуано. А як выглядае жыццё-быццё іх нашчадкаў у сучасным Парыжы або ім падобным гараджанам у Ганконгу, які стаў паўвостравам вымушанай еўрапеізацыі на поўдні Кітая? Немагчыма не паверыць і вобразам Цьеры Клеша, які таксама не перастае бачыць жывога чалавека, яго прыватныя настроі і памкненні на фоне агромністых жалезабетонных монстраў, што схавалі, засланілі натуральны зямны і нябесны свет.



*Да і пасля. Ла Дэфанс, Парыж. 2006 г.*

Не, парыжскі фотамастак мае стрыманую пазіцыю ў адносінах да архітэктурнага атачэння і нідзе дэманстратыўна не выказвае да яе сваіх негатыўных адносін. Але менавіта на яе фоне, у яе «абцугах» ён знаходзіць сваіх драматычных герояў. Заўважым, яго не захапляе вобраз безлічнага натоўпу на перапоўненых вуліцах. Гэта — наша стандартнае ўяўленне (не далёкае ад сапраўднасці) пра жыццё ў мегаполісах на Захадзе і асабліва на Усходзе. Цьеры звяртае ўвагу на асобных індывідуумаў у штодзённым рытме мегаполіснага мурашніка: вуліца, транспарт, хвілінны адпачынак і іншыя пазнавальныя сітуацыі, у якіх мы самі, у нашым грамадстве, апынаемся з раніцы да вечара.

Вобразы запамінальных жыхароў Ганконга (па-кітайску — Сянгана), убачаныя і вокамгненна знятыя ім у 2006 годзе, падаюцца для ўважлівых гледачоў гэтай кантрастнай светла-цёмнай, чорна-белай серыі персаніфікацыямі непрыкрытай праўды пра самотнасць і ізаляванасць людзей сучаснага свету ва ўлонні тэхнакратычнай цывілізацыі. Яны, юнакі і дзяўчаты, людзі больш сталага веку трымаюцца паасобку, заплюшчваюць вочы, каб хоць на хвілінку адключыцца ад стрэсавага перанапружання, кудысьці спяшаюцца, быццам жадаюць не проста перабегчы вуліцу, а збегчы ў іншы, больш прыязны свет... Іх ратуе, што яшчэ можна абстрагавацца і перавесці позірк з хмарачосаў на горныя вяршыні, якія ахінаюць Ганконг з Поўначы, або ў рэшце рэшт выйсці на забетаніраванае акіянскае ўзбярэжжа, растварыцца разам з думкамі ў неабсяжным даляглядзе вады і неба.

У танальных фотакампазіцыях Цьеры Клеша шмат тонкіх псіхалагічных адценняў. Па кожным вобразе задуменнага чалавека ганконгаўскай серыі можна ствараць кароткае псіхааналітычнае даследаванне або літаратурны накід. Бо яны зусім не надуманыя. Яны — арганічная часцінка чалавечага акіяна, што трапіла ў штучна забетаніраваны рэзерват, але не страціла свайго натуральнага прыроднага аблічча. Не толькі таму, што ганконгаўцы такія трывушчыя ад прыроды і могуць выжываць у любых абставінах. На іх пераканаўчым прыкладзе мы больш востра бачым свае праблемы, хоць не заўсёды іх ясна ўсведамляем. Галоўнае на бетонным бруку — не ператварыцца ў бяздумных спажыўцоў, прымітыўных зомбі, да чаго можа схіляць прагматычнае безвыходнае атачэнне. Смутак, самапаглыбленасць — псіхалагічны мост у бязмежны духоўны свет, што абараняе жывую сутнасць сучаснага чалавека ў жалезабетонных мегаполісах, якіх раней ніколі не было ні на кітайскай, ні на французскай, ні на беларускай глебе.

Вось чаму, на наш погляд, дапытлівы фотамастак аддае перавагу выратавальнай меланхоліі, хоць на шумных і прэзентабельных вуліцах Ганконга і днём і ўначы не сціхае святочны настрой. Але гэта — не самае галоўнае ў вобразным раскрыцці праўды пра сучаснае жыццё.

З 2005 года парыжскі фотамастак, узбагачаны вопытам шматлікіх далёкіх і блізкіх падарожжаў, зусім па-новаму ўбачыў і свой горад, перш за ўсё яго сучасны эпіцэнтр Ла Дэфанс. Так нарадзілася серыя «Sans Défense», над якой мастак працуе ўжо не

адзін год, і, мабыць, яна яшчэ доўга не будзе вычарпана. Менавіта творы з гэтай серыі мы змаглі ўпершыню ўбачыць на выставе «Паралелі», арганізаванай у выставачным цэнтры Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь у верасні 2010 года. Яны больш чым уражвалі. Першае, што шакіравала, — чалавекацені на распаленым ад сонца белым ходніку суперквартала, разлінаванага на роўныя квадраты. Тут ўжо няцяжка зразумець гульню слоў у назве серыі, што ў перакладзе гучыць як «Безабароннасць». Сапраўды, становішча вельмі неадназначнае. Замест парыжскай разняволенасці і шармантнасці — суперканструктыўная арганізаванасць. (Нават мадэрнізаваны берлінскі комплекс «Патсдамэрпляц» выглядае ў параўнанні з гэтым «не па-нямецку» больш дэканструктыўна-нямэтазгодна — асабістае меркаванне. — **Я. Ш**.). Тут мы нават не можам угледзецца ў твары імкліва праходзячых парыжан і прачытаць на іх самаабарончы смутак. Яны ўспрымаюцца як абагуленыя неакрэсленыя абрысы, якія рухаюцца ў запраграмаванай прасторы, уздымаюцца на эскалатарах, абдымаюцца ў тунэлях, пазіраюць на свае адбіткі ў халодных зашклёных панэлях-люстэрках муроў, што абступаюць іх з усіх бакоў. Нават неба праглядаецца праз запраграмаваныя формы светакалодзежаў! Ці ўсё скончана, і парыжскі ўзор азначае пачатак хуткай дэгуманізацыі еўрапейскага грамадства XXI стагоддзя? Мастак адказвае вельмі аптымістычна, згодна з рэкламным плакатам, змешчаным на адной з кампазіцыі серыі: «Surmontez vos craintes» («Будзьце вышэй за вашыя жахі»). Парыжане ў цэнтры Ла Дэфанс дэманструюць узор свайго талерантнага стаўлення да архітэктурнага холаду і геаметрычнага пурызму. Яны спрабуюць яго статыку пераадолець жывым рухам. Тут кожны сам-насам злучаецца з асяроддзем прастакутнікаў і дыяганалей і выходзіць з яго без адзінай драпіны. Нават адзін чалавек у стане яго ажывіць сваім з’яўленнем, а тым больш два, тры ці дванаццаць!

Як нідзе, у цэнтры Ла Дэфанс чалавек становіцца жывым прадстаўніком флоры і фаўны, нібы рухавым кусцікам, мабільным увасабленнем дрэва ці кветкі, бо іх там вельмі не хапае. Так, балазе, выглядаюць скадрыраваныя кампазіцыі Цьеры, калі паміж чалавекам і архітэктурай няма ніякага прыроднага пасрэдніцтва, апроч што яснага дзённага святла і ценяў ад дрэў за кадрам.

Можна па-рознаму прачытаць ідэю «Sans Défense», па-свойму для сябе яе растлумачыць. Прыходзіць думка, што сучаснае грамадства павінна прайсці праз такое адметнае архітэктурнае выпрабаванне, адчуць сябе нібы гуманоідным экспанатам у шкляным футарале, забрацца на штучныя пірамідальныя горы, на ліфце ўзняцца вышэй за аблокі, спусціцца ў шахты ніжэй за калодзежныя воды, каб нарэшце ясна і канчаткова зразумець сваё гуманістычна-футурыстычнае прызначэнне. Мабыць, чым больш людзей будуць наведваць Ла Дэфанс, тым хучэй прыйдзе такое разуменне магістральнага шляху да мадэрнізацыі, дзе, у рэшце рэшт, безабаронныя стануць абароненымі.

Можна паспрабаваць таксама адчуць і іншыя ідэйныя матывацыі, якімі кіруецца аўтар такой шматзначнай серыі. Гэта яшчэ раз даказвае, што мы маем справу з вельмі ўдалымі творамі надзвычай перспектыўнага мастака 2010-х гадоў. Ён, па вялікім рахунку, знайшоў сваю вялікую тэматычную панараму, якая глыбока закранае экзістэнцыю нашых сучаснікаў у гарадскім асяроддзі, якое, нягледзячы на розныя рэгіёны свету, змяшчае шмат пытанняў і адказаў на многія актуальныя глабальныя праблемы.

Пасля першых спроб асэнсавання твораў Цьеры Клеша пачынаеш па-новаму ўспрымаць вялікае ўздзеянне на грамадскую свядомасць сучаснай архітэктуры не толькі Парыжа, але і Мінска, асабліва ў новых кварталах і мікрараёнах, у метро, на шматлікіх будаўнічых пляцоўках, што яшчэ нядаўна былі велізарнымі катлаванамі. Скрозь жывуць і працуюць людзі, рухаюцца, нешта робяць, сумуюць і радуюцца, не зважаючы на тое, што большасць з іх адарваліся ад цалкам іншага традыцыйнага асяроддзя. На сумяшчальнасці або несумяшчальнасці традыцыйнага з нетрадыцыйным тут паўстае шмат кантрастаў, супярэчнасцей, парадоксаў.

Цікава, як гэты свет мог бы праявіцца і на нечым нечаканым сфакусіравацца пры дапамозе аб’ектыва парыжскага мастака, вобразная праўда якога так шмат дае падстаў для новых думак і меркаванняў?

Здаецца, ён неўзабаве наведае Мінск, і мы ўбачым выдатны працяг яго творчых адкрыццяў.

***Яўген ШУНЕЙКА***

# СЯМ’Я ПРЫШЫВАЛКАЎ:
## «Дзеці дадзены чалавеку, каб дзяліцца сваёй любоўю»

***Цёплая атмасфера ў доме адчуваецца як толькі пераступаеш парог. Насамрэч такіх дамоў і такіх сем’яў зусім няшмат. Тых, дзе жывуць любоў, павага. І тых, да якіх хочацца прыходзіць у госці зноў і зноў.***

Цёплая атмасфера ў доме адчуваецца як толькі пераступаеш парог. Насамрэч такіх дамоў і такіх сем’яў зусім няшмат. Тых, дзе жывуць любоў, павага. І тых, да якіх хочацца прыходзіць у госці зноў і зноў.

Зою Прышывалку я ведаю некалькі год. Мы пазнаёміліся на адукацыйным праекце для жанчын. «Праект Ж» — ён так і называўся. Каля дваццаці жанчын аб’ядналіся, каб падзяліцца сваімі праблемамі, ідэямі, каб навучыць адна адну жыць лепш. На той момант Зоя толькі-толькі нарадзіла сваю першую дачушку Ульяну. І на экскурсію ў Вілейку яна змагла прыехаць усяго на адзін дзень. Але я назаўсёды запомніла, з якім клопатам і з якою пяшчотай яна расказвала пра сваю сям’ю. У мясцовых бабулек, да якіх мы завітвалі падчас вандроўкі, яна пыталася пра народныя рэцэпты прыгатавання ежы, пра хатнія спосабы лячэння.

І вось зусім нядаўна пашчасціла пабываць у гасцях у Зоі і яе сям’і. Прызнаюся, раней мне заўсёды падавалася, што камфортным можа быць толькі вялікае жытло. А тут — такая маленькая кватэра, але такая ўтульная і такая арганічная. У прыхожай на сцяну прымацаваны старажытныя прылады працы беларусаў. Гэта хобі мужа Зоі — Алеся. У асноўным пакоі шмат рэчаў, зробленых сваімі рукамі — яны ў Зоі сапраўды залатыя. Адразу становіцца цікава, дзе пазнаёміліся сённяшнія муж і жонка Прышывалкі.

— Я ўбачыла Сашу ў Беларускім калегіуме, — пачынае свой расповед Зоя. — На філасофскае аддзяленне я прыйшла, каб хоць трохі адысці, супакоіцца пасля няўдалага папярэдняга кахання. А вось Саша, як пасля высветлілася, прыйшоў туды, бо ягоная сяброўка падшукала яму ў групе дзяўчыну.

— Не Зою, — усміхаецца Алесь. — Але аднойчы я патэлефанаваў ёй, каб папрасіць звязаць мне што-небудзь на замову. Зойка заўсёды прыходзіла ў такіх прыгожых вязаных рэчах, што яны мяне і спакусілі. Мы дамовіліся на сустрэчу, дык вось з таго часу і разам.

Цікава, што пра жаніцьбу першай загаварыла Зоя.

— Я спытала на перспектыву, ці можам мы ажаніцца, — узгадвае яна. — Алесь адказаў не адразу.Толькі на наступны дзень паведаміў, што згодны.

На той момант Зоя вучылася ўжо на геаграфічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. А Саша працаваў па размеркаванні інжынерам на МАЗе.

— Мае сваякі здзівіліся, што я сабраўся ажаніцца. Ніхто не чакаў, што так хутка пачну самастойнае сямейнае жыццё.

Першы час маладой сям’і было складана. Былі праблемы з жыллём, Зоя яшчэ заканчвала ўніверсітэт. Сваякі адгаворвалі маладых так хутка заводзіць дзяцей. Маўляў, будуць фінансавыя складанасці.

— У нас стэрэатыпна лічыцца, што заводзіць дзяцей трэба тады, калі кар’ера склалася, ёсць кватэра свая, машына… — поўны камплект. Але на практыцы атрымліваецца



*Разам са старэйшай дачушкай Ульянай.*

Сапраўды, у сучасным грамадстве зараз пануюць ідэі свабоды і незалежнасці, у тым ліку ад дзяцей. Ствараюцца адмысловыя суполкі людзей па інтарэсах. Напрыклад, чайлдфры (*англ.* child free — вольныя ад дзяцей) добраахвотна на ўсё жыццё адмаўляюцца мець дзяцей. Часта гэта паспяховыя людзі, якія маюць добрыя стасункі з партнёрам, але іх свядомы выбар не нараджаць. Яны лічаць, што дзеці будуць замінаць ім развівацца. Яны не гатовыя шмат часу і сваёй любові аддаць нашчадкам. Цікава, што ў Заходняй Еўропе існуюць тэматычныя сустрэчы чайлдфры. А іх ідэі дайшлі і да Беларусі.

— Дзеці для таго дадзены чалавеку, каб дзяліцца сваёй любоўю. У чалавека шмат любові, яе трэба камусьці аддаваць, — лічыць Алесь. — Мы з жонкай не ўяўляем, як можна адмовіцца ад дзяцей, ад свайго працягу.

інакш. Бог дае дзяцей і дае на дзяцей, нездарма так кажуць, — упэўнена Зоя.

— Дзеці падсцёгваюць, каб рабіць больш. Кватэру мы набылі, калі з’явілася Ульяна. У гэты ж час я змяніў працу на больш прыбытковую. Так што эканамічныя прычыны часта штучныя.

Так ці інакш, многія маладыя людзі баяцца заводзіць дзяцей, бо не сакрэт, што на грашовую дапамогу па даглядзе за дзіцёнкам доўга не пражывеш.

— Я ўпэўнена, што вельмі важная тут падтрымка мужа. Яшчэ нам вельмі моцна дапамагалі сваякі. І я ніколі не бачыла нічога заганнага ў тым, каб папрасіць дапамогі. Вядома ж, дзеці хутка вырастаюць з адзення. Пасля гэтыя рэчы пераходзяць да іншых сваякоў. З дзіцёнкам становішся больш разважлівым і больш ашчадным, — мяркуе Зоя. — Я вось нядаўна пачула ад маладой дзяўчыны: «Дзіця — гэта дарагое задавальненне». Мяне такія фразы проста абураюць. Бо, ведаеце, для мяне дарагое задавальненне — гэта BMW X6 на дадзены момант ці загарадны дом. Але пра дзіця, пра жывога чалавека так казаць нельга. Уявіце сабе, каб вашы бацькі вам такое сказалі. Як бы вы сябе адчувалі?

Дарэчы, розніца ва ўзросце паміж маленькімі сёстрамі ўсяго два гады. Ульяну Зоя нарадзіла ў 23 гады, а Міхаліну — у 25.

— У мяне шмат знаёмых казалі: «Якія дзеці? Якая сям’я?» Але, калі прыходзіў свой час, калі побач быў свой чалавек, яны змянялі сваё рашэнне, — распавядае Зоя. — Ёсць, праўда, і такія мамы, якія перажываюць, што дзеці замінаюць ім, забіраюць шмат часу. Мамы гэтыя не могуць хадзіць на абцасах, фарбавацца некалькі гадзін… Што я магу сказаць на гэта? Я думаю, у гэтых жанчын дзеці з’явіліся несвоечасова. Яны ў іх проста атрымаліся. А ў мяне мой час настаў. І я адчуваю сябе шчаслівай мамай.

Са з’яўленнем дзіцёнка жыццё мужа і жонкі, бадай, кардынальна змяняецца. Трэба перастройваць увесь свой ранейшы лад жыцця. І вельмі часта, асабліва ў жанчыны, не знаходзіцца часу, каб пабыць адной, адпачыць, заняцца самаразвіццём. Гэты аспект таксама палохае будучых мам.

— Я ведаю, што мой час наступае ноччу. Калі ўсе засынаюць, я маю некалькі гадзін, каб заняцца любімай справай, — працягвае Зоя. — Насамрэч па гаспадарцы ўсё можна лёгка паспяваць, калі ўмееш размяркоўваць

свой час. Суп можна зварыць на некалькі дзён, праць за цябе можа машынка… Вы падумайце, як нас гадавалі нашы мамы, якія не мелі ўсёй гэтай сённяшняй тэхнікі, памперсаў, прысыпак і г. д. Але спраўляліся, і добрыя дзеці выраслалі.

— Вельмі важная падтрымка і дапамога мужа. У нас такога няма, што я прыйшоў пасля працы, лёг на канапу, уключыў тэлевізар і сам па сабе ляжу, а жонка і дзеці самі па сабе, — дадае Алесь. — Я забіраю Ульяну з садочка. Пасля мы яшчэ некаторы час гуляем на вуліцы. Іншыя мамы здзіўляюцца гэтаму. Па ўсім бачна, што іхнія мужчыны, на жаль, мала цікавяцца сваімі дзецьмі. Але я перакананы, што і маці, і бацька аднолькава павінны ўдзельнічаць у выхаванні дзяцей. І гадаваць дзетак, даглядаць за імі — гэтакая самая праца. Так што нашы жанчыны ў дэкрэтным адпачынку таксама моцна стамляюцца. Ім патрэбна наша, мужчынская, падтрымка і дапамога.



*Першая фотасесія Міхаліны.*

Цікава, што і Зоя, і Алесь маюць свае хобі, якому стараюцца таксама надзяляць шмат часу. Зоя цудоўна вяжа спіцамі і кручком, у вольны час удзельнічае ў адукацыйных праектах, шмат чытае. Алесь у хатніх умовах пячэ сапраўдны беларускі хлеб. Па крупіцах ён збіраў інфармацыю пра тэхналогію выпечкі, шукаў старажытныя рэцэпты. І вось цяпер у іх доме заўсёды ёсць бохан свайго хлеба.

Планы ў сям'і Прышывалкаў сапраўды вялікія і вельмі аптымістычныя. Яны марацць пра стварэнне рэстарацыі з нацыянальнай кухняй. Тым больш, што абодва знатныя кухары. Таксама яны збіраюцца пабудаваць свой вялікі дом, дзе будзе месца ўсім дзецям. На двух дзецях, дарэчы, Зоя і Алесь спыняцца не збіраюцца.

— Нам хлопчыка ў кампанію не хапае. Каб весялей было. Дый столькі імёнаў беларускіх яшчэ не засвоена! — з аптымізмам глядзіць у будучыню мама Зоя.

***Дар'я ГУШТЫН***

*Фота з сямейнага архіва сям'і Прышывалкаў*



Ігар ЦІМЧАНКА

# ІЗМАІЛ ЯГОНАГА ЛЁСУ

## ВАСЬКА ІВАНОЎ З ІВАНАВА

Вайна 1812 года заспела 117-ы Яраслаўскі пяхотны полк у сяле Ялавены, што пад Кішынёвам. Здавалася б, яраслаўцаў, як і іншыя элітныя часці рускай арміі (інакш гэты полк яшчэ называўся мушкецёрскім, бо служылі ў ім адборныя салдаты, узброеныя мушкетамі — зброяй, што выкарыстоўвалася ў бліжнім баі для паражэння воінаў праціўніка, якія мелі на сабе розныя засцерагальныя прыстасаванні), вышэйшае камандаванне адразу перакіне на які-небудзь найбольш адказны ўчастак, каб стрымліваць наступленне французаў, але да лета полк так і не пакінуў свайго размяшчэння.


*Іосіф Сакалоўскі.*

Чаму так адбылося, для камандзіра часці палкоўніка Сакалоўскага гэта, праўда, не з'яўлялася сакрэтам. Цяжкія баі з Турцыяй, у якіх пастаянна прымалі ўдзел яраслаўцы, дорага каштавалі ім. Дайшло да таго, што са строю выйшла больш за палову асабовага складу. Каб працягваць далейшыя баявыя дзеянні пры падобнай недаўкамлектаванасці і гаворкі не магло ісці. А да ўсяго хутка павінна была адбыцца ратыфікацыя мірнага дагавора з Турцыяй.

Гэтыя дзве прычыны і паспрыялі затрымцы яраслаўцаў у Ялавенах. Аднак чакалі ўсё ж не столькі канчатковага ўрэгулявання пытанняў з турэцкім бокам, колькі прыбыцця папаўнення з цэнтральных раёнаў Расіі. Аднак давялося правесці нямала часу, бо папаўненне паступала нерэгулярна, пры тым невялікімі партыямі з розных рэгіёнаў. Апошняе вельмі непакоіла Сакалоўскага, бо па гэтай прычыне нельга было прыступіць да абучэння навабранцаў, а Іосіф Карлавіч даўно з'яўляўся нязменным прыхільнікам сувораўскага правіла: «Цяжка ў вучэнні — лёгка ў баі».

Полк быў даўкамплектаваны толькі да канца вясны 1812 года. Каб абучыць маладых салдат хоць крыху азам армейскай навукі (на большае разлічваць не даводзілася), у распараджэнні Сакалоўскага заставаўся месяц-другі, бо даведаўся, што давядзецца пакідаць Ялавены і рухацца ў паўднёвым накірунку, каб сустрэцца з Малдаўскай (Дунайскай) арміяй Паўла Чычагова.

Сакалоўскі загадаў пастроіць полк, каб бліжэй пазнаёміцца з навабранцамі. Пасля таго, як было дакладзена аб пастраенні, прыняўшы рапарт, Іосіф Карлавіч скамандаваў традыцыйнае: «Вольна!» і вырашыў прайсціся ўздоўж шарэнгі.

Бравыя ваякі, калі ён набліжаўся да іх, выструньваліся па стойцы «смірна», выпіналі грудзі. Гледзячы на стараслужачых, спрабавалі паследаваць іхняму прыкладу і мала-

дыя салдаты, але атрымлівалася не ўва ўсіх. Некаторыя пры гэтым станавіліся смеху вартыя: вочы напружваліся, замест грудзей наперад падаваўся жывот, але Сакалоўскі быццам і не заўважаў гэтага. Наадварот, стараўся кожнага пахваліць, падбадзёрыць. Нарэшце затрымаўся каля аднаго салдата, які яму нечым спадабаўся. Чым дакладна, нават сказаць сабе не мог. Магчыма, таму, што ў параўнанні з іншымі, выглядаў куды больш рослым. А яшчэ паводзіў сябе ўпэўнена, нібыта і не навічок. Не адвёў і позірку, калі Сакалоўскі ўважліва, ва ўпор паглядзеў на яго.

— Адкуль будзеш, зямляча? — запытаўся Іосіф Карлавіч.

«Зямляча», як баявы ваяка наструніўся так, што пачаў нагадваць сабой не чалавека, а нібыта манекен, выпнуў наперад грудзі — ажно цесна стала гімнасцёрцы:

— Іванаўскія мы, ваша высокаблагароддзе!

Пачуўшы гэтае «іванаўскія мы», Сакалоўскі з цяжкасцю саўладаў з сабой, каб не засмяяцца. Не лягчэй удавалася стрымаць сябе і тым салдатам, якія стаялі поруч з «іванаўскім» і ўсё чулі, аднак і яны зрабілі выгляд, што нічога незвычайнага не адбылося, дый пабойваліся камандзіра палка.

— Кажаш іванаўскія? — перапытаў Іосіф Карлавіч. — І чым жа вы, іванаўскія, адметныя?

— А мы, іванаўскія, ворага не баімося!

Прамоўлена гэта было настолькі ўпэўнена, што Сакалоўскі не адразу і знайшоўся, што і сказаць, але, паколькі салдат яму ўсё больш падабаўся, вырашыў гаворку прадоўжыць у тым жа духу:

— Няўжо ўсе іванаўскія ворага не баяцца?

— Усе, як адзін, ваша высокаблагароддзе! — адрапартаваў салдат.

— Чаму? — здзівіўся шчыра.

— Ваша высокаблагароддзе! Дык сяло ж Іванава непадалёку ад Яраслаўля знаходзіцца, а полк наш («наш» ён прамовіў, што не прайшло для Сакалоўскага незаўважна, з гонарам) — Яраслаўскі! Інакш ваяваць проста нельга!

— Маладзец! —- Іосіф Карлавіч гатоў быў расцалаваць гэтага салдата і толькі цяпер спахапіўся, што той так і не прадставіўся, калі да яго звярнуўся камандзір палка, а ён, Сакалоўскі, прапусціў гэта міма вушэй: — Дык як жа зваць-велічаць цябе «іванаўскі»?

— Васька Іваноў, — салдат выпаліў на адным дыханні, але своечасова паправіўся, — вінават, ваша высокаблагароддзе.

І дадаў ужо зусім па-статутнаму:

— Радавы Іваноў!

— Значыць, Іваноў з Іванава?

— Так точна, ваша высокаблагароддзе!

— І шмат вас, ваякаў, у Іванаве? — працягваў цікавіцца Сакалоўскі.

— Сяло не такое і вялікае, ваша высокаблагароддзе, але многія ваявалі.

— І дзе?

— А ўсюды... Адзін мой сусед нават пад Ізмаілам.

— Пад Ізмаілам кажаш?

— Пад Ізмаілам, ваша высокаблагароддзе!

Сакалоўскі адчуў, як нечакана нейкая лёгкая, да канца не ўсвядомленая яшчэ хваля наплыла на яго, ахінула ўсяго і ад гэтага дотыку стала цёпла і хораша на сэрцы— так прыемна, быццам даўно чакаў гэтага моманту, калі можна неўпрыкмет як бы паяднацца са сваім мінулым, і цяпер ён, гэты момант, нарэшце надышоў, прынёсшы з сабой самыя розныя згадкі і асацыяцыі.

Уражвала аднак не тое, што адбылося ўсё так раптоўна. Здзіўляла, што гэтае ўваходжанне ягонага колішняга ў яго сённяшняе адбылося пры такіх нечаканых абставінах. А яшчэ падумаў, што, бадай, нельга не патлумачыць гэтаму салдату, у чым прычына таго, што ён надоўга замаўчаў, быццам збіраючыся з думкамі і не ведаючы, што сказаць. Гэта абавязкова трэба было зрабіць яшчэ і таму, што і іншыя байцы не маглі не здагадацца, што нешта паўплывала на нечаканыя змены ў настроі камандзіра.

Сабраў усю волю ў кулак, пастараўся быць як мага больш спакойным і, гледзячы ў вочы Васілю Іванову, прамовіў:

— Пад Ізмаілам я ваяваў.

Хоць і разумеў, што ў дадзеным выпадку далейшыя тлумачэнні наўрад ці неабходныя —усё ж перад ім знаходзіўся звычайны салдат, пры тым яшчэ не абучаны, а ён жа палкоўнік, камандзір палка, тым не менш не мог не патлумачыць:

— Там я прайшоў першую сапраўдную загартоўку... — і дадаў даверліва: — Зразумеў, радавы Іваноў?

— Так точна, ваша высокаблагароддзе!— паспяшаўся адказаць Іваноў..

— Хацеў бы, каб і ў цябе, Іваноў, быў свой Ізмаіл.

Сакалоўскі адышоў на некаторую адлегласць ад шарэнгі, стаў так, каб бачыць перад сабой усіх байцоў і, звяртаючыся да іх, а найперш да маладога папаўнення, дадаў:

— Каб кожнага з вас напаткаў свой Ізмаіл.

## МОЦНЫ АРЭШАК

Калі ж пасля пастраення, вярнуўся ў свой штаб — невялікі дом, што размяшчаўся ў самым цэнтры Ялавенаў, гэтае вяртанне да падзей руска-турэцкай вайны не адпускала ад сябе, бо з Ізмаілам у ягонай біяграфіі і сапраўды было звязана надта шмат, і менавіта пасля паспяховага завяршэння гэтай баявой аперацыі ён канчаткова ўпэўніўся, што акурат у армейскай службе — ягонае прызванне, а ўся ранейшая ягоная жыццёвая і вайсковая дарога — ні што іншае, як толькі подступы да найбольш важнага і лёсавызначальнага. Хоць і да гэтага паспеў ужо нямала загартавацца ў баях, і з многіх з іх выходзіў пераможцам. Аднак Ізмаіл — асобая вяха...

Нарадзіўся Сакалоўскі ў 1763 годзе ў вёсцы Філатава Аршанскага павета Віцебскага ваяводства (цяпер Круглянскі раён на Магілёўшчыне). Некаторы час служыў у польскім войску, але пасля таго, як саюзнікі Расія, Прусія і Аўстрыя пачалі паміж сабой падзел Рэчы Паспалітай, быў залічаны сяржантам у Яраслаўскі пяхотны полк. З гэтага моманту і пачалася ягоная баявая біяграфія. Асабістая смеласць, ініцыятыва, рашучасць спрыялі таму, што на Сакалоўскага звярнула ўвагу камандаванне палка, а таму і пачаўся ягоны хуткі службовы рост. У 1787 годзе, падчас чарговай вайны Расіі з Турцыяй ён ужо камандаваў ротай, а потым яму даручылі батальён.

Праз тры гады з пачатку гэтай ваеннай кампаніі, пры знаходжанні яраслаўцаў на подступах да Ізмаіла, Сакалоўскі ўзначаліў полк. І адразу змог упэўніцца, наколькі непрыступная гэтая турэцкая крэпасць, без авалодвання якой рускае камандаванне не магло разлічваць на поспех у вайне з Турцыяй.

Пабудаваная ў XVI стагоддзі на левым беразе Дуная, яна нагадвала сабой прамавугольны трохкутнік, востры вугал якога быў скіраваны на поўнач. Аснова ж яго быццам абапіралася на сам Дунай. Дзеля таго, каб зрабіць умацаванні як мага больш непрыступнымі для праціўніка, крэпасць, як гэта звычайна і рабілася ў падобных выпадках, абнеслі высокім валам і глыбокім ровам, у некаторых месцах напоўненым вадой. Але далёка не кожная цытадэль мела такую працягласць гэтых умацаванняў: у Ізмаілы яны цягнуліся ажно на дванаццаць кіламетраў.

Аднак і пераадолеўшы роў і вал, на лёгкі поспех разлічваць не даводзілася. Наперадзе знаходзіліся магутныя крапасныя сцены. Яшчэ больш непрыступнымі з'яўляліся ўваходныя вароты. З боку ж мора крэпасць прыкрывалі 10 асобных батарэй, на ўзбраенні якіх былі гарматы вялікіх калібраў і марціры. Яшчэ 100 гармат стаялі на верках. Усяго ж туркі мелі 260 гармат. Многія дамы на тэрыторыі крэпасці нагадвалі сабой, няхай і невялікія, але непрыступныя ўмацаванні. Пастараліся наконт гэтага будаўнікі, калі гадоў пятнаццаць назад Ізмаіл яшчэ больш умацавалі, ажыццяўляючы праект французскага інжынера дэ Лафіта-Клаве.

Рускім ужо даводзілася неаднойчы штурмаваць гэтую крэпасць і небеспаспяхова. У руска-турэцкую вайну 1768—1774 гады Ізмаіл быў узяты корпусам М. Рэпніна і з'яўляўся базай Дунайскай флатыліі, але пасля заключэння ў 1774 годзе Кучук-Кайнарджыйскага міру Расія яго вярнула Турцыі. Пасля чаго туркі і вырашылі Ізмаіл яшчэ больш умацаваць і запрасілі французскіх і нямецкіх інжынераў.

Цяпер жа, у 1790 годзе галоўнакамандуючы рускай арміяй князь Грыгорый Пацёмкін-Таўрычаўскі пасля авалодвання крэпасцямі Кілія, Тульча і Ісакча, загадаў атрадам генералаў Івана Гудовіча і Паўла Пацёмкіна (свайго пляменніка), а таксама флатыліі генерала О. дэ-Рыбаса ўзяць Ізмаіл. Выконваючы загад «святлейшага» рускія войскі падышлі да крэпасці на адлегласць прыкладна пяць кіламетраў і абклалі яе паўкругам.

Аднак праходзілі дні, дні складваліся ў тыдні, а сівы мухафіц (камендант) крэпасці Айдозлі Мегмет-паша толькі пасмейваўся

сабе, адбіваючы атаку за атакай: сцены паранейшаму заставаліся непрыступнымі, а таго, што асада прадоўжыцца, не баяўся. Хапала ў яго і зброі, найперш снарадаў, ставала і запасаў харчу. А да ўсяго пасланыя разведчыкі дакладвалі яму, што нават калі не вядуцца баявыя дзеянні, рускія баяцца вылазак турак, а таму ноччу спяць апранутымі ды выстаўляюць узмоцненую ахову.

А між тым набліжалася зіма, якая нічога добрага наступаючым не абяцала, бо зіма — гэта, як вядома, маразы, а палаткі, у якіх размяшчаліся рускія салдаты, былі слаба ўцепленымі дый тых не ставала. Не хапала і боепрыпасаў. Яны і дагэтуль дастаўляліся нерэгулярна і са спазненнем, а ў зімовых умовах з гэтым, канечне ж, узнікнуць яшчэ большыя цяжкасці.

Ваенны савет (а пра гэта таксама данеслі Мегмет-пашы), сабраны генералам А. Самойлавым, які замяніў Гудовіча вырашыў зняць асаду крэпасці, а прасцей кажучы — адступіць. Меркавалася перачакаць ліхалецце на зімовых кватэрах, а вясной вярнуцца і працягваць штурм.

Намер Самойлава многія ўхвальвалі, бо ўсім надакучыла знаходзіцца ў пастаянным напружанні дый спадзяванняў на лепшае меншала з кожным днём. А да ўсяго бяздзейнасць расслабляла. Адна толькі флатылія ў гэты час праявіла некаторую актыўнасць і захапіла востраў Чатал (Сулін), паставіўшы па ім батарэю, якая б, калі б штурм адбыўся, магла б стаць для наступаючых добрай падмогай.

Першай знялася з месца частка войскаў пад камандаваннем Паўла Пацёмкіна. Услед за імі пацягнулася па восеньскай гразі магутная асадная артылерыя, пасля чаго ля сцен Ізмаіла ўжо сапраўды не было чаго рабіць, бо толькі яна магла нанесці вялікі ўрон абарончым збудаванням. Рыхтаваліся да адступлення і яраслаўцы...

Аднак менавіта ў гэты момант, калі, здавалася, да вясны Ізмаіл можа знаходзіцца ў спакоі, «святлейшы» праявіў нечаканую для яго рашучасць і, на здзіўленне ўсім, адмяніў рашэнне ваеннага савета і загадаў спыніць адступленне. Больш таго, звярнуўся да Аляксандра Суворава, каб той узяў камандаванне часцямі, што асаджалі крэпасць, у свае рукі, а ўслед за гэтым паследаваў загад узяць Ізмаіл.

Прыезд Суворава стаў радасным днём нават для самых вялікіх песімістаў. Усе яшчэ знаходзіліся пад уражаннем таго, як год назад ён са сваім 25-тысячным войскам разбіў 100 тысяч турак каля Рымніка, за што атрымаў ордэн Георгія I ступені і тытул граф Рымнікскі, а тым самым слава пра яго ваеннае майстэрства набыла шырокі размах. Дый у многіх іншых баях Сувораў даказаў, што перад ім няма перашкодаў, якія нельга не пераадолець. І да Рымніка ён ніколі не меў паражэнняў.

У першы ж дзень прыбыцця Сувораў шмат не гаварыў, а адразу загадаў у пяці вёрстах ад лагера насыпаць гэткі ж вал, як і той, што знаходзіўся на подступах да Ізмаіла, а таксама выкапаць роў, які б адпавядаў ізмаільскаму.

Неўзабаве і Сакалоўскі даведаўся аб тым, якая роля адводзілася яраслаўцам. Ягоны полк павінен быў дзейнічаць разам з часцямі, што збіраліся атакаваць Ізмаіл з поўдня. Але да ўсяго сам Сувораў паставіў Іосіфу Карлавічу задачу — узарваць крапасныя вароты. Не частку крапаснай сцяны, а менавіта вароты.

Што штурму чакаць нядоўга, сумнення не засталося пасля таго, як пачалася бесперапынная бамбардзіроўка крэпасці з 600 гармат. Перад гэтым Сувораў прад'явіў каменданту Ізмаіла ўльтыматум, у якім у суровай форме запатрабаваў капітуляцыі: «Я з войскамі прыбыў сюды; 24 гадзіны на роздум — воля; першы мой выстрал — няволя; штурм — смерць, што пакідаю вам на разгляд...».

Ды Мегмет-паша быў упэўнены ў тым, што крэпасць узяць немагчыма. Праўда, на ўсялякі выпадак папрасіў перамір'я на дзесяць дзён, але Сувораў лёгка разгадаў ягоны намер. У гэтай мясцовасці пачаліся зімовыя туманы, праз некаторы час яны ўзмацняцца, таму штурм па сутнасці стане немагчымым. Заявіў, што ні пра якое перамір'е не можа ісці гаворкі. Тады Мегмет-паша на сувораўскі ўльтыматум адказаў з няменшай катэгарычнасцю: «Хутчэй Дунай спыніцца ў сваім цячэнні, а неба ўпадзе на зямлю, чым Ізмаіл здасца!»

Адказ Мегмет-пашы раззлаваў Суворава:

— Я не дазволю з сабой так размаўляць! Ультыматум заканчваецца. Наступленне пачынаем сёння ноччу.

Блізіўся вечар 21 снежня 1790 года.



*Штурм Ізмаіла.*

## НАПЕРАД, НА КРЭПАСЦЬ!

Да пачатку атакі заставалася некалькі гадзін. Кожны з камандзіраў пастараўся выкарыстаць іх з найбольшай карысцю. Не адмовіўся ад падобнай мажлівасці і Сакалоўскі, які менавіта цяпер, калі да яго дайшла вестка аб хуткім штурме крэпасці, ва ўсёй паўнаце зразумеў, якая вялікая адказнасць ускладаецца на ягоны полк. Калі не ўдасца ўзарваць вароты, наступленне на паўднёвым накірунку захлынецца.

Яшчэ раз пагутарыў з малодшымі афіцэрамі, запыніў увагу на самым галоўным, каб даць ім яшчэ магчымасць правесці гутаркі са сваімі падначаленымі. Пасля ж поўначы, яраслаўцы, убачыўшы, як цёмнае неба з розных бакоў асвяцілі сігнальныя ракеты, хутка пастроіліся, каб далучыцца да іншых часцей і ў паходнай калоне рушыць наперад.

Усіх калон было 9, па тры ў кожным з 3 баявых атрадаў, створаных Суворавым.

Мацнеў мароз, прабіраючы да касцей. Байцы паўзнімалі каўняры шынялёў, каб стала хоць крыху цяплей, але гэта мала дапамагала, холад усё адно працінаў да касцей. Наўкола панавала цёмная ноч і гэтае груканне, лязгат зброі а таксама дыханне тысяч людзей, ад якога падымаліся клубы пару, парушалі спакой, што пануе такой часінай. А яшчэ чуліся беспераліынныя каманды, іржалі коні...

Разам са сваімі байцамі, якія прыгіналіся з-за цяжкіх скрынак з узрыўчаткай, што неслі на спінах, крочыў і Сакалоўскі. Вялікія ж бочкі з порахам везлі на павозках. На іх ляжалі і загадзя падрыхтаваныя платы, на якіх збіраліся пераадолець водную перашкоду. Іосіф Карлавіч спецыяльна злез са свайго каня, каб адчуваць яшчэ большую паяднанасць з байцамі, з многімі з якіх неаднойчы прымаў удзел у баях, а таксама з маладымі, яшчэ належным чынам не абстралянымі, якім неўзабаве давядзецца трымаць ці не самы сур'ёзны экзамен у жыцці.

Ён выразна бачыў твары іх, бо чым бліжэй набліжаліся да крэпасці, тым часцей неба асвятлялася ракетамі праціўніка, які нарэшце зразумеў, што наперадзе чакаецца штурм, а калі не бачыў, дык па голасе распазнаваў, хто прамаўляе — бывалы служака ці той, хто знешне стараецца трымацца ўпэўнена, а ў самога на душы цяжка, бо яму ніколі не даводзілася трапляць у такую сітуацыю.

Нарэшце з турэцкага боку раздалася некалькі гарматных выстралаў.

— Прачнуліся туркі, — пачулася ў шарэнзе.

— Пачакайце, басурманы, дадзім вам дыхту.

— Ох, і злы ж я на вас! — здаравяк, які крочыў паблізу ад Сакалоўскага, мацюкнуўся.

— І мае нервы на ўзводзе, — следам раздаўся яшчэ адзін голас.

Зірнуў Іосіф Карлавіч у той бок, і рассмяяўся: баец, які сказаў гэта, ніяк не выглядаў на бравага ваяку. Засмяяліся і ягоныя таварышы, а хтосьці не ўстрымаўся, запытаўся:

— І чым гэта турак паспеў табе насаліць?

— Чым? — байцу, відаць, спадабалася, што нечакана апынуўся ў цэнтры ўвагі .— А нічым. Турак — і гэтым усё сказана.

Падабалася Іосіфу Карлавічу, што байцы не страчваюць пачуцця гумару. Не спыніў іх і гарматны абстрэл, які пачаў узмацняцца. І як у пацвярджэнне, недзе наперадзе раздаўся грукат — няйначай упала ядро, а пасля пачуліся енкі.

«Першыя ахвяры, — падумалася Сакалоўскаму, — а колькі яшчэ іх будзе». Але нічога не сказаў, навошта даваць падставы байцам для страху. Дый крэпасць побач ужо, нікому нельга ні на хвіліну расслабляцца.

Паступіў загад штурмавым калонам спыніцца.

Было тры гадзіны ночы.

Некаторыя байцы паваліліся на зямлю, каб хоць крыху расслабіцца, не зважаючы, што яна прамёрзлая. Іншыя прыселі на скрынкі з узрыўчаткай, хтосьці на фашыны і лесвіцы для штурму, якія ў вялікай колькасці неслі з сабой. Хоць прайшлі не так і шмат, аднак усё адно стома давала аб сабе знаць, а яшчэ сказвалася нервовае напружанне.

Сакалоўскі ж у гэты час знаходзіўся ў камандзіра калоны, дзе і даведаўся, што пачатак штурму прызначаны на 5 гадзін 30 мінут раніцы.

## РАШУЧАСЦЬ І ЎМЕЛЬСТВА

Зноўку асвятлілі неба ракеты і адначасова ў бок крэпасці ударылі сотні гармат. Быццам спаборнічаючы з імі, загаварылі марціры. Яшчэ хвіліна-другая і ў гэтым страшным грукаце пачулася магутнае «ўра!», што нябачнай лавінай паплыло туды, дзе сябе ўжо не адзін месяц адчувалі ў бяспецы туркі. Следам за гэтай лавінай з месца зрушылася сапраўдная лавіна, якая складалася з тысяч салдат і афіцэраў, якіх аб’яднала лютая нянавісць да ворага і жаданне любой цаной, нават калі за гэта давядзецца заплаціць уласным жыццём, перамагчы.

На гэты момант для Сакалоўскага нічога не існавала апроч яго салдат. Міма ягонага не тое, што пільнага, а нейкага пранізлівага позірку незаўважна не праходзіла нішто.

І тое, як на вадзе аселі цяжка нагружаныя плыты, на якіх пачалі перапраўляць праз роў бочкі з порахам. І як замітусіліся салдаты, спрабуючы ўтрымаць іх, але ад таго, што атрымаўся перавес у адзін бок, плыты нахіліліся, гатовыя перавярнуцца і толькі ўвішнасць тых, хто знаходзіўся на іх, дапамагла выратаваць становішча.

І тое, як у іншых месцах рова пачалі пераплаўляцца па фашынах. Аднак і яны аказаліся не надзейнымі: пагойдваючыся па хвалях, станавіліся хісткімі і сёй-той з салдат, утрымліваючы на плячах скрыню з узрыўчаткай, спатыкнуўся, не мог устаяць, валіўся ў ваду, але не здаваўся, спрабаваў уплаў дабрацца да процілеглага берага.

І тое, як тыя, каму ўдалося перабрацца праз роў, узяліся прыступам браць вал, а гэта таксама даводзілася няпроста, бо ён, з-за сваёй вялікай вышыні, быў гэткі ж непрыступны, як і роў, але у некаторых месцах дапамаглі штурмавыя лесвіцы: звязаўшы іх па дзве, байцы ўзлазілі на вал гэтаксама ўпэўнена, як у іншых выпадках, узбіраюцца на крапасныя сцены.

Нарэшце першыя шчасліўчыкі паспяхова пераадолелі гэтыя дзве важныя перашкоды — роў і вал і пад несупынным агнём праціўніка кінуліся да чаканых крапасных варотаў.

Заўважыўшы іх набліжэнне, з байніц, размешчаных у сцяне, агонь яшчэ больш узмацніўся і некалькі чалавек, не дабегшы да варотаў, упалі, падкошаныя кулямі. Ды за імі кінуліся наступныя.

Адны падалі на зямлю, застаючыся на ёй ляжаць назаўсёды.

Іншыя, хоць і былі параненыя, не паварочвалі назад, імкнуліся туды, куды не паспелі дабегчы.

Тыя ж, хто апынуўся каля варотаў, пачалі рабіць падкоп.

Гэта таксама давалася нялёгка, бо са сцен праціўнік ліў расплаўленую смалу, кідаў бярвенні, камяні — усё, што траплялa пад рукі, ператваралася ў зброю. Але ні кулі, ні распраўленая смала, ні што іншае ўжо не магло перашкодзіць тым, ад чыйго поспеху цяпер залежала, як хутка ўдасца ўварвацца на тэрыторыю крэпасці. Яны ўжо дзейнічалі, як той зладжаны механізм, у якім, калі і з’яўляюцца паломкі, дык хутка выпраўляюцца, не зважаючы на тое, якіх

вялікіх намаганняў гэта можа каштаваць. А каб быць упэўненымі, што намаганні не застануцца марнымі, падкопы ажыццяўляліся адначасова ў двух месцах.

Калі ж падкопы былі гатовыя, усе ўздыхнулі з палёгкай. Спешна пачалі падкочваць бочкі з порахам, падкладваць пад іх узрыўчатку. Яшчэ колькі імгненняў і магутны ўзрыў скалануў наваколле. Следам раздаўся другі. Вялізныя крапасныя вароты не вытрымалі і марудна, быццам у нейкім роздуме, пачалі асядаць.

Шлях у крэпасць быў адкрыты.

У іншых месцах таксама ўдалося прарвацца. Дзе праз праломы ў сцяне, зробленыя цяжкой асаднай артылерыяй, а дзе і па лесвіцах.

Пачаліся жорсткія баі ў самой крэпасці, аднак хоць туркі і не збіраліся здавацца, няцяжка было заўважыць, што ў іх ужо няма той упэўненасці, якая існавала дагэтуль. Яны былі проста ашаломлены, што рускія войскі змаглі прарвацца сюды, а гэта паралізавала волю многіх і нярэдка нават самыя адчайныя ваякі меркавалі, што ў падобнай сітуацыі лепш скласці зброю.

## ЯРАСЛАЎЦЫ ЗБРОЮ НЕ СКЛАДВАЮЦЬ

Гэтаксама ўпэўнена дзейнічалі рускія войскі, калі пасля ўзяцця крэпасці, пачалі штурм самога горада. У чатыры гадзіны дня 22 снежня 1790 года Сувораў цалкам авалодаў Ізмаілам. А праз некаторы час пачалі падводзіць і вынікі яго штурму. Туркі страцілі 26 тысяч забітымі, яшчэ 9 тысяч чалавек трапіла ў палон. Было захоплена 245 гармат і 30 караблёў. Урон жа саміх наступаючых складаў 2037 забітымі, а 2933 чалавек атрымалі раненні рознай ступені.

Тыя, хто асабліва вызначыўся ў баях, былі ўзнагароджаны ордэнамі, атрымалі імянную зброю. Не забыліся і пра маёра Сакалоўскага. Яму ўручылі залатую шпагу з надпісам «За мужество», павысілі ў званні. Але галоўную славу падзялілі іншыя. Яшчэ большую вядомасць набыў Сувораў, камендантам Ізмаіла прызначылі генерала Міхаіла Кутузава. Ды ў падобнай ацэнцы ўкладу кожнага ў агульную перамогу Сакалоўскі ніякай несправядлівасці не бачыў, разумеў што ён усяго — камандзір палка. Дый не сумняваўся, што ў яго наперадзе яшчэ немалы вайсковы шлях. У чым і не памыліўся.

Калі Напалеон, ажыццяўляючы свае захопніцкія планы аб сусветным панаванні, пачаў у Еўропе захопніцкія войны, Яраслаўскі полк быў тэрмінова перакінуты ў Паўднёвую Маравію, пасля чаго прыняў удзел у знакамітай Аўстэрліцкай бітве.

Гэты бой паміж аб’яднанай руска-аўстрыйскай арміяй і французскімі войскамі, што адбыўся 2 снежня 1805 года, такую назву атрымаў па назве горада Аўстэрліц (цяпер г. Слаўкаў, Чэхія), ля якога і сутыкнуліся варожныя бакі.

Як вядома, камандуючы саюзнікамі Кутузаў, улічваючы абстаноўку, якая склалася, выступаў супраць пачатку актыўных баявых дзеянняў, разлічваючы даць адпачынак войскам, а таксама дачакацца падмацавання. Але імператар Аляксандр I, упэўнены ў перамозе, фактычна ўзяў кіраўніцтва арміяй у свае рукі, а план бітвы распрацаваў генерал-кватэрмайстар аўстрыйскага Генеральнага штаба Вейратэр. Пры гэтым не была праведзена папярэдняя разведка праціўніка, не сабраны канкрэтныя дадзеныя аб яго колькасці.

Непрадуманасць дзеянняў па сутнасці і вызначыла зыход бітвы. Нягледзячы на колькасную перавагу (у праціўніка было 73 тысячы чалавек, у аб’яднаным руска-аўстрыйскім войску — 86 тысяч), саюзнікі страцілі 27 тысяч чалавек забітымі і палоннымі, у той час, як французы — толькі 12 тысяч. Напалеону ўдалося захапіць Працэнскія вышыні, а пасля прыціснуць рускія войскі да напалову замерзлых сажалак. Цэлыя палкі патанулі ў іх ці былі знішчаны французскай карцеччу, а многія каб уратавацца здаваліся ў палон. Напалоханая разгромам, Аўстрыя вымушана была 26 снежня 1805 года заключыць з Францыяй Прэсбургскі мір, а Аўстэрліцкая бітва ўвайшла ў гісторыю як адна з самых значных перамог Напалеона.

Паражэнне, зразумела, не рабіла гонару саюзнікам, але галоўную адказнасць за няўдачу неслі тыя, хто не прадумаў загадзя, да чаго можа прывесці звычайная авантура. У той жа час многія афіцэры і салдаты паказалі сябе героямі. Праславіліся ў Аўстэрліцкай бітве і яраслаўцы, якія дзейнічалі на адным

з самых адказных участкаў. Гэта дзякуючы і ім, Напалеону не ўдалося вырашыць сваю асноўную задачу: акружыць галоўныя сілы саюзнікаў і цалкам знішчыць іх, хоць яны, акружаныя французамі, апынуліся ў цяжкім становішчы.

Яраслаўскі полк усё адно не склаў зброю, а змагаўся да апошняга, а пасля тыя, хто застаўся ў жывых, паспяхова вырваліся з акружэння. Безумоўна, гэтаму найперш спрыялі прадуманыя дзеянні падпалкоўніка Сакалоўскага. Заслугу Іосіфа Карлавіча адзначыў у сваім нарысе «Аб вайне 1806 года» і паэт-партызан Дзяніс Давыдаў, які на ўласным вопыце добра ведаў, як у складаных умовах цяжка захаваць спакой, не паддацца паніцы, а тым больш цаніў людзей мужнасці і адвагі.

Трэба аддаць належнае і вышэйшаму рускаму камандаванню, якое, аналізуючы вынікі Аўстэрліцкай бітвы, усё ж таксама адзначыла высокае ваеннае майстэрства і вывучку яраслаўцаў і іх камандзіра, таму неўзабаве прызначыла Сакалоўскага камандаваць авангардам рускай арміі, што дзейнічала супраць Напалеона, а ў склад авангарда, апроч Яраслаўскага пяхотнага (мушкецёрскага) палка ўваходзілі і іншыя палкі, а таксама была прыдадзена ім артылерыя. Падобная задача, як правіла, ускладаецца толькі на тых камандзіраў, якія валодаюць немалым стратэгічным дарам, дый, не трэба забываць, што авангард дзейнічае там, дзе па сутнасці неабходна расчысціць дарогу галоўным сілам. Так сталася і 7 лютага 1807 года, калі пачалася бітва пад Прэйсіш-Эйлаў (цяперашні горад Баграціёнск Калінінградскай вобласці ў Расіі).

## ПРЭЙСІШ-ЭЙЛАЎ КАШТАВАЎ НЕРВАЎ

Гэтай бітве папярэднічала Пултуская — адзіная з праведзеных рускай арміяй у ваенную кампанію 1806 года, калі 26 снежня ў раёне горада Пултуска (Польшча) супраць Напалеона дзейнічала аб'яднанае войска саюзнікаў. Бітва пачалася ў 11 гадзін і працягвалася да самага вечара. Спачатку супрацьстаянне адбывалася з пераменным поспехам, але затым саюзнікі пачалі браць ініцыятыву ў свае рукі і нанеслі французам паражэнне, адкінуўшы іх на некалькі кіламетраў ад Пултуска. Праўда, разумеючы, што ў Напалеона ўсё ж стае сілы даць адпор, мусілі ў ноч на 27 снежня адысці на поўнач і 9 студзеня 1807 года ўжо знаходзіліся каля Тыкоцына, што на паўднёвы ўсход ад Бялаў, дзе і пачала рыхтавацца чарговая ваеная аперацыя, што і ўвайшла ў гісторыю як бітва пад Прэйсіш-Эйлаў.

Галоўнакамандуючым рускай арміі з'яўляўся генерал ад кавалерыі, немец па паходжанні, гановерскі барон Лявонцій Бенігсен. Хоць ён і перайшоў на рускую службу яшчэ ў 1773 годзе, але рускага падданства не прыняў і нічым асабліва не вызначыўся. Ягоны ж службовы рост пачаўся толькі пасля 11 сакавіка 1801 года, калі Бенігсен стаў удзельнікам дварцовага перавароту, што закончыўся забойствам імператара Паўла І.

Чалавек схільны да інтрыгаў, ярка выражаны кар'ерыст, Бенігсен калі і быў на што здатны, дык на тое, каб браць хабар і нажывацца за кошт дзяржавы. У той жа час ён з'яўляўся пасрэдным военачальнікам, а гэта і прыводзіла да таго, што войскі пад яго камандаваннем цярпелі паражэнні, а калі і дасягалі якіх-небудзь поспехаў, дык толькі дзякуючы гераізму і самаахвярнасці салдат і афіцэраў.

Гэта пацвердзіла і бітва пад Прэйсіш-Эйлаў, якая працягвалася з 7 па 8 лютага 1807 года і стала адной з самых кровапралітных у час вайны так званай 4-й кааліцыі (Англія, Расія, Прусія і іншыя краіны) супраць Напалеона. А ў тым, што французская армія ўсё ж вымушана была адступіць, немалая заслуга і палкоўніка Сакалоўскага, а таксама іншых камандзіраў такога рангу, якія нават там, дзе былі відавочны пралікі вышэйшага камандавання, давалі рашучы адпор праціўніку. А закончылася супрацьстаянне тым, што абодва бакі панеслі значныя страты, але руская армія каля 25 тысяч чалавек, у той час як французская — каля 30 тысяч. За ўмелыя дзеянні ў час бітвы пад Прэйсіш-Эйлаў, за праяўленае пры гэтым асабістае геройства Сакалоўскі атрымаў ордэн святога Уладзіміра 4-й ступені.

З набліжэннем Напалеона да расійскіх межаў Яраслаўскі полк часта мяняў сваю дыслакацыю, аднак удзельнічаў не толькі ў баях з французамі. Даводзілася сутыкацца і з туркамі, бо па-ранейшаму Расія з Турцыяй

ніяк не магла знайсці паразумення. А ў чаканні ратыфікацыі мірнага дагавору яраслаўцы і апынуўся ў Ялавенах.

## А ЧЫМ НЕ СЫН, ГЭТЫ РАДАВЫ?

Цяпер жа, калі полк быў зноў цалкам укамплектаваны, рыхтаваўся да выканання чарговай задачы, а тыя дні, што заставаліся да адпраўкі ў дарогу, Сакалоўскі і імкнуўся выкарыстаць для як мага больш інтэнсіўных заняткаў з маладымі байцамі.

Нярэдка і сам прысутнічаў у час правядзення страявой падрыхтоўкі, не прамінаў і вучэбных стрэльбаў. Канечне, па-ранейшаму давяраў малодшым афіцэрам, але хацелася самому ўпэўніцца, як усё адбываецца, а яшчэ лавіў сябе на думцы, што наведваецца на гэтыя трэніроўкі і таму, што надта запомніўся яму той малады баец, з якім меў гутарку падчас першага пастраення палка ў поўным складзе. А Васіль Іваноў і сам пачаў здагадвацца, што палкоўнік цікавіцца ім. Калі бачыў Сакалоўскага на занятках, асабліва стараўся. Іосіф Карлавіч, заўважаўшы гэта, яшчэ больш падахвочваў яго:

— Раўняйся, радавы Іваноў, на тых, хто Ізмаіл штурмаваў!

— Раўняюся, ваша высокаблагароддзе! — адказваў баец.

— А цяпер пакажы, на што здатны, — пасля гэтых слоў Сакалоўскі паклікаў да сябе афіцэра, які праводзіў заняткі па агнявой падрыхтоўцы: — Паручнік, выдайце радавому Іванову зброю!

— Ёсць, ваша высокаблагароддзе, — адказаў той і кіўнуў сяржанту. Гэтага стала дастаткова, каб той паставіў перад Івановым мушкет.

— Дазвольце, ваша высокаблагароддзе, пачынаць, — твар Іванова свяціўся радасцю. Яму было прыемна, што сам камандзір палка вырашыў даведацца, наколькі ён, Іваноў, навучыўся страляць.

— Хуткі ж ты, Іваноў, — засмяяўся Іосіф Карлавіч, але потым пасур’ёзнеў і загадаў, як таго і патрабуе статут: — Радавы Іваноў! На агнявы рубеж шагам марш!

— Ёсць, ваша высокаблагароддзе!

— А цяпер пачынай стральбу!

Іваноў, як і яго неаднойчы вучылі, паставіў мушкет на спецыяльныя падпоркі, ці як яны яшчэ называліся, сожкі. Адчуваў, што ўсе ўважліва сочаць за яго падрыхтоўкай да стральбы, таму крыху хваляваўся, але дзейнічаў умела. Калі ўсё было гатова, старанна прыцэліўся і патрапіў акурат у цэнтр круга, намаляванага на цаглянай сцяне, што выкарыстоўвалася для прыцэльнага агню з мушкета.

Трапнасць пападання і так была відавочна, але, каб упэўніцца ў гэтым канчаткова, Сакалоўскі ўсё ж паслаў для праверкі сяржанта. Той пацвердзіў, што Іваноў патрапіў у цэль.

Іосіф Карлавіч застаўся задаволены і пахваліў Васіля:

— Бачу, што з такімі, як ты, у баі не прападзеш, — і нечакана для Іванова, а ў нямэншай ступені і для самога сябе, дадаў: — Падабаешся ты мне. Таму ведай, за кожным крокам тваім буду сачыць.

Іваноў не ведаў, што і адказаць, але Іосіфу Карлавічу і не патрэбен быў адказ, бо яму пасля гэтага свайго нечаканага прызнання захацелася пабыць аднаму, каб ніхто не перашкаджаў сам-насам застацца са сваімі думкамі.

Апошнім часам падобнае жаданне ў яго з’яўлялася часта і асабліва напаткоўвала тады, калі не было баёў, а мірная перадышка зацягвалася. Непрыкметна наступалі такія моманты, калі незаўважна наплывала на сэрца нейкае дзіўнае пачуццё, з надыходам якога абавязкова хацелася зрабіць што-небудзь добрае. І хоць Сакалоўскі сентыментальным сябе ніколі не лічыў дый быў перакананы, што гэта проста не да твару баявому афіцэру, але часта не мог саўладаць з сабой. Душу быццам перапаўняла пяшчота —- нявыказаная, нявыяўленая і ад гэтага яшчэ больш мацнейшая.

У такія хвіліны яму вельмі хацелася, каб нехта блізкі і дарагі знаходзіўся поруч, аднак блізкага і дарагога чалавека ў Іосіфа Карлавіча не было. З пастаянных пераездаў з месца на месца, з-за баёў, якія не дазвалялі думаць ні аб чым іншым, апроч разгрому ворага, Сакалоўскі так і не мог знайсці сабе жанчыну, якую мог бы назваць сваёй, узяць у жонкі. Але калі спачатку гэтаму асаблівага значэння не надаваў, дый знаходзіў тых, з кім, няхай і на кароткі час, можна адчуваць сябе шчаслівым, дык цяпер, калі жыццё набліжалася да свайго пяцідзесяцігадовага

рубяжа, часта станавілася скрушна і няўтульна з-за ўласнай адзіноты.

Зразумеў, што і гэтае памкненне да радавога Іванова ў яго невыпадковае, бо, калі б усё належным чынам складвалася ў ягоным асабістым жыцці, і ў яго ўжо мог бы сын прыкладна гэтага ж узросту, а, магчыма, і старэйшы за Іванова. І ён любіў бы яго. Аберагаў бы, як толькі мог. Але сына няма і невядома яшчэ, ці дачакаецца ён калі-небудзь такой радасці — з'яўлення на свет свайго законнага нашчадка, бо жаніцца пазнавата ўжо. У такім разе няхай гэты баец стане яму ў чымсьці, як бы замест сына. Канечне, пра свае пачуцці нічога гаварыць радавому Іванову не трэба. Дастаткова таго, што сваё асаблівае стаўленне падкрэсліць тым, што больш, чым іншым, пачне надаваць увагі яму...

## НЕ ВОЛЬНЫ РАСПАРАДЖАЦЦА СВАІМ ЛЁСАМ

Летам 1812 года полк пакінуў Ялавены. Ягоны шлях ляжаў на Умань, Палтаву, а далей на Мазыр, які знаходзіўся ў баку ад галоўнага напрамку руху напалеонаўскіх войск. На гэта паўплывала тое, што ў пачатку Айчыннай вайны 1812 года тут паспяхова дзейнічала руская рэзервовая армія пад кіраўніцтвам генерала ад кавалерыі Аляксандра Тормасава, што і не дазволіла захопнікам паглыбіцца на тэрыторыю Расіі ў паўднёвым накірунку.

У Мазыры Сакалоўскі 19 верасня 1812 года і сустрэўся з часцямі Дунайскай арміі пад камандаваннем Паўла Чычагова. Аб'яднанае войска накіравалася ў бок Пінска, а пасля былі Кобрын, Брэст.

Давялося шмат чаго пабачыць. І напоўненыя слязьмі радасці твары тых, хто, вітаючы воінаў-вызваляльнікаў, сустракаў іх на як самых дарагіх гасцей, бо паспеў нямала нацярпецца ад французаў. І непрыхаваную нянавісць некаторых прадстаўнікоў шляхты, якія спадзяваліся, што Напалеон вызваліць іх ад расійскага прыгнёту, паспрыяе адраджэнню новай, незалежнай Польшчы — менавіта рускія, на іх думку, і перашкодзілі гэтаму здзейсніцца. Адчуў ён, як і неаднойчы дагэтуль, і смак перамогі ў жорсткім баі. І гэтаксама, як і раней, развітваўся з загінуўшымі байцамі і афіцэрамі. І таксама не шкадаваў слёз — скупых мужчынскіх слёз, пасля якіх яшчэ больш становіцца святой нянавісці да ворага.

Сталася так, што з Чычаговым яны пасля Брэста развіталіся. Часці Паўла Васільевіча атрымалі загад кіравацца на Мінск, а полк Сакалоўскага быў перабазіраваны ў раён Луцка. І не здагадваўся Іосіф Карлавіч, што праз некаторы час ягоны шлях з Чычаговым зноў сыдзецца. І не дзе-небудзь, а ў Барысаве, калі Напалеон пачне ўцякаць з невялікай часткай свайго войска.

А пакуль у Луцку чакаў, калі прыйдзе загад, як дзейнічаць далей. Але яшчэ да з'яўлення яго прыйшоў іншы: яму, палкоўніку, прысвоілі званне генерал-маёра.

Кажуць, што няма такога салдата, які б не марыў стаць генералам, аднак у падобным выказванні, безумоўна, хаваецца крыху іншы сэнс, чым падаецца спачатку. Маецца на ўвазе тое, што кожны баец не супраць дасягнуць як мага большага. А што няма такога афіцэра, які б у думках не бачыў сябе генералам, тут ужо сапраўды так. Асабліва гэтым жаданнем жывуць падпалкоўнікі і палкоўнікі, калі да ажыццяўлення чаканай мары застаецца так мала. І разам з тым прайсці кожную чарговую прыступку становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Дый пераадольваюць яе нямногія. Яшчэ меншая колькасць атрымлівае генеральскае званне заслужана.

Да такіх людзей і належаў Сакалоўскі, таму з гэткай радасцю сустрэлі вестку аб прысуджэнні Іосіфу Карлавічу звання генерал-маёра ў яраслаўскім палку. З такой нагоды адбылося сапраўднае свята. Больш весяліліся, вядома, афіцэры, але і салдаты не засталіся ў баку. Яны ўручылі свайму любімаму камандзіру вялікую самаробную шкатулку, на якой выразалі свае імёны. Паставіў падобны аўтограф і радавы Іваноў. Ён, вядома, калі б можна было, падышоў бы і павіншаваў камандзіра палка асабіста, ды субардынацыя не дазваляла.

Сакалоўскі сам падышоў да яго. Іваноў узрадаваўся, асмеліўся:

— Віншую, ваша высокаблагароддзе!

— Дзякуй... сынок, — Іосіф Карлавіч нарэшце прамовіў тое слова, якое хацеў сказаць даўно, аднак ніяк не мог адважыцца і вось цяпер асмеліўся. — Дай Бог, каб і у цябе ўсё было добра.

## ЯШЧЭ ПАВАЮЕМ

Загад аб накіраванні пад Барысаў Сакалоўскі сустрэў як належыць ваеннаму: полк адразу зрушыўся з месца, а ў горад на Бярэзіне ўвайшлі тады, калі там, вызваліўшы 16 лістапада Мінск, апынуўся са сваёй Дунайскай арміяй і Чычагоў. Не толькі Сакалоўскі з Чычаговым, але і іншыя камандзіры, пачынаючы з самага высокага начальства, жылі спадзяваннем, што Напалеона ўдасца ўзяць у палон, але той усё ж здолеў пераправіцца праз Бярэзіну, у пэўным сэнсе гэтага слова спаліўшы за сабой масты.

Французы ж, якія засталіся ў горадзе, працягвалі супраціўленне. Баі разгарнуліся і каля мастоў, што былі ўзведзены па загадзе Напалеона. Калі рускія пачалі цясніць праціўніка, Банапарт, баючыся, што яны могуць перабрацца на другі бераг, дзе знаходзіўся сам, загадаў масты падпаліць. Тыя з французаў, хто не паспеў пераправіцца, спрабуючы ўратавацца, ахопленыя полымем, кідаліся ў ваду. Іншыя ж гінулі пад абломкамі мастоў. Хутка Бярэзіна і яе бераг запоўніліся варожымі трупамі.

Не менш страшны малюнак паўставаў і ў самім горадзе. Барысаў быў амаль цалкам знішчаны і на месцы пабудоў толькі дыміліся галавешкі, а сярод развалін блукалі абмарожаныя французы (мароз дасягаў да 20 градусаў, а да ўсяго было ветрана), шукаючы хоць якога-небудзь паратунку.

Балюча было глядзець на гэта. Але ж яны, як ні шкада іх, усё ж з'яўляліся захопнікамі, а ў чым вінаватыя тыя, хто мусіў быў даваць адпор?

Пастроіў Сакалоўскі сваіх байцоў і жахнуўся: меншая палова палка засталася ў жывых дый з тых, каму пашчасціла ўратавацца, большасць параненыя, многія — цяжка. Не мінула варожая куля і Васіля Іванова, трапіла ў плячо. Ды трымаецца баец толькі ад болю галаву нахіляе.

— Цяжка, сынок? — пытаецца Сакалоўскі.

— Да вяселля зажыве, ваша высокаблагароддзе, — адказвае Іваноў.

— Значыць, паваюем яшчэ?

— Так точна!

І ўсё ж цяжка на душы ў Іосіфа Карлавіча. І ад таго, што многіх сваіх байцоў не далічыўся. І што вораг па-ранейшаму лютуе, а чым далей, дык тым больш, нагадваючы таго раз'юшанага звера, які, адчуваючы сваю немінучую гібель, хоча як мага больш зрабіць зла. Аднак цяжка і па іншай прычыне: ад Барысава ж не так і далёка да роднага Філатава, у якім гэтак хочацца яму пабываць. Хочацца ды ніяк не атрымліваецца. Генерал-маёр Сакалоўскі не вольны распараджацца сваім лёсам. Хоць і высокае вайсковае званне мае, ды ёсць тыя, у каго яно яшчэ вышэйшае. І не за адзін полк адказваюць.

Затрымлівацца на месцы нельга, трэба спяшацца за адступаючым ворагам. І няма часу чакаць папаўнення, як гэта было пад Ялавенамі. Яно будзе прыбываць паступова. І не толькі з навабранцаў, але і за кошт байцоў з часцей, якія з-за вялікіх страт увогуле перасталі існаваць.

## ЧАГО НЕ ВЕДАЛІ ЗЕМЛЯКІ

З вызваленнем Расіі ад французскіх захопнікаў вайна для яго не скончылася. Прыняў Сакалоўскі актыўны ўдзел і ў замежных паходах рускай арміі ў 1813—1814 гадах, ва ўсіх галоўных бітвах, што адбываліся тады. У тым ліку і ў Бітве народаў, якая адбылася 16-19 кастрычніка 1813 года пад Лейпцыгам.

Тады саюзныя прускія, аўстрыйскія, рускія і шведскія войскі ў складзе прыкладна 300—316 тысяч чалавек, маючы больш за 1,3 тысячы гармат нанеслі паражэнне Напалеону, на баку якога ваявалі таксама палякі, саксонцы, італьянцы, бельгійцы, галандцы. Колькасна гэтае войска налічвала каля 190—200 тысяч чалавек з 700 гарматамі. З абодвух бакоў былі панесены значныя страты, але ў цэлым гэтая бітва стала неспрыяльнай для Напалеона, які з рэшткамі свайго войска мусіў адысці за Рэйн.

Не заставалася сумнення, што канчатковы яго разгром не за гарамі. І гэта ўсяляла радасць. Толькі ў Іосіфа Карлавіча настрой быў сумны. Даведаўся, што ў адным з баёў не стала радавога Іванова. Калі ён загінуў, ніхто Сакалоўскаму пэўна сказаць не мог, хоць і распытваў ён многіх байцоў. Як ні стараўся, не адшукаў і яго цела. Дый адразу разумеў, што пошукі гэтыя марныя, калі з

абодвух бакоў на працягу некалькі дзён загінулі дзясяткі тысяч чалавек.

Паступова душэўная рана загаілася, бо спраў хапала, асабліва калі стаў ваенным камендантам Лейпцыга. На такой жа пасадзе знаходзіўся і ў Бунцлаве (сёння горад Баляславец у Польшчы), дзе была штаб-кватэра вярхоўнага галоўнакамандуючага Кутузава. 29—30 сакавіка 1814 года прымаў удзел ва ўзяцці Перына. У гэтым жа годзе быў удастоены і звання генерал-лейтэнант, а ў Лейпцыгу генерал ад інфантэрыі Міхаіл Міларадавіч уручыў яму ордэн святой Анны І ступені.

Службу ў арміі Сакалоўскі працягваў яшчэ больш як 15 гадоў. Пайшоў у адстаўку толькі 4 ліпеня 1831 года. Пасля гэтага пераехаў у Казань, дзе працаваў ваенным камендантам, бо становішча, у якім знаходзіўся, дазваляла: быў звольнены са службы з мундзірам і пенсіёнам поўнага акладу. Завёў і сям'ю, узяўшы ў жонкі жанчыну з дзвюма дочкамі. Падчарыц удачарыў і ставіўся да іх, як да родных дзяцей.

А ў 1833 года вырашыў нарэшце завітаць у родную вёску. Філатаўцы надзіва цёпла сустрэлі свайго знакамітага земляка. Іосіф Карлавіч, уражаны падобным прыёмам, пацікавіўся іхнім жыццём. Як высветлілася, яно не такое і радаснае. Некаторым дапамог грашыма, а калі даведаўся, што даўно збіраюцца пабудаваць у Філатаве школу, ды толькі ўлады ніяк не могуць знайсці на гэта сродкі, выдзеліў грошы, а таксама на ўзвядзенне народнага дома.

Развітваўся з землякамі, ведаючы, што назаўсёды, бо ўзрост ужо меў такі, калі кожны пражыты дзень у радасць і не надта атрымліваецца жыць нейкімі асаблівымі планамі.

Так і сталася. Пайшоў Сакалоўскі з жыцця ў 1836 годзе. Калі вестка, хоць і са спазненнем, прыйшла ў Філатава, жыхары вёскі вырашылі па-свойму ўвекавечыць памяць свайго выдатнага сына. Ад дома, у якім нарадзіўся Іосіф Карлавіч, у бок Каскевіч яны пасадзілі 53 дубкі, а ў бок Саннікаў — 66 бяроз. Колькасць дрэў выбралі невыпадкова. Сакалоўскі прымаў удзел у 53 баях, штурмаваў 66 умацаванняў. Чамусьці забыліся філатаўцы пра тое, што да ўсяго ён браў 19 крэпасцей, пабываў у 14 краінах. А, магчыма, і не ведалі пра гэта.

А чаго не ведалі пэўна, дык таго, што іхні зямляк сябраваў з некаторымі дзекабрыстамі, сваім чалавекам ён быў і ў асяродку Лермантава і нават з вуснаў самога Міхаіла Юр'евіча слухаў знакамітую паэму «Мцыры». А таму і не ведалі, што за кароткі час знаходжання ў Філатаве Іосіф Карлавіч пра многае не паспеў расказаць, а шмат пра што прамаўчаў свядома, бо разумеў, што гэта наўрад ці будзе цікава вяскоўцам, далёкім ад многіх палітычных падзей і, на жаль, пазбаўленых магчымасці атрымліваць належную адукацыю. Наўрад ці шмат гаварыў ён і пра Ізмаіл, хоць і разумеў, што без узяцця гэтай турэцкай крэпасці наўрад ці склаўся б так шчасліва ягоны лёс.



# ЯЕ ПУБЛІКАЦЫІ СЛУЖАЦЬ ЛЮДЗЯМ…

Аднаму з вядомых беларускіх археолагаў Людміле Уладзіміраўне Дучыц споўнілася 60 гадоў. Людміла Уладзіміраўна нарадзілася ў сям'і беларускіх інтэлігентаў. Дзед Людмілы Уладзіміраўны, Мікалай Дучыц, вядомы мастак. Бацька — арнітолаг. Сама Людміла Уладзіміраўна — археолаг, якая на працягу дзесяці гадоў апантана і паслядоўна вывучала археалагічныя помнікі самага маляўнічага кутка Беларусі — Браслаўшчыны. Два гарадзішчы: Маскавічы і Рацюнкі… На сёння гэта хрэстаматыйныя помнікі, калі ўзнікае гаворка пра нармандскі след у Беларусі.

Больш за паўтысячы курганоў у Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі раскапаныя ёю. А яшчэ — знойдзеныя камяні-следавікі, камяні-«краўцы», каменныя крыжы, археалагічная мікратапаніміка, касцюм жыхароў старадаўняй Беларусі, археалагічныя помнікі на старонках перыёдыкі Беларусі пачатку XX ст., этнапсіхалогія і літаратурна-этналагічныя замалёўкі пра цыганоў…

Пра тое, наколькі гэты чалавек апантаны ў працы, можна меркаваць хаця б па адным эпізодзе з яе археалагічнага жыцця.

1976 год. Ікязнь. Археалагічныя раскопкі Міхася Ткачова. Як вядома, Міхась Аляксандравіч быў чалавекам няўрымслівым, не мог доўга сядзець на адным месцы. Яго пастаянна вабіла: вандраваць, адкрываць, спазнаваць новае… Ён пакідае сачыць за раскопкамі Людмілу Уладзіміраўну, а сам, як гаворыцца, «лахі пад пахі» і бывай сабе, пакінуўшы толькі бохан хлеба і бляшанку кансерваў.

Праз колькі дзён ён вяртаецца. Раскопкі доўжацца… Заглядвае ў пакойчык, дзе тулілася Людміла Уладзіміраўна, і бачыць паўбляшанкі рыбных кансерваў і акраец хлеба.

«Люда, як ты жывеш, што ясі?» — пытаецца Міхась Ткачоў. І ў адказ чуе: «Міхась Аляксандравіч, не рабіце з ежы культу…»

А шасцю гадамі раней быў яе першы выезд на палявыя даследаванні. Лукомль, 1970 год. Георгій Васільевіч Штыхаў вітаў прыезд на раскопкі Людмілы Уладзіміраўны словамі: «Ну вось, цяпер будзе каму мыць шкарпэткі…». На шчасце, да гэтага не дайшло. Аказваецца, Георгій Васільевіч жартаваў…

Затым было Тайманава — чысцец для ўсіх пачынаючых археолагаў, дзе мне тады пашчасціла працаваць з ёю. І той, хто вытрымліваў выпрабаванне — настойлівую прапанову Леаніда Давыдавіча Побаля, кіраўніка раскопак: «Кушайте, кушайте сало!», — той станавіўся археолагам. Затым былі раскопкі ў складзе археалагічных груп Я. Г. Звяругі, М. А. Ткачова і пасля 1976 года ўжо самастойныя даследаванні.

Людміла Уладзіміраўна — наватар спецыфічных метадаў палявых даследаванняў. Яна, як славуты Жак Іў Кусто, апантана падводнай археалогіяй. Яна звяртаецца да мінскіх аквалангістаў і пры іх дапамозе даследуе «шэльф» Маскавіцкага гарадзішча на Браслаўшчыне. Праўда, знойдуцца і тыя, хто ўбачыць у гэтым толькі марнаванне часу. На жаль, знайшліся такія і сярод яе калег. Быў скепсіс і адносна выяўленых ёю рун і малюнкаў, зробленых скандынаўскім насельніцтвам Маскавічаў на костках жывёл. Але праўда ўсплыве на паверхню, а выказаны кімсьці недавер, як каламута, асядзе на дно.

Людміла Дучыц як славуты Кроўфард — родапачынальнік паветранай археалогіі,

захопіцца аэраархеалогіяй. Будзе зварот да спецыялістаў у Інстытут археалогіі АН СССР, затым доўгае хаджэнне па кабінетах, каб атрымаць дазвол на вывучэнне аэрафотаздымкаў з выявамі археалагічных помнікаў…

І вось вынік: з вышыні птушынага палёту бачна гарадзішча Маскавічы, а на ім абрысы жытла, схаванага ў нетрах культурнага пласта. Усё гэта потым знойдзе адлюстраванне ў яе манаграфіі «Браслаўскае Паазер’е ў IX—XIV стст. Гісторыка-археалагічны нарыс».

Не забывае яна і свае карані па матчынай лініі — Капыльшчыну. Таму і прысвячае некалькі артыкулаў гісторыі гэтага краю. І, як высветлілася, яна была родзічкай археолага, даследчыка паселішчаў Панямоння XIV—XVIII стст. Валерыя Шаблюка, радавод якога вядзе свае вытокі з Пясочнага — мястэчка на памежку Капыльскага і Уздзенскага раёнаў. А беларускі паэт Анатоль Астрэйка — яе стрыечны дзядзька.

Людміла Уладзіміраўна з тых навукоўцаў, якім цікава ўсё… І гэта пры тым, што яна ніколі пра гэта не заяўляе ў поўны голас. Яна паціху, скрупулёзна, з душою робіць карысную справу — прапагандуе археалогію, гісторыю і этнаграфію Беларусі, працягвае пісаць артыкулы, рыхтуе манаграфію.

Яна, як тое жалеза — схаваны ў прыродзе метал. Але якую якасць набывае жалеза, калі стараннямі майстроў-металургаў, а затым і кавалёў ператвараецца ў гатовыя вырабы! Так і яе праца, матэрыялізаваная ў навуковыя і навукова-папулярныя публікацыі, якіх на сёння ўжо звыш паўтысячы, яшчэ доўга будзе служыць навукоўцам, краязнаўцам, усім, хто цікавіцца мінуўшчынай сваёй Бацькаўшчыны.



*Людміла Дучыц у экспедыцыі каля вёскі Старыя Дарогі Старадарожскага р-на.*

**З юбілеем Вас, Людміла Уладзіміраўна. Поспехаў Вам на гістарычнай ніве нашай Айчыны.**

***Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,***
***аднакурснік па БДУ ў 1969—1971 гг.***
***і калега па сумеснай рабоце ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі ў 1974—2003 гг.***



*Далёкія і блізкія суродзічы*

# ЛЕНІНГРАДСКІ БІБЛІЯФІЛ З ГЛЫБОКАГА

Ужо многія гады сярод кніг, што месцяцца ў мяне на асобнай паліцы, ды прысвечаны гісторыі кнігі, увогуле кнігазнаўству, бібліяфільству, — і гэты «невысокі» томік. Поруч з ім — успаміны П. Беркава, У. Лідзіна, М. Смірнова-Сакольскага, М. Рубакіна, а яшчэ і нашы мінскія выданні: першы том «Гісторыі беларускай кнігі» М. Нікалаева, «Пра кніжнікаў і кнігі» М. Казлоўскага, альманах «Свіцязь»… Але ж размова — пра зборнік выдавецтва «Книга» з серыі «Записки прошлого» (Масква, 1990 год). Пад адной вокладкай— дзве кнігі: «Запіскі старога кніжніка» Ф. Шылава і «Паўстагоддзя ў свеце кнігі» П. Мартынава.

Ва ўспамінах Пятра Мікалаевіча некалькі разоў згадваецца імя Лявонція Іосіфавіча Ракоўскага, ураджэнца Беларусі, вядомага рускага пісьменніка. Праўда, стасункі яго з беларускай старонкай у кнізе вядомага бібліяфіла не прасочваюцца.

Але ж давайце пазнаёмімся з аўтарам кнігазнаўчых мемуараў. Пётр Мікалаевіч Мартынаў (1902—1969) паўстагоддзя свайго жыцця аддаў рабоце з кнігай. У 1915 годзе родзічы вызначылі Пятра на працу ў фірму «Рэккер», якая займалася кніжным гандлем. Так пачаўся доўгі і значны шлях па спасціжэнні сутнасці кніжнай справы. Далей Мартынаў працаваў у Петраграддзяржвыдаце, «Міжнароднай кнізе», а напрыканцы жыцця — у Кніжнай лаўцы пісьменнікаў Літаратурнага фонду СССР. Перад вачыма Мартынава праходзілі тысячы кніжнікаў. І вобразы многіх з іх ён занатаваў у сваіх мемуарах. Вось што, у прыватнасці, піша аўтар кнігі «Паўстагоддзя ў свеце кніг» пра нашага земляка: «Ля кніжных прылаўкаў можна было сустрэць ленінградскіх пісьменнікаў: Л. І. Барысава, К. І. Конічава, Я. А. Фёдарава, Л. І. Ракоўскага…» І далей: «Пісьменнік Лявонцій Іосіфавіч Ракоўскі захапіўся збіраннем кніг і гістарычных часопісаў яшчэ на пачатку дваццатых гадоў, калі яму ўдалося набыць некаторую колькасць цікавых старых кніг, сярод якіх былі адметныя выданні пра Айчынную вайну 1812 года і другія падзеі гэтага перыяду. Л. І. Ракоўскі стаў пастаянна наведваць букіністычныя крамы і лаўкі Ленінграда, Масквы і іншых гарадоў. За час доўгіх, шматгадовых стасункаў з букіністамі і антыкварамі ён завёў з многімі сяброўскія адносіны, яго паважалі букіністы, часта адшуквалі па яго заказе ўсемагчымыя гістарычныя матэрыялы. У літаратуру Лявонцій Ракоўскі ўвайшоў у 1927 годзе. Рабочым выдавецтвам «Прибой» была выдадзена яго першая кніга аповесцей і апавяданняў пад назвай «Зялёная Амерыка». У далейшым неаднойчы выдаваліся яго гістарычныя раманы: «Генералісімус Сувораў», «Кутузаў», «Адмірал Ушакоў», «Здзіўлены капітан», аповесць з гісторыі партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны «Канстанцін Заслонаў» і многія іншыя творы. Л. І. Ракоўскі — актывіст грамадскага жыцця. Ім складзены шматтысячны збор кніг, у яго калекцыі альманахаў і часопісаў ёсць цікавыя і каштоўныя выданні. Так, напрыклад, у яго бібліятэцы маецца поўны камплект не згубіўшага да нашых дзён свайго значэння літаратурна-

гістарычнага часопіса «Русская старина» за 1870—1918 гады».

Нарадзіўся ж Леанід Ракоўскі ў Глыбокім, на Віцебшчыне, у студзені 1896 года. Там прайшлі яго дзяцінства і юнацтва. У 1915 годзе Леанід паступіў у Кіеўскі ўніверсітэт, на гісторыка-філалагічны факультэт. Але Грамадзянская вайна абарвала вучобу. Ракоўскі паступіў на службу ў Чырвоную Армію. Затым займаўся пазашкольнай адукацыяй. З 1922 года Леанід — у Петраградзе. Закончыў аддзяленне права Петраградскага ўніверсітэта. Пісаць наш зямляк пачаў досыць рана. Яшчэ ў 1916 годзе ў студэнцкім зборніку Кіеўскага ўніверсітэта «Звено» надрукаваў першы верш.

А ў 1924 годзе ў альманаху «Ленинград» выходзіць апавяданне Л. Ракоўскага «Помста». Леаніду тады яшчэ не было і трыццаці, але за плячыма — немалы жыццёвы вопыт. І значнае месца ў ім займалі гады местачковага дзяцінства, юнацтва ў Глыбокім, на Віцебшчыне. Невыпадкова тэмай многіх з першых кніг Леаніда Іосіфавіча стаў зборнік аповесцей і апавяданняў «Зялёная Амерыка». 1928 — «Сівапляс». 1930 — раман «Чацвёртая жонка»… Канечне ж, старажытнае мястэчка не магло выветрыцца з памяці. У Глыбокім у часіны дзяцінства Ракоўскага дзейнічалі народнае вучылішча, піваварны, вінакурны, цагельны заводы. Было некалькі складаў з таварамі і прыватных крам. У нядзелю збіраліся рынкі. Штогод праводзіліся 2 вялікіх кірмашы. Згодна з перапісам 1897 года, у Глыбокім пражывала 5564 чалавекі. Перад вачыма Лявонція былі ўнікальныя будынкі, узведзеныя яшчэ ў XVI—XVIII стагоддзях: касцёл і кляштар кармелітаў, аўстэрыя, Траецкі касцёл (ён быў пабудаваны ў 1764—1782, а ў 1902—1908 на памяці будучага пісьменніка перабудоўваўся), старыя жылыя дамы. Паблізу ад мястэчка (зараз — у межах сучаснага Глыбокага) — Беразвецкі базыльянскі манастыр. На могілках Капцёўка — Ільінская капліца і мемарыяльная калона ў памяць аб Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Відаць, тады і пачало фарміравацца гістарычнае мысленне будучага празаіка.

У 1930-я гады Лявонцій Іосіфавіч задумваецца над тым, што ён павінен пашырыць сваю мастацкую прастору. Ленінград — горад вялікіх пісьменнікаў. І шмат хто з іх займаецца гістарычнай прозай. Паступова на гэтую сцяжыну, якая пасля стане магістральнай для ўсёй яго творчасці, выходзіць і Ракоўскі. З сярэдзіны 1930-х ён пачынае працаваць над раманам «Генерал Суводаў». У 1941 годзе твор пабачыў свет асобным выданнем.

Смеласць аўтара заключалася яшчэ і ў тым, што ён звярнуўся менавіта да вобраза геніяльнага палкаводца Аляксандра Суворава як да персанажа, здавалася б, раскрытага, шматкроць апісанага. У 1940 годзе пабачыла свет аповесць С. Грыгор’ева «Сувораў». А ў 1939, за два гады да кнігі Л. Ракоўскага, з’явіліся п’есы К. Фельдмана «Фельдмаршал» і І. Бахцерава, А. Разумоўскага «Палкаводзец Сувораў». У 1940 годзе надрукавана паэма К. Сіманава «Сувораў». Але Ракоўскі знайшоў сваю мастацкую і гістарычную інтанацыю. У выніку раман «прагучаў», займеў свайго ўласнага чытача. Хто помніць згаданыя творы?.. Нават пра выдатнага рускага пісьменніка Канстанціна Міхайлавіча Сіманава ўспамінаюць у сувязі з раманам «Жывыя і мёртвыя», іншымі празаічнымі і паэтычнымі набыткамі, рэдка калі згадваючы паэму «Сувораў».

У рамана Лявонція Іосіфавіча — зусім іншы, можна сказаць, шчаслівы лёс. Праўда, пасля Вялікай Айчыннай вайны (а мо і ў час яе, у 1944—1945 гады) пісьменнік дапрацоўваў яго. І выдаўцы ў самыя розныя часіны звярталіся да гэтай кнігі. Згадваю толькі мне вядомыя выданні «Генерала Суворава» — за 1954, 1956, 1960, 1971, 1975, 1980, 1987, 2001, 2009 гады. А ў 1983 раман увайшоў у двухтомнік выбраных твораў Л. Ракоўскага (Ленінград, «Художественная литература»). А ў 2010 да «Генерала Суворава» звярнулася расійскае выдавецтва «Армада».

…Вялікая Айчынная вайна перарвала галоўныя клопаты гістарычнага пісьменніка. Леанід Ракоўскі ў акружаным фашы-

стамі Ленінградзе займаецца публіцыстыкай, піша палымяныя артыкулы, нарысы, у якіх заклікае ўсімі сіламі знішчаць ворага. Працуе ў франтавых газетах «На страже Родины», «В защиту Ленинграда». Для франтавога тэатра піша п'есу «Новыя прыгоды бравага салдата Швейка». У 1942 годзе Леанід Іосіфавіч быў эвакуіраваны з блакаднага Ленінграда. Жыў і працаваў на Валагодчыне, у Вялікім Усцюгу. Між іншым, там знаходзілася Пухавіцкае пяхотнае вучылішча, вывезенае перад самай вайною з Беларусі, з Мар'інай Горкі. Можа быць, гэта нагадвала пісьменніку пра родны край?..

Вярнуўся Л. Ракоўскі ў вызвалены ад блакады Ленінград у 1944 годзе. Прадоўжыў свае заняткі гістарычнай прозай. У 1946 годзе завяршыў новую рэдакцыю рамана «Генерал Сувораў». Займаўся і перакладчыцкай работай: дзякуючы і Леаніду Іосіфавічу загучалі на рускай мове творы Якуба Коласа, Янкі Купалы. А ў 1952 годзе асобнай кнігай пабачыў свет раман Л. Ракоўскага «Адмірал Ушакоў». Славуты акадэмік Я. Тарле адзначыў наступнае пра гэты твор: асаблівая «каштоўнасць гэтага рамана ў навуковым падыходзе». Наступным мастацкім клопатам Леаніда Іосіфавіча стала работа над раманам пра Міхаіла Кутузава. І гэтая кніга па-ранейшаму прыцягвае ўвагу выдаўцоў і адпаведна чытачоў. У 1967 годзе была выдадзена аповесць Л. Ракоўскага «Міхаіл Тухачэўскі». Леанід Ракоўскі з'яўляецца і аўтарам зборніка апавяданняў і нарысаў пра палкаводцаў Вялікай Айчыннай вайны.

І, канечне ж, першымі памагатымі нашага земляка ў літаратурнай рабоце былі кнігі. Вось што пра бібліяфільскае захапленне пісьменніка пісаў яшчэ адзін славуты кніжнік — Фёдар Рыгоравіч Шылаў: «Вялікім аматарам кніг з'яўляецца Л. І. Ракоўскі. Гэта адзіны з усіх пісьменнікаў, які не гаварыў, што збірае кнігі толькі для працы. Ракоўскі любіць кнігу саму па сабе. Ядром бібліятэкі Ракоўскага з'яўляецца літаратура канца XVII — пачатку XIX стагоддзя».

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***



# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

**Вёска Дамашы** Цюрлёўскага сельсавета

**Каханоўскага Генадзя** (8.1.1936—15.1.1994), гісторыка, краязнаўца, фалькларыста, літаратуразнаўца, радзіма. Скончыў Маскоўскі пединстытут (1963). Працаваў настаўнікам у школах № 3 і № 1 Маладзечна, у Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне (у тым ліку яго дырэктарам), з 1982 г. — у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, у 1991—1994 — у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. Аўтар кніг «Маладзечна» (1971), «Вілейка» (1974), «Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст.» (1984), «Адчыніся, таямніца часу» (1984), «Повязь часоў» (1985), «У родным краі», «Беларуская фалькларыстыка: эпоха феадалізму» (разам з Л. Малаш, К. Цвіркам, 1989), «Прадвесне навукі» (1990), «А сэрца ўсё імкнецца да бацькоўскага краю…» (1991). Кандыдат гістарычных навук.

**Семашкевіча Рыгора** (12.9.1945—11.6.1982), паэта, празаіка, радзіма. Скончыў БДУ (1966). Працаваў у школе ў Смаргонскім р-не (1966—1967), з 1970 г. — выкладчык беларускай літаратуры ў БДУ. Друкаваўся з 1959 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Леснічоўка» (1968), «Субота» (1973), нарыса пра жыццё і навуковую дзейнасць Б. Эпімаха-Шыпілы (1968), даследавання «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу» (1971), сатырычнай аповесці «Бацька ў калаўроце» (1976). Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**Вёска Дзякшняны** Радашковіцкага сельсавета

**Дашкевіча Вячаслава (**н. 15.4.1941), паэта, радзіма. Скончыў БДУ (1965). Працаваў карэспандэнтам розных перыядычных выданняў, загадчыкам аддзела часопіса «Родная прырода», на Беларускім тэлебачанні, у Інстытуце філасофіі і права АН Беларусі, галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца». Друкуецца з 1963 г. Аўтар кніг «Хвіліны чакання» (1979), «Загадка Атлантыды» (1983). Дзякшнянам прысвяціў верш «Роднай вёсцы».

**Вёска Дубрава,** цэнтр сельсавета

Тут жыў, вярнуўшыся з эміграцыі, **Ляскарыс Ежы,** польскі паэт і публіцыст (1828—1888).

У міжваенны перыяд, калі вёска ўваходзіла ў склад Польшчы, у Дубраве быў створаны гурток ТБШ па ініцыятыве камсамольца-падпольшчыка, гімназіста Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, а пасля Віленскай беларускай гімназіі **Таўпекі Уладзіміра.** Гурткоўцы займаліся культурна-асветнай і літаратурнай дзейнасцю, ставілі «Паўлінку» Янкі Купалы.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1 за 2011 г.

**Вёска Забалоцце** Цюрлёўскага сельсавета

**Цыбульскага Канстанціна** (н. 7.5.1956), паэта, радзіма. Бацька ў 5 гадоў навучыў яго граць на дзіцячым акардэоне. У 1982 г. скончыў філфак БДУ, працаваў інспектарам інспекцыі па справах непаўналетніх Слуцкага ГРАУС, начальнікам прэс-цэнтра УУС Мінскага аблвыканкама, у камітэце па працы і сацыяльнай абароне Мінаблвыканкама. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках, выступаў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Напісаў звыш 100 песень. Аўтар паэтычных кніг «Ноч маладзіка» (1994), «Вецер эпохі» (1996), «Малітва і песня» (2006), «Сілуэт у акне» (2006) і інш. Атрымоўваў прэміі за дакументальныя кінафільмы. Пераможца Міжнароднага літаратурнага конкурсу ў Польшчы (2007).

**Вёска Канчаны** Красненскага сельсавета

**Козела Івана** (21.5.1928—30.1.1970), драматурга, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Закончыў Маладзечанскую сярэднюю школу № 1 імя Янкі Купалы (1949), настаўнічаў у Віткаўскай пачатковай (1949—1959), Ермакоўскай сямігадовай (1959—1960) і Красненскай сярэдняй (1960—1963) школах Маладзечанскага р-на. Адначасова завочна скончыў філалагічны факультэт БДУ (1955). Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР (1963—1964). У 1964—1966 гг. — рэдактар Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, старшы рэдактар Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. У 1969 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Як драматург выступаў з 1957 г. Аўтар п'ес «Папараць-кветка» (пастаўлена ў 1957, апублікавана ў 1958, асобнае выданне ў 1959 г.), «Канчане — суседзі мае» (апублікавана і пастаўлена пад назвай «Над хвалямі Серабранкі» ў 1961, асобнае выданне ў 1963 г.). Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Мінску.

**Вёска Краснае**, цэнтр сельсавета

**Багдановіч Максім** бываў тут па дарозе ў суседнюю вёску *Ракуцёўшчына*. Імя паэта носіць адна з вуліц Краснага.

**Вёска Лапінцы,** да 1968 г. у Палачанскім сельсавеце.

**Купала Янка** неаднаразова бываў у вёсцы, калі працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне разам з некаторымі жыхарамі Лапінцаў.

**Вёска Лебедзева,** цэнтр сельсавета

**Посаха А.**, настаўніка гарадзілаўскай школы, сябра **Купалы Янкі**, радзіма. Паводле ўспамінаў сваякоў Посаха, ён запрашаў паэта ў Лебедзева і пазнаёміў са сваімі бацькамі і сябрамі. Рэвалюцыйныя выступленні сялян вёскі ў 1905—1907 гг. леглі ў аснову верша Купалы «Як не выйдуць чарнасотнікі». Адна з вуліц вёскі носіць імя паэта.

**Міцько Івана** (1.6.1932—19.6.2002), паэта, праваслаўнага святара, радзіма. Вучыўся ў мясцовай сярэдняй школе. За ўдзел у маладзёжнай патрыятычнай арганізацыі быў арыштаваны і высланы за межы Беларусі. У 1956 г. вярнуўся на радзіму. Служыў святаром на Маладзечаншчыне. З паэтычнымі творамі выступаў на старонках мясцовага і рэспубліканскага друку.

**Вёска Літва** Палачанскага сельсавета

**Харашэвіча Кастуся** (н. 6.7.1927), мемуарыста, публіцыста, мастака, радзіма. Вучыўся ў польскай пачатковай школе, гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Маладзечне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Я. Глебава (1958). Аўтар кнігі ўспамінаў «Зведанае і пражытае» (2004), многіх твораў выяўленчага мастацтва.

**Вёска Максімаўка** Граніцкага сельсавета

**Рак-Міхайлоўскага Сымона** (14.4.1885—27.11.1938), дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыста, педагога, радзіма. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, пединстытут у Феадосіі (1912). Настаўнічаў. Да 1918 г. член Беларускай сацыялістычнай грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, рады БНР і яе вайсковай камісіі, адзін са стваральнікаў Беларускай партыі незалежных сацыялістаў. У 1920 г. стваральнік і дырэктар беларускай настаўніцкай семінарыі ў мяст. Баруны (Ашмянскі р-н). З 1922 г. — дэпутат польскага сейма, уваходзіў у рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло беларускай нацыянальнай фракцыі, адзін з ініцыятараў стварэння і намеснік старшыні ЦК Беларускай сялянска-рабочай грамады. Адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. 15.1.1927 г. арыштаваны і па працэсу 56-і засуджаны на 12 гадоў турмы. У маі 1930 г. вызвалены, са снежня 1930 г. — у БССР, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея ў Мінску. Аўтар падручніка для школ, публіцыстычных брашур, зборнік беларускага фальклору. Пісаў вершы, перакладаў з рускай і чэшскай моў. Яго лічаць аўтарам музыкі песні «Зорка Венера» на словы М. Багдановіча. Рэпрэсаваны. У вёсцы ў 1982 г. адкрыты мемарыяльны знак у памяць аб Сымоне Рак-Міхайлоўскім.

**Вёска Малыя Бакшты** Граніцкага сельсавета

**Кавалеўскай Зофіі** (1853—22.2.1918), фалькларысткі, этнографа, польскай пісьменніцы-мемуарысткі, радзіма. Вывучала матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, сабрала калекцыю прадметаў народных рамёстваў, твораў мастацтва, а таксама матэрыялаў пра паўстанне 1863—1864 гг. на Міншчыне, якому прысвяціла некалькі артыкулаў і кнігу «З успамінаў выгнанца» (1911). Аўтар працы «Святкаванне вяселля ў Вілейскім павеце ў ваколіцах Маладзечна і Радашковіч» (1900). Выдала кніжку «Мінскія абразкі, 1850—1863» (1912) пра гісторыю гімназіі і яе выкладчыкаў, тэатр, сям'ю В. Дуніна-Марцінкевіча, памятныя мясціны горада.

**Купала Янка** неаднаразова бываў у вёсцы ў дарэвалюцыйны час у знаёмых — Зофіі і Яўгена Кавалеўскіх. Мяркуецца, што адгэтуль і з іншых навакольных вёсак паходзяць некаторыя прататыпы герояў твораў Купалы.

**Вёска Маркава**, цэнтр сельсавета

**Сапач Таццяны** (н. 26.8.1962), паэтэсы, журналісткі, радзіма. Працавала ў Брэсце, Гомелі, Маладзечне. З 1990 г. — у Вільнюсе. Аўтар зборніка вершаў «Восень» (1991). Загінула ў ноч на 28.12.2010 г.

**Вёска Мігаўка** Радашковіцкага сельсавета

Фальв. Мігаўка быў куплены бацькам **Уласава Аляксандра**, выдаўца, публіцыста, мемуарыста, грамадскага дзеяча, ураджэнца г. *Вілейка*. Пасля смерці маці А. Уласаў перапісаў фальварак на сябе. Ён часта наязджаў у Мігаўку, якую аддаваў у арэнду і гэтым сплачваў даўгі. Сюды да Уласава прыязджаў **Тарашкевіч Браніслаў**. Тут у 1913 г. бываў **Купала Янка**. Тады ж Уласаў запрасіў у Мігаўку і Радашковічы трупу мінскіх акцёраў з пастаноўкай яго «Паўлінкі».

**Вёска Мясата**, цэнтр сельсавета

**Зана Тамаша** (21.12.1796—19.7.1855), польскага паэта-рамантыка, удзельніка вызваленчага руху, радзіма. Скончыў Віленскі ўніверсітэт (1820). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў віленскіх тайных таварыстваў філаматаў, філарэтаў і прамяністых. У 1823 г. арыштаваны, у 1824 г. высланы ў Арэнбург, дзе вёў дзённік, даследаваў прыроду Урала, стварыў мінералагічны музей. З 1841 г. у Беларусі, вывучаў беларускі фальклор. Аўтар паэм «Кошачка», «Табакерка», «Мёд», балад «Свіцязь-возера», «Твардоўскі», вершаў, элегій, трыялетаў, камедыі «Грэцкія піражкі» (1817; дзеянне адбываецца ў Мінску).

У вёсцы захавалася сядзіба Тышынскіх, рэшткі парку, прысада, сыраварня (паўразбураная). У былым сядзібным доме цяпер школьныя класы, частка выкарыстоўваецца пад

жыллё. На гэтай сядзібе нарадзіўся і жыў вядомы ў Польшчы літаратурны крытык XIX ст. **Тышынскі Аляксандр**, які тут і памёр. Пахаваны ў Радашковічах.

У 1979 г. каля вёскі пры гасцінцы на Вільню быў адкрыты «Помнік дарозе», які складаецца з трох камянёў. На адным з іх — імёны **Багдановіча Максіма, Багушэвіча Францішка, Буднага Сымона, Гарэцкага Максіма, Гогаля Мікалая, Коласа Якуба, Купалы Янкі, Судрабкална Яна, Тарашкевіча Браніслава, Цвіркі Пятраса, Цёткі, Шаўчэнкі Тараса** і іншых пісьменнікаў. У розныя часы і пры розных абставінах яны праязджалі ці праходзілі па спрадвечным гасцінцы, і цяпер гэты помнік служыць напамінам пра іх для ўсіх падарожнікаў. На другім камяні — словы **Купалы Янкі**:

Мінск, Маладзечна, Вільня…
Як жа знаёмы шлях гэты!
Змераў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах.

Незвычайнаму помніку прысвяціў верш «Віленскі гасцінец» **Панізнік Сяргей**.

**Вёска Пранчэйкава** Хоўхлаўскага сельсавета

**Галубовіча Янкі** (н. 26.5.1942), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1975). Працаваў трактарыстам на цаліне, на Алтайскім трактарным заводзе, маладзечанскім заводзе «Электрамодуль». Друкуецца з 1958 г. Аўтар зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Па родных сцяжынках» (1991), «Гром на світанку» (1992), «Пастарайся стаць чалавекам» (1993), «У бары на світанку» (1995), «Гронка каліны» (1997), «Ад студзеня да студзеня» (2004), «Сляды вялі ад Дзявочай горкі» (2004), «Пяюць жаваранкі» (2005) і інш., зборніка анімалістычных абразкоў «У бары на світанку» (1995), кніг дэтэктыўных апавяданняў «Вяселля не будзе» (2003), «Стрэл за дзвярыма» (2004). Піша для дзяцей: «Зязюля дзетак шукала» (1994), «Янотавы абяцанкі» (2000), «Чаму мядзведзь бярозавіка не любіць» (2001).

**Вёска Рабінавая,** Палачанскага сельсавета

**Казлоўскага Міхася** (н. 9.2.1960), пісьменніка, выдаўца, краязнаўца, радзіма. Аўтар кніг «Галасы разбуджаных птушак» (2007), «Я тут бачу свой край» (2008), «Нашчадак слаўных крывічоў» (2008). Склаў анталогіі літаратуры Маладзечаншчыны і Смаргоншчыны. Выдаў многія творы мясцовых пісьменнікаў, паштоўкі з партрэтамі пісьменнікаў. Жыве ў Маладзечне, працуе ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча.

**Гарадскі пасёлак Радашковічы,** цэнтр сельсавета і пассавета

У пасёлку ёсць вуліцы **Горкага Максіма, Танка Максіма, Тарашкевіча Браніслава, Чарнышэвіча Аркадзя**.

Вуліца **Купалы Янкі**. У 1957 г. тут быў устаноўлены помнік паэту (скульптары Л. і М. Робарманы). Не захаваўся.

**Саўгас імя Купалы Янкі** (цэнтральная сядзіба ў Радашковічах).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***

